# ЗЬМЕСТ



**Галоўны рэдактар і заснавальнік**

Сяргей Календа

**Галоўны мастак**

Васіліса Паляніна-Календа

**Рэдактары:**

Марына Весялуха
Аляксандра Дорская

**Мастакі:**

Васіліса Паляніна-Календа
Яўген Шадко
Натальля Гарачая
Валерыя Лазуровіч
Ганна Бундзелева
Ірына Куц
Уладзімір Габідулін

**Вёрстка:**

Віталь Латыш

**Сябра часопісу**

Альгерд Бахарэвіч

# ДРОЖДЖЫ

Міхась Ж. сядзіць на сваім бальконе, задраўшы ногі, і чытае Тоўстую Нямецкую Кнігу Без Малюнкаў.

Вязкае, глеістае, поўнае незнаёмых словаў чытаньне – часам Міхасю Ж. здаецца, быццам ён пагрузіў рукі ў глыбокую місу зь цестам, зь якога яму трэба вылепіць нешта асэнсаванае, але цеста не паддаецца, ня хоча прымаць аніякае ўцямнае формы, яно засмоктвае рукі Міхася Ж., і ён нічога ня можа з гэтым зрабіць: спачатку ў цесьце зьніклі пальцы, потым цеста дайшло да запясьцяў, а зараз яно ўжо абляпіла рукі па локаць.

“Дрожджы,” – кажа чамусьці Міхась Ж. Дрожджы, гудзіць жук. У кнізе няма гэтага слова, але Міхась Ж. ведае, як будзе “дрожджы”. Ня кожны чалавек ведае, як будзе панямецку “дрожджы”. А Міхась Ж. ведае. Сьпёка. Двор нагрэты, як печ, ён дыхае Міхасю Ж. у твар і пахне, як згарэлы электрапрыбор. Але гэты балькон на чацьвертым паверсе – адзінае месца, дзе можна пачытаць у цішыні. Поруч валяецца слоўнік – часам Міхась Ж. робіць намаганьне і вырывае сябе з Тоўстай Нямецкай Кнігі, бярэ слоўнік і неахвотна гартае яго, тады на вокладцы Тоўстай Нямецкай Кнігі відаць вільготныя ліпкія плямы, і яе непрыемна зноў браць у рукі. Але Міхась Ж. бярэ і чытае, сумленна спрабуючы намацаць недзе ў гушчы цеста сэнс. Міхась Ж. – старанны і мэтанакіраваны чалавек, у меру валасаты і ў шортах, толькі такія і могуць авалодаць Тоўстай Нямецкай Кнігай: напрыклад, калі Кніга пяць хвілін таму спаўзла на падлогу і гучна захлопнулася, Міхась Ж. крэкнуў, зьняў ногі з парэнчаў, нахіліўся і падняў яе, і нават знайшоў пад усімі яе спадніцамі патрэбную старонку, трыста дзевяноста трэцюю – а мог жа і не падымаць, мог бы паспаць гадзінку, мог бы ўчора ўзяць сабе ў бібліятэцы Тонкую Расейскую Кнігу З Малюнкамі, мог бы вучыць не нямецкую, а, напрыклад, эспэранта, мог бы жыць ня тут, а там, мог бы нарадзіцца не чалавекам, а куфлем, збанам, валізай, шафай. Тоўстая Нямецкая Кніга зноў садзіцца яму на жывот, Міхась Ж. працягвае чытаць і раптам спатыкаецца на слове “vollpfropfen”.

Нягледзячы на тое, што слова “vollpfropfen” даволі рэдкае, яно яму ўжо калісьці сустракалася, і тады ён акуратна адклаў Кнігу і спраўдзіў у слоўніку, як яно перакладаецца. Аднак цяпер Міхась Ж. чамусьці ня можа прыгадаць, што яно значыць. Міхась Ж. забыўся. “Нічога страшнага”, – думае Міхась Ж. і зноў цягнецца да слоўніка. “Гэта бывае”, – суцяшае сябе Міхась Ж., бачыны трашчаць пад ягонымі пальцамі ў нейкім шалёным альфабэтнаанімацыйным рытме. “Фольпропфэн”, – кажа з асуджэньнем Міхась Ж. і думае пра тое, што трэба прынесьці сабе яшчэ колы. Ён не бязь цяжкасьці знаходзіць патрэбнае слова, шэпча яго засьмяглымі вуснамі, каб на гэты раз ужо дакладна не ўпусьціць, і зноў вяртаецца да Кнігі. Такім чынам, яны гэта vollpfropfen... “Што такое фольпропфэн?” – ліхаманкава думае Міхась Ж. Vollpfropfen – гэта... Нейкі час ён тупа глядзіць на кнігу, урэшце непакорлівае слова разрастаецца да памераў старонкі, лёгка адштурхоўваецца ад паперы і ўзмывае ў паветра, акурат на такую вышыню, каб апынуцца перад вачыма Міхася Ж. Слова нібыта танчыць за шырмаю, Міхась Ж. угадвае ў ягоных абрысах нешта знаёмае, але пасьля колькіхвіліннага сузіраньня гэткага танцу ён вымушаны прызнаць, што ня ведае ягонага значэньня. Сылюэт за шырмаю расчаравана замірае. Міхась Ж. хапае з падлогі слоўнік, Тоўстая Нямецкая Кніга падае долу, але яе ніхто ўжо не падымае. Міхась Ж. знаходзіць слова “vollpfropfen” і пажырае яго вачыма. Ён некалькі разоў перачытвае значэньне гэтага слова, нібыта ў ім схаваны вельмі глыбокі сэнс, нібыта перад ім – Прароцтва, нібыта перад ім – Лютэрава Біблія. Нібыта “vollpfropfen” азначае “У чым сэнс існаваньня ў нашым сьвеце Міхася Ж. і чаму мы павінны яго любіць і ніколі ня біць па галаве”. Ён наўмысна не закрывае слоўнік, пакуль не прамаўляе ўголас значэньне слова “vollpfropfen” пяць разоў; потым ён робіць кантрольнае прамаўленьне, і толькі пераканаўшыся, што і бяз слоўніка можа спакойна адказаць на пытаньне, што ж азначае слова “vollpfropfen”, Міхась Ж. загортвае кнігу. Але й тады Тоўстая Нямецкая Кніга застаецца ляжаць на падлозе: Міхась Ж. разумее, што мэханічнага завучваньня недастаткова. Ён глыбока ўдыхае і павалі выдыхае, ён дзеліцца на дзьвюх істотаў, уласна Міхася Ж. і дапаможнага Міхася Ж, такога сабе

Міхася Ж.1. “А вось скажы ты мне, мілы Міхасю,” – кажа Міхась Ж.1. нібыта мімаходзь, без асаблівае зацікаўленасьці. – “А што такое “vollpfropfen”?

“Па-нямецку?” – пытаецца, адцягваючы час расплаты, зьляканы Міхась Ж. Ён нават крыху заікаецца пры гэтым, ён баіцца, што забудзе.

“Не, па-кітайску,” – жартуе Міхась Ж.1. – “Вядома ж, па-нямецку”.

“Ну...” – цягне час сапраўдны Міхась Ж. – “Я мяркую, што... Па-нямецку “vollpfropfen”... значыць... Гэта...”

І ён голасам электроннага слоўніка называе значэньне злавеснага слова. Міхась Ж.1. пляскае ў ладкі і зьнікае ў гарачым паветры. А жывы і сапраўдны Міхась Ж., зноў застаўшыся на бальконнай самоце, бярэ ў рукі сваю Тоўстую Цікавую Нямецкую Кнігу. Без Малюнкаў. Адзін тэкст.

Ён наўмысна працягвае чытаць, прагарнуўшы адну старонку. Там не было нічога істотнага. Ён жа і так ведае, што такое “vollpfropfen”. І ніколі ўжо не забудзе. Як можна забыць такое простае слова? Слоўнік жа ясна гаворыць нам, што слова “vollpfropfen” азначае... Міхась Ж. ня хоча ў дадзены момант адказваць на пытаньне, што яно азначае. Ён і так ужо ведае. Далей, далей.

Але на наступнай старонцы, у самым нізе, “vollpfropfen” узьнікае зноў, ён здалёк бачыць гэтыя дзьве “f” – як вандроўнік заўважае магільныя крыжыкі на пагорку. Ды Міхась Ж. ня толькі старанны, ён можа быць і хітрым, ён не такі просты, як здаецца тым, хто бачыць з вуліцы ягоныя голыя жоўтыя пяткі на бальконных парэнчах: ён прамінае тыя магілкі і рушыць далей як нічога ніякага. Ён ігнаруе “vollpfropfen”. Ён ужо ведае, што забыў, зноў забыў, зноў... Праўда, ён ужо зусім нічога не разумее, але ідзе далей, пакідаючы за сабою цэлыя абзацы незразумелага, чужога, сырога, клейкага тэксту. Ён рухаецца ўперад, як прывід, бо Кніга перастала чытацца, зусім перастала, Міхась Ж. не адлюстроўваецца ні ў адным слове, нават у такіх блізкіх славянскаму вуху, як “Рамштайн”, “Хэндэ хох” і “Аўфвідэрзээн”. Пазбаўленая “vollpfropfen”, Тоўстая Нямецкая Кніга Без Малюнкаў стала Тоўстай Нямецкай Кнігай Бяз Словаў. Міхась Ж. проста водзіць вачыма па радках – хаця з суседняга бальконы можа падацца, што ён захоплены зьместам. Ужо здалёк ён заўважае, што наступная старонка поўная “vollpfropfen”: такое адчуваньне, што яны тут растуць, растуць як на дражджах, іх там цэлы лес. Міхась Ж. спыняецца на нейкай паляне і пераводзіць дух. Ён паволі бярэ слоўнік, адшуквае патрэбную старонку: ён дужа зьдзіўлены, калі бачыць, што слова “vollpfropfen” мае значэньне. Яму ўжо здавалася, што “vollpfropfen” – слова, якое ня мае ніякага значэньня, значэньне якога толькі ў яго паўтарэньні, значэньне якога ў прыгадваньні таго, чаго няма. Міхась Ж. пакуль не прызнаецца сабе, што ня можа яго запомніць. Бо гэта ж так лёгка: “vollpfropfen” – ...

Міхась Ж. хітрыць, Міхась Ж. яшчэ той ліс – ён не закрывае слоўнік і кладзе яго побач з Кнігай. Так ён зможа спакойна чытаць. Пэўны час усё атрымліваецца, Міхась Ж. зноў корпаецца ў сваім тэксьце, натыкаючыся пальцамі на нечаканыя, вострыя аскепкі сэнсу. Але такі спосаб яго прыніжае. Няўжо ён ня можа запомніць значэньне аднаго – усяго толькі аднаго слова, хай сабе і рэдкага? Упарты, як і ўсе гома сапіенс, Міхась робіць яшчэ адну спробу. Слоўнік закрыты і прыціснуты да падлогі шаснаццацікіляграмовай гірай, зь якой Міхась Ж. часам робіць гімнастыку. Ён зноў праводзіць працэдуру пачкаваньня: і вось на балконе ўжо трое: Міхась Ж., Міхась Ж.1 і Міхась Ж.2.

“Ну, дзеткі,” – кажа Міхась Ж.1., зноў выступаючы ў ролі экзамэнатара, ён быццам створаны для гэтай ролі. – “Хто скажа мне, што азначае слова “vollpfropfen”?

Міхась Ж. з надзеяй глядзіць на Міхася Ж.2., але той толькі лыпае вачыма, а па падбародзьдзі ягоным цячэ сьліна. Міхась Ж. уціскае галаву ў плечы і неахвотна, паволі цягне руку...

“Калі ласка!” – твар Міхася Ж.1. ажно сьвеціцца. “Калі ласка, Мішанька!”

“Гэта... Гэта... ”

“Як ты зьвяртаешся да пана настаўніка?” – шэпча побач Міхась Ж.2., які раптам становіцца самаўпэўненым і насьмешліва пазірае на спатнелы твар Міхася Ж.

“Затое я ведаю, як будзе „дрожджы...“”

“Дрожджы?” – шчэрыцца Міхась Ж.1 і раптам падсоўваецца да самых вачэй Міхася Ж. – “Знайшоў, чым зьдзівіць. Нас не цікавяць дрожджы. У гэтай кнізе шэсьцьсот восем старонак, і на іх няма ніводнага слова, хаця б прыблізна падобнага да “дрожджаў”! Нас цікавіць “vollpfropfen”! Больш нічога!”

“Я ня ведаю... Я забыў, пане настаўніку,” – кажа Міхась Ж. плачучы.

“Няправільна!” – кажа Міхась Ж.1., і тут жа руку падымае Міхась Ж.2.:

“Проста ён ужо запомніў усё, што яму было трэба. На большае ён не запраграмаваны!”

“І што з гэтага вынікае?” – ласкава пытаецца Міхась Ж.1.

“Ну, каб запомніць штосьці яшчэ, ён мусіць спачатку нешта забыць...” – кажа Міхась Ж.2. і пырскае са сьмеху.

“Забыць? Што забыць?”

“Штосьці. Няважна. Нумар тэлефона. Верш. Выпадак. Імя. Чалавека. Нешта супастаўляльнае. Супастаўляльнае па значэньні. Па памеры”.

Калі табе трэба забыць нешта, што ты абярэш?

Калі табе трэба забыць нешта, што ты абярэш?

Калі табе трэба забыць нешта, то што?

Міхася Ж. апаноўвае панічны страх. Ён падскоквае зь месца, і Кніга, Тоўстая Цікавая Нямецкая Кніга Без Малюнкаў ляціць з балькона ўніз, на асфальт, і захлопваецца зь вільготным гукам. Маслам уніз. Дрожджы. Старыя дрожджы. Міхась Ж. разумее, што зь ім адбылося нешта непапраўнае. Міхась Ж. высоўваецца, трымаючыся за парэнчы. Кніга ляжыць на вуліцы, пад самым бальконам. Чатыры паверхі, а здаецца, руку працягні – і падымеш. І ён працягвае руку, і дастае яе, такую агідна-мокрую ад доўгіх дотыкаў – спачатку кончыкамі пальцаў, а потым і ўсім астатнім сваім целам чалавека, які мог бы жыць ня тут.

*2010*

# ГОЛДА

Розныя даты і словы пра маю сяброўку Голду Лейбаўну Роберман

1977. Лейба і перспектывы

Лейба Роберман сказаў, што я не маю перспектыў. Лейба выдаў: "Нічога з цябе не атрымаецца!" Так і рэзнуў гэты сухі сівагаловы шэравокі чалавечак. Каму сказаў? Мне! Ён прыехаў з Кіславодска ў Мінск. Ягоная дачка – Голда Лейбаўна – запрасіла мяне ў госці, каб пазнаёміць са сваім татам. У Голды над ложкам вісела мая карціна, чорна-ізумруднае залакіраванае палатно з намаляваным вялікімі пэндзлямі правінцыйным духавым аркестрам. За барабаншчыка ў тым аркестрыку быў хлопчык нечым падобны да мяне ў дзяцінстве. Мы стаялі пад маім цёмным палатном, калі Лейба паведаміў Голдзе, што я бесперспектыўны. Канечне, яна перспектыўная – бо габрэйка, а я няздара – бо гой. Так падумалася, але не сказалася. Мяне бацькі навучылі паважаць старэйшых. Яшчэ ён сказаў, што з такім авангардным жывапісам і малюнкам я не паступлю ў інстытут. Такога ўдару я не чакаў. Можна было зразумець чалавека з цяжкім лёсам. Ягоны настаўнік Заір Азгур, калі прайграў конкурс на ўстаноўку ў Мінску помніка Якубу Коласу, нейкім чынам узбудзіў супраць сваіх вучняў, братоў Роберманаў, што той конкурс выйгралі, крымінальную справу. Браты бралі з людзей няўлічаныя грошы за помнікі на могілках. Усе бралі, бяруць і брацьмуць, але справу ўзбудзілі супраць Лейбы і Марка. Яны паўцякалі з Мінска. Справу закрылі. Помнік Якубу Коласу пачаў ляпіць сам Заір Азгур. Лейбе давялося пасяліцца ў Кіславодску і там будаваць новы дом ды майстэрню, а сям'я засталася ў двухпакаёвай кватэры, у старым мінскім цагляным дамку насупраць Камароўскага рынка. У той кватэры Голда павесіла маіх музыкаў з бліскучымі трубамі і беласкурым барабанам. Лейбу не спадабаліся і музыкі, і я. Ён бачыў іншага мужчыну каля сваёй любімай Голдачкі. Напэўна, ён бачыў чалавека, падобнага на ягонага зяця Шавуля. Той быў з малдаўскіх габрэяў. Той насіў Ірму Лейбаўну Роберман на руках. Той працаваў у інстытуце торфу і меў, на думку Лейбы, перспектывы. Я раззлаваўся на Лейбу, і гэтая злосць дапамагла мне паступіць у інстытут, дарэчы.

1981. Колер зваранага рака

Насіць зыркую сукенку колеру зваранага рака не кожная зможа. Голда магла. Яна станавілася на высачэзныя абцасы і лётала па Маскве ў такой сукенцы. Каб не гэтая вогненная сукенка, я б можа і не спакусіўся габрэйскімі вабнотамі цела Голды Лейбаўны Роберман. Мы тры гады не сустракаліся. Мы даўно зразумелі, што не будзем разам жыць. Яна надзела сукенку, я зняў з яе сукенку. Было горача. Задушліва было. Асфальт пачаў плавіцца і зрабіўся мяккі. Масква задыхалася ў пыльнай спякотнасці. У такой Маскве мы злюбіліся і абліліся потам да алейнага бляску на распаленых целах. Я з Голдаю прайшоў усе прыступкі на лесвіцы кахання: ад доўгага стаяння каля пад'езднага ганку марозным зімовым вечарам, калі паветра было п'янкім, як спірт, да сэксуальных торганняў і сутаргаў у пякельным мегаполісе. Прайшоў, каб развітацца. Мы развіталіся без шкадобы, лёгка. Голда сышла ад мяне ў сваёй сукенцы колеру варанага рака да нейкіх там ухажораў. Я застаўся спаць у сваім інтэрнацкім пакоі мастацкай вучэльні імя графа Строганава.

1976. Вечаровы малюнак

Ёсць у мастакоў такі выдатны занятак – вечаровы малюнак. Ты ўвесь дзень прапрацаваў, празаймаўся чым толькі мог, парабіў усё, што трэба было парабіць, а ўвечары зноў вярнуўся ў майстэрню, супакоіўся і пачаў маляваць. Дзве-тры гадзіны такога малявання і завуцца вечаровым малюнкам. Канечне, далёка не ў кожнага маладога мастака ёсць майстэрня. Даводзіцца дамаўляцца з рознымі вахцёрамі ды вахцёркамі, каб далі ключ ад аўдыторыі якой вучэльні. Ці даводзіцца хадзіць у якое іншае месца на вечаровы малюнак. Я з Голдай

і Жанай ездзіў у Дом Культуры на трактарным заводзе. Там алейны жывапісец Ткачэнка арганізоўваў маляванне аголенай натуры для бедных студэнтаў. У студыю набівалася шмат малявальшчыкаў, натуршчыкі і асабліва натуршчыцы мелі брыдотныя целы, а яшчэ там было задушліва і цемнавата. Каб не Голда, я з Жанаю туды і не хадзіў бы. Чыстацелая Жана з сунічнымі смочкамі на круглых грудзях і так кожную нядзелю мне пазіравала. А Голда рыхтавалася да паступлення ў маскоўскі мастацкі інстытут і таму ўгаварыла нас хадзіць на трактарны завод да тлуставалосага Ткачэнкі. Я хадзіў, а потым з Голдаю ішоў ад завода на праспект. Мы ішлі ўздоўж трамвайных рэек, пад цёмна-сінім небам. Мы ішлі праз мост, ішлі ўздоўж вайсковых могілак, ішлі праз пляц з помнікам Якубу Коласу. Часам нам падавалася, што мы закахаліся адно ў аднаго. Тады мы спыняліся і цалаваліся. Мы ішлі далей і смяяліся з таўстуна Ткачэнкі, пра якога ўсе казалі, што ён выцірае лішкі фарбы з пэндля не анучкай, а валасамі сваёй нямытай і нечасанай галавы.

2012. Каменная жанчына

Гэтую каменную жанчыну ў каменнай сукенцы з беларускімі арнаментамі і круглай палітраю ў левай руцэ мусіць ведаць кожны беларус, бо яна намалявана на рублях. На той самай паперцы, дзе з аднаго боку – нацюрморт Івана Хруцкага, а з другога – мастацкі музей. На фасадзе музея і стаіць скульптура мастачкі, некалі выштукаваная Лейбам Роберманам. Ён ляпіў яе з жонкі, з маці маёй каханкі Голды. Скульптура вельмі падобная не да маці Голды, а на яе старэйшую сястру – Ірму. Але асабіста для мяне гэтая жанчына з палітрай жывапісца – Голда Лейбаўна Роберман.

1976. Бутэлька бехераўкі

Купіць і выпіць бутэльку чэшскай настойкі бехераўкі было цяжка. Цяжка купіць, бо яна каштавала крышку больш як чатыры рублі, а твая стыпендыя ў вучэльні складала толькі васямнаццаць. Выпіць было цяжка, бо яна цяжка заходзіла з-за нейкай адэкалоністай духмянасці і гарэлачнай моцы. Таму мы купілі адну паўлітровую бехераўку на чатырох пітакоў. Скінуліся ў дзень стыпендыі і ўзялі ізумрудную бутэлечку і ружовы торт. У той вечар я схаўрусаваўся з Жанай Башук і яе тагачасным кавалерам Сцяпанам ды з Голдай Роберман. Піць бехераўку мы намерваліся ў Роберманаў. Бацькі яе жылі на Каўказе, а ў кватэры была толькі Ірма з Шавулем, якія не заміналі нам, маладзейшым, жыць і весяліцца. Торбу з бехераўкай нёс Сцяпан. Я нёс торт. У торбе акрамя пляшкі ляжаў кілаграмовы пакет з цукрам. Торба была палатняная. Падымаючыся на трэці паверх, Сцяпан стукнуў торбаю аб прыступку. Мы пачулі нейкі не шкляны, а касцяны гук, нібыта пераламалася костка ў чалавечай назе. З палатнянай торбы на цэмент прыступак пацякла крышку падсалоджаная бехераўка. Мне хацелася кінуць у гэтую лужыну і торт. Не кінуў, стрымаўся. Мы вырашылі сабраць грошы па другім коле, але бехераўку больш не куплялі. Узялі нашу тутэйшую настойку белавежскую. Мы пілі, танцавалі, абдымаліся ды цалаваліся. Жыццё паплыло далей. Можна было б і забыць касцяное храбусценне разбітай аб прыступку бутэлькі, ды не забываецца яно. І рукі Голды Лейбаўны з таго запамінальнага вечара для мяне пахнуць бехераўкай.

1973. Вецер і парасоны

Голда любіла вецер. Яна малявала вецер, яна пісала яго акварэллю. Мне запомнілася вогненнаколерная акварэль з назваю "Восень". На першым плане таго малюнка ішлі дзве дзяўчыны з залацістымі парасонамі. Пэўна, гэта былі сёстры Робермана – Ірма і Голда. Яны ішлі супраць ветру. Ішлі нахіліўшыся наперад. Дзяўчаты пераходзілі трамвайныя пуці. На сёстрах былі пякуча-чырвоныя палітоны. Яны ішлі ў бок кінатэатра "Спартак". Некалі ў Мінску быў і такі кінатэатар. Яго зачынілі, а ў ягонае памяшканне заехаў маладзёжны тэатар. У тым тэатры служыў мой знаёмы артыст Катавіцкі, але я так і не схадзіў ніводнага разу на які спектакль з Віталікам Катавіцкім. Можа яшчэ схаджу, бо тэатар і цяпер там.

І трамвайныя рэйкі засталіся ляжаць на месцы. Але за рэйкамі, калі зірнуць ад “Спартака”, быў раён з аднапавярховымі дамкамі. Такі стары раён з маленечкімі крамкамі, з майстэрняй па рамонце абутку і газетным шапікам. У адной з крамак тамака прадавалі газу. Увесь раёнчык прапах гэтай газаю. Голда намалявала той раён з жоўтымі ды блакітнымі сценамі. На малюнку ішоў касы дождж. А яшчэ ад той палымянай акварэлі сыходзіў пах вясёлкаколернай газы. У Голды быў бясспрэчны талент мастачкі, і яна любіла маляваць вецер.

1974. След ад алоўка

Ад усяго на свеце застаюцца сляды. Ад узаемаадносінаў з Голдаю на нашых целах таксама засталіся нязводныя сляды. У яе след – маленечкая, ледзь заўважная шэрая плямінка – на правай шчацэ, недалёка ад вуха. Калі твар прыпудрыць, дык і зусім не відаць бляклай плямінкі. У мяне такая ж плямінка ёсць над левым каленам. Пляміны ўтварыліся ад уколаў простымі алоўкамі. Мы малявалі гіпсавыя куб, конус і шар. На перапынку пачаліся жарты, са смехам і папіханнямі. Я няўдала стукнуў Голду пад правы локаць, і яна сама сябе ўкалола ў шчаку тонка навостраным алоўкам. Хто ж ведаў, што графіт з-пад скуры дастаць немагчыма? Ніхто не ведаў, пакуль касметолаг Голдзе гэта не растлумачыў. Яна злосная вярнулася ў вучэльню і расказала пра нязводнасць графітнай плямінкі. Я толькі пасмяяўся з яе дзявочых перажыванняў. Дарэмна смяяўся? Вядома, дарма! Голда ўкалола мяне алоўкам у нагу, праз порткі. “Калі ў мяне пляма, дык хай і ў цябе будзе пляма!” – злосна крыкнула Голда Лейбаўна. Крыкнула, каб мне было больш балюча і больш крыўдна.

1977. Даражэзныя джынсы

Мая маладосць праходзіла пад джынсавымі сцягамі. Нагавіцы з блакітнага або сіняга джута – самая прэстыжная рэч у гардэробе юнака з майго пакалення. Тады я джынсы не насіў, бо доўгі час адмоўна ставіўся да моднай вопраткі. Для мяне асноўная якасць адзежы была, а зрэшты, і застаецца – зручнасць. На другім месцы – практычнасць рэчы. У Голды Лейбаўны Роберман было ўсё наадварот. Апранахі, абутак, рэчы яна купляла згодна модзе. Кошт яе мала хваляваў. Бацькі жылі заможна і, не шкадуючы, давалі грошы дачцэ. Мяне ўражвала, не магло не ўражваць, як Голда заплаціла Лёніку Марозу за адны джынсы дзвесце дваццаць рублёў – гэта ўсе мае стыпендыі, сабраныя за год. Калі падлічыць усё тое, што было штодзённа апранута і абута на маладой Голдзе Лейбаўне, меней за тысячу ніяк не атрымлівалася. І станікі ў яе былі дарагія, і завушніцы залатыя, і басаножкі італьянскія... Але ўсе рэчы Голды Роберман можна было хутка сабраць у адзін чамадан. Яна жыла ў амаль пустой кватэры. І калі прыйшоў час з’ехаць, Голда хутка сабрала дарагі гардэроб, нацягнула джынсы і з’ехала з Мінска ў Маскву.

1973. Шавуль і празрыстасць

Каб маляваць і пісаць, мне трэба засяродзіцца. Цяпер я магу засяродзіцца і на стадыёне поўным народу, але гэтая здольнасць выпрацоўвалася і замацоўвалася не адзін год. На першым курсе мастацкай вучэльні для засяроджвання ў майстэрні мне патрабавалася цішыня. Прыйшоў маляваць – малюй! Не! Марына Фурман і Голда Роберман пачалі абмяркоўваць лак для пазногцяў. Іх папрасілі змоўкнуць. Гена Чэх папрасіў, і Алесь Лось папрасіў. А яны працягвалі паціўкваць, перашэптвацца і пахіхікваць. Я пісаў акварэллю аранжавую драпіроўку, ізумрудную каньячную бутэльку і лімон. У мяне не атрымлівалася празрыстасць. Я акуратна змываў з паперы густую зялёнасць бутэлькі, каб напісаць яе наноў. Я быў раздражнёны. А тут пасыкванні з перашэптваннямі, хіхіханькі ды хаханькі. Узяў я слоік з вадою, у якім пэндзлі мыў, і перакуліў яго над светлымі кудзерамі Голды. Яна завішчала, ускочыла і ўцякла з майстэрні. Наступнай раніцаю яна вярнулася ў вучэльню з Шавулем. Ён быў падобны да гандляра азербайджанскай нафтаю. Яго чорныя валасы тлуста пабліскvalі, нібыта іх залакіравалі. Вялікія вочы мелі выразны нафтавы колер, а вы-

галеныя шчокі – шэра-блакітнае адценне, як паверхня спакойнага Каспія. Пазней я даведаюся, што Шавуль займаецца не азербайджанскай нафтаю, а беларускім торфам, і ў Мінск ён прыехаў не з Баку, а з Кішынёва. Гэта пазней, а тады я пабачыў высокага дужага маладога мужчыну, які прыйшоў высвятляць са мной адносіны. Біць мяне ён не стаў, нават не пагражаў. Шавуль праявіў мужчынскую салідарнасць. Ён сказаў: мне пашанцавала, што Голда паскардзілася яму, мужу старэйшай сястры, а не напісала заяву ў дырэкцыю вучэльні. Шавуль параіў мне стрымлівацца і зрываць злосць, калі зробіцца невыносна, на рэчах, а не на жывых істотах. Шавуль вёў сябе правільна і разумна, мне зрабілася сорамна і давялося выбачацца. Выхадку са слоікам бруднай вады мне даравалі, як і шмат што іншае.

1974. Таемныя знакі

Рэльефы, вянкі і лісты акантаў для ліхтарных слупоў у Мінску былі вылеплены Лейбам Роберманам. Ягоная дачка Голда не без гонару казала, што ў вылепленых раслінах можна ўбачыць і літары "Л" і "Р" – зашыфраванае "Лейба Роберман". Не ведаю, чаму, але мяне – зусім маладога мастака – гэта ўражвала.

1976. Залаты зуб

Як, апісваючы габрэйскае жыццё, абыйсціся без паказак? Як не згадаць дарэчны анекдот? Слухай… Прыходзіць маленькі Вэйвал са школы і кажа сваёй маці Сарачцы: "Матуля, у школе сказалі, каб у панядзелак усе дзеці прыйшлі ў нацыянальных строях". Сара павярнулася да мужа і прамовіла: "Абраша, нашаму Вэйвалу тэрмінова патрабуецца пыжыкавая шапка і залаты зуб!" Паказка старая, савецкая, з тых часоў, калі адной з самых прэстыжных мужчынскіх рэчаў была зімовая шапка, пашытая з футра маладога аленя. Паказка была папулярнай і шмат кім пераказвалася якраз тады, калі ў роце Голды Лейбаўны Роберман з'явіўся залаты зуб. Калі быць дакладным, гэта была залатая каронка, пастаўленая на цалкам здаровы зуб. Каб Голда не смяялася з маіх паказак, я б тую каронку і не заўважыў. Але яна смяялася, я смяшыў яе, яна рагатала з маіх анекдотаў, яна прыкрывала рот даланёю, ды ўсё адно я заўважыў залаты зуб і спытаў: "Баранэса Роберман, чаму ў вашым роце з'явіўся залаты зуб?" – "Граф Глобус, стаматолаг мяне пераканаў паставіць залатую каронку, каб пазней да яе чапляць іншыя каронкі і масты…" Мне зусім не спадабалася практычнасць і дальнабачнасць пратэзіста, але я не стаў разгортваць пікантную тэму з залатым зубам. Калі ты Голда, ты маеш поўнае права насіць у роце залаты зуб. Хіба не?

1986. Чорны настрой

Апошні раз я бачыў Голду ў Мінску. Яна вярнулася з Масквы, каб прадаць бацькоўскую кватэру і ўпарадкаваць свае іншыя мінскія справы. Жыла яна на прыватнай кватэры на вуліцы Адоеўскага, я жыў побач – на Янкі Маўра. Аднаго разу я зайшоў да Голды ў госці. У мяне была бутэлька партугальскага віна і не было з кім выпіць. Дарма я зайшоў да Голды. У яе быў змрочны настрой. Кватэра таксама была кепская, як і яе настрой. У кутку адзінага пакоя, на нейкай шэрай, не вельмі каб чыстай коўдры сядзела маленечкая дзяўчынка вельмі падобная да Голды і гуляла з яркімі цацкамі: качкамі, малпамі, лялькамі… Каля сцен стаялі чорныя пліты, на якіх былі выдзеўбаны партрэты нябожчыкаў. Голда, пакуль тым разам жыла ў Мінску, падзарабляла партрэтамі для могілкавых помнікаў. Піць віно яна адмовілася. Выпіў я адзін. Настрой мой сапсаваўся. Ён стаў чорны, як партрэт мерцвяка. Я развітаўся, сышоў і больш ніколі не бачыў ні Шавуля, ні Ірму, ні Голду Лейбаўну Роберман.

2011. Званок з Чыкага

З Чыкага тэлефанавала Голда. Прагаварыў з ёй больш як гадзіну. Дваццаць пяць гадоў мы не бачыліся, так што наша доўгая размова – не дзіва. Больш за ўсё мяне здзівіла сварка

Голды з Ірмаю. Родная сястра не размаўляе з роднай сястрою. І з-за чаго? З-за могілак. Ірма некага там не таго пахавала ў бацькавай магіле, у зямлі Лейбы Робермана. Цяпер Голда не гаворыць з сястрою. Мёртвыя не даюць спакою жывым.

2011-1976. Голда і любоў

Голда ніколі не напівалася. Колькі мы там усе ні пілі, а Голда заўжды заставалася цвярозай і разважлівай. Канечне, яна сядзела разам з намі, яна прыгублівала чарку, яна магла крышку выпіць для бадзёрасці і весялосці, але каб напіцца – такога з Голдай Лейбаўнай не здаралася. Іншае здаралася, калі Голда пачынала капрызіцца: туды не пайду, гэтага рабіць не буду, вы ўсе брудныя свінапасы. О, тады пачыналася іншая гульня... Мы – я і Сцяпан ці я і Чэх, ці Чэх і Сцяпан... Карацей, два з нашых аднагрупоўцаў бралі Голду за белыя локці, выводзілі з мастацкай вучэльні праз цёмную арку на светлы праспект і вадзілі пад сценамі тэатральна-мастацкага інстытута так, нібыта наша Голда Лейбаўна напілася і сама ісці цяпер ня можа. Чым больш Голда крычала і капрызілася, чым больш яна ўпіралася і супраціўлялася, тым больш гэтая сцэна рабілася падобнай на тое, што дзеўка і напраўду моцна набралася. Мы псеўдалісλівымі і псеўдадобрымі галасамі яе нібыта супакойвалі: “Галечка, напілася? І харашо. Напілася? І правільна! Напілася? Паводзь сябе спакойна. Мы цябе любім!” Праз дваццаць пяць гадоў, калі Голда патэлефанавала мне з Чыкага, і мы пачалі згадваць нашу мастацкую вучэльню і нашу ў ёй маладосць, Голда прыгадала і псеўдап’яное хаджэнне па праспекце. Пэўна, гэта ўсё з-за таго, што мы на ўвесь праспект крычалі Голдзе: “Мы цябе любім!”

# ПАБАЧЫЦЬ ШАТЛЯНДЫЮ Й ПАМЕРЦІ

*Наведвальнікам нядзельных школ прысьвячаецца*

Па-першае, трэба сказаць, што паміраць пасьля паездкі ў Шатляндыю я не зьбіраўся, жыцьцё толькі пачыналася, мне споўнілася дванаццаць, я вучыў ангельскую мову, захапляўся гульнямі на прыстаўках, зьбіраў кардонкі з фотаздымкамі баскетбалістаў Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыі. Я спраўна хадзіў у нядзельную школу пры баптысцкай царкве, марыў пра тое, што калі стану больш дарослым, пачну рыхтавацца да вучобы на прапаведніка. І на той час я быў даволі пасьпяховым у вывучэньні Бібліі, нават разумнейшым за мяне цяперашняга, у мяне былі празрыстыя намеры, мэты й жаданьні, я яшчэ ня ведаў дзяўчын, але яны мяне вельмі цікавілі. Я нават зьбіраў выявы аголеных жанчын: выразаў іх з газэтаў кшталту "Speed-Инфо", "Комсомольская Правда", даставаў часопісы "Playboy", я быў, як кажуць, бія-зацікаўлены, і кожны вечар у прыбіральні, разглядаючы калекцыю выразак, адчуваў, як падскоквае ціск, як штосьці цягне пісюн, як становіцца няёмка й прыемна адначасова... Не, вядома ж, у той час я не займаўся ананізмам, але калі аднойчы забыўся зачыніцца на засаўку й у прыбіральню зазірнула маці, я моцна перапужаўся, адразу скамечыў усе выразкі й залямантаваў, каб зачынілі дзьверы! Маці нічога тады не сказала, а я адразу з перапуду справіў свае патрэбы, хутка й лёгка... Потым праз некалькі дзён бацькі адшукалі маю калекцыю аголеных жанчын, і ўвечары бацька спрабаваў мяне прысаромець, але мне было проста прыкра і няёмка, я чырванеў і плакаў. Калекцыя была зьнішчаная, я гараваў, але знайшоўшы ў бацькоўскай шафе дзьве касэты з порнафільмамі "Беласьнежка й сем гномаў" і "Глыбокая глотка", я хутка забыўся на газэтныя выразкі і пачаў кожны дзень раз за разам прамотваць гэтыя дзьве непрыстойныя відэакасэты.

Я зьбіраўся стаць прапаведнікам, але мой досьвед у жанчынах, атрыманы праз відэа і фота, замінаў цалкам на гэта рашыцца, я вагаўся...

І ў гэты неадназначны перыяд жыцьця ўлетку мне як самаму пасьпяховаму вучню царкоўнай школы выпала на долю паехаць на месяц у Шатляндыю праз царкоўную праграму дапамогі дзецям Чарнобыля (а я якраз нарадзіўся за год да трагедыі). Там мяне мусілі прытуліць тры набожныя сям'і ў трох розных гарадох: Фолкёрку, Абэрдыне й Пітлёхры.

Шатляндыя на той час падавалася надта далёкаю й незнаёмаю, гэта цяпер я разумею, што ўсё было ня проста так, што так было наканавана беларусу, у чыёй краіне невядома што адбываецца: занядбаная мова, суседзі жорстка й па-барбарску навязваюць сваю культуру, спробы трываць і змагацца... Тады я толькі пачынаў знаёміцца і параўноўваць такія блізкія лёсы беларусаў і шатляндцаў, якія да гэтага часу змагаюцца за поўную незалежнасьць ад мацнейшага суседа, спрабуюць зрабіць сваю мову агульнаўжывальнаю. Я толькі пачынаў знаёміцца з тымі адчайнымі людзьмі, якія выпеставалі свайго Ўільяма Ўолеса і ганарыліся сваім задзірыстым норавам, скотчам і паэтамі.

Бацькі звар'яцелі за той час, пакуль мяне зьбіралі, сто разоў пераклалі і пераправерылі ўсе дакументы – часовы пашпарт, даведкі пра стан здароўя, страхоўкі, грошы з сабою. І ў выніку частка рэчаў, як і патрэбныя паперкі, былі забытыя, за імі ўжо з вуліцы, кінуўшы валізы, маці бегам вярталася, нэрвова трэсла ключы ў руках.

Нарэсьце я быў сабраны й пасаджаны ў машыну татавага сябра, які падвозіў мяне за кошт будучай п'янкі з бацькам. Усе гэтыя зборы, крыкі, сваркі цалкам мяне стамілі, таму ўсю дарогу да месца збору каля аўтобуса (які адвозіў групу з сарака дзяцей з розных частак Беларусі) я спаў. На вуліцы было волка, машына, волга, у салёне пахла гарэлаю гумаю, мяне ўкачвала, але я не падаваў выгляду і паводзіў сябе сур'ёзна, звышсур'ёзна – я такі разумны й дарослы, еду самотны ў далёкае падарожжа...

Усё, стоп, аўтобус, каля яго дзеці, такія ж бедныя, як я, бедныя ва ўсіх адносінах – змучаныя, змораныя, спужаныя, новае пакаленьне беларусаў, нібыта вольнае, нібыта

рэлігійнае, выпеставанае зь любоўю, і нікому ніякае справы няма да таго, што беднае, беднае грамадства, бо шчасьце й заможнасьць гэта – Бог.

У тыя чароўныя часы бацька ня піў й часам нават прапаведваў, ён красамоўна прамаўляў, усім цісьнуў рукі й абдымаў за плечы, усіх называў “брат мой”, “сястра мая”, усе хрысьціліся ў вадзе, усе былі баптыстамі, як той самы Баптыстус. Гэта было вельмі сонечна й цёпла, загадкава й шчыра, і на наступны год майго брата чакала Англія, а потым – сямейны разлад, крызіс, алькаголь, мае загадкавыя хваробы… Але ня будзем бегчы хутчэй за тое, пра што мовіцца.

Яшчэ да таго як сесьці ў аўтобус і пабачыць з вышыні свайго месца, праз бруднае шкло сваю заплаканую маці, якая стаяла ў промнях сонца, стомленая, прыгожая і добрая, яшчэ да таго як самому заплакаць ад гэтае карціны, я заўважыў вельмі прывабную дзяўчыну Эву… І на той час я яшчэ ня ведаў, што будзе далей, але прадчуваў, што абавязкова штосьці будзе, бо я ня проста так зьбіраюся ляцець праз усю Эўропу ў цалкам іншае асяродзьдзе, адкрываць для сябе новую культуру.

Усё, пачалося, аўтобус здрыгануўся, завёўся, і я заплакаў, як самы малы й няшчасны дзіцёнак, і мне было абсалютна не цікава, што пра мяне падумаюць астатнія суседзі-падарожнікі, бо яны, як і я, рыдма рыдалі, а самыя маленькія лямантавалі, як шалёныя шчанюкі. Мы паехалі ў аэрапорт, дзе нас чакаў разьбіты самалёт “Белавіі” – ТУ-134, у якім я пазьней выяўлю, што сяджу каля аварыйнага выхаду, пабачу, што вакол яго зьявіўся тоўсты шмат ільду. Самалёт тры гадзіны кідала ў яміны, штурхала ў бакі, марозіла, скразіла й трэсла, але я ляцеў упершыню, таму ўсё было цудам, усё было незвычайным падарожжам, якое скончылася мяккім прызямленьнем і сустрэчаю з цэлым натоўпам мужчын у кільтах, якія гучна гралі на валынках непаўторны гімн раю й пекла… Божухна, наперадзе расьсяленьне па сем’ях у Фолкёрку, а гэта значыць – усе хутка ў аўтобус і далей у падарожжа.

*Фолкёрк*

Вядома ж, у галоўныя гарады Шатляндыі Глазга й Эдынбург мы перыядычна езьдзілі, глядзелі архітэктуру, завітвалі ў цэрквы, нас паўсюль афіцыйна сустракалі, здымалі для тэлеканалаў, дарылі падарункі, вопратку, чакалядкі. Гэта ўсё сталася для нас даволі звыклым, але адзінае й галоўнае, што мяне на той час цікавіла й уражвала, – ня тыя мясьціны, якія мы праязджалі й наведвалі як турысты, а менавіта гарады, у якіх я мусіў жыць, і сем’і, зь якімі я мусіў мець пэўныя стасункі. Ужо тады я вельмі пільна ставіўся да рэдкіх рэчаў, да атачэньня, спрабаваў унікаць у корань зьявы, і часта, калі нас суткамі вазілі ў турыстычным аўтобусе з адкрытым другім паверхам па галоўных вуліцах сталіцы Шатляндыі, максімум, на што мяне хапала, – сфатаграфаваць колькі разоў будынкі, бо часьцей я стараўся зьняць настрой суседзяў-падарожнікаў, дзяўчыну, якая мне вельмі падабалася, і за два дні назьбіраў тры стужкі “Кодак” па трыццаць шэсьць кадраў. Іх у Фолкёрку я аддаў гаспадару дома, што мяне прытуліў… Але ён на наступны дзень мяне расчараваў, аказалася, што ўсе тры стужкі былі ўстаўленыя ў фотаапарат, але не зараджаныя як мае быць… я адчуў сябе тупым.

Адразу, як толькі мы дабраліся з аэрапорта Інтэрнэшнл Глазга да Фолкёрка, я апынуўся з суседам, якога да мяне прыпісалі і за якога я быў адказны. Мой сусед, вясковец Дзіма, мусіў разам са мною прайсьці ўсе падарожжы, начаваць у адным пакоі, есьці за адным сталом, стаць маім часовым братам… Дзіма быў малодшы за мяне на тры гады…

Трэба адзначыць, што ўсё маё падарожжа выпала на чэрвень, і першая сям’я была досыць кансэрватыўнай і сумнай, гаспадар, сівы мужны дзядзька, насіў пры нас толькі кільт, але мы разумелі, што тут нешта ня тое, бо паўсюль мужчыны былі ў штанах, напэўна, такім чынам ён паказваў традыцыі… З гаспадаром у нас зь Дзімам цяжкасьцяў амаль не

было, я гуляў зь ім у шахматы й часта чуў ад яго, што ў мяне добрая ангельская мова, а сам ён зьвяртаўся да сваіх жонкі й да сына на шатляндскай…

Першы тыдзень быў досыць марудны, я абвыкаў да новага часаадмеру і да новых твараў, нас усіх адразу пераапранулі і вывезьлі ў горад, дзе адна з выхавацелек, выцягнуўшы мяне за руку з агульнай купы дзяцей, паставіла перад вялікім аб'ектывам, з боку ад якога ярка гарэла лямпачка, асьляпляючы мяне й бянтэжачы: "Ну, кажы пра падарожжа і пра Беларусь у камэру, ты ж ведаеш ангельскую мову!" – выхавальніца прамовіла гэта зь вялікім натхненьнем, зьмяшаным з жахам чагосьці невядомага.

– Зіс іс а найс таўн, ві хэд а гууд рест анд тріп, хелло фром Мінск, а кэпітал оф Беларусь, ві лайк ту бі хіа, – я прамаўляў штампаваныя сказы, што прыходзілі ў галаву з падручніка па ангельскай мове, па якім вучыўся ў школе, і на той момант быў шчыра ўдзячны сваёй настаўніцы, за тое, што так мяне штурхала на ўроках ангельскай.

Тым часам, пакуль я, вылупіўшы вочы, у чырвонай кепцы на бок з лягатыпам "Kids Aloft" і ў крутой байцы, якая пахла сэканд-хэндам, прамаўляў усё гэта, паглядаючы ў аб'ектыў, колькі рэпарцёраў зь мясцовых газэт запісвалі й шчоўкалі сваімі фотаапаратамі…

Гаспадар маёй часовай, альбо, так бы мовіць, аднаразовай шатляндскай сям'і на наступны дзень паказваў мне газэты, дзе пад артыкулам пра беларускіх дзяцей разьмясьцілі маё фота: круглашчокі падшыванец, нават і не скажаш, што ён беднае "чарнобыльскае дзіцё". Маці я ўзахлёб і з гонарам крычаў у слухаўку, што інтэрв'ю са мной паказалі ў вячэрніх навінах, а фота надрукавалі ў газэтах… Мама ня слухала, яна толькі плакала ў тэлефон і пыталася, чаму я гавару ў нос, ці не захварэў я!?

Потым пачалася прырода, нас вывезьлі адной раніцою ў Календарскі Парк, дзе ўсярэдзіне месьціўся Календарскі Палац… І мне не было аніякай справы да палацу й парку, я ўпершыню паспрабаваў сапраўдныя сэндвічы зь неверагодна смачнай пэпсі-колай, сэндвічы складаліся з тонкага таставага хлеба зьверху й зьнізу, парэзанага трохкутнікамі, а між ім было смачнае вэнджанае мяса, маянэз, эўрапейская гарчыца, плаўлены сыр і пэкінская капуста… Гэта быў першы культурна-гурманны шок!

Мы ня езьдзілі глядзець Фолкёркскае кола – першы ў сьвеце суднапад'ёмнік, які круціцца і злучае каналы Форт-Клайд і Юніён, кола, якім так ганарыцца горад і вобласьць, і, напэўна, добра, а, можа, шкада… Але мы былі ў цэнтры, па завядзёнцы турыстаў паглядзелі на крамы па Фолкёрк Хай-стрыт і паехалі ў Заапарк… У Заапарку, акрамя таго, што мы бачылі празь сетку замучаных зэбраў і жырафаў, ганялі паўлінаў, якія хадзілі без агароджы і, вядома, ужо на выхадзе трапілі ў крамку сувэніраў і прыколаў, і я ў Менск прывёз сыліконавую павуціну, якая ноччу сьвяцілася, яна і мяне самога пужала колькі год запар, бо вісела ў куце й паўночы варожа блішчэла, а таксама я накупіў шкілетаў, плястыкавае гаўно, нейкіх вусеняў і казурак, палова зь якіх там у Заапарку й згубіліся.

Мая першая шатляндская сям'я хоць і была даволі пасыўная й спакойная, але побач зь імі жыла суседка-гарэза, яна з намі неяк паехала ў басэйн-цэнтар, яна насіла кепку, як і я, на бок, і сядзела ў аўтобусе побач са мною, жартавала і абдымала мяне, вядома, па-сяброўску, але я раставаў, як марозіва на сонцы ад кожнага ейнага позірку, вяснушкі на яе носе мяне проста зачаравалі, і, калі мы дабраліся да "Mariner Center", толькі тады я ўцяміў, дзе мы! Я наадрэз адмовіўся распранацца й ісьці купацца й катацца з горак у басэйн… А то, каб усе пабачылі, што я тоўсты. Мяне палічылі дурным дзіцём, і я, седзячы на другім паверсе за плястыкавым сталом і калупаючы саломку з-пад выпітага маркоўнага соку, назіраў, як мая супэр-суседка Сьюзан сьмяецца, гуляе й плюхаецца з гораў у ваду разам з маімі хлопцамі-спадарожнікамі. Мяне гэта моцна пакрыўдзіла, і я вырашыў зь ёю не камунікаваць. Трэба было бачыць яе вочы, калі мы ўсе зайшлі ў аўтобус, каб ехаць на абед, яна села каля мяне, я ж на яе як пачаў раўсьці, каб сышла… яна й сышла…

На наступны дзень я, каб неяк разварушыцца і забыцца на Сьюзан і дурнога суседа Дзіму, пазнаёміўся з астатнімі хлопцамі ў маёй шатляндскай праграме, і сталася так, што да канца падарожжа мы ўжо трымаліся адно аднога… Кожны з хлопцаў, здавалася, быў старэйшы за мяне, вышэйшы й прыгажэйшы, і мне гэта падабалася, я адчуваў сябе такім жа, як яны, дарослым, высокім, худым і трынаццацігадовым!

Фолкёрк хутка скончыўся, мы нават не пасьпелі як мае быць яго разгледзець, апошняя партыя ў шахматы з гаспадаром сям'і была завершаная, першыя адносіны парваныя, стыль адзежы зьменены, фотаапарат правільна запраўлены, а тры новыя спартовыя валізы, напампаваныя цацкамі й вопраткай падрыхтаваныя да пераезду ў Абэрдын. Была раніца нядзелі, мы адсядзелі службу ў царкве і ўсе атрымалі па пакунку чакалядак… я вар'яцеў, там было каля пяці кіляграмаў: Сьнікерс, Натс, Марс, Кэдбэры… жуйкі… Я адразу сеў у канец аўтобуса, што было ў мяне звычкаю са школы, і амаль усю дарогу ні з кім не размаўляў, ехаў, пазіраючы па бакох і назад, назіраў першы цуд – шатляндскія палі, узгоркі, авечак, кароў, самотныя дамкі ў клетку… ідылія… І мне было вельмі-вельмі сумна, што мая мама ня бачыць, што не можа адчуць усяго гэтага, я фатаграфаваў, але беспасьпяхова, бо стужка хоць цяпер і правільна была запраўленая, але ўсе здымкі я рабіў супраць сонца й засьвечваў пейзажы да непазнавальнасьці… Увогуле ўсе нармальныя, так бы мовіць, ацалелыя фота, якія я прывёз дамоў, рабіліся ня мною, а гаспадарамі маіх трох сем'яў.

*Абэрдын*

Увечары, калі мы прыехалі ў Абэрдын, я трапіў у больш маладую сям'ю зь вялікай колькасьцю дзяцей, двума прыватнымі тэніснымі кортамі, гаражом на тры машыны… Як пабачыў у вячэрнім паўзмроку ўсю раскошу жыцьця гэтых баптыстаў, я ўжо ня стрымліваўся, плакаў і хацеў дадому, да мамы… Але гэта, вядома, рабілася са мною, калі ніхто ўжо ня бачыў, бо плакаць перад малым вяскоўцам Дзімам, які паводзіў сябе так, што некаторыя з шатляндцаў жагналіся, хоць гэта й не было ў іх традыцыі, яны не разумелі гэтага малога, у якога ад усяго бачанага проста ехаў дах.

(Дзім, а ты адкуль, зь вёскі? І колькі там у вёсцы жыве людзей? Тры хаты, кажаш… І быў ты ў якіх вялікіх гарадах? Толькі ў раённым цэнтры? Па нядзелях, у царкве?! Уяўляю, як табе тут хранова!)

Дурасьць нейкая, плакаць перад малодшымі!

З Фолкёрка я пасьпеў адаслаць дамоў паштоўку, на якой былі сфатаграфаваныя тры дзяўчыны, яны на фоне зялёных узгоркаў на падмостках танчылі ў народных шатляндскіх уборах, я напісаў пра тое, што я рады тут быць і ў мяне шмат адзежы, і зрабіў рэкордную колькасьць памылак у адным кароткім сказе – дзесяць!

У Абэрдыне мяне чакалі дзьве неспадзяванкі – новы зуб і фрызура. Чатыры гады таму, калі я сядзеў на ўроку гісторыі, настаўніца кудысьці выйшла, і мы разам з Настай Маргалік пачалі дурэць й жартаваць, мы былі тымі яшчэ боўдзіламі, яна сказала штосьці сьмешнае, і я зарагатаў з адкрытым да самых вушэй ротам… Усё цела скаланула, й я паваліўся на парту, але тое, што зрабіў гэта зусім неакуратна, да мяне дайшло, толькі калі я ізноў прыняў звыклую пазыцыю сядзеньня на школьным крэсьле – я ўтаропіўся ў вялікі кавалак зуба, які тырчэў у драўлянай парце, указальным пальцам дакрануўся да вуснаў, прыадкрыў рот, намацаў нейкі востры абломак зьверху, пачаў калупаць яго пазногцем, і тут мяне працяў неверагодна востры боль, у вачах спачатку сталася сьветла й потым цемра, рот напоўніўся крывёю… Я пакінуў палову свайго пярэдняга верхняга зуба ў парце. Таму я ўжо чатыры гады хадзіў шчарбаты і баяўся адкрыта ўсьміхнуцца. Нарасьціць новы зуб у Менску было чымсьці кшталту фантастыкі, гэта каштавала прыкладна шэсьць бацькоўскіх заробкаў, а мяне яшчэ адолеў стаматыт, і дзёсны рэзалі, а потым я месяцамі ня мог нармалёва есьці… Адным словам, пакуты.

І тут – гадзіна, і ў мяне новы пярэдні зуб, нарошчаны на стальныя штыкі на аскепках майго ўласнага зуба… І вечарам – новая фрызура… Я мяняўся на вачах, ад таго калабка, як мяне ўсе называлі яшчэ ў школе, нічога не засталося: я быў апрануты як мае быць – чорныя буцы, швэдар "Пума", чорныя джынсы "Wrangler", кароткая фрызура набок, новы зуб, каляровая фенечка – падарунак ад курносай й рабой Сьюзан.

Мая сям'я ў Абэрдыне была вялікай – трое дзяцей, бацька, маці, два лябрадоры, тры коткі, вялікі катэдж з тэнісным кортам і гаражом з трыма машынамі – джып, мэр-

сэдэс і невялічкі форд для паездак па крамах... Гэтая сям'я была заможная, за кожным абедам яны зьбіралі шмат гасьцей... Да іх дзяцей, двух сыноў-падлеткаў, прыходзілі дзяўчыны, да малодшай дачкі – малыя сябры. За кожным абедам яны замаўлялі дзесяць вялікіх піцаў, мой Дзіма дурэў ад усяго, што бачыў, усё было ўпершыню, ён еў піцу вялікімі кавалкамі, амаль цалкам засоўваў сабе ў рот, глытаў яе, усьміхаўся, моўчкі піў, а потым рыгаў і рохкаў, як парсюк, а па вечарох ён ванітаваў у прыбіральні і потым, памыты, залазіў у ложак і распавядаў мне, што новага за дзень ён для сябе адкрыў: цукеркі, чакалядкі, жуйкі, мячыкі зь пяском унутры, мячыкі для жангляваньня, тэнісныя мячыкі, ракеткі, чыпсы, запечаная рыба, піца, кола, пэпсі-кола, фанта, вінаградная фанта, буцы, кеды, йо-йо, хула-хуп... Ён часта па назвах не запамінаў свае адкрыцьці, і мне прыходзілася яму падказваць... І на наступны дзень у яго здарыўся прыступ, ён упершыню ўбачыў прыстаўку Ніндэнда, на якой гуляў у трохмернага Соніка старэйшы хлопец зь сям'і. Быў вечар, мы, стомленыя, аб'еўшыся піцай, нагуляўшыся ў тэніс і накатаўшыся на катамаранах у мясцовым возеры, сядзелі ў пакоі старэйшага і назіралі, як сіні вожык носіцца й зьбірае залатыя колцы, бье нейкіх пінгвінаў, разганяецца й шпарка лётае туды-сюды, уверх і ўніз... І тут раптам Дзіма пачынае вішчаць, рагатаць, рохкаць і паказвае пальцам на экран, крычыць, рагоча і пукае, і гучна так крычыць і пукае, рагоча й сьмярдзіць... Мы ў шоку, паглядаем на яго, як на ёлупня, а Дзіма ня можа спыніцца, рагоча й пукае, і так ад яго нясе, нібыта ён абгаўняўся ўшчэнт, а ён нават слова прамовіць ня можа... Старэйшы ставіць гульню на паўзу, Сонік зьнерухомлівае ў палёце за чарговым залатым колцам, і мы сыходзім, заціскаючы насы, а Дзіма яшчэ паўгадзіны так ляжаў, глядзеў на экран і рагатаў, скуголіў і гучна пукаў... Позна ўвечары, калі мы былі ўжо ў ложках, Дзіма сказаў мне, што ніколі так не сьмяяўся, яго адолеў нейкі прыступ, эйфарыя, ён нават абкакаўся.

Так, абкакацца ад уражаньняў – гэта новы этап культурнага шоку.

На наступны дзень абэрдынскія часовыя бацькі пацягнулі нас на шпацыр у парк, дзе мы сустрэліся з усімі беларускімі дзецьмі й іхнымі шатляндскімі сем'ямі. Парк быў хутчэй вялікім зялёным футбольным полем, мы, як тут звычайна прынята й нармалёва для летняга сэзону, несьлі з сабою ў заплечніках швэдары, шалікі й невялічкія парасоны, надвор'е за дзень мянялася рэзка й радыкальна... Пакуль усе сабраліся, двойчы прайшоў грыбны дождж, а потым пачало няшчадна паліць сонца, была сьпякота... Для дзяцей разгарнулі вялікі надзіманы палац, унутры якога можна было скокаць, я спачатку паводзіўся культурна й па-даросламу, але калі пабачыў, што ў гэтым палацы столькі дзяўчын майго ўзросту дурэюць, нават не разважаючы, кінуўся бегам туды – і так, гэта было слушным рашэньнем, скокі, сьмяшкі, выпадковыя сутыкненьні, абдымкі, усе дзяўчаты ўжо мелі невялічкія ледзь акрэсьленыя грудкі, я быў на вышыні асалоды... Бо што яшчэ трэба хлопцу, які нядаўна пераступіў мяжу падлеткавага ўзросту, дзе прымітыўныя жаданьні ўжо расьлі й займалі ўсю частку таго месца ў мозгу, які быў адказны за другую сыгнальную сістэму па Паўлаве, а прасьцей, за мысьленьне й разважаньне... На той час усе сыгналы й сыстэмы былі адключаныя, акрамя адной... Я быў больш, чым калі, набліжаны да жывёлаў, я востра адчуваў пахі поту й яшчэ чагосьці ўзбуджальнага, нейкіх афрадызіякаў, я востра бачыў усьмешкі й шаўковыя валасы дзяўчын, я бачыў іх белыя зубы, іх вясёлыя вочы, іх целы й рукі, я кранаўся іх у шалёных скоках у надзіманым дзіцячым палацы, час быў спынены, Шатляндыя пасунутая далёка ў бок, мова сьцёртая, на той час існавала камунікацыя духоўная, полавая, камунікацыя самая старажытная, жаданая й яскравая.

А потым, калі палац пачаў выпускаць паветра са свайго нутра й памяншацца ў памерах, мы перайшлі да гульняў зь мячыкамі, з каляровымі пледамі і кінуліся шалёна есьці сэндвічы й запіваць іх спрайтам... Дзьве дзяўчыны, зь якімі я на кароткі час адчуў такое блізкае яднаньне, размалявалі акварэльнымі фарбамі свае твары такім жа чынам, як і я, і мы ўтраіх зь сіня-бэжавымі пысамі хадзілі і сьмяяліся, яны глядзелі на мяне, я на іх, я на той час быў шчыра закаханы ў іх абедзьвюх, закаханы ў іхнюю шатляндскую незразумелую мову, у іх вочы й такія прыгожыя грудкі, якія па-дзіцячы вытыркаліся з-пад дзявочых белых саколак... І гэта, напэўна, было маім першым сапраўдным узбуджэньнем, я яго дакладна

адчуваў, і было цяжка хадзіць, таму я, каб адцягнуць увагу, быў вымушаны пачаць бегаць, нібыта зацікавіўшыся футболам, у які гулялі мужчыны.

А потым быў новы дзень, я адчуваў, што нейкім чынам зьмяніўся, што прастора вакол мяне цяпер стала іншаю, я па-новаму пачаў глядзець на сьвет, каштоўнасьці былі ўжо ня тымі... Я прачнуўся мужчынам, але асэнсаваў гэта толькі праз колькі месяцаў, а на той час я ўсё адчуваў падсьвядома, толькі сваімі пачуцьцямі, дакранаючыся да прадметаў, назіраючы, нюхаючы, прыслухоўваючыся, усё было іншым... І гэты новы, іншы дзень быў цалкам прысьвечаны падарожжам па вуліцам Абэрдына, якія для мяне размыліся ў адно вялікае пачуцьцё, адзін вялікі вобраз карункавага, каляровага жаночага пачатку, прысутнасьці дзявочага паху, дзявочых сілуэтаў, пакуль увечары наш аўтобус не спыніўся на беразе Паўночнага мора, халоднага паўночнага мора, і я адарваўся ад групы дзяцей і ня чуючы нікога, па пояс зайшоў у ваду, было халодна, але гэта было першым сьвядомым купаньнем у моры, у вопратцы... Зусім малым я купаўся ў Балтыйскім моры, але гэта нават не параўноўваецца, тут толькі што стаўшы дарослым, купаўся ў новым статусе, з новымі поглядамі на сьвет. На мяне доўга сварыліся выхавацелькі, пераапраналі, абціралі, расьціралі, я тросься, але сьмяяўся...

На наступны дзень я ўжо быў героем як сярод сваіх, так і сярод шатляндскіх дзяцей, я набываў папулярнасьць...

Мора асабліва нікому не падалося цікавым, і аўтобус накіраваўся да мясцовага басэйну... Тады я зноў бавіў час за сталом, назіраючы, як усе плаваюць, гуляюць й сьмяюцца, гэта былі часы поўнага заняпаду для мяне, гэта было забыцьцё, я пакутаваў праз свае комплексы поўнага дзіцёнка.

– Гэй, чувак, лаві мяч вось так, – крычалі мне зранку мае часовыя браты і паказвалі, на якім узроўні яго лавіць, і я זаківаў галавою, то бок кідайце...

Я злавіў мяч жыватом, боль быў такі, быццам мне выпусьцілі ўсе кішкі вонкі... І апошні свой абэрдынскі дзень я правёў у ложку, паядаючы чакалядкі й разглядаючы свае новыя валізы з пакупкамі й падарункамі для мамы – цэлая калекцыя шампуняў, гель-душаў і крэмаў, для таты – саколкі й швэдары, і для брата – амаль усё адзеньне ад верху да нізу, плюс абутак, куртка, шапкі і кепкі. Я заўсёды, з самага дзяцінства імкнуўся апрануць свайго малодшага брата цалкам, так я прыязджаў зь Лёндана з валізаю адзеньня для брата, так я прыязджаў з Ваймара, так і з астатніх месцаў, напэўна, усё пачалося з Шатляндыі й неверагодных складоў вопраткі, якую проста так нам давалі ўсе гэтыя веруючыя людзі!

Я ляжаў з пабітым жыватом у ложку, лекар мяне агледзеў, я быў здаровым, але да заўтра я мусіў нікуды не выходзіць, усе мае сябры й сяброўкі ізноў падарожнічалі па вуліцах Абэрдына, набывалі розныя рэчы, фатаграфавалі, а я разглядаў цэлую калекцыю міні-аўтамабіляў, якія па прыезьдзе дадому будуць адабраныя ў мяне ў маім двары мясцовымі старшаклясьнікамі, а частка, якая на пачатку захаваецца дома, будзе скрадзеная маімі сябрамі... Я пільна ўглядаўся ў гэтыя машынкі і марыў, як буду ў дваццаць пяць год такім неверагодна дарослым, як буду езьдзіць на адной з такіх машын, напрыклад, на сінім “Жуку” альбо на “Астон Марціне” альбо на “Фордзе Мустангу” 1969 года... Мне здавалася, што дваццаць пяць – гэта тое самае, гэта як раз такі ўзрост, калі ўсе кропкі над “і” расстаўленыя і далей жыцьцё будзе ісьці толькі па пляне й згодна з распрацаванымі прынцыпамі....

Мой пісюн цяпер кожную раніцу нагадваў пра сябе, робячы з майткаў “шалашык”, я бегам нёсься ў прыбіральню й крыва, пырскаючы ў розныя бакі, сікаў, мне было сьмешна й радасна, я адчуваў сябе моцным... Сёньня надышла чарговая нядзеля, і мы будзем на служэньні ў царкве і адтуль едзем у Пітлёхры, нас зь Дзімам, які з кожным днём усё больш сумаваў па доме й адначасова ні ў якім разе туды не зьбіраўся, мусілі сустрэць у трэцяй сям’і.

Службу мы адсядзелі напаўсоннымі, і калі выйшлі ва ўнутраны дворык царквы, каб падсілкавацца й памаліцца, я быў агаломшаны прыгажосьцю той самай жанчыны, на якую выдаткую за час сьняданка й малітвы ўсе трыццаць шэсьць кадраў свайго фотаапарату,

я сустрэў тую самую жанчыну, на якую ўпершыню паананірую, успамінаючы кожную рысу яе твару, кожны выгін яе пругкага цела, кожны сантымэтар яе грудзей зь цьвёрдымі смочкамі пад лёгкай бэжавай кашуляй... І я да гэтага часу ўдзячны лёсу й Богу за тое, што маё спасьціжэньне сьвету чагосьці інтымнага ўпершыню адбылося менавіта ў Шатляндыі, гэта ад самага пачатку заклала нейкі падмурак густу, падсьвядомага параўнаньня з тым, што будзе надалей сустракацца на маім шляху, і першакрыніцамі апынуліся дзяўчыны й жанчыны чыстыя, добрыя, сьветлыя, аточаныя неверагодным зьзяньнем і моцаю, пахам і аўрай абяцаньня чагосьці патаемнага... Я ў той час маліўся з астатнімі, але мая малітва была зусім іншаю, яна была скіраванаю да гэтай жанчыны, да яе пачуцьцёвага прыроднага бляску, да яе ўнутранай моцы... Я пачынаў разумець, што гэта не дурныя мэтафары, быццам мужчына гатовы на ўсё дзеля жанчыны, я пачынаў разумець, што ў сьвеце ёсьць такія прыярытэты і такія закладзеныя прыродаю рэчы, на якія чалавек ніколі ня знойдзе адказу, а тым болей моцы падпарадкаваць...

Перад самым ад'ездам надвор'е сапсавалася, падзьмуў халодны вецер, мы апранулі швэдары, але маю жанчыну гэта не сапсавала, яна глядзелася б сэксуальнаю й вытанчанаю нават у целагрэйцы... Мы паехалі ў Пітлёхры, нам махалі нашыя часовыя сем'і, мы ўсьміхаліся, Дзіма плакаў горкімі сьлязьмі, яго соплі цяклі па падбародзьдзі, ён пукаў... Я паглядаў толькі на сваю жанчыну, яна махала нам рукой побач з адной з маіх суседак, якую звалі Эва, я думаў, што ёй пашчасьціла цэлы тыдзень жыць з такою жанчынаю, я ўяўляў на яе месцы сябе... Мы паехалі... І я раптам успомніў, што ў сваім пакоі ў доме забыўся трэцюю валізу, у якой былі два мячыкі – баскетбольны й валейбольны, тры махровыя ручнікі, пяць шортаў і новы фотаапарат... Я забыўся на цэлую валізу!

У аўтобусе, адна з нашых вахавацелек распавяла, што Абэрдын – горад-пабрацім, альбо, як кажуць брытанцы – sister city (горад-сястра) з нашым Гомлем, і стаў ён ім у 1990 годзе...

*Пітлёхры*

Пітлёхры, маленькі гарадок, жыве там усяго дзьве тысячы жыхароў, але месца незвычайнае – ляндшафт дзесьці паступова, а дзесьці рэзка пераходзіць з раўнінаў у горы, з Лоўлэндз у Хайлэндз, так, Пітлёхры знаходзіцца там, дзе пачынаюцца Высакагор'і, там, дзе далей на поўдзень спрэс запаведнікі, лясы, замкі, й амаль адсутнічаюць гарады, толькі вёскі й сялібкі, і паступова зямля сканчаецца і пачынаецца халодны Паўночны Ледавіты акіян.

Пітлёхры – гэта ўжо цалкам іншы погляд на сьвет, гэта новая сям'я, якая дала мне найбольшую колькасьць успамінаў і ўражаньняў, сям'я, у якой двое дзяцей нашага зь Дзімам узросту, і мы паўсюль будзем разам: школа, пікнік, кавярня, ровары, гульні, лясы і замкі.

Бацька, гаспадар у сям'і, вельмі паважаны, адзіны доктар на раён, ён мае сваю прыватную машыну зь міргалкамі, пінжак і саквояж і лечыць ад усяго, ён неяк будзе мяне фатаграфаваць у адзеньні доктара каля сваёй працоўнай машыны... Маці – хатняя гаспадыня, дзеці – звычайныя жвавыя падшыванцы... Гэтая сям'я першаю зацікавілася нашым паходжаньнем, дакладней, яна ад пачатку не спынілася на простым пытаньні: "Адкуль вы?". Усе яны кінуліся да свайго кампутара, на якім была ўсталяваная новая Windows 96, пяць хвілінаў – трэск ад падключэньня да Інтэрнэту, і цуд – яны набралі на клявіятуры слова "Belarussia", і той на сваім пукатым чорна-шэра-зялёным маніторы паказаў артыкул, дзе падрабязна пісалася пра маю Радзіму, і ўнізе пачала запампоўвацца фотка... Мы чакалі каля хвіліны, пакуль пікселі не далі нам фотаздымак РЫСІ! Во дзіва, на Беларусі жывуць рысі... Другім фота быў контурны абрыс мяжы краіны, й даваліся пэўныя зьвесткі месцазнаходжаньня й клімату...

Усе вытрымалі культурную паўзу зацікаўленасьці, паўздыхалі, павохкалі на рысь і на наш клімат... І першы вечар прайшоў у напаўзмрочным гасьцінным пакоі пад цёплымі пледамі, з гарачай чакалядаю й праглядам мульцікаў "Том і Джэры", Дзіма спаў, пускаючы сьліну на падушку, я сядзеў у фатэлі і глядзеў то ў тэлевізар, то на сваю новую сям'ю, мне

было цікава, што будзе заўтра, мне хацелася да мамы, але хацелася не да яе ў Менск, а каб яна сюды прыехала...

Праз гадзіну нас адправілі адпачываць, і я зазірнуў у ванны пакой, каб прыняць ванну, як мае быць, па-беларуску... Але я толькі пасьпеў напусьціць вады, як гаспадар дому ўварваўся ў ванны пакой з квадратнымі вачыма, і празь яго шатляндска-ангельскія сказы я зразумеў, што ніхто, ніколі за сваё жыцьцё так бязглузда не выдаткоўваў цэлую ванну вады на тое, каб памыцца, гэта ж 250 літраў!!! Вар'яцтва, калі магчыма было памыцца і ў 40 літрах, альбо хуценька, затыкнуўшы ракавіну, набраць туды два літры і, змочваючы ў гэтай вадзе анучку, працерці цела!!! Як гэта ўвогуле магчыма, каб столькі вады проста так напусьціць!!! Гаспадар быў белы, я яму казаў што ў Беларусі шмат вады, але ён не даваў веры. Шатляндцы мелі з нараджэньня пункт пра эканомію, і гэты пункт быў непарушным.

Раніца засьпела нас зь Дзімам у неверагодным холадзе, нас трэсла, як асінавае лісьце – аказалася, што батарэі ніхто не ўключаў, а ноччу быў амаль нуль і, вядома, форткі былі паўсюль адчыненымі, бо мусіла быць сьвежая раніца, але толькі не для нас...

Увогуле, як я потым даведаўся, шатляндцы, як і ангельцы, ужо ў трэцім пакаленьні загартаваная нацыя, усё пачалося з таго, што на дзяржаўным узроўні была пастаўленая праграма развіцьця нацыі, загартоўкі, каб людзі не паміралі, хварэючы на грып альбо гішпанку, і таму зь дзяцінства малыя сьпяць з адчыненымі форткамі і нават у лютым ходзяць у швэдарах, шаліках і штанах, усім тут цёпла, акрамя нас.

Pitlochry High School па вуліцы East Moulin Road, там вучацца мае браты, я ўсю раніцу баўлю зь імі час, гэта цікава, весела, на мяне школьнікі паглядаюць, як на дзіва, дзяўчынкі перашэптваюцца, я атрымліваю ў падарунак сувэнірны ручнік школы, на якім намаляваныя ўсе вучні, прычым кожны вучань намаляваны сваім сябрам альбо суседам па парце, дзіўныя й чароўныя малюнкі, я адразу прыгадваю сваю школу й аднаклясьнікаў і разумею што яны ніколі так выдатна й сьмешна, шчыра й па-сяброўску адно аднога не намалявалі б, абавязкова кожны пачаў бы зьдзекавацца.

Мне хутка становіцца сумна, усе разьбягаюцца па габінэтах, мы з хлопцамі ідзём на школьную спартовую пляцоўку, я адразу заўважаю баскетбол і бягу туды, да чорных хлопцаў. Чорныя бачаць мяне, усьміхаюцца, і я далучаюся да іх у каманду, мы гуляем, добра што яны майго ўзросту, нам весела, але адзін зь дзяцей кожным разам, калі я атрымліваю мяч, моцна зьбівае мяне, спрабуе замест таго, каб адабраць мяч, нашкодзіць мне... Я не вытрымліваю:

– Hey, fuck you bitch!!!

Гульня рэзка спыняецца, усе пільна сочаць за намі, я разумею, што гэтага казаць ня трэба было, напэўна, мяне будуць балюча біць, хлопец гэты нашмат мацнейшы за мяне, але ён разварочваецца й сыходзіць, мармычучы сабе пад нос нешта няўцямнае, ягоныя шырокія штаны цягнуцца па спартовым пакрыцьці, астатнія чорныя хлопцы сыходзяць разам зь ім, я застаюся адзін, мне сорамна, і я разумею што паводзіўся як апошні дурань... І разумею, што мяне ня зьбілі толькі таму, што я замежнік, вось і ўсё... І гэта мне падалося неверагодным, я завочна пачаў таго хлопца паважаць, але толькі празь некалькі тыдняў, калі спакойна ўсё ўзважыў і перагледзеў той момант ад пачатку і да канца... І запомнілася мне тады яшчэ, як школьнікі, якія назіралі за нашай гульнёй, радаваліся закінутым мячам, падбадзёрвалі мяне, крычалі: "Давай, Санджы (гэта я быў, як сонца), кідай!!!". І потым як пасьля маіх злосных выкрыкаў на хлопца, некаторыя апускалі вочы і сыходзілі, я расчараваў ці ня самых добрых дзяцей у сьвеце, яны мяне пусьцілі да сябе, узялі ў гульню... Але я таксама дзіцё, і мне гэта мусіла даравацца, але здавалася, што пасьля таго, як у Абэрдыне я ўжо стаў дарослым і нёс адказнасьць за свае дзеяньні, я мусіў адразу стацца разумным.

На наступны дзень мая сям'я выправілася ў доўгае падарожжа – куды, нам зь Дзімам не адразу паведамілі. Але калі мы ўжо імчаліся па дарозе, я даведаўся, што мы праедзем самае сэрца Высакагор'яў, паямо на ўзьбярэжжы акіяну й дадому!

Перад маімі вачыма праносіліся казачныя краявіды, вялікія й мажныя дрэвы, дубровы й ельнікі, горы й самотныя валуны пасярод зялёных палёў, рэкі й балоты, вёскі... Праносіліся ўсе адценьні зялёных і карычневых колераў, я захапляўся гэтым, было яшчэ вельмі рана, сонца толькі ўздымалася, я ўскрыкваў у машыне ад захапленьня, усе сьмяяліся зь мяне, а Дзіма ўсю дарогу спаў... Нарэсьце празь некалькі гадзін і я, зmораны ўражаньнямі, заснуў, і калі расплюшчыў вочы, убачыў яго, акіян, я ўбачыў гэтыя буйныя сінія хвалі, гэтыя адценьні зялёна-шэрага, удыхнуў халоднае сьвежае паветра, сонца сьвяціла няшчадна, але тут гэта ня мела ніякага значэньня, бо ён быў Гаспадаром, Богам, ён быў Акіянам, я злавіў сябе на думцы, што грахоўна думаю пра Бога, так недапушчальна для маленькага баптысцкага хлопчыка, але думкі ўжо зьявіліся, і іх немагчыма было пазбавіцца... Доктар, наш гаспадар, сказаў жонцы, што назад машыну павядзе яна, дастаў з кішэні біклагу са скотчам і сербануў, усьміхнуўся й паглядзеў на мяне... Я ўсьміхнуўся яшчэ шырэй... я глядзеў на Паўночны Ледавіты акіян, як дэбіл, зачаравана, пільна й захоплена...

Мы вярталіся ў цішы, цямнела, я, пакуль ніхто ня бачыў, сербануў скотча з пакінутай біклагі, калі яшчэ сілкаваліся на ўзьбярэжжы акіяна, мне карцела пакаштаваць на смак гэтае піва, і я, вядома прасьлязіўшыся й закашляўшыся, вырашыў, што алькаголь ніколі ўжываць ня буду, але праз год парушыў дадзены сабе загад.

У Пітлёхры я набыў касэтны плэер апошняй мадэлі, сіні, з аўтарэвэрсам і дыктафонам, і ў дадатак да яго прыдбаў дзьве касэты гітоў года, я пазнаёміўся з “Продзіджы” зь песьняю “Дыханьне” й з гуртом “Спайс Гёрлз”... Ці трэба казаць, што адбывалася ў школе зь верасьня, калі я вярнуўся... Усе аднаклясьніцы слухалі “Спайс Гёрлз” і “Бэкстрыт бойз”, я быў ня толькі ў тэме, я ведаў больш за іх, і ў мяне было некалькі сьвежых брытанскіх часопісаў зь іх кумірамі, такіх часопісаў па ўсёй Беларусі ніколі ня знойдзеш, і я на год стаўся ці не самым папулярным хлопцам сярод сваіх дзяўчат... Я даваў ім гартаць часопісы, слухаць касэты, распавядаў пра “Продзіджы”. Але ў час, калі я толькі пачынаў знаёміцца з поп-музыкай і з “Продзіджы”, я знаходзіўся ў Пітлёхры, ішоў разам зь Дзімам і нашай шатляндскай гаспадыняй па цэнтральнай вуліцы й мармытаў сабе пад нос няскладныя гукі, як малпа паўтараючы за сьпевамі, якія гучалі ў маіх вушах з новых навушнікаў... Я добра зрабіў, што набыў такія рэчы, як касэты й часопісы...

Аднойчы ўвечары мы сядзелі за сталом, мне паднесьлі пакунак чыпсаў, я падзякаваў і, адкрыўшы яго, адразу адчуў незвычайны пах. Дзіма, а ён таксама атрымаў такія ж чыпсы і сок, адразу павараціў носам і, пакаштаваўшы чыпсіну, пачаў плявацца. Я на яго лаяцца – дурань, як можна так сябе паводзіць за сталом, а нашыя шатляндцы глядзяць на нас й не разумеюць, як гэта Дзіма плюецца такою смакатою! Я паклаў у рот чыпс... Так, сапраўды, мяне працяла нейкае новае пачуцьцё, адначасова было незразумела гідка, але потым, другім смакам, больш танюткім я адчуў даволі спэцыфічную рэч... Гэта былі чыпсы з воцатам, чыпсы, якія пасьля я больш нідзе не знаходзіў, як ні шукаў, гэтыя чыпсы на апошнія тры дні сталіся маёй самай любімай ежай, я іх набываў паўсюль і еў іх вялікімі пакункамі, я закахаўся ў гэты незвычайны смак, і потым, калі ўжо іх нідзе не знаходзіў, я абліваўся сьлінаю, шалеў, але да гэтага часу яны засталіся недасяжнымі, мітычна-шатляндскімі...

Таксама адным са смачных мітаў для мяне сталіся “Фіш энд Чыпс”, якія я каштаваў на Atholl Road, ежа, якую брытанцы ўвогуле ядуць па ўсім сьвеце, нават у Індыі. Ядуць, кажучы, што гэта праверана ежа, і я дадам – сытная й здаровая: запечаная рыба і бульба, падаюцца на паперы якая ўсмоктвае залішні алей... Смак, смак, смак, паўсюль была смаката, калі забыцца на тое, што гатавала мая мама, паўсюль была іншая смаката, новая, шатляндская.

А потым мы раніцою выправіліся ў доўгае падарожжа на роварах, мяне апранулі ў амуніцыю, надзелі на галаву шлем, пальчаткі і мы – шэсьць горных ровараў паехалі ўздоўж ракі Тамэль у бок лесу й гор, да замкавага гатэлю і там, далей, ужо машынаю да Таргет Парку і да Блэйр Кастла. Неверагоднае, дзікае падарожжа, дарога лезла ўверх, спускалася

нечакана ўніз, паўсюль высоўваліся карані, потым дарога звужалася да сьцяжынкі, і па баках апыналіся абрывы, мы прадзіраліся скрозь дрэвы й зеляніну, надвор'е мянялася: нас то аблівала дажджом, то паліла сонцам, мы ехалі доўга й марудна, але адначасова гэта было вельмі цікава й пазнавальна, яшчэ ніколі я так не падарожнічаў, яшчэ ніколі не бачыў такіх гор і лясоў, я пасьпяваў круціць галавой, крычаць ад захапленьня... Дзіма, які плёўся за мною, хутка стаміўся, і яго, разам з самым малодшым дзіцём, прывязалі за вяроўку да ровара доктара-гаспадара, які хутка пагнаў наперад... І раптам краявід мяняецца, і перад намі ўдалечыні паўстае вялікі Палац пасярод залёнай паляны, цалкам усеянай зайцамі... Я пачаў гарлапаніць і тыкаць паўсюль пальцамі: "Зайцы! Зайцы! Зайцы! Зайцы! Зайцы! Зайцы! Зайцы! Ды іх тут сотні!!!" – я забыўся на ровар і адпусьціў стырно, мая правая нага нейкім чынам улезла між спіцамі пярэдняга кола, і я паляцеў праз ровар... Упаўшы, разадраўшы аб газон шчаку і рукі, калена і правы бок, я працягваў назіраць, як зайцы скокаюць у розныя бакі, як яны амаль у сантымэтрах ад мяне носяцца... Боль прыйшоў, толькі калі мяне паднялі й паставілі на ногі і калі ўсе зайцы зьніклі з далягляду. Для маіх шатляндцаў гэта было звычайным дзённым падарожжам на ровары, для мяне – адкрыцьцё цэлага сьвету цудаў.

Да Таргет парку й да белага Палацу Блэр мы ехалі ў машыне, якую арэндавалі ў замкавым гатэлі, мы пакінулі ровары і ехалі, усьміхаючыся й жуючы сэндвічы з сырам, запіваючы ўсё апэльсінавым сокам, нашая шатляндская сям'я паглядала на нас, двух ёлупняў і, напэўна, крыху шкадавала, што мы нарадзіліся ня тут.

У апошні дзень мы зьбірался ехаць дадому, хутка і неабачліва, шмат чаго пакінулі, згубілі, забыліся, Дзіма вельмі моцна плакаў, не хацеў зьязджаць, называў гаспадыню мамаю, абдымаў яе, пэцкаў яе спадніцу сваімі сьлязьмі й саплямі, мне за яго было няёмка, але я сам ледзь ня плакаў...

У аўтобусе да мяне падышла Эва, дзяўчына, зь якою мы пазнаёміліся яшчэ перад менскім аэрапортам, Эва мне вельмі падабалася, і мы зь ёю на агульных экскурсіях у Эдынбург і Глазга праводзілі час разам. Эва запыталася, ці маглі б мы абмяняцца фотаздымкамі адно аднаго з адрэсаю, каб у Менску перапісвацца і камунікаваць, і падаравала мне зялёную фенечку з маленькім белым крыжыкам, яна спляла яе сама для мяне, я расчырванеўся і паабяцаў, што да самалёта абавязкова падару ёй сваю фотакартку з адрэсаю.

Я доўга корпаўся ў сваіх фота, пакуль мы ехалі ў Глазга Інтэрнэшнл, Дзіма заснуў, у аўтобусе панавала самотная цішыня, задушлівая, сумная нявыкрутка, усе мае беларускія суседзі тужліва глядзелі перад сабой, хтосьці гучна смаркаўся, хтосьці плакаў... Я знайшоў фотаздымак, на якім стаяў у белай саколцы, з карычневаю байкаю, павязанай на поясе, у сіняй кепцы, рукі ў кішэнях чорных джынсаў, я – у поўны рост, бачныя нават мае любімыя буцы, за мною праглядаецца архітэктура Абэрдына, фота файнае, на зваротным баку я напісаў: Менск, вул. Заслаўская, тэлефон, індэкс, прыгожай Эве на памяць аб падарожжы, пабачымся, подпіс, дата, сардэчка.

У аэрапорце мы хутка прайшлі праз кантроль, селі ў самалёт і паляцелі, фотакартку я ня змог даць Эве, я вельмі саромеўся, таму ў прыбіральні самалёта разарваў яе і выкінуў. Эва мне таксама не дала фота, яна, напэўна, чакала ад мяне першых крокаў як ад мужчыны. Калі самалёт прызямліўся, я яе згубіў з поля зроку ў натоўпе бацькоў і больш ніколі ня бачыў.

*13.01 – 21.02 2012*

## БЫТЬ БОРОДЕ

Эта история началась, когда, умыв лицо холодной водой, Казимир К. посмотрел на свое отражение в зеркале. Легкая небритость солидно смотрелась и придавала ему серьезности. Пожалуй, так ему было даже лучше. Он медленно провел ладонью от уха до уха, ощутив приятное сопротивление волосков.

Кто здесь настоящий брутальный мужчина? – спросил он у зеркала. – Я? Да, похоже на то.

Данный собой же ответ ему явно понравился, и Казимир решил не бриться ни сегодня, ни завтра, ни в ближайшие дни. Быть бороде! С такой мыслью он прошел на кухню и включил радио.

Где вчера полиция расстреляла мирных… Разрушительный торнадо прошел по всему… Средний уровень зарплат должен подняться до…

– Угу, не сомневаюсь, – сказал молодой человек, одной рукой насыпая в чашку с кипятком кофе, другой – продолжая переключать радиостанции.

– Вера из Минска спрашивает, какую сегодня ждать погоду и просит поставить что-нибудь в стиле "Кей-Билли: супер мелодии 70-х" для ее мамы, у которой в этот день юбилей. Что ж, Вера, синоптики обещают мокрый снег и небольшое потепление. Ну и, собственно, песня для вашей мамы. Счастья ей и долгих лет жизни.

Зазвучал мотив из далеких семидесятых, прочно засевший в голове Казимира и не вылазящий оттуда весь путь от дома до его офиса на другом конце города. Прохожие улыбались ему, девушки смущенно хихикали, проходя мимо. Понедельник начинался хорошо.

Уже у самого входа в здание, где он работал, Казимиру показалось, что за ним следят. Это было всего лишь ничем не подкрепленное чувство, а потому он не придал ему значения. Войдя внутрь, он столкнулся со своим начальником.

– Казимир, – прищурился тот, – вы перестали бриться, или это мне кажется без очков?

– Перестал, Владимир Владимирович. Решил сменить стиль, так сказать. А что, что-то не так?

Начальник ничего не ответил, развернулся и быстрым шагом удалился, оставив К. в недоумении. Сидевшая неподалеку вахтерша подозрительно на него посмотрела. Ничего не понимая, Казимир направился на второй этаж, где в самом конце коридора находился его рабочий кабинет.

– Молодец, – бросила проходящая мимо девушка из отдела рекламы, когда он поднялся.

– В чем? – не понял молодой человек.

На его вопрос она никак не отреагировала, растворившись в одном из кабинетов. В этот момент к нему подошел парень из соседнего отдела.

– Что, не бреешься, да? – тихо спросил он.

– Боже, а что в этом такого? Это что, противозаконно? – возмутился Казимир повышенному в этот день вниманию к растительности на его лице.

– В том-то и дело, что нет, – вздохнул парень и ушел.

Казимир дошел до конца коридора и начал открывать дверь своего кабинета, когда из-за спины раздался чей-то голос:

– Казимир К.?

– Да.

– Вам срочная доставка. Подпись, пожалуйста, – сказал незнакомый мужчина и протянул большой конверт и лист бумаги.

Казимир поставил подпись, забрал конверт и зашел в кабинет. Первым делом он распечатал конверт. Внутри оказался сотовый телефон, который тут же зазвонил. К. принял вызов:

– Алло?

– Привет, Казимир. Знаешь, кто говорит?

– Нет.

– Ну еще бы, откуда ты можешь знать. Но сейчас важно другое: за тобой идут, и я не знаю, что они задумали.

– Кто идет?

– Выгляни из кабинета и посмотри.

Казимир приоткрыл дверь и высунул голову из кабинета. В конце коридора, у лестницы, трое в одинаковых черных куртках что-то спрашивали у сотрудницы отдела бухгалтерии. Они заметили Казимира и направились к нему.

– Черт, что им от меня надо? – занервничал он и спрятал голову.

– Не знаю. Если не хочешь выяснить, советую уходить.

– Куда?

– В окно.

– Что?

– Из здания два выхода: спуститься по водосточной трубе либо через тех троих. Ты рискуешь в любом случае. Выбирай сам.

– Бред какой-то! – воскликнул Казимир и распахнул окно.

Рядом с окном вниз спускалась водосточная труба. Немного подумав, он закрыл окно и сел за свой стол. Только сейчас до него дошло, что он ничего плохого не сделал. А значит, это просто какое-то недоразумение.

Дверь открылась, и зашли три человека в одинаковых черных куртках.

– Доброе утро, господин К., – сказал один из них и сел напротив.

Двое остались стоять у двери. Тот, что сел, положил на стол толстую папку и начал листать бумаги. Иногда он сочувствующе кивал головой, иногда возвращался назад и просматривал какой-то листок еще раз.

– Как видите, господин К., досье на вас получилось немаленьким. Интересная ситуация складывается, не так ли?

Что за непонятное досье могло быть на него, человека с безупречной репутацией и отсутствием любых, даже самых мелких нарушений? Казимир попытался заглянуть в папку, но незнакомец тут же ее закрыл.

– Как же я могу что-то увидеть, если вы мне не даете этого сделать?

Мужчина улыбнулся.

– Думаете, это все шутки? – сказал он.

– Я ничего не думаю, так как абсолютно не понимаю, что вообще происходит.

– Хорошо. В таком случае я сразу перейду к делу. Мы готовы уничтожить досье, если сегодня же вы откажетесь от идеи растить щетину.

На несколько секунд в кабинете воцарилась полная тишина.

– Это что, розыгрыш? – нарушил ее Казимир.

После недолгой паузы человек в черной куртке наклонился и ответил:

– Нет.

– Это же смешно! – сказал К. и рассмеялся.

– О, не сомневаюсь. Всем смешно. Но только первое время. Уж поверьте моему опыту.

Мужчина достал из кармана черный бархатный футлярчик и положил на стол. На футлярчике красовалась большая буква "К" серебряного цвета.

– Это станок для бритья. Сделаный специально для вас. Очень хороший, рекомендую. Как вы знаете, напротив вашего кабинета находится уборная, где я вам настоятельно советую этот станок опробовать. Пожалуйста, не стесняйтесь. Потому как ровно через час мы вернемся, и в ваших же интересах сделать нашу повторную встречу максимально короткой и мирной.

Человек в черной куртке встал и вышел из кабинета. Двое других вышли вслед за ним. Казимир остался наедине с футляром и надеждой на то, что все это один большой сон или шутка. Слишком много событий случилось этим утром, и он даже задремал, размышляя над ними.

Зазвонил рабочий телефон, разбудив его. К. взглянул на настенные часы – прошло пятьдесят пять минут с момента ухода троих незнакомцев. Может быть, это все же сон? Молодой человек взял трубку и поднес к уху.

– Линия прослушивается, буду краток, – раздалось из трубки. – Нас опередили, но противник недооценил твоего значения. Знай они то, что знаю я, ты был бы уже мертв.

Последние надежды на нереальность происходящего улетучивались с пугающей скоростью.

– О чем вы?

– Они думают, недельная щетина – и ты остановишься. Но они даже не догадываются, что борода, настоящая борода – вот твой уровень, и ни волоском меньше.

– Господи, да что же это такое?

– Не волнуйся, все мы сперва сталкивались с этим. Но ты задал себе верный вопрос: "Зачем?". Зачем сбривать то, что испокон веков делало из мальчика мужчину? Потому что так считает большинство? Потому что есть какие-то нормы? Кем они установлены, эти нормы? Тобой или другими? Готов ли ты всю жизнь делать так, как указали тебе эти другие? Другие, которым на тебя наплевать. Борода невыгодна им. Им это не надо. Ведь в бороде сила, в ней мудрость. Величие, в конце концов. Знаешь, почему ни ты, ни я никогда не видели без бороды самых храбрых и сильных представителей мужской половины человечества – витязей и викингов?

– Потому что они давно мертвы?

– Потому что они знали то, что забыли мы. Только тебе решать, принимать правила либо устанавливать их самому. Запомни: ты хозяин своей судьбы. И никогда не забывай этого. Какое бы решение ты ни принял, я буду ждать тебя у входа на станции метро "Спортивная" со стороны городского суда. Это рядом с твоим офисом.

– Да, я знаю, где это.

– Надеюсь, ты все же придешь. Сделай правильный выбор. Но знай, что любой выбор всегда правильный.

Казимир положил трубку и еще раз посмотрел на часы. До прихода людей в черных куртках оставалась минута. Все это было за гранью понимания. К. вскочил и кинулся к окну, распахнув его пошире. В лицо ударил обещанный по радио снег. Казимир ухватился за водосточную трубу и перекинул одну ногу наружу. Он нащупал какой-то выступ, он оперся на него и вытянул вторую ногу, поставив ее туда же.

Ему не хотелось ни идти к станции метро "Спортивная", ни оставаться здесь. Все действующие лица этого театра абсурда казались ему как минимум сумасшедшими. Тем не менее, что-то в словах незнакомца цепляло и заставляло сердце биться чаще. Казимир так и не понял, почему столько проблем из-за какой-то бороды, но потихоньку ему начинало казаться, что все-таки это важно. Так или иначе, бриться он не собирался. Во всяком случае, не сейчас.

Спустившись по трубе вниз, К. подбежал к ближайшей дороге, на которой стояло такси. Он собирался уехать подальше от этого цирка, который как-нибудь обойдется без его участия. Запрыгнув в машину, Казимир сразу же протянул водителю все деньги, что были в кармане, и сказал:

– Вези меня куда-нибудь подальше отсюда.

Водитель оттолкнул руку с деньгами и ответил:

– За счет заведения.

Он повернулся и улыбнулся. На лице у него была густая борода.

# САМ САБЕ ШАТЛЯНДЫЯ

Будь сама себе Египет.<br>
*Ры Ніканава*

Упершыню я пабачыў яго ў фае на трэцім паверсе Дома літаратара, ля дзьвярэй 301-га пакою, у якім месьцілася тады рэдакцыя часопісу "Першацьвет". Быў канец 1996-га году – ці то позьняя восень, ці то раньняя зіма – памятаю, усе хадзілі ўжо ў цёплых куртках і шапках. Ён сядзеў за сталом, трымаў у руках складзены напалам аркуш паперы і прыязна ўсьміхаўся.

– Гэта вы Віктар Жыбуль? – спытаў ён.

– Так, я.

– Хвастоўскі, – коратка адрэкамэндаваўся ён, і мы паціснулі рукі.

Прозьвішча гэтае мне было знаёмае. Як і імя – звалі яго Дзянісам. Калісьці ўжо чытаў ягоныя вершы на старонках "Першацьвету". З размовы даведаўся, што ён вучыцца на чацьвертым курсе гістфаку, але на выгляд здаваўся яшчэ маладзейшым: было ў ягоным позірку штосьці такое сарамлівае і наіўна-непасрэднае. І разам з тым – загадкава-хітраватае.

Загадку ягонай усьмешкі давялося разгадаць ужо дома, калі я разгарнуў аркуш паперы, які ён уручыў мне там, у рэдакцыі. Уверсе былі пазначаныя прозьвішча аўтара і назва: "Дз. Хвастоўскі. Мярцьвяк", а далей – напісаны ад рукі, але роўнымі, амаль друкаванымі і нейкімі зухавата-бойкімі літарамі верш. Доўгі – на абодва бакі аркуша. І – нейкі да болю знаёмы. Ну вядома ж, гэта Пушкін! Ягоны "Утопленник"! Толькі пабеларуску і… зь нейкімі яўна ня пушкінскімі дэталямі. Для пэўнасьці я ўзяў з паліцы томік расейскага клясыка. Чытаю:

*Безобразно труп ужасный*<br>
*Посинел и весь распух.*<br>
*Горемыка ли несчастный*<br>
*Погубил свой грешный дух,*<br>
*Рыболов ли взят волнами,*<br>
*Али хмельный молодец,*<br>
*Аль ограбленный ворами*<br>
*Недогадливый купец?*

А вось што было на гэтым месцы ў Хвастоўскага:

*На трупніну сьвеціць сонца,*<br>
*Дужа сіняя яна.*<br>
*Ці то хлопца-бізнэсоўца*<br>
*Прыняла рака зп'яна;*<br>
*Ці то бедны заканчэнец,*<br>
*Ці рыбар, узяты дзе;*<br>
*Можа, нейкі адраджэнец*<br>
*Плыў у сьвіслацкай вадзе…*

І ўсё адно, ставіць маладому паэту над гэтым вершам уласнае прозьвішча – гэта ўжо неяк ну зусім сьмела. Не выпадала і абвінавачваць у плягіяце: верш занадта вядомы. Кажуць, шыла ў мяшку не схаваеш, а тут – мяшок быццам наўмысна быў абраны такі дзіравы, што шыла зь яго ня проста тырчэла, але вывальвалася долу.

– Ну і што мне цяпер з гэтым рабіць? Гэта Хвастоўскі ці ўсё ж такі Пушкін? – запытаўся я ў Віталя Пятроўскага, свайго калегі па "Першацьвеце".

Віталь уважліва прагледзеў тэкст, заўсьміхаўся і параіў:

– А ты напішы: "Вольны пераклад з расейскае". Хто ведае – той пазнае.

Я так і зрабіў. Калі ў наступны панядзелак Хвастоўскі прыйшоў на літаб’яднаньне, я выклаў яму ўсё як ёсьць:

– Раскалолі мы цябе. Ты не аўтар, ты перакладчык… вольны!..

Гэта чамусьці вельмі расьсьмяшыла Хвастоўскага. Ён адразу ж пагадзіўся, што друкаваць гэта трэба зь нейкай адпаведанай рэмаркай і… працягнуў мне іншы аркуш паперы – такі самы, з тым самым “вясёлым” почыркам, толькі замест аднаго вялікага верша былі тры меншыя. Асабліва ўразіў мяне першы, над якім у якасьці прысьвячэньня стаялі таямнічыя і, пэўна ж, дзявочыя ініцыялы:

* * *

Т. В.

*А ля тваіх каленаў мне,*
*Табе адданаму шатляндцу, –*
*Палегчы, быццам на вайне,*
*І ад зямлі не падымацца.*
*Але ў тваіх блакітных мне,*
*Табе адданаму тупіцу, –*
*Ажыць, паўстаць, паразумнець,*
*Зірнуць у іх – ды утапіцца.*
*А пра твае, накшталт ільну,*
*Прамовіць нешта – я ня ў праве,*
*Бо для мяне твой час мінуў,*
*Бо ты – у сьне, а не на яве.*
*І там, у сьне, цяпер усё,*
*Што можа сэрцу даць сагрэцца.*
*Але шкада яго. Казёл,*
*Табе аддаў такое сэрца!*

Натуральна, у мяне ўзьнікла пытаньне: а чаму менавіта шатляндцу? Чаму ня немцу, гішпанцу ці японцу? Я пацiснуў плячыма – маўляў, шатляндцу дык шатляндцу. Напэўна, дзеля рыфмы, хоць і не найлепшай. Аднак, атрымаўшы ад Дзяніса праз тыдзень яшчэ аркуш зь вершамі, а потым яшчэ, я зразумеў, што справа тут зусім ня ў рыфме, а ўсё нашмат складаней. Шатляндцы, ірляндцы, кельты, гэлы трапляліся ў яго вершах у вялікай колькасьці. Адзін зь іх нават меў імя – Тэд Макена – і вызначаўся рознымі неверагоднымі подзьвігамі. Сям-там сустракаліся і ўплеценыя ў беларускі тэкст ангельскія і – што мяне асабліва зьдзівіла – гэльскія словы. “Нічога сабе!” – думаў я, на той момант перакананы, што Дзяніс валодае гэтымі мовамі як роднымі. Усе гэтыя “*Is iad a tha ag coiseachd*”, “*slean agat*” – фразы, аб якія сярэднестатыстычны беларус зламаў бы язык, – упэўнена гучалі зь ягоных вуснаў і тады, калі ён гучна чытаў свае вершы на пасяджэньнях першацьветаўскага літаб’яднаньня. Дзяніса жартам пачалі называць шатляндцам, і было відаць, што яму гэта падабаецца. Памятаю, як паэт Сяргей Вераціла аднойчы, пасьміхаючыся, сказаў: “У нас тут літаб’яднаньне інтэрнацыянальнае: і індзейцы свае ёсьць, і малдаване, а вось цяпер яшчэ і шатляндцы”. (Пад малдаванінам тут меўся на ўвазе Мікола Адам, а пад індзейцам – яшчэ адзін паэт-філфакавец, які казаў пра сваё індзейскае паходжаньне і выступаў пад псэўданімам Джэймс Дуглас Блэквотэр.) Некаторыя былі ўпэўненыя, што Шатляндыя ў Хвастоўскага – гэта, без сумневу, алегорыя Беларусі, а некаторыя – асабліва з тых, хто пісаў “пад Купалу і Сыса” – успрымалі яго паэзію проста як нейкія легкаважныя “мадэрнісцкія прыколы”. Ня ведалі тады ні тыя, ні другія, ня ведаў разам зь імі і я, што сам Дзяніс запісаў сябе ў шатляндцы ўжо даўно, а згаданы Тэд Макена быў ня толькі героем ягоных вершаў, але і ягоным псэўданімам, і – у нейкай ступені – ягоным alter ego.

Неўзабаве мы зь Дзянісам пасябравалі, і шмат чаго пра сябе ён распавёў мне сам.

– Я лічыў, што кожны чалавек мае права выбіраць сабе нацыянальнасьць, – казаў ён мне, калі аднойчы мы разам шпацыравалі па праспэкце Скарыны. – І я захацеў быць шатляндцам. Калі надышоў час атрымаць пашпарт – ну, ведаеш, пашпарты былі тады яшчэ “савецкія” – я папрасіў, каб у графе “нацыянальнасьць” мне запісалі “шатляндзец”. Пашпартыстка зрабіла во такія вочы, – Дзяніс паказаў, якія, – і сказала: “Мне трэба паразмаўляць з вашымі бацькамі”. І ў выніку я пашпарт атрымаў не ў шаснаццаць, а ў сямнаццаць гадоў. Але калі я паступаў ва ўнівэрсытэт, там трэба было таксама ведамасьць запаўняць, ну я і запоўніў: “нацыянальнасьць – шатляндзец”, “пол – сярэдні”, яшчэ нешта там… І нічога, паступіў, – сказаў Дзяніс і вясёла засьмяяўся, нібыта дзівячыся зь сябе самога.

Пару разоў мне даводзілася чуць ад яго цэлыя лекцыі пра шатляндзкі фальклёр, які, аказваецца, і сапраўды дзесьці там, на архетыпова-глыбінным узроўні, мае пэўнае падабенства зь беларускім – свае расповеды Дзяніс аздабляў мноствам прыкладаў, заадно і рэклямуючы ўласную багатую калекцыю кельцкай музыкі. Тады я зразумеў, адкуль у ягоных вершах усе гэтыя гэлы, друіды і нават подпіс “Эдынбург, 1993 г.” пад адным зь вершаў. Гэта ня проста нейкая творчая поза альбо такі своеасаблівы варыянт канцэптуалізму. Дзяніс насіў унутры сябе кавалачак Шатляндыі. Мне і дагэтуль памятаецца тэлесюжэт з удзелам расейскага гурта “Бахыт-компот” (між іншым, шанаванага Дзянісам), музыкі якога назвалі сябе духоўнымі казахамі (“ёсьць казахі этнічныя, а мы – духоўныя”). Дык вось, Дзяніс Хвастоўскі быў, так бы мовіць, духоўным шатляндцам. Ён нават прыдумаў сабе сямейную легенду, паводле якой шатляндцы Гордан і Джанэт Макена ў 1901 г. прыехалі ў Менск, а іхныя дзеці зьмяшаліся зь беларусамі. І падобна, што некаторыя ў гэтую легенду нават паверылі. Як і ў тое, што Дзяніс валодае шатляндзкай і гэльскай мовамі.

І нягледзячы на ўсю гэтую ягоную прасякнутасьць Шатляндыяй, нельга сказаць, што Дзяніс быў “зацыклены” выключна на ёй. Вершы ён пісаў самыя розныя – збольшага вясёлыя і гарэзьлівыя, як і яго почырк. У іх згадвалася шмат рэчаў, да болю знаёмых сучаснай моладзі: Біг-Макі, лялька Барбі, цыгарэты “Marlboro”, матацыклы… Але ў якім незвычайным кантэксьце ўсё гэта ўсплывала! Тут былі і кпінкі ў адрас сучасных спажыўцоў, перакормленых тэлевізійнай рэклямай, і трапнае абгульваньне вядомых міталягічных матываў, і напластаваньне гратэскавых вобразаў, і разам з тым – нейкі непаўторны кранальны лірызм. Некаторыя зь Дзянісавых вершаў пасьпелі стаць “гітамі” яшчэ да таго, як былі дзесьці апублікаваныя. І першае месца ў гэтым гіт-парадзе займаў кароткі, але абсалютна забойны верш пра пацалунак з пыласосам:

*Проста ў хобат, узасос,*
*Ты цалуеш пыласос.*
*Толькі ў гэтай барацьбе*
*Перасмокча ён цябе –*
*Выме чорную душу,*
*Як матор не заглушу.*
*Я – стары рагаты лось.*
*Ты мяне прапыласось!*

Дзяніс быў здольны ўражваць сьмеласьцю фантазій і арыгінальнасьцю вобразаў і, акрамя таго, мог патлумачыць, што які вобраз азначае – калі браць пад увагу іх міталягічнае паходжаньне.

– Вось у гэтым вершы, – казаў ён, – меч – гэта ня проста меч, а фалічны сымбаль. А печка, наадварот, увасабляе жаночы пачатак. А вось тут – “Аніхто пілу ня ўключыць і ня суне ў строй калючы…” – ну і так зразумела, праўда ж?

Кажучы гэта, ён шчыра і па-дзіцячы ўсьміхаўся ва ўвесь рот. Тыя, хто слухаў Дзяніса, таксама пасьмейваліся – яны прасякаліся гэтай тэорыяй, пачэрпнутай часткова з Фройда, а часткова зь Юнга, Фрома і Пропа, і ўжо, напэўна, у думках уяўлялі, як будуць чытаць творы клясыкаў і сучасьнікаў, адлоўліваючы ў іх зашыфраваныя эратычныя і ўвогуле падсьвя-

домыя памкненьні. Каб ня той Дзянісаў уплыў – дык ня ўзяўся б я пісаць курсавую працу “Матывы ініцыяцыі ў паэзіі Джыма Морысана”.

Такая абазнанасьць, з аднаго боку, у міталёгіі, а з другога – у псыхааналізе, давала Дзянісу магчымасьць глядзець на паэтычны твор як на пэўнага кшталту канструкцыю з вобразаў, архетыпаў і іншых міталягічных складнікаў. А канструкцыі, як вядома, – можна раскручваць і разьбіраць. Вось і прыдумаў Дзяніс складаную і, відаць, аднаму яму зразумелую тэорыю, згодна зь якой на кожны верш можна напісаць “антыверш”. Першай ахвярай ягонага экспэрымэнту стаў мой “Альбатрос”, але гэта ўжо, напэўна, асобная гісторыя.

Што да беларускай мовы – дык і тут Дзяніс меў уласныя погляды і зьдзіўляў сваёй эрудыцыяй. Калі, напрыклад, хто-небудзь знаходзіў у ягоным вершы “русізм” ці “палянізм”, Дзяніс у адказ пералічваў цэлы шэраг “бясспрэчна беларускіх” крыніц, дзе сустракаецца гэтае слова. Але калі ўсё ж такі яго пераконвалі замяніць слова, ён не настойваў і выпраўляў. Яшчэ са школьных часоў пісаў ён выключна на тарашкевіцы – нават ведаючы, што ў афіцыйным выданьні яму ўсё адно ўсё павыпраўляюць на наркамаўку.

Зрэшты, ягоныя публікацыі на той момант можна было пералічыць на пальцах аднай рукі – калі, вядома ж, ня браць пад увагу нумароў самаробнай газэты “Пан-Панк”, рэдактарам і, напэўна, адзіным аўтарам якой быў Дзяніс. І справа зусім ня ў мове, а ў зьмесьце Дзянісавых вершаў, у які пісьменьнікі старэйшага пакаленьня (яны ж – і рэдактары выданьняў) не заўсёды “ўязджалі”. Ну напраўду, ну што гэта за вычварэнства: тут – мерцьвякі, там – соплі, там – паяданьне пенапляставай кашы, а там – нейкая дзіўная і незразумелая любоў да Шатляндыі. Карацей, суцэльны нефармат. Але асноўныя ствавальнікі беларускага літаратуранага нефармату былі на той момант ужо два гады як згуртаваныя разам, і я ўжо адчуваў, што неўзабаве шэрагі ўдзельнікаў творчага руху “Бум-Бам-Літ” (так-так, я пра яго!) папоўняцца яшчэ адным сябрам.

Неафіцыйная штаб-кватэра “Бум-Бам-Літу” месьцілася на той час у рэдакцыі газэты “Культура” на вуліцы Чычэрына, дзе працавала амаль палова “зрухароў” ББЛ. Менавіта туды я і скіраваўся з сабраным мною за ўвесь гэты час стосікам “нефармальнай” паэзіі Дзяніса. Бумбамлітаўцы гарталі аркушы, учытваліся ў акуратныя ўборыстыя радкі, напісаныя “вясёлым” почыркам у дзьве калёнкі.

– Выдатныя вершы, – захоплена казаў Зьміцер Вішнёў. – Усё, прымаем гэтага хлопца ў “Бум-Бам-Літ”! Калі будзем выдаваць вялікі зборнік, абавязкова ўключым яго вершы!

Мы тады былі поўныя творчых плянаў і задум, але, на жаль, увасабляць іх у жыцьцё атрымлівалася далёка не заўсёды. Зборнік “Тазік беларускі” ўжо ляжаў у друкарні, але ў задуме быў яшчэ адзін – тоўсты, у які ўвайшлі б творы ЎСІХ бумбамлітаўцаў, а ня толькі “слупоў руху”. Назваць яго меркавалася “Зубы”. На жаль, зборнік так і ня выйшаў. Мала таго, ён нават ня быў складзены, а так і застаўся дзесьці лунаць у нябачных матэрыях нашыхмараў. Затое нашыя прапановы калектыўных падборак розным пэрыядычным выданьням па-ранейшаму спрацоўвалі. Гэтак і замест зборніка “Зубы” выйшла толькі адна “Стаматалагічная старонка” ў газэце “Переходный возраст”. Верш Дзяніса Хвастоўскага “Чысьціце зубы пасьля ежы” прышоўся да яе вельмі дарэчы, толькі вось фатаздымка аўтара пад рукою не знайшлося. Тады я ўзяў – і намаляваў Дзяніса. Гэты ці то патрэт, ці то шарж і пайшоў у газэту.

Пазней Дзяніс браў удзел у бумбамлітаўскіх падборках у “Крыніцы” і “Першацьвеце” – памятаю, як ён улетку прыйшоў да мяне ў рэдакцыю, сеў за друкарку і настукаў двума пальцамі свае вершы. Але зараз мне хацелася б прыгадаць трохі іншы бок нашай творчай дзейнасьці – сцэнічныя выступы. На іх кожны з нас вынаходзіў свой адмысловы спосаб данесьці творы да гледача-слухача. Мы апраналіся ў розныя дзіўныя строі, выходзілі на сцэну зь мяцёлкамі, турыстычнымі кацялкамі, выкладзенымі з батонаў і гароднiны, манекенамі і іншым рэквізытам, ладзілі пэрформансы. А галоўнае, тады (у 1995 – 1997 гг.) нашым нязьменным сцэнічным атрыбутам і талісманам быў пакамечаны алюмініевы тазік.

Калі Дзяніс далучыўся да “Бум-Бам-Літу”, найбліжэйшы выступ быў заплянаваны, як сьведчыць летапіс, на 28 чэрвеня 1997 г. і мусіў адбыцца ў “Школе маладога журналіста” на

Макаёнка, 12. Напярэдадні гэтай падзеі мы патэлефанавалі Дзянісу, запрасілі яго выступіць з намі і далі сякія-такія парады наконт сцэнічнага аздабленьня выступу – маўляў, твой верш пра пыласос выдатна гучаў бы ў суправаджэньні сапраўднага пыласосу, так што калі атрымаецца – прыцягні, будзе вельмі добра...

Не, я ніколі не забуду гэтага выступу!.. Даехаў раніцай да станцыі "Маскоўская", пачакаў Дзяніса, і мы разам пакрочылі да патрэбнага будынка па вуліцы Макаёнка. І мы прыйшлі туды першымі. Нас сустрэла нейкая жанчына, сказала, каб пачакалі, пакуль у іх там у "Школе маладога журналіста" ідзе лекцыя. Наступным зьявіўся Сяргей Патаранскі (так-так, і ён тады быў удзельнікам ББЛ!). Ён павітаўся з намі ды спытаў у Хвастоўскага, якога раней, вядома ж, бачыў на першацьветаўскім літаб'яднаньні, але цяпер не пазнаў:

– А вы з газэты "Пераходны ўзрост"?

– Так, – адказаў той.

– А як вас завуць?

– Аляксандар, – сказаў Хвастоўскі, ледзьве ня душачыся ад сьмеху.

– А мяне – Сяргей... Дык ты тут што прадстаўляеш?

– Ён таксама "Бум-Бам-Літ" прадстаўляе, – патлумачыў я.

– І ты з "Бум-Бам-Літу"? – зьдзівіўся Сяргей, разглядаючы Дзяніса. – А я й ня ведаў...

Усе мы засьмяяліся. Тут да нас нечакана падбегла вахцёрка ды пачала нас лаяць, асабліва Патаранскага, за тое, што без дазволу зайшлі ў гэтак званы "Летні сад" – пляцовачку сярод клумбаў з расьлінамі.

– Нас запрасілі, – тлумачыў Патаранскі.

– Мяне не хвалюе, – казала жанчына.

– Дык мы ж не хуліганы, – апраўдваўся Хвастоўскі.

– А хто вас ведае...

Давялося выйсьці й пачакаць іншых выступоўцаў – Зьміцера Вішнёва і Ганку Шханаву (яна ж Ганна Ціханава). Не пасьпеўшы пазнаёміцца зь Дзянісам, Зьміцер адразу ж спытаў, чаму той ня ўзяў пыласос. Потым пачакалі яшчэ трошкі – пакуль адрамантавалі электрычнасьць у актавай залі. Спрачаліся, хто пойдзе першым выступаць, і выбар спыніўся на Хвастоўскім. Калі надышоў адказны момант, Зьміцер прадставіў Дзяніса публіцы. Той пачаў чытаць верш на памяць, але потым забыўся, аб'явіў "невялічкую творчую паўзу", пакорпаўся ў блякноце, і далей чытаў адтуль.

Наступным выйшаў Патаранскі, як заўсёды, велічны й самазахоплены. Патэатральнаму зьняўшы пінжак і павесіўшы яго на сьпінку крэсла, пачаў чытаць свае "Старые песни о новом", потым яшчэ тое-сёе "для роздуму". Публіцы ён спадабаўся, яго сустрэлі гучнымі воплескамі.

Потым выступала Ганна, потым я, і пад канец – Зьміцер. Але гэта быў яшчэ не канец. Ад маладых журналістаў пасыпаліся пытаньні. Чаму ў вас так шмат чорнага гумару?.. А вы пішаце толькі на беларускай мове? А чаму?.. Як прыходзяць да вас вершы?.. А чым вы займаецеся, акрамя творчасьці?.. Ці лёгка цяпер жывецца мастаку?.. І гэтак далей. Адказваў пераважна Патаранскі. Сьмела адказваў, рашуча, пераканана і надзвычай сур'ёзна. Ніхто так і не зразумеў, ці была гэтая сур'ёзнасьць сапраўдная, ці гэта чарговая роля артыста. Прытым Сяргей адкрыта прызнаўся, што напісаньне вершаў каштуе яму "парваных нэрваў і псыхічных зрываў". Гэта так расьсьмяшыла Хвастоўскага, што той пачаў ажно качацца па стале, захлынаючыся ад сьмеху. І паводзіў сябе так амаль да самага сканчэньня імпрэзы.

– Дзяніс, – кажу я яму, – на цябе ж людзі глядзяць!

– Гэта... у мяне... пэрформанс!.. – ледзь здолеў вымавіць ён і працягваў рагатаць далей. Зьміцер паспрабаваў апраўдацца:

– Дзяніс з намі толькі першы раз. Я, напрыклад, яго ўпершыню бачу.

На што Дзяніс заўважыў:

– Я яго таксама ўпершыню бачу! – і зноў грымнуўся ілбом аб стол, заходзячыся ў нястрымным рогаце.

Выйшаўшы з будынка, мы вырашылі пафатаграфавацца – з алюмініевым тазікам і белым парасонам. Але Дзяніса з намі ўжо не было: ён неяк незаўважна сышоў. Шкадую,

што ніводнага здымка разам зь ім у нас няма. Напэўна, ён проста ня надта любіў фатаграфавацца.

Зафіксаваліся ў летапісах (то бок, у маіх дзёньніках) і іншыя выступы з удзелам Дзяніса.

...29 кастрычніка 1997 г. у Доме літаратара адбылася вялікая вечарына, прысьвечаная 5-годзьдзю "Першацьвету". Сабралася шмат і гледачоў, і выступоўцаў. Вялі імпрэзу студэнтка філфаку Людміла Верас і студэнт журфаку, вядомы сёньня паэт-лягафарміст Арцём Кавалеўскі. У памяці маёй захавалася некалькі найбольш запамінальных момантаў той імпрэзы. Асабліва – тое, як Юрась Барысевіч, Зьміцер Вішнёў і Ільля Сін утраіх выйшлі на сцэну і Юрась са словамі "Мы дорым вам гэты кавалачак сьвятла" дастаў ліхтарык, нацягнуў на яго прэзэрватыў і ўрачыста ўручыў яго галоўнаму рэдактару. Алесь Герасімавіч потым доўга злаваў з гэтай нагоды і пры выпадку прыгадваў мне: "Вось, паглядзі, што мне твае бумбамлітаўцы падарылі!" А вось выступ Дзяніса Хвастоўскага ўразіў усіх па-добраму – і авангардыстаў, і традыцыяналістаў. Пачаў тады Дзяніс са знакамітага верша пра пыласос. Вядома ж, на паперы цяжка перадаць усе нюансы ягонай інтанацыі. Але, у прыватнасьці, пяты радок ён чытаў прыблізна вось так:

– ВыыыЫЫЫЫЫЫЫЫЫЫыыыме чоорную душуууу...

За тыя сэкундаў дзесяць, пакуль ён цягнуў сваё ыыы, публіка пасьпела ўвайсьці ледзьве ня ў транс. Я тады зразумеў, што ніякага пыласосу яму з сабою выносіць на сцэну ня трэба.

Аплядысмэнты былі гучныя й працяглыя.

– А зараз... – Дзяніс абвёў залю загадкавым позіркам, нібыта пераканаўшыся, што аўдыторыя цяпер цалкам у ягонай уладзе. – Зараз я прачытаю верш, які мне самому вельмі падабаецца, – з зухаватай усьмешкай ён перачакаў яшчэ адну паўзу, – Верш называецца "Казка":

*Яго Вялікасьць падышла*
*Да сьпячае прынцэсы,*
*Але пад накрыўкай са шкла*
*Прайшлі свае працэсы.*
*І край плястмасавай труны*
*Паторкнуты "бычкамі",*
*Нібыта білі перуны*
*Адчайнымі тычкамі...*

Гэты верш прыйшоўся даспадобы ня толькі аўтару, але і публіцы. І іншыя, прачытаныя пасьля, – таксама мала каго пакінулі абыякавымі. Памятаю, як пасьля вечарыны Серж Мінскевіч, якому раней не даводзілася бачыць выступленьні Хвастоўскага, падышоў да Дзяніса і, захоплена прамовіўшы "Ну, ты быў проста зоркай!", пацісьнуў яму руку.

...22 студзеня 1998 г. Мы зь Дзянісам Хвастоўскім і Вальжынай Морт каля кінатэатру "Бярэсьце" чакалі Алеся Сьпіцына, каб разам скіравацца на выступ у 213-ю сярэднюю школу. Сьпіцын доўга не зьяўляўся, і мы пачалі перакідвацца рознымі кпінкамі на гэты конт. Я сказануў тады штосьці кшталту "Прыедзе Алесь, але ня ўвесь", і ўсе зарагаталі. Калі доўгачаканы Алесь нарэшце зьявіўся, мы селі ў нейкі тралейбус з заледзянелымі шыбамі, праехалі некалькі прыпынкаў, выйшлі, а апынулася, што ня там. Мне, хлопцу з Трактаразаводзкага пасёлку, тады здавалася, што Паўднёвы Захад і Малінаўка – гэта нейкі адзін агульны сьвет, і калі Дзяніс, Вальжына і Алесь жывуць на Паўднёвым Захадзе, то павінны добра ведаць і суседнюю Малінаўку. Але куды там! Для іх Малінаўка таксама аказалася чымсьці кшталту іншага і яшчэ не дасьледаванага гораду, у якім цяжка элемэнтарна зарыентавацца, ня кажучы ўжо пра тое, каб знайсьці нейкую школу.

Шпарчэй за ўсіх нас ішоў Дзяніс. Спачатку ён абганяў нас на нейкія 5-6 крокаў, потым адлегласьць паміж намі павялічылася, а потым... наш сябар і ўвогуле пабег трушком. Мы йшлі й зьдзіўлена пазіралі яму ўсьлед.

– Напэўна, ён вырашыў зматацца, – сказаў Алесь. Вальжына ціха пасьмейвалася.

Але мы бачылі, што Дзяніс час ад часу спыняўся, распытваў мінакоў, якія жэстамі тлумачылі яму дарогу, паварочваўся і здалёк вясёла махаў нам рукою: маўляў, сюды!

Мы крочылі за ім, хоць і з пэўнай доляю сумневу: "А ці туды ён нас завядзе, гэты Іван Сусанін?" Але Дзяніс дзейнічаў, як вопытны выведнік – і праз нейкі час мы апынуліся ўжо ў вэстыбюлі школы. Нас сустрэлі, павялі ў кабінэт распрануцца. Настаўніца Любоў Дзьмітрыеўна Бабко, якая запрасіла нас, узяла паперку з асадкай і спытала імя й прозьвішча кожнага з нас.

– Дзяніс Крывасмок, – прадставіўся Хвастоўскі й хітравата, па-змоўніцку падміргнуў мне. Ня ведаю, ці правільна я зразумеў тады гэты намёк, але вымавіў першае, што прыйшло ў галаву:

– Віктар Ваўкалак.

– Вальжына Морт.

– Як? Морд? Дэ на канцы?

– Тэ. Морт.

– Ну і...

– Алесь Сьпіцын.

"Хоць адзін нармальны чалавек", – падумала, напэўна, настаўніца.

Актавая заля была вялікая й цемнаватая, завешаная фіранкамі – асьветленай заставалася толькі сцэна, на якой за сталом уладкаваліся мы, выступоўцы.

– Шаноўныя вучні, – голас настаўніцы гучаў узьнёсла і ўрачыста, – сёньня ў нас у гасьцях маладыя паэты, – яна зірнула ў паперку, – Дзяніс Крывасмок, Віктар Ваўкалак, Вальжына Морт і... Алесь Сьпіцын.

Калі б настаўніца здагадалася патлумачыць, што "Морт" па-француску значыць "Мёртвая", вучні, напэўна, вырашылі б, што патрапілі на нейкую нэкрафілічную оргію. Але хапіла і Крывасмока з Ваўкалакам. Мы знарок павыбіралі найбольш жахлівыя вершы (у Дзяніса яны ўсё адно гучалі вясёла). Вальжына ў сваёй тагачаснай творчасьці элегантна спалучала лірызм інтанацыі з антыэстэтычнымі дэталькамі кшталту: "У маіх валасах зьвілі сабе гнёзды мухі, якія пераносяць заразу. Я адчуваю кожны іх крок, кожны іх уздых у стане экстазу". Маленькі паэтычны пэрформанс зладзіў і Алесь Сьпіцын. Спачатку ён абвясьціў:

– Я прачытаю вам верш бяз назвы, – а памаўчаўшы крыху, дадаў:

– Верш ня толькі бяз назвы, але й бяз словаў.

– Наступны мой верш складаецца з аднаго слова... *БІТУНІКАТНЫЯ!*

Па зале прайшла хваля зьдзіўлення, нехта хіхікаў, а паэт працягваў:

– А зараз я прачытаю верш і з назвай, і са словамі, але бяз рыфмы, – і зачытаў адзін са сваіх вэрлібраў.

Цікава, што публіка сьмяялася нават пасьля апошняга абвяшчэньня: многія дасюль шчыра лічаць, што вершаваныя радкі абавязкова павінны рыфмавацца.

...Пазьней, увосень таго самага году я выступаў каля помніку Янкі Купалы з чытаньнем вершаў – пад сваім сапраўдным прозьвішчам. Да мяне падышла ўжо знаёмая мне настаўніца (так, тая самая Любоў Дзьмітрыеўна!) і сказала, што было б няблага, калі б я выступіў у 213-й школе. Я адказаў, што ўжо неяк выступаў, але настаўніца зьдзівілася – не прыгадала. Мабыць, запомніла мяне як Ваўкалака...

...А быў і такі выступ. Заводзкая рада "Маладога фронту" арганізавала паэтычную імпрэзу ў адной з заляў кінатэатру "Дружба". Разам са мною туды сабраліся паехаць філфакаўскія паэты Мікола Адам, Янка Лайкоў і Павел Гаспадыніч. Дзеля разнастайнасьці я вырашыў запрасіць і Дзяніса. Сустракаліся мы на першым паверсе філфаку (пакуль чакалі іншых, Дзяніс доўга разглядаў кнігі ў шапіку), адтуль паехалі спачатку на мэтро, потым на тралейбусе. Ужо недзе блізка каля Чыжоўкі ўвайшоў кантралёр, а квіткоў ні ў кога з нас не было. Падышоўшы блізка, кантралёр спытаў у нас зь Янкам Лайковым:

– Школьнікі?

– Так, так, школьнікі, – züківалі мы галовамі (хоць усе мы былі студэнты).

– Школьнікі, – усьміхнуўся Мікола Адам, захінаючы рукамі вусы й бараду.

– Школьнікі! – Дзяніс Хвастоўскі дзеля чагосьці ўнурыў галаву ў плечы й насунуў шапку ледзьве не на самы нос.

Пашанцавала, што кантралёр прыняў нас за маладзейшых, чым мы ёсьць, і не штрафануў.

...Увайшоўшы ў будынак кінатэатру, мы сустрэлі арганізатараў. Яны сказалі, што хутка павінны прыйсьці настаўнікі з вучнямі ажно зь некалькіх школаў, і трэба, маўляў, іх пачакаць.

Мы пазаймалі ў залі месцы й праседзелі ў чаканьні даволі працяглы час, як раптам высьветлілася, што ні вучні, ні настаўнікі завітаць на імпрэзу ня могуць, і давядзецца выступаць толькі перад арганізатарамі й іх сябрамі-маладафронтаўцамі. Іх назьбіралася чалавек дваццаць ці, мо, усё-такі крыху меней. Быў там і тагачасны старшыня “Маладога фронту” Павал Севярынец.

Ня памятаю ўжо дакладна, хто з нас што там чытаў, а вось Дзянісаў выступ забыць не магу. Дэклямаваў ён, вядома ж, свае выпрабаваныя часам гіты – і пра пыласос, і пра чыстку зубоў пасьля ежы, і пра ляльку Барбі, і пра паяданьне мёду... Публіка рэагавала добра, пляскала ў ладкі, але Дзянісу відавочна чагосьці не хапала. З хітраватым выглядам ён пачаў гартаць старонкі свайго блякноту.

– Ага, вось, знайшоў, – сказаў Дзяніс і чамусьці гучна засьмяяўся. – Зараз яшчэ адзін верш прачытаю.

Заінтрыгаваная публіка зь пільнасьцю ўтаропілася на паэта. Ён таксама ўважліва паглядзеў спачатку на залю, потым у блякнот, і зноў у яго вырваўся сьмех. Гледачы-слухачы ня вытрымалі й таксама пачалі сьмяяцца. Дзяніса гэта яшчэ больш раззадорыла, ён парагатаў яшчэ некалькі хвілінаў, пакуль ня выціснуў зь сябе першыя радкі верша:

*Сваімі грудзямі*
*Вы звабілі многіх...*

Далей чытаць ён ня мог, бо вусны яго расплыліся ў шырокай усьмешцы, і ўрэшце ён ізноў пырснуў ад рогату, а за ім – і ўся заля. Адсьмяяўшыся, ён ізноў зазірнуў у блякнот, потым загарнуў яго, быццам зьбіраючыся чытаць на памяць, потым ізноў засьмяяўся, дастаў з кішэні акуляры і начапіў іх на нос (раней я ў акулярах яго ня бачыў), зірнуў празь іх спачатку на публіку, потым у блякнот, потым ізноў на публіку. Пры гэтым рот ягоны паранейшаму расьцягваўся ледзьве не да вушэй. Некалькі разоў ён ледзьве не пачаў быў дэклямаваць верш, але “сьмяшынка”, якая падступала да горла, шторазу замінала яму. Гэты стан адразу ж перадаваўся і публіцы. Хвастоўскі стаяў і кіснуў ад сьмеху, пакуль сам канчаткова не стаміўся ад гэтага. Толькі тады ён здолеў засяродзіцца і дачытаць свой твор да канца.

Здаецца, гэты верш – пра паненку, да якой заляцаюцца дзікія зьвяры – не нашмат сьмяшнейшы за іншыя ягоныя творы. Але Дзяніс, падобна, меў на гэты конт іншае меркаваньне.

Ня ведаю, ці выступаў Дзяніс пасьля гэтага дзе-небудзь яшчэ – ён тады ўсур’ёз узяўся за напісаньне дыплёмнай працы, і таму на літаратурных тусоўках яго ў той час ніхто ня бачыў.

У адну чэрвеньскую нядзелю 1998 г. у парку імя Горкага ладзіўся буйны рок-канцэрт – да сумнапамятнай трагедыі на Нямізе такое было яшчэ магчыма. Падобныя мерапрыемствы я тады рэдка калі прапускаў – вось і ў той дзень паехаў, з дакладнасьцю ведаючы, што абавязкова напаткаю там каго-небудзь са сваіх сяброў і знаёмых. І сапраўды, сустрэў. І шмат каго. Нават хлопцаў, зь якімі раней вучыўся ў школе і з тых часоў ня бачыўся. Народ, які прыйшоў на рок-фэст, тусаваўся па ўсім парку, час ад часу купляючы што-небудзь зьесьці ці выпіць. Стоячы з Вольгай Драздовай і Зьмітром Вішнёвым ля каменнага берагу

Сьвіслачы, мы раптам пабачылі Дзяніса. Ён набліжаўся да нас у нечаканым для сёньняшняй імпрэзы парадным дзелавым гарнітуры і ўсьміхаўся.

– Прывітаньне, – сказаў ён. – Ну як вам мой прыкід? Гэта я ў ім дыплёмную толькі што абараніў. Хацелася б неяк адзначыць. Можа, пачастуеце півам? А тое я бяз грошай...

– І як, пасьпяхова абараніў?

– На "выдатна".

Мы скінуліся Дзянісу на піва. Вядома ж, і сябе не абдзялілі.

– А пра што твая дыплёмная праца? – спытаў я.

– Пра лазьню.

– Во як... Цікава...

Я тады вырашыў, што паколькі Дзяніс – гісторык, то ягоная праца – пра тое, як у сьвеце зьявіліся лазьні, якія яны былі напачатку, як потым удасканальваліся і г. д. Але высьветлілася, што ўсё нашмат цікавей: Дзянісава дыплёмная – пра магічнае, рытуальнае значэньне лазьні ва ўсходніх славянаў.

...Сярод панкаў і мэталістаў у чорных майках стаяў ён, у шэрым пінжаку, строгіх штанах, піў піва і ўсьміхаўся – ззаду засталося пяць гадоў навучаньня на гістфаку, а наперадзе...

А што наперадзе?

У верасьні я спытаў Дзяніса:

– Ну і чым ты цяпер займаесься?

– У школцы дзеткам выкладаю.

– Гісторыю?

– Так.

– І табе гэта падабаецца? – спытаў я са зьдзіўленьнем.

– Падабаецца, – адказаў ён упэўнена і вясёла.

– А чаго ў асьпірантуру не пайшоў?

– Ды ў якую асьпірантуру – з тройкамі? Я не спрабаваў нават. Думаю, мяне і не ўзялі б.

Неўзабаве, аднак, у Дзянісавым жыцьці пачалася даволі працяглая чорная паласа і ў дадатак – праблемы са здароўем. Ён мог надоўга зьнікаць з поля зроку нават блізкіх сяброў, і ўсе мы вельмі цьмяна ўяўлялі сабе, што зь ім насамрэч адбываецца.

А андэграўнд, між тым, жыў сваім жыцьцём. Утвараліся новыя суполкі, ладзіліся вечарыны, канцэрты, выставы. Акурат тады разгарнула сваю дзейнасьць мастацкая сфэра "Вулей", дзе я таксама прымаў удзел, не пакідаючы пры гэтым, аднак, і "Бум-Бам-Літу". "Вулей" натхняўся творчым вопытам гіпі і бітнікаў, ладзіў свае вечарыны ў закінутых будынках і бункерах, пры сьвечках і са скрынкамі з-пад бутэлек замест глядацкіх крэслаў. Аднойчы я запрасіў Дзяніса на пэрформанс "Каранацыя Князёўны Шэпту", якую "Вулей" зьбіраўся ладзіць на беразе Сьвіслачы, за Палацам спорту. Пэрформанс адбыўся, але Дзяніса я там не сустрэў.

– А ў цябе што, не атрымалася прыйсьці? – спытаў я потым.

– Дык я прыходзіў. Пабачыў здалёк некалькі чалавек на беразе і вырашыў, што ніякага пэрформансу ня будзе. Звычайна калі пэрформанс – дык павінен быць цэлы натоўп!

– Не, у "Вулея" пэрформансы такія... камэрныя, для свайго кола. Значыцца, гэта мы там і стаялі!

– Каб ведаў, што гэта вы – дык падышоў бы. Я якраз ішоў з крамы, піва ў сумцы нёс. Дзень народзінаў адзначыць хацеў.

– У цябе ўчора быў дзень народзінаў?! Дык віншую!

Сапраўды, за больш як два гады нашага знаёмства мы яшчэ ніяк не маглі запомніць, калі хто з нас нарадзіўся.

Праз некалькі дзён пасьля таго непаразуменьня з пэрформансам мы сустрэліся на Кастрычніцкай плошчы, каля "Пупа дарог". Дзяніс дастаў з кішэні касэту і працягнуў мне.

– Я даўно хацеў даць табе паслухаць гэта. Тут мае старыя запісы, яшчэ 1993-га году. Толькі гэта ўсё запісвалася на сапсаваны магнітафон, таму ты, можа, там ня ўсё і разьбярэш. Дзіўныя рэчы я пісаў тады. Напрыклад, у адным вершы ёсьць радок "З бульбаю п'ецца стоградусны квас". Цяпер я так ужо не напісаў бы. Ну, карацей, паслухаеш.

І чаго толькі на ёй на той касэце: і Дзянісава інтэрвію журналістцы Людміле Дрожжы, і ягоныя пройгрышы на гітары, і народныя песьні ў ягоным жа выкананьні, і чытаньне “садысцкіх” чатырохрадкоўяў на трасянцы, і дэклямацыя вершаў пад шатляндзкую музыку й безь яе. Найбольш мне тады падабаліся творы Хвастоўскага, начытаныя на “сапсаваны магнітафон”: яны запісваліся ў паскоранай хуткасьці, і Дзянісаў голас 1993 году, тады яшчэ даволі падлеткавы, гучаў тут увогуле мультыплікацыйна. Зь першага разу я нават мала што разабраў. Але паслухаўшы раз другі-трэці, прызвычаіўся й пачаў ужо сёе-тое разумець. Было там шмат вершаў, якіх я ня ведаў. Некаторыя зь іх мне тады вельмі спадабаліся. Напрыклад, такі:

*У старой беларускай вясковай трупярні*
*Хлопцы зладзілі нешта кшталту пякарні:*
*Абраблялі нажамі кінутых бабак*
*І пяклі зь іх нешта кшталту аладак.*

Ці вольная пераробка Бадлера:

*Магілы сьветлай сьціплы знак*
*між дрэваў падаецца нам.*
*А над таей магілкай – грак*
*сядзіць на зайздрасьць груганам.*
*А ты, пясняр, душа магілы,*
*дзе ж знойдзеш сілы, каб яшчэ*
*любіць куточак гэты мілы,*
*дзе ты ляжыш, нібы кашчэй!*

Здавался, што тыя раньнія вершы пісаліся лёгка, нязмушана, нават на аўтапілёце. Цяпер жа ў Дзяніса быў яўны творчы крызіс. Многія свае рукапісы ён увогуле пазьнішчаў. Як гэта адбылося – я чуў некалькі інтэрпрэтацый: “пакрэсьліў”... “спаліў”... “парваў”... “выкінуў”... Хутчэй за ўсё, відаць, спаліў. Каб атрымалася насуперак сьцьвяржэньню “Рукапісы не гараць”. Ён нават перастаў усьведамляць сябе як творцу.

– Ну які зь мяне паэт? Мне ўжо дваццаць тры гады, – зморана і абыякава аднойчы прамовіў ён.

– Ну дык і што? – кажу я яму. – Хіба ж узрост уплывае на паэзію? Нілу Гілевічу і Рыгору Барадуліну ўжо вунь колькі – і нічога, пішуць.

– Дык тое – Гілевіч і Барадулін, ім можна... А я хто?..

Я адчуваў, што зь ім робіцца нешта кепскае. Гэта быў ужо ня той Дзяніс Хвастоўскі, якога я ведаў дагэтуль. Раней ён быў чалавекам вясёлым і энэргічным, а цяпер яго голас гучаў стомлена і павольна, часам нават так, быццам ён задыхаецца.

– У мяне цяпер творчая імпатэнцыя, – змрочна жартаваў ён.

Мне хацелася неяк дапамагчы Дзянісу, вярнуць яго да творчасьці, прымусіць паверыць ва ўласныя сілы, але натхненьне да яго так і не прыходзіла. Шмат хто сумаваў безь ягоных вершаў. Паэтка Натальля Кучмель на першацьветаўскім літаб’яднаньні аднойчы сказала:

– Каб быць добрым паэтам, зусім не абавязкова быць філёлягам. Вунь Дзяніс Хвастоўскі – ці ня лепшы з нас?

І якім жа было для мяне сьвятам, калі аднойчы Дзяніс паведаміў мне па тэлефоне:

– А я, здаецца, напісаў верш. Толькі трошкі дапрацаваць трэба.

У той момант мне нават не было істотна, што гэта за верш і ці добры ён – мяне ўзрадаваў ужо той факт, што з-пад Дзянісавага пяра выйшла яшчэ хоць нешта.

– А пра што верш? – пытаюся.

– Пра мурашоў і зьмяю.

І што мурашы зрабілі са зьмяёй?

– Ды нічога... Яны яе проста несьлі.

Пазьней, празь некалькі месяцаў маўчаньня, у Дзяніса зьявіўся яшчэ адзін верш – гэтым разам пра дзяўчыну на ровары. Цяпер мне здаецца, што вобраз узяты зь фільмаў рэжысэра Цінта Браса:

*Віхляе крэпкімі ляжкамі*
*дзяўчына на ровары хуткім,*
*матляе грудзямі цяжкімі,*
*выгінаецца станам гнуткім.*
*На плечы ейныя голыя*
*спадае рудое валосьсе;*
*яно, нібы жаркае полымя,*
*у доўгія пасмы зьвілося.*

– І ўсё? – спытаў я.

– Усё, – сказаў Дзяніс, а потым засьмяяўся і дадаў: – Няхай гэта будзе лірычная мініятура!

Пазьней ён усё ж дадаў да вершу такія радкі:

*Тваёй сукенкі*
*не хапае на каленкі.*
*У тваёй адзежы –*
*адныя межы.*

Я распавядаў яму навіны літаратурна-мастацкага жыцьця, пра тое, што цяпер робіць "Бум-Бам-Літ", але ён слухаў з заўважнай абыякавасьцю і стомлена сказаў:

– А я зараз нагамі ў тэлевізар і... і ўсё...

Гэтае "нагамі ў тэлевізар" Дзяніс вымаўляў штораз, калі я пытаўся, чым ён цяпер займаецца. Нават калі я распавёў яму, што мне прыйшла позва з ваенкамату, ён параіў мне:

– А ты сядзь... нагамі ў тэлевізар і сядзі... Доўга-доўга... У цябе забаляць вочы, і цябе вызваляць ад войска.

Праўда, часам ён цягнуўся і да кніжак:

– А ведаеш, што я цяпер чытаю? Кнігу "Виктор Цой. Звезда по имени Солнце".

У той час мы сустракаліся рэдка – болей стэлефаноўваліся. Сам Дзяніс тлумачыў гэта недахопам часу і аднойчы сказаў, што дашле мне свае вершы па пошце. Вядома ж, гаворка ішла пра звычайную "папяровую" пошту – электроннай тады яшчэ мала хто карыстаўся. Мяне зьдзівіла, што Дзяніс адправіў мне свае вершы замоўленым лістом, хоць мог даслаць і простым – усё ж у адным горадзе жывем. Дзяніс папрасіў прабачэньня, што напісаў так мала, бо пасьля шпіталю дрэнна асадку трымае. Гэта было бачна і па почырку: вершы – збольшага старыя, мне вядомыя – былі перапісаныя няўпэўненай дрыготкай рукою. Але праз тоўшчу творчага застою прабіваліся парасткі аптымізму і надзеі: "Ну што ж, на гэтым яшчэ не канец майму паэтычнаму развою – мабыць нешта яшчэ паспрабую напісаць, калі атрымаецца. Будзем спадзявацца, так?"

Я паглядзеў дасланыя Дзянісам вершы. Большасьць зь іх, аднак, мне была ўжо вядомая – гэта з тых, старых, тэкстаў, якія Дзяніс мне даваў яшчэ тады, неўзабаве пасьля нашага знаёмства, а напісаў – яшчэ раней. Я падумаў, што, перажыўшы такі творчы крызіс, азмрочаны яшчэ і зьнішчэньнем рукапісаў, паэт узнавіў менавіта тое, што палічыў цяпер найбольш актуальным. Што не аспрэчыць нават агонь. За што ня сорамна і цяпер. Быў там і верш, які калісьці выклікаў у мяне зьдзіўленьне – "*А ля тваіх каленаў мне, / Табе адданаму шатляндцу...*". Гэтым разам над вершам ніякага прысьвячэньня не было, хоць раней я бачыў яго ажно ў дзьвюх аўтарскіх рэдакцыях: у першай над вершам стаялі тыя таямнічыя ініцыялы Т. В., а ў другой верш меў прысьвячэньне *Беларусі*. Лірычнаму герою ўсё адно, каму аддаваць сваё сэрца (а потым аб гэтым жа шкадаваць), – ці то дзяўчыне,

ці то Беларусі, ці ўвогуле "ўсім і нікому" – галоўнае, што сам ён ува ўсіх магчымых варыянтах нязьменна заставаўся шатляндцам. І як бы лёс сваімі пакручастымі паваротамі ні рэдагаваў рэальнае жыцьцё Дзяніса Хвастоўскага, ён і тут усё ж такі заставаўся рамантыкам. Непапраўным рамантыкам, якому цяжка прыстасавацца да гэтага сьвету. Напісаў выдатную дыплёмную працу, але згубіў яе і мусіў пісаць па-новаму. Складаў вясёлыя вершы, а сам, бывала, пакутаваў ад чорнай і неадчэпнай дэпрэсіі. Марыў стаць настаўнікам, а пратрымаўся ў школе ўсяго два тыдні. Меў вышэйшую адукацыю і неблагія здольнасьці да навукі, а працаваў гандляром запчасткамі.

Шапік з запчасткамі на станцыі тэхабслугоўваньня "АўтаВАЗ"... Менавіта такое было апошняе месца працы Дзяніса. Паколькі дагэтуль з запчасткамі ён справы ніколі ня меў, ён завёў спэцыяльны сшытак, у якім замаляваў месцазнаходжаньне кожнай дэталі на вітрыне і падпісаў, якая зь іх як называецца. Здавалася б, праца зусім ня творчая, але... акрамя намаляваных дэталяў сшытак папаўняўся занатоўкамі новых арыгінальных ідэй (кшталту "філязофскага вайскова-гістарычнага часопісу "Двубой""), а таксама і новымі вершамі кшталту:

*Вокны завешаны.*
*Я завершаны.*

Што б значыла такое двухрадкоўе?.. Зрэшты, сшытак я пабачыў нашмат пазьней, таму і пытаньняў падобных у мяне тады не ўзьнікала. Наадварот, я быў вельмі рады, што мой сябар, паэт Дзяніс Хвастоўскі ізноў адчуў творчы ўздым. Памятаю, які ён быў тады павесялелы, як распавядаў пра музычны праект, што хацеў зладзіць са стрыечным братам – кампазытарам. Сказаў, што наладзіў кантакт з адной баранавіцкай друкарняй, што зьбіраецца выдаваць там кніжку, раіў і мне зьвязацца з той друкарняй. Ён вельмі шкадаваў, што калісьці пазьнішчаў шмат сваіх вершаў. Цяпер у ім зноў абудзіўся паэтычны дух, ён напаўжартам-напаўсур'ёзна і нават зь нейкім гонарам сказаў:

– Я б нават адчыніў фірму па вытворчасьці вершаў! Калі хочаш зарабіць – далучайся!

А потым ён ізноў зьнік. І я быў упэўнены, што ён вернецца, што, відаць, ён, як звычайна, зьехаў на лета ў Жлобін ці ў санаторый. Але і ўвосень на мае тэлефанаваньні ён не адказваў. І ўжо недзе ў сьнежні я аднойчы быў разбуджаны ўранку тэлефонным званком.

– Віктар? Гэта мама Дзяніса Хвастоўскага...

Яшчэ поўнасьцю не прачнуўшыся, я не зусім разумеў, што яна мне кажа, пакуль мне не разанула слых словазлучэньне "...памяці Дзяніса...".

Аказваецца, Дзяніса ўжо некалькі месяцаў не было на сьвеце. Ён сышоў назаўсёды. У сваю вечную Шатляндыю...

## И МЕНЯ НАКОНЕЦ-ТО НЕ СТАЛО

1.

К моменту, когда произошла эта история, я научилась профессионально умирать от скуки. Уже полтора года, как я окончила университет, а у меня до сих пор нет стабильной работы. Живу с мамой, встречаюсь с ужасно надоевшим молодым человеком и ничем, решительно ничем не могу себя увлечь.

Я успела сменить около десяти разных профессий. Была телефонным диспетчером, торговым агентом, офис-менеджером, копирайтером, креативщиком в маленьком рекламном агентстве, официанткой, барменом, даже танцовщицей. Меня никогда не увольняли, я всегда уходила сама, не дождавшись окончания испытательного срока. Уходила потому, что понимала: жизнь всего этого не стоит. Чего же она стоит, я не понимала. Точно знала я лишь одно: занятие чем-то, что не приносит никакого удовлетворения, влекло за собой мое крайне затяжное скверное состояние души.

Казалось, во мне обязательно должен жить какой-то до сих пор прятавшийся талант. Я танцевала с детского сада, но была крайне посредственна, сколько ни старалась эту посредственность в себе уничтожить. Я пыталась писать, но мне мгновенно становилось скучно. Пару раз я сходила на занятия по рисованию для взрослых, но начала дремать прямо там, когда преподаватель заговорила о пропорциях, тенях, свете и прочих технических деталях. Игра на фортепьяно увлекала меня всего полгода, потом же я начала бессовестно прогуливать. Такое нынче модное увлечение как фотография, казалось мне еще более скучным, чем писательство.

Я не была тупой или ненормальной, мне просто все было безумно неинтересно. Казалось, я была способна научиться чему угодно, и до определенного момента учителя меня хвалили. Однако потом, когда остальные ученики двигались вперед, становились лучше и совершенствовались, я оставалась на месте. Поначалу я пыталась идти в ногу со всеми, однако потом смирилась с местом вечной посредственности. И меня это даже не расстраивало.

Возможно, я могла бы найти себя в роли жены и мамы, хозяйки и няньки. У меня не было возможности это проверить, так как мать моего возлюбленного относилась к тому редкому типу радикально настроенных женщин, считавших, что это не дело для жены её сына – не работать. Примечательно, что мой парень был очень на меня похож, однако умело вешал мамашке на уши лапшу про прибыльный и стабильный (совсем заврался) фриланс на ниве интернет-журналистики. На самом деле, деньги ему приносила банальная продажа травы ребятам и девчатам в клубах. Его мать поставила условие, что мы поженимся только тогда, когда я найду работу и продержусь там хотя бы полгода. Представить, когда же оно так будет, у меня никак не получалось.

Не могу сказать, что сама очень хотела замуж именно за этого человека. Когда-то, еще будучи студенткой, я влюбилась в него без памяти. Спустя пять лет отношений, наша страсть так и не переросла во что-то иное, но не менее приятное. Однако мы ужасно друг к другу привыкли. Мысли о том, чтобы с ним расстаться и искать кого-то нового, снова подстраиваться, находить компромиссы, узнавать пожелания в занятиях любовью и просвещать о пожеланиях своих – эти мысли меня не вдохновляли на решительные действия. И вялотекущее нечто между нами никак не прекращалось.

2.

Однажды я встретила на улице свою бывшую одноклассницу Инну, которая, оказалось, переехала в соседний подъезд. Инна предложила вместе бегать по утрам. Стоял теплый июнь, я снова была "в поисках работы", и утро было любимым временем суток моей маман для разговоров о необходимости мне чем-нибудь себя занять. Чем-нибудь что, разумеется, приносит деньги. Именно поэтому я согласилась бегать с Инной. Монологи мамы высасывали из меня слишком много энергии.

В первое же утро Инна явилась в коротких шортиках и маечке, обнажающей ее почти идеально плоский живот. “Может, с кем-нибудь познакомимся“, – подмигнула она мне перед тем, как мы приступили к разминке. Когда мы побежали, и я попыталась полностью сосредоточиться на дыхании, Инна, каким-то непостижимым образом, совмещающая ровное дыхание с болтовней, рассказала мне, что идею бегать по утрам она вычитала в каком-то женском журнале, мол, так намного легче найти себе спортивного и положительного (раз бегает, значит, не курит и мало пьет) мужчину.

Парк, в котором мы, как я по своей наивности думала, занимаемся спортом, тянулся вдоль старого канала, который я хорошо знала еще с детства. Единственный запомнившийся мне мужчина на том канале стоял там и держал в кулаке свой член, глядя словно сквозь меня, пока я быстро проходила мимо. Тогда мне было 14.

Инна была разочарована отсутствием спортивных красавцев с подтянутыми ягодицами и предложила вернуться домой. Меня же, напротив, тишина и уединенность этого места радовали, как ничто за последние пару месяцев. Моя новая соседка ушла домой одна, и я продолжила бег в одиночку.

Спустя полчаса, когда я перешла на быстрый шаг и начала делать упражнения руками, пытаясь синхронизировать дыхание с ними, мое внимание привлек огромный дуб. Мне захотелось подойти к нему поближе, побыть рядом, потрогать кору. Делая круговые движения руками, я приблизилась к дереву. Отчего-то у меня перехватило дыхание, когда я оказалась совсем рядом.

Чувство, к которому я стремилась, сама того не понимая, всю сознательную жизнь, чувство гармонии и удовлетворенности собой, чувство внутренней блаженной тишины нахлынуло внезапной волной и объяло меня с головы до пят. Я физически почувствовала, как от дерева исходят потоки преображающей и очищающей энергии. Я стала обнимать этот дуб, прижиматься к нему щеками, трогать ствол, нежно и в то же время ненасытно, как ласкают тело желанного человека во время страстной прелюдии. В некоторых местах кора была немного сыра от ночного дождя, и это создавало эффект пульсации плоти, делало дуб таким живым, таким *настоящим*! Впервые я сама почувствовала себя живой, впервые мир перестал быть средоточием скуки и безнадеги.

Я зарыдала, громко и свободно, не думая о том, что меня кто-то услышит или увидит. Казалось, что вместе со слезами из меня вышло все, что мешало жить.

3.

Не знаю, сколько времени я провела там, однако домой я приплыла, или даже прилетела, просветлевшая и внутренне чистая. Я была свободна от мучивших меня комплексов, от желаний, навязанных глупым обществом. Я освободилась от терзающих чувств.

Отныне я вынуждена сделать все, чтобы навсегда остаться такой. Я должна постараться, как следует, чтобы мелочная жизнь не поглотила меня снова и не превратила в механизм по совершению нелепых социальных действий, полный нужных строю сомнений, комплексов и желаний.

Я не рассказала никому о том, что со мной произошло. Это была моя тайна, сокровенный подарок свыше. Больше всего я боялась не того, что меня не поймут и окрестят *странной* или даже *больной*, но того, что произошедшее начнут анализировать, наклеивать какие-то ярлыки и, в итоге, *объяснят* – тем самым лишив меня единственного откровения, стоящего всей жизни.

Я продолжала бегать. Каждый день, в одно и то же время – я должна быть с ним, с моим дубом, с моим спасением. Я безумно боялась, что мое переживание уже никогда не повторится, что я приду к дубу – и не почувствую ничего. Поэтому я решила перестраховаться. Если эффект хоть как-то связан с тем, что мое тело было расслабленным и приятно усталым, а разум – не до конца проснувшимся, я обязана учесть и это. Я обязана учесть все. Именно поэтому бег стал необходимой прелюдией к каждой встрече с дубом.

4.

На следующее утро, когда я пила свой зеленый чай, все еще расслабленная и позитивно настроенная, мама сказала, что нашла мне неплохое место. Конечно, никто не гарантирует, что меня возьмут, но на собеседование сходить стоит. Мама ожидала какой-то бурной реакции, какого-то, вероятно, знака внезапного счастья у меня на лице. Я сказала что-то вроде: "Хорошо, схожу, почему бы и нет".

И тут маму прорвало. Она закричала, что я – бездельница, к жизни не приспособленная, ладно уж, если бы мужика нашла приличного, так нет, снюхалась с таким же, и впереди ждет меня сплошная темень и упадок, ведь мать не вечна, мать когда-то умрет, а жрать всем нам что-то в любом случае нужно. "Ты понимаешь, что у тебя есть два пути? Или найди мужика, нормального, работающего, тебя обеспечивающего, или – ИДИ РАБОТАТЬ, содержи себя сама! Ты же деградируешь, ты же идешь в никуда, дочь, образумься!". В финале последней реплики она держит двумя ладонями мое лицо и пытается что-то прочесть в глазах. Что-то, что могло бы ее успокоить, что-то, что дало бы ей надежду.

Я была согласна с мамой. Спорить с тем, что кушать в любом случае что-то нужно, сложно. Однако я была виртуозна в спорах с адептами религии Потребления, которые доказывали, что обладание той или иной вещью может сделать их счастливыми и что хотя бы ради этого стоит ходить на работу и гнаться за приумножением эквивалента всего на этой Земле. Меня ужасно веселили такие разговоры. Люди, верящие в то, что джинсы именно этой марки, ноутбук именно с этим логотипом и часы именно из этого магазина имеют что-то общее с их *сущностью*, эти люди меня сначала смешили, а потом пугали. Пугала их слепая вера в потребление как дорогу к счастью, пугала их способность пропускать мимо ушей все мои аргументы и примеры. Мотивация зарабатывать у меня не появлялась даже после разговоров о путешествиях, о том, как кто-то жрал грибы в Амстердаме или курил сканг в Берлине! Мне даром не нужны все эти развлечения, ведь какое отношение ко мне, бессмертной душе, это все имеет? Развлекайтесь, жалкие людишки, вписывайтесь в эту прямую, как палка, систему и судьбу, подстраивайтесь, ну а я здесь при чем?

Однако есть какой-то минимум, необходимый для жизни, и в настояший момент я его вытягивала, нахально и несправедливо, именно из своей прародительницы. И сама, конечно же, понимала, что вечно так продолжаться не может.

Что касается другого варианта жизни, "удачного замужества" – это тоже не про меня. И дело не в том, что у меня не те *внешние данные*. Девушка может быть сколь угодно красивой, но если она одета в мешковатую одежду, если она не пользуется косметикой и никогда в жизни не надевает туфли на шпильках – не заметит *перспективный жених* такую девушку. Я была слишком ленива и, наверное, слишком любила себя, чтобы гнаться за не мной придуманными нормами. Тем более, сама мысль о целенаправленном поиске *удачного мужа* выдвигает деньги на первое место, мгновенно превращая меня, *че-ло-ве-ка*, мыслящего, заслуживающего к себе внимания и, в общем и целом, интересного, в *товар*. Что в товаре важнее всего? Правильно, оболочка и цена. Качественные и количественные характеристики.

Мне не нравится быть товаром. Я не думаю, что факт того, что вместо члена и яичек у меня есть клитор и матка, должен изначально заковывать меня в цепи "ты – это твоя внешность".

Скучно это все, безумно скучно!

5.

Эти мысли копошились у меня в голове, когда я приближалась к своему заветному дереву. Конечно, мама не сказала мне ничего нового, однако я вдруг очень резко и явственно поняла безнадежность своего положения. Мне действительно некуда сбежать. Я действительно должна выбрать что-то. А именно выбора, по сути, у меня никогда и не было. Никто же не спрашивал, родиться девочкой или мальчиком я хочу? В той или в этой

стране? Во времена дающего надежду социализма или проклятого капитализма? Все, что у меня в жизни есть ценного – это дуб с его широченным стволом, расходящимся на шесть толстенных веток. Живая и дышащая кора дерева покрыта глубокими трещинами, словно морщинами, или линиями жизни, или плохо зажившими шрамами.

Я зря боялась, что дар дуба окажется разовым: волны его энергии снова накрыли меня, сделав сознание кристально чистым. Нет, я не нашла ответы на вопросы о том, как мне жить дальше, но я поняла саму иллюзорность этих вопросов, иллюзорность необходимости делать иллюзорный выбор. На моих губах снова нарисовалась смутная, еле заметная улыбка. На душе стало пусто в лучшем смысле этого слова.

Невыразимым наслаждением стало для меня прикасаться к дубу своим телом. Не только ладонями, но и животом, бедрами, грудью. Мне хотелось полностью раздеться, мне хотелось слиться с дубом, стать его частью, вернее даже не частью, которая всегда, в той или иной степени, *отдельна*, но – раствориться в нем, полностью потеряв иллюзию себя. В этом желании есть что-то похожее на желание соития с телом другого человека, однако с дубом все иначе. Я бы назвала это переживание, эту тягу, не *сексуальной*, но – *эротической*. Это как любоваться безумно красивым закатом, вызывающим трепет всего тела, вызывающим желание стать частью этой красоты, частью этого недостижимого порядка мира. Такой трепет – это возбуждение, но не из рода тех, которые сводят с ума в своем стремлении к полному, но кратковременному блаженству – оргазму. Эротическое переживание есть само по себе долгий, медленно текущий оргазм, оргазм от тяги к высшему, оргазм от осознания полноты и красоты мира. В *сексуальном* есть что-то деструктивное, есть сладостность насилия, есть жажда подчинения. *Эротическое* же в моем понимании связано с гармонией.

6.

Жизнь превратилась в ожидание утренних встреч с дубом, в молчаливое общение с ним. Я почти перестала общаться со своим парнем, а мои сексуальные желания вообще не давали о себе знать. Я сходила на собеседование, о котором говорила мама, но мне, конечно же, не перезвонили. На их вопрос о моих жизненных целях (где правильным ответом было бы все, связанное с ростом по карьерной лестнице, принесением пользы компании и т.д.) я ответила: "Достичь гармонии с собой". Поначалу им понравилось, они решили узнать, каким же образом я собираюсь к этому прийти, видимо, ожидая рассказов, опять же, о карьерной лестнице и зарабатывании денег, однако я сказала: "Я хочу сидеть рядом с дубом на берегу реки". Больше вопросов не было.

7.

Однажды я обнаружила, что одна из крохотных пещерок на стволе дуба с каждым днем становится больше. Изменения в размерах были еле заметны, однако они не могли скрыться от моего внимательного взгляда. Каждый день я с интересом нащупывала это углубление, и меня поражало, что с течением времени оно разрастается все быстрее.

Как-то ночью мне не спалось. Я ворочалась до пяти, уже светало, и я решила устроить пробежку пораньше.

Меня встретил волшебный рассвет, чудесная тишина начала дня. Еще нет опозданий на работу, терзаний о выборе нарядов, незаводящихся машин. Дворники пока не успели приступить к работе, а тусовщики уже разошлись по домам. Я вдыхала утреннюю свежесть полной грудью, делая долгие вдохи и медленные выдохи. Бежалось мне на удивление легко, я чувствовала себя невесомой.

И вот мы рядом – я и *он*, я и *она*, дуб, средоточие гармонии, средоточие спокойствия. За ночь в углублении появилось крохотное отверстие. Мне в голову пришла нелепая мысль, что сейчас я возьмусь двумя руками за края этого отверстия, начну тянуть в разные стороны – и оно обязательно поддастся, оно станет больше. Улыбаясь своей

невозможной идее, я захватила пальцами края отверстия и начала тянуть. Меня не удивило, что я оказалась права. Отверстие перестало расширяться именно в тот момент, когда обрело возможные для моего туда проникновения размеры. Там, внутри, было светло и хорошо. Но это не то – там была *пустота*.

Через несколько секунд я была во чреве дуба. Постепенно, из человеческого существа, состоящего из кожи, костей, мышц, крови и мяса, я превращалась в пористую, твердую, как сталь, плоть, тянущуюся к солнцу. Моей кожей стала грубая, сухая и толстая кора. Своими листьями, нежными и тонкими, я чувствую игривые прикосновения ветров. Стволом вторгаюсь я в мягкость земли, пронзая ее многочисленными и всепроникающими корнями.

Я стала частью магической двуполой природы дуба. Я наконец-то избавилась от всего, что меня волновало: от борьбы с собой, от безнадежности и бессмысленности существования, от бесконечного, нескончаемого, сводящего с ума потока мыслей.

И меня наконец-то не стало.

## КУФЭРАК З МАРКАМІ

Om dat de werelt is soe ongetru
Daer om gha ie in den ru.
*Breughel d. Ält.*

У той вечар я доўга чакаў Эдгара Відэргольда. Я ляжаў у крэсьле-качалцы, бой павольна абмахваў мяне веерам. У старога былі тамільскія боі, якія калісьці прыехалі сюды разам зь ім, узяўшы з сабой дзяцей і ўнукаў. У яго добрыя бої; яны ведаюць, як трэба абслугоўваць.

"Дэўла, ідзі скажы свайму гаспадару, што я чакаю".

"Слухаю, сахіб." Ён бязгучна высьлізнуў. Я ляжаў на тэрасе, летуценна пазіраючы на Сьветлую Плынь. Аблокі, якія віселі ў небе ўжо тыдзень, гадзіну таму зьніклі; дождж ня ліў ужо цэлую гадзіну. Вечаровае сонца кідала шырокія промні на фіялетавы туман Танкіна.

Унізе гайдаліся абуджаныя джонкі. Выпаўзалі людзі; круглымі лапатамі, анучамі і ночвамі вылівалі ваду, сушылі і чысьцілі сампаны. Але ніхто не размаўляў; яны працавалі ціха і амаль нячутна, ніякага шуму не далятала да тэрасы, хіба лёгкія шолахі. Міма праплыла вялікая джонка, шчыльна забітая легіянэрамі. Я кіўнуў афіцэрам, якія ляжалі на карме, яны дабрадушна падзякавалі. Яны з большай ахвотай сядзелі б цяпер са мной на шырокай вэрандзе бунгала Эдгара Відэргольда, чым плылі тыдзень запар праз гарачы дождж да сваёй убогай стаянкі. Я палічыў: у джонцы было па меншай меры пяцьдзясят легіянэраў. Вядома ж, парачка ірляндцаў і гішпанцаў, флямандцаў і швайцарцаў – а астатнія немцы. Каму даспадобы тут жыць? Жарсныя аматары моцных напояў. Сярод іх, натуральна, падпальшчыкі, злодзеі і забойцы – чаго ж яшчэ хацець ад вайны? Яны ведаюць сваё рамяство. Тыя, хто належаў да вяршкоў грамадзтва, зьніклі для яго, нырнуўшы ў змрочныя глыбіні легіёна. Сьвятары і прафэсары, шляхта і афіцэры. Біскуп, які загіне пры штурме Айн-Суфа, – як доўга ён будзе тут валяцца, пакуль нямецкі ваенны карабель забярэ труп легіянэра і яму аддадуць усе знакі пашаны, нібы прынцу?

Я пакланіўся: "Жыве легіён!". І яны закрычалі ў адказ з усіх сваіх глотак: "Жыве легіён! Жыве легіён!" Яны страцілі сваю бацькаўшчыну, свае сем'і, дамы, гонар і грошы. Маюць толькі адно, што замяняе ім усё – атрадны дух: "Жыве легіён!"

О, я ведаю іх. П'яніцы і гульцы, ахвочыя да баб, дэзэртыры, якія зьбеглі з самых розных лягераў. Усе анархісты – якія ня ведаюць, што такое анархізм, якія абураюцца і ўцякаюць, як толькі сустрэнуцца зь якім-кольвечы прымусам – чаго-чаго, а прымусу яны трываць ня могуць. Напалову бандыты, напалову дзеці, маленькія мазгі і вялікія сэрцы – сапраўдныя салдаты. Ляндскнэхты інстынктыўна цягнуцца да граху, бо яны навучаныя забіваць, хто здольны на вялікае, таму дазволена і маленькае. Шукальнікі прыгодаў, якія занадта позна нарадзіліся; гэты сьвет патрабуе дастаткова моцных мужчын, здольных самастойна прасякаць сабе шляхі. Кожны зь іх для гэтага занадта кволы, кожны зь іх няўдаха, які прымае фальшывае сьвятло за пуцяводную зорку. Кожны сам сабе і маці, і радзіма, і гонар. Паслухай, як яны крычаць: жыве легіён!

Джонка выплывае ў вечар, на захад, дзе Чырвоная рака паварочвае і ўпадае ў Сьветлую Плынь. Там яна зьнікае, пагружаецца ў смугу, у край фіялетавай атруты. Але яны нічога не баяцца, гэтыя сьветлавалосыя барадатыя мужыкі, ні ліхаманкі, ні дызэнтэрыі, ні пагатоў жоўтых паўстанцаў: яны маюць дастаткова алькаголю, опіюму і сваіх добрых лебэлеўскіх стрэльбаў – што ім яшчэ трэба? Сорак зь пяцідзесяці ня вернуцца, але хто вернецца, заключыць новую дамову: ня дзеля славы Францыі, не – дзеля славы легіёну.

...Эдгар Відэргольд прыйшоў на вэранду.

– Іх ужо няма? – спытаў ён.

– Каго?

– Легіянэраў!

Ён падыйшоў да парапэту і зірнуў на раку. "Дзякуй богу, няма. Халера на іх, не магу іх бачыць".

“Вось як?” – сказаў я.

Я, натуральна, ведаў пра тое, як ставіўся стары да легіянэраў: ён ставіўся да іх так, як і кожны ў гэтай краіне. Я хацеў дакапацца да прычынаў. Таму я ўдаў зьдзіўленьне. “Вось як? Але ж увесь легіён шануе вас! Капітан II легіёна некалькі гадоў таму ў Поркеролесе распавядаў мне пра вас: маўляў, калі я дабяруся да Сьветлае Плыні, то мушу абавязкова наведаць Эдгара Відэргольда”.

“Гэта быў Карл Хаўзэр зь Мюльгаўзэна”.

“Не, гэта быў Дзюфрэснэ”.

Стары ўздыхнуў: “Дзюфрэснэ! Ён выпіў тут не адзін келіх бургундзкага”.

“Як і ўсе астатнія, ці ня праўда? І вось пасьля васьмі гадоў працы дом, які называлі “Бунгала Легіёна”, раптам зачыніў свае дзьверы і Эдгар Відэргольд, добры татачка легіянэраў, зладзіў сабе прытулак у Эдгаргафэне”.

Гэта была маленькая прыстань фэрмы Відэргольда, на адлегласьці ў дзьве гадзіны вышэй па рацэ. Стары дабіўся нават, каб на паштовым штэмпэлі стаяла не “Порт д’Эдгар”, а “Эдгаргафэн”. З таго часу ягоны дом быў зачынены для легіёну, але не ягонае сэрца і не ягоная гасьціннасьць. Кожная джонка легіёна, якая праплывала тут, спынялася ў Эдгаргафэне, і гаспадар адпраўляў пару кашоў віна на борт для афіцэраў і каманды. У кашах ляжала цыдулка: спадар Відэрголд вельмі шкадуе, што ня можа на гэты раз прыняць паноў афіцэраў. Ён просіць прыняць яго падарунак і сам абавязкова вып’е за здароўе слаўнага войска. І шторазу камандзір адказваў, што ён дзякуе за падарунак і спадзяецца на зваротным шляху выказаць сваю падзяку асабіста гаспадару. Але гэта ніколі не атрымлівалася, дзьверы дома на Сьветлай Плыні заставаліся зачыненымі для легіянэраў. Некалькі разоў афіцэры прыходзілі сюды, і іхныя радасна-п’яныя галасы гучалі ў памяшканьні. Боі вялі іх на вэранду, прапаноўвалі найлепшыя віны – але сам стары ніколі не зьяўляўся. Легіён паволі звыкаўся з новымі стасункамі. Былі ўжо людзі, якія ніколі ня бачылі Відэргольда, адно ведалі, што ў Эдгаргафэне трэба ўзяць на борт віно і выпіць за здароўе бажавольнага старога немца. Кожны быў рады гэтаму адзінаму перапынку ў бясконцым падарожжы па сьветлай рацэ і Эдгара Відэргольда любілі гэтаксама, як і раней.

Калі я прыехаў да яго, я быў першы немец за доўгі час, зь якім ён пагаварыў. Бачыць немцаў ён бачыў – некаторыя едуць часам уніз па рацэ. Я пераката ны, што стары хаваецца за фіранкай і кожны раз, калі джонка зь легіянэрамі праплывае міма, сочыць за ёй. Але са мной ён нарэшце зноў мог пагаварыць па-нямецку. Я думаю, гэта і было прычыной таго, што ён пакінуў мяне ў сваім доме, усяляк адкладаючы і адцягваючы час майго ад’езду.

Стары быў ня з тых, хто любіць крычаць “ура”. Ён лаяўся на імпэрыю самымі бруднымі словамі. Ён лаяўся на Бісмарка, бо той Саксонію не далучыў да Багеміі, і на кайзэра, бо той прамяняў Гельгалянд на ўсходнеафрыканскія калёніі. І Галяндыя! Мы мусім мець Галяндыю, калі мы хочам жыць, Галяндыю і ўсе яе астравы. Гэтак мусіць быць, і інакш быць ня можа; мы занепадзем, калі гэта ня будзе зроблена. І, вядома ж, Адрыя! Аўстрыя – выключная лухта, нейкая афёра, якая толькі замінае на мапе. Нам належаць яе нямецкія землі, і калі мы ня хочам, каб у нас перад носам бразнулі дзьвярыма, мы павінны мець таксама славянскія землі, якія закрываюць нам выхад да Міжземнага мора – Істрыю і Крайну. “Халера мяне бяры”, – крычаў ён, – “я ведаю, што мы бярэм ката ў мяху! Але лепш так, чым загінуць!” Ён ужо плаваў пад чорна-бела-чырвоным сьцягам зь нямецкага Трыеста да Батавіі.

Тады я спытаў: “А як жа паны ангельцы?”

– Ангельцы? – закрычаў ён. – Ангельцы заткнуць пашчы, калі ім добра ўрэзаць!

Ён любіў Францыю і адводзіў ёй шмат месца пад сонцам, але ангельцаў ён ненавідзеў.

Вось такі ён. Калі немец плюе жоўцю на кайзэра і імпэрыю, ён радуецца і лаецца разам з французам. Калі француз кпіць з нас, ён сьмяецца. Але калі ангелец дазваляе сабе бязьлітасную заўвагу наконт нашага дурнаватага консула, ён прыходзіць у шаленства. Гэта і было прычынай ягонага ад’езду з Індыі. Я ня ведаю, што казаў той ангельскі палкоўнік, але я ведаю, што Эдгар Відэргольд узяў бізун і выцяў консула паміж вачэй. Гэта было сорак гадоў таму; а можа, пяцьдзясят ці шэсьцьдзясят. Ён уцёк тады, паехаў у Танкін і атабарыўся на сваёй фэрме, незадоўга да прыходу французаў. Тады ён вывесіў трыкалёр на Сьвет-

лай Плыні, сумуючы, што гэта ня чорна-бела-чырвоны сьцяг, але радуючыся, што гэта ня Юніён Джэк.

Ніхто ня ведае, колькі яму гадоў. Каго тропікі ня зжэрлі маладым, таго яны высушылі. Ацалелага яны робяць устойлівым да любога клімата, ствараюць на ім панцыр з жоўтае скуры, які не паддаецца гніеньню. Такім і быў Эдгар Відэргольд. Можа, васьмідзесяцігадовы, а можа, і дзевяностагадовы, але штодня з шасьці гадзін ён ужо быў у сядле. Валасы белыя, але доўгая вострая барада захоўвала свой жоўта-шэры колер. Твар яго быў вузкі і доўгі, і такія ж рукі, і на пальцах вялікія жоўтыя пазногці. Даўжэй за запалкі, цьвёрдыя як сталь, вострыя і драпежна загнутыя.

Я працягнуў яму свае цыгарэты. Я даўно не паліў, і яны сапсаваліся ад марскога паветра. Але яму спадабалася, бо яны былі нямецкай вытворчасьці.

– Вы ня хочаце мне распавесьці, чаму вы не падпускаеце легіён да вашага бунгала? – спытаў я.

Стары не адыходзіў ад парапэта. "Не!"– сказаў ён. Потым пляснуў у далоні: "Бана! Дэўла! Віна і келіхі!" Боі накрылі на стол, ён падсеў да мяне, прысунуў да мяне газэты. "Вось", – працягваў ён, – "вы ўжо чыталі пошту? Немцы бліскуча выйгралі аўтагонкі ў Д'епе. Бэнц і Мэрсэдэс, ці як там называюцца гэтыя маркі. Цэпэлін гатовы і шпацыруе паміж Нямеччынай і Швайцарыяй, дзе захоча! Цяпер зірніце на апошнюю старонку: шахматны турнір у Остэндэ. Хто перамог? Немец! Сапраўды, адно задавальненьне гартаць газэты, калі там няма паведамленьняў пра гэтых паноў з Бэрліна. Пачытайце, гэта ж неверагодна...."

Але я перапыніў яго. Я ня меў ахвоты слухаць, "як гэтыя прыдуркі зноў надурылі ўбогіх авечак". Я падняў келіх: "Прозт! Заўтра я зьяжджаю".

Стары адсунуў свой келіх.

– Што? Заўтра?

– Так, лейтэнант Шлюмбэргер якраз будзе праяжджаць тут з часткай трэцяга батальёна. Ён возьме мяне з сабой.

Ён грукнуў кулаком па стале: "Гэта глупства!"

– Што?

– Што вы заўтра зьбіраецеся зьехаць, чорт пабяры! Глупства.

– Ну я ж не магу заставацца тут вечна, – засьмяяўся я. – У аўторак два месяцы, як я тут...

– Вось і я пра тое! Я ўжо прывык да вас. Калі б вы пабылі ў мяне гадзіну, мне было б напляваць, зьяжджаеце вы ці не.

Але я не паддаваўся. Божа мой, ён меў тут столькі гасьцей і сумуе, калі нехта зьяжджае. Пакуль не прыедуць новыя...

А ён зноў за сваё. Раней, сказаў стары, ён палец аб палец бы ня ўдарыў, каб затрымаць мяне тут надаўжэй. Але цяпер, хто прыедзе да яго цяпер? Два госьці на год, і першы раз за пяць гадоў суайчыньнік-немец! З таго часу як ён бачыць ня можа ўжо гэтых легіянэраў...

Ён зноў уламаў мяне. І я сказаў яму, што застануся яшчэ на восем дзён, калі ён распавядзе мне ўсю гісторыю: чаму...

– Што? – спытаў ён зьдзіўлена. – Вы, нямецкі паэт, гандлюецеся як купец?

Я патлумачыў. "Сыравіна для апавяданьня", сказаў я. "Але мы спляцём з гэтага ніткі, а зь іх такі кілім..."

Гэтае параўнаньне яму спадабалася. "Прадаю сваю гісторыю за тры тыдні. Я распавядаю вам усё, а вы застаецеся яшчэ на тры тыдні".

– Ведаеце, у Нэапалі я навучыўся таргавацца. Тры тыдні за гісторыю – гэта зусім кепскі кошт. Я ж купляю ката ў мяшку і ня ведаю, ці наогул спатрэбіцца мне тавар. Я атрымаў бы дзьвесьце марак за гэта, пражыўшы тут два месяцы і яшчэ мушу застацца на тры тыдні – а я ж яшчэ не напісаў ні радка. А мая праца таксама аплочваецца і я маю выдаткі, ён губіць мяне і...

Але стары меў свае ўмовы. "Дваццаць сёмага ў мяне дзень народзінаў", сказаў ён. "І я не люблю сьвяткаваць яго ў адзіноце. Такім чынам, васямнаццаць дзён – гэта маё апошняе слова. Таньней гісторыю я не аддам".

"О Госпадзе!", уздыхнуў я. "Ну добра, згода".

Стары пацiснуў мне руку.

“Бана“, крыкнуў ён, “Бана! Прыбяры віно і келіхі. Прынясі нам шампанскага“.

“Слухаю, сахіб, слухаю“.

“А ты, Дэўла, прынясі куфэрак Хон-Дока і маркі“.

Бой прынес куфэрак, па знаку свайго гаспадара паставіў яе перада мной і націснуў спружыну. Куфэрак адразу ж адчыніўся. Гэхта быў вялікі куфэрак з сандалавага дрэва, водар якога імгнення напоўніў паветра. У дрэве былі інкрустацыі з маленькіх кавалачкаў пэрлінаў і слановай косткі, на бакавых сьценках былі арлы, кракадзілы і тыгры. На накрыўцы было ўкрыжаваньне, відаць, копія зь нейкай старой гравюры. Аднак Збаўца быў без барады, у яго быў круглы, дзіўны твар, на якім была жахлівая пакута. Раны ў баку не было відаць, і наогул, ён быў укрыжаваны не на крыжы, а на пляскатай дошцы. Над галавой яго не было звычных ініцыялаў I.N.R.I, а было напісана K.V.K.S.II.C.L.E. Выява рабіла непрыемнае ўражаньне, яна нагадала мне карціну Матыяса Грунэвальда, хаця на першы погляд паміж імі не было нічога агульнага. Здавалася, мастака, які рабіў гэтае ўкрыжаваньне, ня толькі не кранал і пакуты Збаўцы, але ён нават атрымліваў ад іх асалоду. Аднак праца была выканана дужа таленавіта, сапраўдны шэдэўр.

Стары заўважыў маё захапленьне.

– Куфэрак ваш, – сказаў ён спакойна.

Я схапіў яе абедзьвюма рукамі:

– Вы дорыце яго мне?

Ён засьмяяўся:

– Дару? Не. Але ж я прадаў вам маю гісторыю, а яна вось, перад вамі – гэты куфэрак.

Я стаў перабіраць маркі. Гэта былі трохкутныя і простакутныя плястынкі зь перламутру, якія адлівалі цёмным мэталічным бляскам. На кожнай марцы была маленькая, памайстэрску выгравіраваная карцінка.

Але… я хацеў бы, каб вы прынамсі пракамэнтавалі гэта.

Камэнтары ў вас у руках. Калі вы раскладзеце маркі ў належным парадку, то будзе ведаць маю гісторыю ад пачатку да канца, нібы прачыталі кнігу. Але цяпер зачыніце куфэрак і слухайце. Налі нам, Дэўла.

Бой напоўніў нашыя келіхі, і мы выпілі. Ён набіў люльку свайго гаспадара, прыпаліў яе і падаў яму.

Стары зацягнуўся і выпусьціў воблак дыму. Потым ён адкінуўся ў фатэлі і зрабіў слугам знак, каб яны працавалі махаламі.

– Ведаеце, – пачаў ён, – Гэты дом сапраўды заслужыў, каб яго называлі бунгала легіёна. Вось тут пілі афіцэры, а вунь тамака – салдаты; часта я запрашаў салдат і сюды, на вэранду. Паверце, я сустрэў там шмат цікавых чалавечых тыпаў: тых, хто прайшоў скрозь агонь і ваду і тых, хто як дзеці прагнуў перадусім пяшчоты і спачуваньня. Легіён быў для мяне нібы музэй, нібы кніга, тоўстая кніга, у якой я заўсёды мог знайсьці казкі і прыгоды. Маладыя ахвотна распавядалі мне пра сябе, яны былі радыя, калі мы аказваліся сам-насам, і раскрывалі мне тады свае душы. Ведаеце, яны сапраўды любілі мяне, і ня толькі за тое, што я частаваў іх віном і даваў ім на некалькі дзён спакой і адпачынак.

Тады французы яшчэ не прасунуліся ўглыб краіны так, як цяпер. Іх апошняя станцыя была ў трох днях дарогі адсюль уверх па Чырвонай рацэ. Але нават тут і ў Эдгаргафэне было небясьпечна. Дызэнтырыя, тыф, а яшчэ трапічная анэмія. Вы ведаеце, што гэта за хвароба, і як ад яе паміраюць. Зьяўляецца лёгкая гарачка, тэмпэратура падымаецца ўсяго на трошкі, але не праходзіць ні ўдзень, ні ўначы. Апэтыт зьнікае, хворы становіцца пераборлівым, нібы прыгажуня. Хочацца спаць, спаць, спаць, пакуль не зьяўляецца нарэшце прывід сьмерці, і гэта радуе хворага, бо дае магчымасьць нарэшце выспацца. Тыя, хто загінуў ад анэміі, безумоўна, былі ў лепшым становішчы, чым тыя, хто памёр ад чаго-небудзь іншага. Вядома ж, няма ніякага задавальненьня ў тым, каб памерці ад атручанай стралы, але тут, прынамсі, ты паміраеш хутка. Ды нямногія памерлі такой сьмерцю, можа, адзін з тысячы. Тыя, хто трапіў у рукі жоўтым сьвіньням. Быў тут адзін Карл Матыс, нямецкі дэзэртыр, кірасыр, капрал першага батальёна, адважны хлопец. Калі

стаянка Гамбэты была ў аблозе, ён вызваўся разам зь яшчэ двума легіянэрамі прабіцца скрозь непрыяцельскія атрады і дабрацца да Эдгаргафэна. Аднак ноччу іх выкрылі і аднаго легіянэра забілі. Матысу прастралілі калена, і тады ён паслаў свайго таварыша далей, а сам застаўся адзін супраць трохсот кітайцаў, прыкрываючы шлях таварышу. Нарэшце яны схапілі яго, зьвязалі па руках і нагах і прывязалі да дрэва на тым беразе ракі, дзе ён ляжаў, сьцякаючы крывёй, тры дні, пакуль яго ня зьелі кракадзілы. Яны елі яго марудна, па кавалку, але ўсё ж яны больш міласэрныя за сваіх двуногіх суайчыньнікаў. Праз паўгады яны злавілі Гендрыка Ольдэнкота з Маастрыхта, сапраўднага асілка, чыя неверагодная сіла яго самога і загубіла: п'яны, ён забіў ударам кулака свайго ўласнага брата. Легіён уратаваў Гендрыка ад турмы, але не ад судзьдзяў, якіх ён тут знайшоў. Мы адшукалі яго ўнізе, у садзе, яшчэ жывога: яны выпатрашылі яму вынтробы, пасадзілі ўнутр пацукоў і зноў зашылі ягонае бруха. А лейтэнанту Хойдэлімонту і двум яго таварышам яны выкалалі вочы раскаленай іголкай, паўмёртвых ад голаду іх знайшлі ў лесе; Якабу Бібэрыху яны зьвязалі ногі і пусьцілі яго плыць на мёртвым кракадзіле. Каля Эдгаргафэна мы вылавілі яго з ракі, тры тыдні бедны хлопец мучыўся ў шпіталі, пакуль урэшце не памёр.

Ну як, досыць доўгі сьпіс? Я магу працягваць, імя за імём. Тут больш ня плачуць, але я праліў па кожным зь іх пару сьлёзаў, імі можна напоўніць бочку, большую за любую ў маім падвале. А гісторыя, якую нам распавядае гэты куфэрак, усяго толькі апошняя кропелька, якая перапоўніла гэтую бочку."

Стары падцягнуў куфэрак да сябе і адкрыў яго. Ён пакорпаўся доўгімі пазногцямі ў марках, узяў адну і працягнуў мне:

– Вось, зірніце, вось герой гэтай гісторыі!

Круглая пэрлямутравая марка мела выяву легіянэра ў ягонай уніформе. Твар жаўнера быў вельмі падобны да твару Хрыста на накрыўцы; на адваротным баку маркі стаяў той жа надпіс, што над галавой укрыжаванага: K.V.K.S.II.C.L.E.

Я прачытаў:

– К. фон К., салдат другое клясы Legion Etrangere.

– Правільна! – сказаў стары. – Гэта ён! Карл фон Кё... Ну, ды ня будзем называць імёнаў. Зрэшты, вы можаце зь лёгкасьцю знайсьці яго ў рэестры марской пехоты. Ён быў кадэт, калі толькі да нас прыехаў. Ён вымушаны быў пакінуць і сваю службу, і сваю айчыну, я так мяркую, усяму віной быў гэты ідыёцкі параграф 218 нашага ўсемагутнага Кодэкса аб пакараньнях, згодна якому яго і перасьледвалі. У гэтай кнізе няма настолькі дурных параграфаў, каб забараняць наймацца ў рэкруты ў легіён.

Ах, хлопец быў як аксаміт і шоўк, гэты кадэт! Усе яго так называлі, сябры і афіцэры. Адчайны хлопчык, які ведаў, што прайграў сваё жыцьцё, і таму з усяго стараўся зрабіць спартовую забаву, заўсёды гуляў ва-банк. У Альжыры ён адзін абараняў імпэратара: узяў каманду над дзесяцю легіянэрамі і двума тузінамі гум'е і трымаўся, пакуль праз некалькі тыдняў не падасьпела падмога. Тады яго ў першы раз уганаравалі афіцэрскім званьнем. Тройчы яго рабілі афіцэрам і шторазу ён неўзабаве пазбаўляўся пагонаў. Гэта звычайна для легіёна: сёньня сэржант, заўтра зноў шараговец. Пакуль яны на вайне, усё ідзе добра, але гэтая ні чым ня стрыманая свабода не трывае гарадзкога паветра.

Ягоная памылка: ён піў – як і ўсе легіянэры. І, як і ўсе, ён заляцаўся да любой сустрэчнай жанчыны, забываючы нават спытаць на тое дазволу. А апрача таго, ён ганяў тубыльцаў значна больш en canailles, чым гэта было неабходна. Але наогул гэта быў такі маладзён, для якога не існавала яблыка, які б вісеў занадта для яго высока. Ён быў страшэнна здольны – ужо праз два месяцы ён гаварыў на мове гэтых жоўтых бандытаў значна лепш за мяне, а я ж правёў тут столькі гадоў. І ягонае выхаваньне – яно нікуды ня зьнікла нават пасьля таго, як ён стаў легіянэрам. Ягоныя таварышы лічылі, што я люблю яго. Не, я не магу гэтага сказаць, але ён быў мне бліжэйшым за астатніх, гэта праўда. У Эдгаргафэне ён пражыў цэлы год і спаражніў нямала бочак у маім падвале; ён не адмаўляўся пасьля чацьвертага келіха, як вы. Ды піце ж, піце. Бана, налі!

Потым ён адправіўся ў форт Вальмі, які быў на той час самай далёкай нашай стан-

цыяй. Чатыры дні дарогі, у джонцы, па бясконцых паваротах Чырвонай ракі. Але калі правесьці ў паветры простую лінію, то гэта ня так ужо і далёка, на сваёй аўстралійскай кабыле я дабраўся б датуль за васямнаццаць гадзін. Ён стаў рэдка наведваць мяне, але я сам пачаў езьдзіць у Вальмі, пагатоў там жыў яшчэ адзін мой прыяцель. Гэта быў Хонг-Док, які і змайстраваў гэты куфэрак. Усьміхаецеся? Як так, думаеце: Хонг-Док – і раптам мой сябра? Але паверце, што нават тут можна знайсьці людзей падобных да нас, і Хонг-Док быў адным зь іх. Можа, яны яшчэ і лепшыя. Мы як-небудзь зьезьдзім з вамі ў форт Вальмі, цяпер там няма легіянэраў, адны маракі. Гэта старажытны, брудны гарадок, над якім стаіць на гары, на беразе ракі, француская крэпасьць. Вузкія вулкі, убогія хаціны. Магчыма, раней, пакуль сюды не прыйшлі з поўначы кітайцы і не зруйнавалі яго, ён быў цудоўным, прыгожым горадам. І цяпер руіны вакол гарадка ў некалькі разоў большыя за яго. Гэтыя руіны служаць танным будаўнічым матэрыялам. Сярод гэтых руінаў здавён на беразе ракі стаяў прыгожы будынак, ледзь не палац: дом Хонг-Дока. Відаць, кітайцы ня сталі яго бурыць, бо мелі на гэта нейкія рэлігійныя падставы. У Хонг-Дока была процьма продкаў, спрэс князі ды каралі, і ён усіх іх ведаў паіменна, наўрад ці хто ў Эўропе меў столькі вялікіх людзей сярод продкаў і ў дадатак ведаў, як іх звалі. Але што датычыць бацькі, і дзеда, і прадзеда Хонг-Дока, то яны, як і ён сам, былі разьбярамі. Кітайскія заваёўнікі ня сталі руйнаваць іхны дом, але забралі ўсю маёмасьць, і род Хонг-Дока стаў такі ж бедны, які і іхныя былыя самыя апошнія слугі. І вось прыгожы дом стаяў занядбаны сярод вялікіх кустоў з чырвонымі кветкамі, пакуль у гэты край не прыйшлі французы. Бацька Хонг-Дока першы вітаў іх на беразе каля свайго маёнтку. Ён вельмі дапамог французам, і яны адзьдзячылі яму – зрабілі яго кімсьці кшталту губэрнатара гэтай краіны, далі яму зямлю, скаціну, паўнамоцтвы. Але гэта быў апошні прамень шчасьця, які ўпаў на стары дом. Легіянэры зьнішчылі яго – так яны помсьцілі за загінулага марскога кадэта, забойцу якога так і ня здолелі спаймаць. Хонг-Док і быў ягоным забойцам. Вось ягоны патрэт.

Стары працягнуў мне яшчэ адну марку. На адным яе баку сапраўды была выява тубыльца ў шыкоўным адзеньні, на другім стаяла ягонае імя лацінскімі літарамі. Але гэты партрэт быў зроблены неахайна, зусім ня так, як астатнія, што былі ў куфэрку.

Эдгар Відэргольд пабачыў маё зьдзіўленьне.

– Так, Хонг-Док чамусьці не надаваў сваёй пэрсоне ніякай увагі. Але зірніце цяпер на гэты маленькі шэдэўр.

Ён пазногцем выцягнуў іншую марку. На ёй была жанчына, настолькі прывабная, што і нам, эўрапейцам, магла б падацца сапраўднай прыгажуняй. У руцэ яна трымала веер. Гэты твор насамрэч быў дасканалым. На адваротным баку маркі было яе імя: От-Шэн.

– Гэта трэцяя дзейная асоба ў драме Вальмі, – працягваў распавядаць стары. – А вось некалькі пэрсанажаў другога пляна, статыстаў.

Ён прысунуў да мяне тузіны два іншых марак, на якіх былі намаляваныя кракадзілы ў розных позах: адны плылі па рацэ, другія разінулі пашчы, трэція білі хвастом ці высока падымаліся на задніх лапах. Некаторыя былі стылізаваныя, але збольшага кракадзілы былі намаляваныя вельмі проста і праўдападобна. Ва ўсіх малюнках была відаць незвычайная назіральнасьць мастака. Стары вынуў сваімі жоўтымі кіпцюрамі яшчэ некалькі марак і працягнуў мне:

– А вось і месца дзеяньня.

На адной марцы я пабачыў вялікі стары дом, на іншых былі яго пакоі і фрагмэнты сада. На апошняй быў від на Сьветлую Плынь і Чырвоную раку, адзін зь відаў быў той, што адкрываўся з вэранды Відэргольда. Кожная з пэрлямутравых пласьцінак выклікала маё шчырае захапленьне, я гатовы быў у любым выпадку абараняць мастака, а не марскога кадэта. Я працягнуў руку, каб узяць яшчэ некалькі марак.

– Не, пачакайце, – сказаў стары. – Вы мусіце паглядзець усё па парадку, як належыць. Такім чынам, Хонг-Док быў маім сябрам, як і яго бацька. Абодва працавалі на мяне шмат гадоў, і я быў ці не адзіным іхным замоўцам. Пасьля таго, як яны сталі багатымі, яны працягвалі займацца сваім мастацтвам, але цяпер ня бралі ўжо за гэта грошы. Бацька нават дайшоў да таго, што вырашыў аддаць мне ўсе тыя грошы, якія я

заплаціў яму раней. Давялося пагадзіцца, як бы гэта ні было для мяне непрыемна; але ж я ня мог яго пакрыўдзіць. Такім чынам, усе мае шафы напоўніліся выкшталцонымі мастацкімі творамі, прычым бясплатна. Менавіта я і пазнаёміў марскога кадэта з Хонг-Докам, я ўзяў кадэта з сабой да яго ў госьці. Разумею вас: вы хочаце сказаць, што марскі кадэт быў ахвочым да жанчын, а От-Шэн была прывабным ласункам, і як жа я ня мог прадбачыць, што Хонг-Доку гэта не спадабаецца. Нічога я ня мог прадбачыць! Бо я занадта добра ведаў Хонг-Дока. Калі ўсё ўжо здарылася, і Хонг-Док сядзеў тут, у мяне на вэрандзе і распавядаў мне ўсё – а ён распавядаў мне пра тое, што адбылося, значна спакайней і цішэй, чым я вам, – я ня мог паверыць. Пакуль не пабачыў сярод ракі доказ таго, што Хонг-Док кажа праўду. Часта я раздумваў над гэтым, шукаючы прычыны, якія пабудзілі Хонг-Дока зьдзейсьніць гэта. Але хто ж насамрэч можа ведаць, што адбываецца ў чужым мозгу, у якім, да таго ж, захаваліся схільнасьці тысяч былых пакаленьняў, прасякнутых звычкай да ўлады, любоўю да мастацтва і вялікай мудрасьцю опіюма? Не, не, я ня мог нічога прадбачыць. Калі б мяне нехта спытаў, што зробіць Хонг-Док, калі кадэт спакусіць адну зь ягоных новых жонак, я б адказаў: ды Хонг-Док нават галавы не падыме ад сваёй працы, ён, калі будзе ў гуморы, проста падорыць кадэту От-Шэн, вось і ўсё. Так і павінен быў зрабіць Хонг-Док. Хон-Нам, ягоная іншая жонка, здрадзіла яму аднойчы з адным кітайскім перакладчыкам, дык Хонг-Док палічыў ніжэй за сваю годнасьць сказаць ім хаця б слова. У другі раз яго падманула сама От-Шэн. Ёй прыйшліся да спадобы міндальныя вочы аднаго з маіх слуг, які суправаджаў мяне ў Вальмі, і хаця яны гаварылі на розных мовах, але вельмі хутка паразумеліся. Хонг-Док засьпеў іх у сваім садзе, але нават пры гэтым ён нічога не зрабіў От-Шэн і не дазволіў мне пакараць майго слугу. Такім чынам, вы самі бачыце, што ён ня меў да От-Шэн нейкае асаблівай жарсьці, ня меў падставаў так ужо моцна даражыць ёй. Усё гэта так мала хвалявала яго, як брэх сабакі на вуліцы.

Немагчыма сабе нават уявіць, што такі філёзаф, як Хонг-Док, чалавек з такім самавалоданьнем, хаця б на імгненьне разьюшыўся і паддаўся раптоўнаму ўсплеску эмоцый. У рэшце рэшт пасьля ўцёкаў Хонг-Дока з усімі ягонымі жонкамі і слугамі мы правялі расьсьледваньне і высьветлілі, што ён дзейнічаў цалкам сьвядома і загадзя сплянаваў сваю страшную помсту. Высьветлілася таксама, што кадэт на працягу трох месяцаў штодня наведваўся ў дом Хонг-Дока і меў увесь гэты час сувязь з От-Шэн, а сам Хонг-Док даведаўся пра гэта ад аднаго са сваіх слуг ужо праз некалькі тыдняў. Нягледзячы на гэта, Хонг-Док не чапаў іх і скарыстаў увесь гэты час для падрыхтоўкі сваёй помсты, для таго, каб ідэя, якая зьявілася ў яго зь першага імгненьня, сасьпела у да дробязяў прадуманы плян.

Аднак чаму ж учынак марскога кадэта ён успрыняў як жахлівую абразу, у той час як паводзіны майго індыйскага слугі выклікалі ў яго проста ўсьмешку? Магчыма, я памыляюся, але мне здаецца, я ведаю, у чым тут справа. Вядома ж, Хонг-Док ня верыў у бога, ён верыў толькі ў вучэньне Вялікага Філёзафа, але ён меў перакананьне, што ягоны род – род абраных, што ён павінен панаваць над усім ў гэтай краіне – што ж, Хонг-Док меў падставы так лічыць. Здавён ягоныя продкі былі неабмежаванымі ўладарамі тут. Нашыя князі, калі яны маюць хаця б трохі мазгоў, цудоўна разумеюць, што сярод іхных падданых нямала разумнейшых і больш таленавітых за ім людзей. Хонг-Док і іншыя прадстаўнікі яго рода былі перакананыя ў адваротным: яны лічылі, што паміж насельніцтвам і імі ляжыць неадольная бездань. Яны былі ўладарамі, астатнія – рабамі. Толькі яны былі адукаванымі і разумнымі, а падобных да сябе яны бачылі, толькі калі ў іх краіну прыяжджалі замежныя паслы, з-за мора, з поўдня – зь Сіяма, або з-за гор – з Кітая. Мы сказалі б, што продкі Хонг-Дока лічылі сябе багамі сярод людзей. Але самі яны думалі інакш: яны лічылі сябе людзьмі сярод брудных жывёлаў. Разумееце адрозьненьне? Калі на нас брэша сабака, мы ледзь павернем галаву ў яе бок. Але маланка прарэзала туман над ракой, і з далёкіх берагоў сюды прыйшлі белыя. Бацька Хонг-Дока з радасным зьдзіўленьнем прызнаў, што гэта былі людзі, і няхай ён адрозьніваўся ад прышэльцаў, але зусім нязначна ў параўнаньні з тым, як ён і яго сваякі адрозьніваліся ад свайго народу. І, як і шмат хто з іншых багатых танкінцаў, ён адчуў, што мае больш агульнага з

чужаземцамі, чым з уласным народам. Таму і ён, і іншыя заможныя жыхары Танкіна сталі ахвотна дапамагаць белым.

Сын князя, Хонг-Док і сам вырас з натуральным памкненьнем валадарыць іншымі. Як і ягоны бацька, ён бачыў у эўрапейцах людзей, а не дурных жывёлаў. Але цяпер, калі іх дом зноў меў былую веліч, ён меў больш часу, каб прыглядзецца да прыхадняў і паспрабаваць зразумець, у чым розьніца між ім і гэтымі эўрапейцамі. Ад частых сустрэч зь легіянэрамі ягонае чуцьцё стала такім жа тонкім, як і маё: ён беспамылкова вызначаў у простым салдаце шляхціча, а ў афіцэры – халопа, без увагі на ўсе залатыя пагоны. Нідзе адукацыя так не адрозьнівае арыстакрата ад раба, як на Ўсходзе. Ён добра бачыў, што легіянэры значна вышэй па сваім разьвіцьці за ягоны народ, але не вышэй за яго самога. Калі ягоны бацька глядзеў на кожнага белага як на роўнага сабе, то Хонг-Док ставіўся да гэтага інакш: чым больш ён ведаў чужаземцаў, тым радзей знаходзіў сярод іх людзей, якіх мог лічыць сабе раўнёй. Праўда, кожны зь іх быў выдатным салдатам і мог супрацьстаяць адзін сотні кітайцаў, але ці было гэта ў яго вачох чымсьці звышасаблівым? Хонг-Док ставіўся з пагардай да вайсковага рамяства – зрэшты, як і да любога іншага. Усе белыя ўмелі чытаць і пісаць свае ўласныя пісьмёны, але наўрад ці сярод іх быў хаця б адзін, хто б ведаў, што такое філязофія. Хонг-Док не патрабаваў ад чужаземцаў веданьня Вялікага Філёзафа, але ён чакаў знайсьці ў чужаземцаў нейкую адмысловую, ўласьцівую адно ім мудрасьць. Але ён нічога не знайшоў. Па сутнасьці, гэтыя белыя ведалі пра прычыну ўсіх прычын менш за любога курца опіюма. Была яшчэ адна акалічнасьць, якая замінала яму ставіцца да белых з павагай: іхнае стаўленьне да ўласнай рэлігіі. Ня тое каб яму не падабалася хрысьціянства, не, ён лічыў яго ня больш і ня менш мудрым за любую іншую рэлігію. Нельга сказаць, што нашыя легіянэры надта ўжо вераць у бога, прынамсі, ніводзін сьвятар не даверыў бы ім сьвятыя дары. І ўсё ж у цяжкія хвіліны і ў легіянэра можа вырвацца блытаная малітва або просьба да нябёсаў аб дапамозе. Хонг-Док заўважыў гэта і вырашыў, што гэтыя людзі вераць у магутнасьць нейкае звышсілы, якая можа ім дапамагчы. Але ён працягваў вывучаць чужаземцаў – я забыў сказаць, што Хонг-Док гаварыў па-француску лепш за мяне – і пазнаёміўся з адным палкавым сьвятаром у Вальмі. Тое, што ён даведаўся ад сьвятара, толькі ўзмацніла ў Хонг-Доку адчуваньне ўласнай перавагі над чужаземцамі. Я добра памятаю, як аднойчы, калі мы сядзелі ў ягоным пакоі для курэньня, ён з усьмешкай сказаў мне, што цяпер ведае, як у сапраўднасьці хрысьціяне ставяцца да свайго культу. Потым дадаў, што нават хрысьціянскія сьвятары ня маюць ніякага ўяўленьня пра сымбалічнае.

Найгоршым было тое, што ён спраўды меў рацыю і я ня мог яму запярэчыць. Мы, эўрапейцы, верым і ў той жа час ня верым. А такіх хрысьціянаў, якія ставяць веру сваіх продкаў вышэй за ўсё і бачаць у ёй глыбокія сымбалі, вы ня тое, што тут, – нават у Эўропе наўрад ці лёгка знойдзеце. Але такое стаўленьне да сваёй веры ўяўлялася Хонг-Доку самым натуральным, што павінна быць у любога адукаванага чалавека. І калі нават сьвятар ня змог зразумець ягоных думак, што здаваліся Хонг-Доку такімі простымі, ён страціў да чужаземцаў усялякую павагу. Так, у некаторых галінах эўрапейцы былі вышэйшымі за яго – аднак толькі ў тых, якія ня мелі для Хонг-Дока ніякае значнасьці. У іншым белыя былі роўныя яму; але ў сьветапоглядзе, у абстрактным разуменьні парадку рэчаў яны былі непараўнальна ніжэй за яго. І гэтая пагарда паступова перарастала ў нянавісьць, што станавілася ўсё мацней па меры таго, як чужаземцы заваёўвалі яго краіну і ўсталёўвалі тут сваю ўладу. Ён ужо ня меў ад белых той пашаны, якую яны калісьці аказвалі бацьку Хонг-Дока і потым яму самому, і Хонг-Док адчуваў, што яго дом на рацэ страціў усю сваю веліч. Ня думаю, што гэта засмуціла яго; ён быў філёзаф і ўспрымаў жыцьцё такім, якое яно ёсьць. Наадварот, усьведамленьне свайго веданьня давала яму пачуцьцё радаснага задаволеньня. Стасункі яго з эўрапейцамі вонкава засталіся такімі ж, як былі, стасункі нібыта роўных людзей, але насамрэч ён аддаліўся ад іх. Але сваю душу, свае думкі, што хаваліся за ягоным вуглаватым жоўтым ілбом, ён нікому не адкрываў, а калі і дазваляў гэта зрэдзьчас мне, то выключна ад адданасьці маёй пэрсоне, якую ўнушылі яму яго бацькі і якая ішла ад маёй шчырай зацікаўленасьці іх незвычайным мастацтвам.

Такі быў Хонг-Док. Яго ні на імгненьне не ўзрушыла тое, што яго жонка здраджвае яму зь нейкім індыйскім слугой або з кітайскім перакладчыкам. Калі б ад гэтых сувязяў зьявіліся б дзеці, то Хонг-Док загадаў бы ўтапіць іх, ня з помсты, а як топяць непатрэбных шчанятаў. І калі б марскі кадэт папрасіў яго падарыць яму От-Шэн, ён выканаў бы гэтую просьбу.

Але марскі кадэт увайшоў у дом Хонг-Дока, як роўны яму, і скраў жонку, як слуга. Зь першага ж вечара ён заўважыў, што гэты кадэт не такі, як яго таварышы, і быў з кадэтам менш стрыманы. А марскі кадэт гаварыў з Хонг-Докам гэтаксама, як, мне здаецца, ён гаварыў бы з уладальнікам радавога замка ў Нямеччыне, жонка якога б яму спадабалася. Кадэт скарыстаў усе свае манеры, усю сваю абаяльнасьць і, вядома ж, падкупіў Хонг-Дока, яу ён падкупаў мяне і ўсіх сваіх афіцэраў. Ніхто ня мог супрацьстаяць абаяльнасьці гэтага разумнага, жыцьцярадаснага, мілага чалавека. І ён зачараваў Хонг-Дока да такой ступені, што той – уладар, мастак, мудры філёзаф, пасьлядоўнік Канфуцыя – пасябраваў з кадэтам і палюбіў яго.

Але вось адзін са слуг прызнаўся Хонг-Доку, што кадэт заляцаецца да ягонай жонкі, і Хонг-Док пабачыў, як тыя гуляюць у садзе, закаханыя адно ў аднаго.

Дык вось дзеля чаго кадэт прыходзіў сюды. Ня дзеля яго, Хонг-Дока, а дзеля жанчыны, дзеля дурной жывёлы. Хонг-Док адчуў сябе абражаным, ён пабачыў у гэтым найвялікшую здраду. Гэта была ня тая абраза, якую адчуў бы эўрапейскі муж. Не, яго абразіла тое, што чужаземец прыняў аблічча сябра, і ён, Хонг-Док, падарыў яму сяброўства. Што ён, горды філёзаф, даў сябе так падмануць гэтаму подламу салдату, што, як слуга, уводзіць у яго жонку; што ён апаганіў сябе, даў сябе абкруціць чалавеку, які стаіць настолькі ніжэй за яго, Хонг-Дока. Вось гэтага ня мог вынесьці ганарлівы жоўты чорт.

Аднойчы ўвечары слугі прынесьлі яго да мяне. Ён выйшаў з насілак і з усьмешкай узыйшоў на вэранду. Як заўжды, ён прынес мне маленькія падарункі. У мяне былі госьці, некалькі афіцэраў, і Хонг-Док, хаця і павітаўся зь імі вельмі ветліва, увесь астатні час маўчаў, пакуль яны не сышлі. Ён пачакаў, пакуль ня сьціхне тупат іх коняў на тым баку ракі, і потым сказаў, вельмі спакойна і нават добразычліва, быццам паведамляе мне добрую навіну:

– Я прыехаў, каб паведаміць вас пра нешта. Я ўкрыжаваў марскога кадэта і От-Шэн.

Хонг-Доку былі не ўласьцівыя жарты, але я падумаў, што гэта сапраўды нейкая сьмешная выхадка. Таму я падхапіў яго тон і спытаў як мага больш суха:

– Вось як! А што вы яшчэ зь імі зрабілі?

Ён адказаў:

– Яшчэ я зашыў ім вусны.

Тут я зарагатаў:

– Чаго вы толькі не прыдумаеце! Якую ж яшчэ ласку вы зрабілі ім абаім? І чаму?

Хонг-Док працягваў гаварыць спакойным, сур'ёзным тонам, але салодкая ўсьмешка не пакідала яго твару:

– Я засьпеў іх у інтымны момант.

Гэтае слова так спадабалася яму, што ён паўтарыў яго некалькі разоў. Яму падавалася вельмі сьмешным, што эўрапейцы такую ўвагу надаюць таму, каб засьпець злачынцу на месцы яго злачынства. Ён сказаў з такой інтанацыяй, якая падкрэсьлівала яго пагарду:

– Так, у інтымны момант... Наколькі я ведаю, у Эўропе муж вольны ў такіх выпадках пакараць злодзея?

Гэтая саладжавая ўсьмешка была прасякнутая такой упэўненасьцю, што я ня ведаў, што яму адказаць. А ён працягваў зь нязьменнай ветлівасьцю:

– Дык вось я пакараў яго. А паколькі ён хрысьціянін, я вырашыў, што яму будзе лепш за ўсё пасаваць хрысьціянская сьмерць. Думаю, яму гэта спадабалася, ці ня праўда?

Гэты жарт мне ўжо не падабаўся. Мне і ў галаву не магло прыйсьці, што ўсё гэта праўда, але чамусьці вельмі захацелася, каб ён змоўк. Я верыў яму, верыў у тое, што марскі кадэт і От-Шэн знаходзяцца ў сувязі, але падумаў, што Хонг-Док хоча такім чынам паказаць бязглуздасьць нашых эўрапейскіх уяўленьняў пра гонар і мараль. І таму я адказаў яму такім жа тонам:

– Вядома ж, вы мелі рацыю. Думаю, яму спадабалася.

– Сумняваюся, – з сумам пакачаў галавой Хонг-Док. – Прынамсі, мне ён нічога не сказаў, ніякіх словаў падзякі. Толькі крычаў.

– Крычаў?

– Так. Ён крычаў значна больш за От-Шэн. Ён усё маліўся свайму богу, а малітву перапыняў крыкамі, як сабака, якога рэжуць. Было вельмі непрыемна. Таму я загадаў зашыць яму рот.

Мне надакучыў гэты жарт, і я хацеў скончыць яго як найхутчэй.

– Гэта ўсё? – спытаў я.

– Уласна кажучы, так. Я загадаў схапіць іх і распрануць, ваш бог таксама ж быў укрыжаваны аголеным. Потым ім зашылі рты, укрыжавалі і кінулі ў раку.

Я быў рады, што ён нарэшце скончыў.

– А далей што?

Я чакаў ад яго тлумачэньняў.

Хонг-Док паглядзеў на мяне і зрабіў выгляд, што не разумее, чаго ад яго хочуць. Ён прамовіў са спачуваньнем да самога сябе і ў той жа час быццам бы з кпінай:

– О, гэта была ўсяго толькі помста беднага падманутага мужа.

– Добра, – сказаў я. – Добра. Але ў чым жа pointe вашага аповеду?

– Pointe? – ён задаволена засьмяяўся, быццам гэтае слова было тут вельмі дарэчы. – О, калі ласка, пачакайце крыху.

Ён адкінуўся ў фатэлі і замаўчаў. У мяне не было ніякага жаданьня яго распытваць, хай сам раскажа да канца сваю крывавую гісторыю. Так мы сядзелі моўчкі амаль паўгадзіны. У пакоі гадзіньнік прабіў шэсьць.

– Вось цяпер вы пабачыце pointe усяго гэтага, – прамовіў Хонг-Док ціха. – Ці не скажаце вы слугам, каб прынесьлі бінокль?

Я зрабіў знак Бана, і ён прынёс мой бінокль. Але Хонг-Док ня стаў чакаць бінокля, ён кінуўся раптам да парэнчаў і перагнуўся ўніз. Выцягнуў руку ўправа ў накірунку Чырвонай ракі і ўрачыста ўсклікнуў:

– Вось ён, ваш pointe, паглядзіце!

Я ўзяў бінокль і стаў глядзець у тым накірунку. Далёка на рацэ я пабачыў маленькую кропку. Яна ўсё набліжалася, і нарэшце я пабачыў, што гэта невялікі плыт. На плыце было двое, абое голыя. Я кінуўся да дальняга кута вэранды, каб лепш бачыць. На сьпіне ляжала жанчына, яе чорныя валасы зьвешваліся ў ваду. А на ёй ляжаў мужчына, я ня мог бачыць яго твару, але заўважыў рудое адценьне валасоў. Гэта, без сумненьняў, быў кадэт. Ногі былі доўгімі жалезнымі цьвікамі прыбітыя да ног, рукі да рук, на белых дошках была відаць кроў. Раптам я пабачыў, як кадэт прыўзьняў галаву ў бясьсільным шаленстве. Напэўна, ён хацеў паказаць, што яны яшчэ жывыя.

Я выпусьціў з рук бінокль, разгубіўся на імгненьне, а потым закрычаў, зарычаў на сваіх слуг:

– Уніз да чоўнаў!

Я кінуўся праз вэранду і наткнуўся на Хонг-Дока – ён працягваў саладжава ўсьміхацца і нібыта пытаўся: ну, як вы знаходзіце мой pointe?

Ведаеце, зь мяне часта кпяць за мае жоўтыя кіпці, але ў тую хвіліну яны былі дарэчы: я схапіў жоўтага чорта за шыю і стаў трасьці, глыбока ўсаджваючы іх у скуру.

Потым я адпусьціў яго, і ён, бы мех, зваліўся на зямлю. Як вар'ят, я кінуўся ўніз зь лесьвіцы, і слугі пабеглі за мной. Я падбег да найбліжэйшага чоўна і адвязаў яго. Адзін з маіх індусаў скочыў туды і тут жа апынуўся па пояс у вадзе. Сярэдняя дошка была вынутая. Тое ж, як высьветлілася, было і з усім астатнімі чоўнамі. Я крыкнуў слугам, каб яны рыхтавалі вялікую джонку, аднак і ў ёй былі вялікія прабоіны, і не было ніякай магчымасьці ад'ехаць на ёй ад берага.

– Гэта зрабілі слугі Хонг-Дока, – сказаў мне мой аканом. – Я бачыў, як яны хадзілі тут па беразе.

Мы зноў выскачылі на бераг. Я загадаў выцягнуць на сушу адзін з чоўнаў і як мага

хутчэй пазбавіцца ад прабоін. Людзі кінуліся ў ваду і сталі цягнуць, надрываючыся ад цяжару агромністай лодкі. Я крычаў на іх і час ад часу паглядваў на раку.

Плыт праплываў зусім блізка ад берага, да яго было якіх-небудзь пятнаццаць мэтраў. Я выцягнуў руку, быццам жадаючы схапіць плыт рукамі...

Кінуцца ў ваду і паплыць, кажаце? Так, так, калі б гэта быў Рэйн або Эльба... Але Сьветлая Плынь – усё адбывалася ў чэрвені, у чэрвені, майце гэта на ўвазе. У гэты час у рацэ кішэлі кракадзілы, асабліва перад заходам сонца. Гэтыя брыдкія тварыны плавалі вакол плыта, і я нават бачыў, як адзін зь іх паклаў лапы на дошкі, нібы абнюхваючы сваёё чорнай пысаю целы на іх. Кракадзілы адчулі здабычу і суправаджалі плыт уніз па цячэньні.

І зноў кадэт стаў трэсьці сваёй сьветлавалосай галавой. Я крыкнуў яму, што мы яго ўратуем, ужо зусім хутка. Але здавалася, што праклятая рака ў змове з Хонг-Докам, яе глiністае цела нібы ўчапілася ў нашу джонку і не пускала яе. Я скочыў у ваду і стаў цягнуць разам са слугамі. Мы цягнулі з усяе моцы, але ссунулі яе хіба на адзін дзюйм. А сонца спускалася ўсё ніжэй, і маленькі плыі плыў усё далей уніз па цячэньні. Нарэшце аканом здагадаўся прывесьці коняў. Мы запрэглі іх у джонку і сталі з крыкамі лупцаваць. Джонка паддалася, апынулася ўрэшце на паверхні вады, але дно працякала, мае слугі сталі сьпехам прыбіваць новыя дошкі. Калі мы адчалілі, было ўжо зусім цёмна.

Я сеў за стырно, шасьцёра індусаў налеглі на вёслы. Трое стаялі на каленях і вычэрпвалі ваду. Хутка нашыя ногі па костачкі былі ў вадзе, мне давялося здымаць зь вёслаў новых і новых людзей, каб пасьпяваць вычэрпваць ваду. Мы пасоўваліся наперад бясконца марудна.

Мы мелі з сабой вялікія смаляныя паходні, мы аглядвалі раку і шукалі плыт. Але нічога не знайшлі. Некалькі разоў нам здавалася, што мы бачым іх, але гэта былі ўсяго толькі бервяно або алігатар. Некалькі гадзін пошукаў, і ўсё безвынікова. Нарэшце я прычаліў да Эдгаргафэну і падняў трывогу. Камэндант выслаў на раку дзьве джонкі і пяць чоўнаў. Пошукі працягваліся яшчэ тры дні, але ўсё было марна! Мы даслалі тэлеграмы на ўсе нашыя станцыі. Нічога! Ніхто больш ня бачыў беднага марскога кадэта.

Мае меркаваньні такія. Відаць, плыт зачапіўся дзе-небудзь за бераг і спыніўся. Ці яго нанесела плыняй ракі на вялікае бервяно, і ён разьбіўся. Так ці інакш, кракадзілы атрымалі сваю здабычу.

Стары асушыў келіх і працягнуў яго індусу. І зноў нагбом выпіў. Потым марудна правёў сваімі кіпцюрамі па сівой барадзе.

– Так, – сказаў ён. – Вось такая гісторыя. Калі мы вярнуліся ў маё бунгала, Хонг-Дока там, вядома ж, не было, зь ім зьніклі і яго слугі. Потым было расьсьледваньне, але яно, вядома ж, ня дала нічога. Хонг-Док уцёк. І я доўга ня чуў нічога пра яго, пакуль не атрымаў раптам гэты куфэрак. Нехта, нейкі кітайскі купец, прынес яго сюды, пакуль мяне не было. Я загадаў знайсьці яго, але той зьнік. Вось, вазьміце гэты куфэрак, зірніце на тыя маркі, якія вы яшчэ ня бачылі.

Ён прысунуў мне пэрлямутравыя пласьцінкі:

– Вось тут карцінка, як Хонг-Дока нясуць да мяне ў насілках. Вось тут мы зь ім на вэрандзе, вось тут я хапаю яго за горла. На гэтых намялявана, як мы спрабуем ссунуць джонку, на гэтых – як шукаем уначы плыт. На гэтай – укрыжаваньне марскога кадэта і От-Шэн, а тут ім зашываюць вусны. Вось гэта – уцёкі Хонг-Дока, а тут мая рука з жоўтымі кіпцюрамі, там на другім баку шыя з шнарамі.

Эдгар Відэргольд зноў запаліў сваю люльку:

– А цяпер бярыце ваш куфэрак, – сказаў ён, – Няхай гэтыя маркі прынясуць вам удачу за покерным сталом, крыві на іх досыць.

І гэтая гісторыя была праўдай.

*У Атлянтыцы, на борце "Караля Вільгельма II", сакавік 1908*

***Пераклаў зь нямецкай Альгерд Бахарэвіч***
***Пераклад паводле выданьня: Hanns Heinz Ewers. "Die Besessenen. Selltsame Geschichten". Sieben Stäbe-Verlags- und Druckereigesellschaft M.B.H. Berlin, 1928***

## СЕВЕРНЫЙ ВЕТЕР

"Северный ветер. Опять этот ледяной бездушный ветер!" – подумал Василий, шурша октябрьской листвой.

Хотя если смотреть фактам в лицо, то он жил вовсе не на севере, а в центре Европы. Да и не жил он вовсе. Разве можно было назвать это жизнью? С работы он уволился, денег не было, друзья оставили, даже Фло больше не звонила. Теперь только и оставалось, что продираться сквозь октябрь и северный ветер. Такое существование удовлетворяло многих в его городе. Не зря же его называли городом неудачников. Но Василий не мог смириться с таким состоянием дел.

Однако же смирился. Смирился, как и все неудачники, окружающие его. Все смирились. Все кроме Фло. Милая девочка с голубыми глазами. Немного наивная, но нежная и искренняя. Романтичная натура Фло. Или, как она себя назвала – Фло де Лиз.

– Дерьмо! – остановился Василий. Под очередной кучкой листьев, которыми он шуршал, лежала кучка дерьма, в которой он извазюкал свои единственные осенние ботинки.

"Ну и хуй с ними", – подумал Василий. Он снял ботинки, оставшись в одних серых штопаных носках, как следует размахнулся и швырнул ботинки подальше, в кучу осенней листвы, заботливо собранной дворником в одном месте. То же самое он проделал со штанами, курткой, рубашкой и уже раздумывал, не поступить ли так же с трусами – единственной вещью, которая согревала его в этот холодный осенний день.

Трусы все же оставил, не хватало еще заболеть на этом промозглом северном ветру. Покрывшийся гусиной кожей, Василий зашагал на остановку. Там он лёг на скамейку, свернулся калачиком и умер.

Однако пролежал недолго, почти мгновенно воскрес и продолжил свой путь. Но ушел он недалеко, потому что сразу же снова умер. "Навсегда", – подумал было Василий, но как это часто бывает, обманулся. И снова воскрес.

Прохожие недоуменно наблюдали за этой картиной, кутаясь в шарфы и хмуря брови. И только Фло шла вслед за ним. Она подобрала его одежду, ботинки опустила в чистый целлофановый пакет и плыла следом, загадочно улыбаясь. Через несколько десятков шагов она подобрала в очередной раз умершего Василия и аккуратно положила его в пакет с ботинками.

И тут Василию стало так хорошо! Так хорошо! Что больше Василию не надо было ни умирать, ни воскресать. Так он и остался. В пакете. Который мирно раскачивался в руках у Фло.

## В ЧЕТЫРЕ РУКИ

Дурацкая клавиша. Постоянно заедала. Песня звучала неполноценно. Но его мозг постоянно допевал, доигрывал эту дурацкую ноту, эту дурацкую клавишу. А он хотел именно этой неполноценности. Именно этой дурацкой тишины и паузы в настолько идеальной и чистой мелодии.

Игорь несколько раз ударил по клавише, ударил сильно, будто пытался вбить ее в клавиатуру, но это не помогло. Проклятая клавиша. Тем временем мелодия доиграла до конца и стоило задуматься над тем, что делать дальше этим вечером. Теплым августовским вечером, когда не хочется сидеть дома, а хочется приключений.

А ведь раньше для него приключением было уже сходить в магазин и попытаться купить виски. Раньше он так организовывал себе праздник: просто шёл и делал то, что в принципе для него было невозможно. Ведь в 10 лет ещё никому не продавали виски – и у него всегда уточняли: “Мальчик, ты ничего не перепутал? Может, ириски?”. “Пиписки!“ – недовольно бормотал Игорь и выходил из магазина, чтоб найти алкоголика, который согласился бы купить ему виски.

Теперь он уже мог покупать себе виски самостоятельно, но это его не радовало.

В дверь позвонили. Игорь нехотя пошел открывать. На пороге стоял именно тот алкоголик.

– Игорь, сыграй мне что-нибудь, – сказал знакомый алкоголик.

– Что-что? – переспросил Игорь.

– Сыграй мне что-нибудь, – повторил алкоголик.

– У меня сломалось пианино, – ответил Игорь.

– Но ведь внутри у тебя ничего не сломалось, – уверенно произнёс алкоголик.

Игорь задумался.

– Сегодня пуст, – сказал он. – Внутри у меня ничего нет, пустота. Вряд ли вы поймете.

– Очень хорошо тебя понимаю, – сказал алкоголик. – Мы все пусты уже давно.

– Хотите виски? – спросил Игорь.

– Нет. Сегодня только водку. Только она может заполнить меня. Она настоящая, понимаешь?

– Приходите завтра после обеда. Мастер обещал прийти и починить пианино. Не расстраивайтесь, хорошо?

Но хорошо быть не могло в принципе. А ведь принцип – это то слово, над которым Игорь думал весь прошлый год. Иметь принципы – значит иметь что-то от королевского рода, от принца. Или нет, это быть при националистах. А, может, может... Мысли о принципе – о том, что это такое на самом деле – распирали его уже, кажется, всю жизнь... Жизнь? Жизнь...

– Пусть будет так, – сказал Игорь. – Заходи.

Игорь и алкоголик играли на расстроенном пианино, и клавиша не западала, и песня звучала полноценно.

# ШТОРА

Штора колошматила по окну. Окно было не закрыто, что позволяло шторе колошматить. Я подошел поближе к шторе и закрыл окно. Штора уже почти не колошматила. Честно говоря, я оказался к этому не готов. Мне казалось, штора не должна меня послушаться, с чего бы ей вдруг, но я закрыл окно, и она успокоилась.

Вот так и вся моя жизнь. Ну, то есть, я не могу предсказать жизнь. Я думаю одно, а выходит всегда по-другому. Вот я сказал "по-другому" и сразу вспомнил отрочество. Вообще странное слово "отрочество". И не детство, и не юность, и не молодость. Где-то между первым и вторым. Не ребенок, не юноша, не молодой человек, а отрок. Сейчас так уже никто не говорит, это слово вроде архаизма, но все мы были отроками. Я так точно. И в отрочестве я переживал жизнь гораздо острее, чем теперь. Со мною происходили интересные вещи: я переживал прекрасные чувства, любил одну девочку, ходил в школу и... Кстати, девочка была моей одноклассницей. Мне кажется, что у всех так было в отрочестве. А теперь отрочество закончилось, и началась "настоящая жизнь". Эх! Оказалось, что жизнь была только в отрочестве. И вот я закрыл окно, и штора не колошматит.

Зазвонил мобильник. Зазвонил очень некстати. Я был погружен в свои мысли, и мне очень не хотелось кого-либо слышать, но я взглянул на экран и снял трубку.

– Привет.

– Ну здравствуй, – выдавил я.

– Как жизнь?

– Да ничего, сижу тут вспоминаю.

– Отрочество?

– Как ты догадалась?

– Это несложно, ведь я тебя чувствую, ты забыл?

О нет, я не забыл, она всегда меня чувствовала, знала, о чем я думаю, в каком я настроении. Она не была моей сестрой, моим близнецом, моей подругой, любовницей, она была лишь голосом в телефонной трубке, изредка набирала мой номер, и я каждый раз сходил с ума. А началось все с того, что она просто однажды ошиблась номером. Вместо кого-то, кого я не знаю, она позвонила мне.

И был точно такой же диалог. Я могу его еще раз воспроизвести, но, думаю, это будет лишним. Она сказала: "Привет". Я выдавил: "Здравствуй". С тех пор мы всегда так и разговаривали. Я знал, что должен был сказать дальше и сказал. Но все вышло, как со шторой: последствия оказались непредсказуемы.

– Я не мог забыть то, о чем никогда не помнил.

– Ты пьян?

Она попала в самую точку. Впервые, когда она звонила мне, я был пьян. Это не вызывало сомнений, иначе бы я никогда не обратил внимания на какую-то штору, колошматила она там себе или колыхалась. Да и с чего бы мне вдруг, скажите, вспоминать отрочество? Нееет, бутылка вина изменила меня, нарушила привычное начало нашей беседы.

– Я не пью, – ответил я.

Она крикнула в трубку: "Ура!". И сказала, что я как раз тот человек, который нужен ей сегодня вечером. Она, видите ли, знала, что ничего случайного не бывает и тот давний звонок, оказывается, должен был "разрешиться" сегодня.

Через полчаса я стоял на нулевом километре города Минска и ждал её. Будто пламя свечи, я колыхался под порывами теплого, но сильного майского ветра. Из кармана выглядывало горлышко бутылки. Я помнил, что она обрадовалось тому, что я не пью, но ничего с собой поделать не мог. Мне казалось, что вино может прекрасно завершить этот загадочный вечер. Шатаясь над точкой "ноль", я вглядывался в проходящих мимо девушек. Любая из них могла оказаться моей таинственной незнакомкой, которая однажды просто ошиблась номером.

Я стоял так долго, что в голову сама собой пришла мысль о шторе. Однако я признал её несвоевременной и подумал о бутылке. К тому же, ветер начал свежеть, и мне нужно

было согреться. Согревался я от горлышка торчащей из кармана бутылки. Через час я впервые увидел ЕЁ. И тогда же мне впервые пришлось оправдываться за то, что я пьян.

– Я не соврал.

– …

– Когда ты звонила, я не был пьян.

– …

– Тебе кажется.

– …

– Ну какая в конце концов разница?

Она смотрела на меня презрительно.

– Я думала, ты другой.

Она думала. А каким я мог быть? Моя жизнь закончилась еще в отрочестве; еще тогда, когда я любил ту девочку – свою одноклассницу. А теперь у меня в комнате по окну стучит штора, и все непредсказуемо, как и прежде, только уже ничего не движется… И зачем это было? Зачем были ее звонки, которых я ждал?

– Что ты хочешь? – спросил я.

– У тебя на глазах шоры! – кричала она. – Почему ты все портишь?

– Шторы? – переспросил я.

Она развернулась и ушла прочь. И больше никогда не звонила. Как и моя одноклассница в отрочестве.

Штора колошматила по окну.

## ПЕТЕРБУРГ

Я еду в Петербург, город, которого уже нет. Нет, не правда, Петербург, конечно же, существует и никуда не исчезал, но Петербург, который был семь лет назад – его уже нет – ничего не осталось, совсем ничего, ни людей, ни машин, ни воздуха, ни кусочка от стен домов, ни тебя. Но я еду в Петербург, чтобы встретить тебя, которой уже нет, которая в том 2004 году совсем ничего не знала обо мне. Мне кажется, что тогда ты чувствовала себя очень юной и сильной, тебе казалось, что у тебя уйма времени. Тебе хотелось полюбить кого-нибудь сильно-сильно, но в принципе спешить было некуда и можно было подождать. У тебя были замечательные друзья и подруги – им можно было смешно сжимать щёки, задорно подталкивать их в бок во время фотографирования, пить с ними пиво и говорить всякие глупости. Хорошее было время в 2004 году. Но для меня это время – большой белый лист, который трудно чем-либо заполнить. Можно нарисовать улицы, запустить по ним автобусы и трамваи, зажечь фонари вечером и поднять мосты, как и положено в настоящем Петербурге. Но всё же никто с полной уверенностью не сможет сказать, что так и было семь лет назад. Скорее всего, так не было, и сейчас уже точно нет.

Я еду и говорю слова, которые не говорил семь лет назад. Я делаю то, что не делал. И я не могу найти тебя в этом городе, которого уже нет, потому что не искал тебя семь лет назад. Я просто еду туда по белому снегу, по белому листу. Я приезжаю в Петербург и спускаюсь в метро.

В этом метро нет выхода. В него проникаешь и сразу забываешь, как ты сюда попал. Бесконечный поток людей уносит тебя вперёд по вытянутым, изгибающимся туннелям с тусклым светом. Иногда туннели плавно поворачивают налево, иногда направо. Потом они подводят к ступеням, по которым ты забираешься или спускаешься. Ступени всякий раз новой величины, потом эскалаторы, уносящие тебя глубоко вниз или везущие долгое время вверх. Затем ты, наконец, вываливаешься на платформу, как и остальные, кто добрался сюда, а не потерялся по дороге. Ты ждёшь некоторое время, пока ждёшь, других становится больше. Наконец поезд приезжает и забирает тебя и других, и начинается движение по горизонтали. Приехав, ты выходишь на другой станции, но такое чувство, что эта станция ничем не отличается от предыдущей. И снова всё повторяется: туннели, ступени, эскалаторы, платформы. Выхода из этого лабиринта нет.

Иногда вместо платформы выходишь на кажущуюся обычной улицу со старыми домами, пустившими корни глубоко в землю, мокрыми домами от идущего снега с дождём и от прошлых больших наводнений, отметки от которых остались на их боках. Эта улица очень похожа на настоящую, ту, которая на поверхности, до такой степени, что кажется, что ты уже выбрался из бесконечного лабиринта метро. Но здесь никогда не бывает настоящего дневного света. Впрочем, если не задумываться об искусственности, то можно легко представить, что идёшь по настоящей петербургской улице, как светят фонари, как снежинки, особенно хорошо видимые возле ламп, кружатся-кружатся, как навстречу идут прохожие, незнакомые прохожие. Ты понимаешь, что они даже более искусственные, чем искусственный свет. Они пропадают прежде, чем успевают задержаться в памяти. Значит, их не существует. Манекены в витринах выглядят более реальными, чем они, так как манекены никуда не уходят. Получается, что во всём мире есть некоторое количество существующих людей, которых ты знаешь и помнишь, они существуют, а все остальные нет. Совсем не существуют. И тогда мир из огромного, становится маленьким.

Я иду по улице и вдруг улавливаю знакомую тревогу: молодёжь бунтует против власти стариков. На одной стороне улицы – как будто революция, на другой стороне улицы – как будто ничего не происходит: люди в витринах рассматривают меню. Я останавливаюсь и дышу воздухом Петербурга. Раньше ты сказала: привези мне воздух Петербурга в кармане. Сейчас я немного чувствую его, он – тревожный и чуть-чуть красный. На той стороне улицы дышат громко и сильно, и на той же стороне улицы не дают дышать. Там, где стою я, люди повернули головы в одном направлении: всё-таки революция. Но через десять минут их внимание отвлекает что-то ещё и они, влекомые растущими потребностя-

ми, спускаются по ступеням. Я поднимаюсь по мокрым ступеням – в этом городе воздух всегда влажный, и камни – мокрые, они, как и не существующие люди состоят на 75% из воды. Потом я перехожу мост, который разводят в 1:25, но так только до 1 декабря, а дальше как им вздумается, ведь все корабли поспешно покинули замерзающий и несуществующий город. Я иду по мосту. Сейчас воздух Петербурга белый, холодный, зимний воздух с льдинками. Ветер треплет меня и окружающий пейзаж. Он дрожит и извивается, и я совсем не думаю, как всё это может помещаться в том подземном бесконечном лабиринте, в который я зашёл и откуда не смог выйти. Я слишком плохо знаю физику и логику для этого. Мне нужно ещё 23 минуты простоять на ветру. И я становлюсь его частью и дую на тех случайных, которые выбирают это место для фотографирования у Ростральной колонны, которая ближе к Дворцовому мосту и к луне. Я делаю шаги по извивающейся тёмной и синей Неве и по домам – светящейся полоске между Невой и небом. Я жду моего друга, раньше мы учились вместе в одном классе. Ира живёт в Петербурге и пока она – единственный существующий человек в этом городе. Она переходит дорогу и обнимает меня, как много лет назад, когда мы последний раз виделись.

Затем мы идём по туннелям, ступеням, эскалаторам и разговариваем. Я спрашиваю её: какой он, воздух Петербурга, ведь ты дышишь им уже четыре года и, наверное, пропиталась им насквозь? Она отвечает, что он – грязный, потому что здесь много машин и ещё больше людей, которые безостановочно курят в кафе и барах, и этот дым просачивается сквозь окна и двери и заполняет весь город. Она говорит: но если ты не можешь переносить сигаретный дым, мы пойдём в какое-нибудь другое место.

– Но если это и есть воздух Петербурга, я хочу им дышать.

Мы спускаемся по ступеням в подвальный мексиканский бар со смешным названием, но с питерской атмосферой. Здесь питерский воздух в концентрированном виде. Сигареты тлеют алыми огоньками сразу во многих руках. Люди на гитарах вживую исполняют "Bésame Mucho". И я понимаю, что им не хватает больших искусственных мексиканских шляп, но их музыка – настоящая и необычная для искусственного города.

Я вижу Андрея, мужа Иры, и их друзей. Они – революционеры, сегодня они – революционеры. Они только что вернулись с той стороны улицы. Они ещё взбудораженные, радостные, они выдыхают петербургский воздух, и я его чувствую и слышу. Одна девушка по имени Алла говорит, что на революцию неудобно ходить в сапогах на высоком каблуке. Я думаю, что и в 19 веке велись подобные разговоры, и как будто присутствую на пьесе о тех временах. Андрей рассказывает о том, что сегодня они прорвали кольцо мешавших дышать.

– Скоты, – говорит он. И все соглашаются.

На его пальце поблёскивает кольцо, и я думаю: они – хорошая пара, Андрей и Ира, а этот город отныне их. Петербург – это они. Теперь я буду думать так.

Тёмное пиво исчезает из стеклянных кружек и становится ещё темнее. Алла говорит, что ей сегодня ещё нужно написать сказку для детей 3-6 лет с повторяющимся сюжетом. Она пытается устроиться на работу в центр работы с детьми. Уже близко к полночи. И друзья начинают потихоньку расходиться, одевают пальто и куртки, и по одному ныряют в туннель. Они целуют моих друзей, оставляют на столе деньги, махают мне рукой, и выход закрывается. Алла решает написать сказку про революцию и задумывается над тем, как объяснить детям, что такое революция. Я смотрю на меню, на красной обложке нарисована женщина, она беззвучно поёт. Люди с гитарами тоже уходят. И мы тоже уходим. Я иду с Петербургом по Петербургу. И этот воздух сейчас рассеянный и пустой, потому что кроме нас на этих улицах, сходящихся к мосту, никого нет. Мы можем идти не оглядываясь по красному мосту на красный свет. И мы хотим успеть, пока не подняли мост. Побывать в Петербурге и не увидеть, как разводят мосты. О!

Ты пишешь мне, что, наверное, я хорошо провожу время без тебя. Да сейчас мне действительно хорошо. Но я не чувствую, что тебя нет, ты тоже идёшь вместе с нами, хотя тебя могу видеть только я.

Люди в одинаковых куртках объясняют нам, что сегодня мост не будут разводить и вообще он закрыт на ремонт. Мы верим им и сокрушаемся: ведь это последняя моя ночь

в Петербурге. Мы идём до другого моста, и я думаю, что более реально: мост, дворец, Исаакиевский собор, которые я вижу сейчас, тот Дворцовый мост, который я не увижу, как его разводят или их фотографии и картинки, которые миллионами уже сделаны ранее. Зачем мне фотографировать и смотреть собственными глазами на них снова, если их образы уже сохранены в миллионых вариантах, а те образы, которые я могу видеть сейчас, тут же исчезают. Например, Исаакиевский собор, который был 5 секунд назад, уже не существует. А Исаакиевский, который передо мной, тоже мгновенно перестаёт существовать.

Вдруг мы видим, что мост всё же разводят. Мы опять сокрушаемся, и я делаю фото, точно такое же, как миллионы других людей до меня.

Вечером, когда я снимаю одежду, я чувствую, что она пропахла насквозь сигаретным дымом. Я думаю, что пропитался воздухом Петербурга.

Утром ты приходишь из лета 2004 года в мою комнату, берёшь меня за руку своей тёплой рукой и выводишь из метро. Я выворачиваю карманы и отдаю тебе воздух.

# ТРЫ ГАДЗІНЫ НА НЯЧЫЙНАЙ ЗЯМЛІ

У цягніку з Берліну да Санкт-Пецярбургу, недзе на паўдарозе. Голас беларускай начальніцы станцыі абуджае пасажыраў. Яна выходзіць і мусіць рушыць у незнаёмы горад. Ідзе такі цудоўны дождж…

Я ніколі не была ў Воршы. Але гэта не зусім праўда – я была ў Воршы, я ехала праз яе на цягніку, які мусіў стаяць там тры гадзіны. Я была ў Воршы цягам трох гадзінаў? У Воршы пачалася мая вандроўка.

Узімку я паехала цягніком з Берліну ў Санкт-Пецярбург, дарога займае паўтара дні. З Берліну я выехала паабедзе, а трэцяй гадзіне. Я была адна ў купэ, нумар купэ быў зусім не той, што ў маім квітку. Чаму? Праваднік і правадніца, абое ў пакамечанай форме, стомленыя і сур'ёзныя, не разумелі, навошта мне разбірацца з гэтым. Яны нічога не патлумачылі, я непакоілася пэўны час, а потым забылася на тое. Яны падганялі мяне па-руску – я не ведаю гэтай мовы – потым забралі мае пашпарт і квіток і пакінулі мяне адну. Купэ было вузкім, сядзенне, якое раскладалася ў ложак, падушка, коўдра, на якой быў малюнак з бледна-блакітнымі рыбамі. Столік ля вакна, на сцяне кручок для паліто. Праз пыльную шыбу берлінскі вакзал выглядаў зусім інакш, сумнеўным і чужым. Я села ў цягнік, які ператвараў радзіму ў чужыну нават яшчэ да ад'езду.

Пасажыраў амаль не было, дзверы іншых купэ зачыненыя, у калідоры супрацоўнік нямецкай чыгункі, з якім я пагутарыла пра дарогу і памежны кантроль. Кожнае нямецкае слова ў гэтай размове здалося мне вельмі каштоўным. Супрацоўнік казаў: "Усё будзе, усё будзе". Ён сышоў з цягніка ў Франкфурце-на-Одэры, амаль таемна, нібы ўцякаў. Мы ехалі цераз раку ў Польшчы. У мяне з сабой было зашмат ежы, хлеб і сыр, абрыкосы і памідоры, шакалад і печыва, бутэлька віна. Тут была гарачая вада з самавару ў серабрыстых падшклянках, правадніца драмала ў сваім купэ. Яна завяла мяне ў маленькую кухню, дазволіла самастойна наліваць сабе кіпень, для мяне гэта быў гонар. За вокнамі цемра, станцыя Жэпін, станцыя Познань. У купэ было вельмі цёпла. Я выпіла крыху віна, мне здавалася, што нельга піць шмат віна. Потым расклала свой ложак, легла, пачытала Канстанціна Паўстоўскага, паспрабавала заснуць і кінула гэта ў Варшаве. Стала чытаць далей да Брэста, у Брэсце прыйшоў пашпартны кантроль, потым памежнікі, якія перавярнулі мой чамадан і склалі мой ложак, не расклаўшы потым. Я чытала "Дажджлівае світанне", пакуль мянялі колы і цягнік вісеў у паветры, працоўныя абстуквалі восі, жаўтаватае святло з цэха трапляла паміж захінутымі фіранкамі.

Сёння я ўзгадваю ўсё: асобныя сказы з апавядання Паўстоўскага, акустыку, стому, бездапаможную пасіўнасць падчас незразумелых падзеяў на мяжы. Я ледзь стрымліваюся, каб не сказаць, што я шчаслівая. Амаль схаваная. Я так лічу, але ж мусіць быць нейкае тлумачэнне, інакш чаго мне нават вяртацца да тых гадзінаў. Праз пэўны час мы рушылі далей. Калі знадворку пасвятлела, за вакном была Беларусь. Бярэзнікі, драўляныя хаткі, пафарбаваныя ў чырвоны і блакітны колеры, дым з комінаў, бярэзнікі. Там нейкі конь, зусім адзін. Тут нейкая бабулька з кошыкам на спіне. Сабакі за плотам, дзеці. Мы ехалі зусім павольна. Праваднік і правадніца знялі форму, цяпер яны былі апранутыя ў спартовыя касцюмы, ён чытаў, яна глядзела ў вакно, потым паказала мне на пальцах, што ездзіць па тры разы ў Берлін і назад, толькі тады сканчаецца змена. Я прыбрала ложак, выпіла чорнай гарбаты з цукрам, глядзела ў вакно, чытала, глядзела ў вакно, зноў легла і нарэшце заснула.

Калі я прачнулася, цягнік стаяў. Я спала моцна і прачыналася павольна, нібыта нешта мяне трымала, я штосьці сніла. Падчас абуджэння я чула голас начальніцы станцыі: "Ворша-Цэнтральная, Ворша-Цэнтральная". Ёсць такі выраз "прыйсці ў сябе", ён не азначае, што чалавек не можа сысці сам ад сябе, але азначае, што чалавек у сне можа згубіць сябе; я прыйшла ў сябе і з цяжкасцю зразумела, дзе я – у купэ цягніка ў Беларусі: Ворша, сотні кіламетраў ад дома. На чужыне, недзе тут. Калі я гэта нарэшце зразумела, стала цяжка дыхаць. Мне адразу захацелася ў пачатак вандроўкі, калі я толькі ўяляла яе. Я захацела ў тую ж хвіліну дадому.

І вось я прачнулася, мой сполах мінуў, я была тут. Глыбокі ўздых. Сэрца грукоча. Знадворку пустыя, мокрыя ад дажджу платформы, перон, будынак вакзалу з круглым гадзіннікам. Абедзенны час. Стаянка тры гадзіны. Я магу выйсці. Правадніца таксама выйшла з цягніка на платформу, паказала мне, дзе будзе цягнік праз тры гадзіны, на іншай платформе, не было іншых перонаў, не было нумароў платформаў. Правадніца паказала, на што мне арыентавацца. Трансфарматарная будка, светлафоры, сігналы. Яна паказала мне на гадзіннік, нібы папярэджваючы. Можа мне застацца? Не выходзіць з купэ? Ішоў такі цудоўны дождж. Было халодна. Я выйшла, прайшла праз платформу, нібы слізганула наўскось цераз платформы да перона, слізганула як па лёдзе.

Памяшканне вакзалу было вялікім, цёплым і чыстым. Я яшчэ ніколі ня бачыла такога чыстага вакзалу, як у Воршы. Я памяняла пяць еўра і атрымала за іх шмат маленькіх, пакамечаных беларускіх рублёў. Я набыла бутэльку вады, кавалак лімоннага пірага, села ў залі чакання разам з іншымі людзьмі і пачала, як і яны, глядзець на табло. На ім мільгалі кірылічныя літары, з'яўляліся і знікалі, іх суправаджалі ціхія званы. Увогуле на вакзале ў Воршы было ціха і спакойна, ніхто не спяшаўся, здавалася, што людзі яшчэ разважаюць – ехаць ці застацца. Нейкі падвешаны стан, я ўявіла, што вакзал у Воршы замёр паміж дзвюма рэальнасцямі, таму што я стамілася, ішоў дождж, я прыехала, незаўважна для сябе самой.

З гадзіну я сядзела ў залі чакання. Потым я абышла вакзал, і няспешна, у маім стане нават смела, пакінула будынак і выйшла ў горад. Выйшла недалёка – не так далёка, каб не бачыць вакзал. Я ўвесь час азіралася, нібыта вакзал мог проста знікнуць, а разам з ім мой цягнік, а з цягніком мой чамадан, пашпарт, кніга і сумка: я. Але я адышла на дастатковую адлегасць, каб зрабіць здымак – здымак Воршы, стракатыя драўляныя дамы, стрэхі з дошак, ускудлачаныя сады, голыя дрэвы і прыгожая маленькая царква. Над усім туман, дні праз два, пэўна, пойдзе снег.

Маім нерэальным, эгацэнтрычным уяўленням пра жыццё ў тых дамах я абавязаная Паўстоўскаму, ягоным ясным, простым сказам: "Трещат печи, пахнет яблоками, чисто вымытыми полами..." І вось я стаяла і хацела таго жыцця ў адным лістападаўскім аршанскім доміку, хоць і ведала, што паміж "застацца" і "ехаць" я ўжо абрала "ехаць". Я вярнулася да вакзалу, наўскось праз платформы да цягніка, правадніца адчыніла мне дзверы ў вагон, нібы дадому. У купэ былі мой чамадан, кніга і сумка. Я зняла мокрае ад дажджу паліто і павесіла на кручок на сцяне. Потым мы ад'ехалі, пакінулі за сабой Воршу, паехалі далей на Ўсход і наўпрост у ноч.

***Пераклала зь нямецкай Натальля Бойка***
***Пераклад паводле выданьня: Judith Hermann.***
***Drei Stunden im Niemandsland. DIE ZEIT (REISEN) 08/03/2012, S. 4-5***

## ДОХЛАЯ

Сваёй спадарожніцы, у цягніку, яна казала:

– У мяне апошнім часам столькі ўсялякіх перасоўваньняў. Ня ведаю нават, як і спыніцца. У мяне не настолькі шмат рэчаў, каб з-за іх хвалявацца. А раніцай будзе тое, што будзе, я ня ведаю, куды прыйдзе гэты экспрэс і чаго варта чакаць ад тых месцаў. Вы думаеце, я ненармальная?

– Не, чаму? Вы папросту яшчэ маладая і можаце сабе гэта дазволіць.

Дохлая паглядзела на жанчыну і не знайшла ў ёй асаблівай старэчасьці. Хіба так, крыху. Зрэшты, ёй да аднаго месца меркаваньне гэтай курачкі, у яе свае асабістыя пляны, і, можа, ня самыя горшыя. Дохлая працягвала:

– Я зʼехала зусім нечакана. Нават не пасьпела як сьлед згадзіцца. Усё апынулася неяк само сабой, узялося зь неадкуль. Я думала, мяне чакае гэты бясконцы лістапад і замерзлыя лужыны. А што з гэтага атрымалася, пакуль ня ведаю. У кватэры стала ўжо зусім халадно, рабяты нават неяк папрыціхлі. Заставацца там было – адзіны траўматызм без аніякіх бонусаў. І ўся гэтая, ведаеце, уся гэтая муць, што завецца хатнім асяродкам. Спадзяюся, вы мяне разумееце.

У той кватэры былі старыя шпалеры і праблемы з вадаправодам. Ня самы кепскі варыянт для гэтага раёну. Яны там былі падобныя да прусакоў, выжывалі разам зь імі. Сядзелі на старых паламаных крэслах і чакалі сьвітанку. Лямпу не запальвалі. На стале стаялі распачатыя пакункі гарбаты, ляжалі нажы і пустыя цыгарэтныя пачакі, бутэлькі з-пад вінаў дзялілі падваконьне разам з засохлымі кветкамі. Удзень фіранкі былі завешаныя. Вокны ніхто даўно ня мыў. Але жыцьцё было вясёлае. Насычанае рознымі эксцэсамі і здарэньнямі, драматычнае, нібы выпуск навінаў. Заўжды ведаеш, чаго ад яго чакаць. Чэпкія рукі сяброў і прага нечага новага, няўлоўнага на тле агульнай сузалежнасьці. Дзьверы ніколі не зачыняліся. Толькі ў экстраным выпадку, якога, здаецца, так і ня здарылася. Сярод ночы мог прыйсьці хто-небудзь, каго тысячу год ня бачыў, і нікога гэта не зьдзіўляла. На стале былі хлеб і попельніцы, стаяў кампутар і тысячы патрэбных прадметаў. Дохлая засынала, калі на вуліцы перазвоньваліся першыя трамваі, ці не засынала ўвогуле яшчэ доўга.

Пакуль яна ехала ў цягніку, усё гэтае аддалялася, нібыта раставала недзе ў далечыні, памяншалася ў памерах і рабілася зручным для рэакцый. Спачатку такія ўласьцівасьці зьдзівілі, а пазьней дзяўчына да іх папросту прызвычаілася. Пасьля яна перастане іх заўважаць, а цяпер крыху стомленая пустымі размовамі Дохлая засынала і бачыла сьненьні.

На раніцу яна стаяла з заплечнікам на пляжы. Стаяла доўга, але нешта нікога не магла знайсьці. Яна піла сок у рэстарацыі, пасьля зьела піцу. Паўпусты пляж зьдзіўляў яе, Дохлая ня ведала, што тут рабіць. Толькі пазьней, бліжэй да вечару ёй сустрэліся добрыя людзі і дзяўчына зноўку натрапіла на авантуру. Яна жыць бязь іх не магла. Шмат разоў казала сабе, ці ня час ужо спыніцца, можа варта падумаць, чым займацца далей. Насамрэч жа, вечна такое жыцьцё доўжыцца ня можа і трэба нешта прыдумаць сабе на будучыню. Збольшага гэта былі словы маці і розных сваячніц. Яны, відаць, больш хваляваліся. А Дохлая нават і ўявіць сабе не магла, як гэта жыць, як яны. Ня бачыла ў гэтым сэнсу. Навошта ўвогуле жыць, калі жыць так. Яна доўга запэўнівала сябе, што ўсё робіць слушна, і рэдка хто мог прымусіць яе засумнявацца. Толькі нешта стала накотваць апошнім часам. Нібыта само, бяз дай прычыны.

Наступную ноч яна прабавіла ў сваім стылі, з задавальненьнем. Было цікава, было па-іншаму. Новыя людзі выглядалі так, нібыта ніколі не сапсуюцца, нібы заўжды гатовыя быць актуальнымі. Прыгожыя будынкі з бліскучай кафлянай падлогай, прагулка на джыпе па начным навакольлі. Усё у тумане, усё так нібыта гэта была апошняя ноч у яе жыцьці. Ці хаця б апошняя ноч, якую дазволена прабавіць гэткім чынам. Што за лухта?! Дохлая сьмяялася сваім думкам і кампаньёнам, яна сьмяялася начным птушкам і наркотыкам. Яна запальвала цыгарэту і была ўжо гатовая распачаць сваю гісторыю, але рабяты хутка пераводзілі стрэлкі, і яна перадумвала так жа хутка. Калі сярод ночы кружэлка ў плэйлісьце скончалася і цішыня павісала шматзначнай паўзай, яна раптам падхоплівалася і пачынала

была крыху непакоіцца. Але мужчыны хутка вярталі ўсё ў належнае рэчышча і надавалі ночы працягу. Больш за ўсё на сьвеце Дохлая любіла выпадковыя кайфы. Нічога так яе ня цешыла. Неспадзяванкі падаваліся ёй цудам, і яна нават не спрабавала выводзіць з гэтага правілы. Нічога кшталту “Так мае быць”, ці “Гэта таму, што...” Гэта ўсё было не для яе. Ва ўсялякім разе цяпер.

На раніцу яна сядзела на тэрасе ў плеценым фатэлі. У яе руцэ была бутэлька піва, а крохкія пальцы спрабавалі ня выпусьціць цыгарэту. Сьвітанак займаўся недзе ў лісьце навакольных дрэваў, чуліся птушкі. Ёй раптам зрабілася так нечакана спакойна, што напачатку нават падалося, што гэта ў ёй нешта ўсё яшчэ працуе. Але не, усё скончылася, і піва ня самы кепскі варыянт для таго, каб зьняцца. Нейкая соннасьць пакрысе ўжо краналася ейных веек, але пакуль яшчэ ня так надзейна, каб паснуць.

– Ну што, прыгажуня, яшчэ змагаесься?

– Неяк так...

– Адкуль ты ўвогуле зьявілася? Нешта я ня памятаю цябе раней?

– Дык і не было раней. Мы толькі ўчора ўвечары пазнаёміліся. Я ўвогуле толькі прыехала.

– Ааа... І што ты думаеш пра ўсё гэта?

– Нічога цяпер ня думаю. Што тут думаць, зусім ня кепска. Толькі давай не задавай мне цяпер такіх пытаньняў, ня той час, ок?

– Ок.

Яны яшчэ некаторы час так сядзелі, а пасьля піва скончылася, і Дохлая выключылася.

На гэты раз дзяўчына прачнулася на ложку ва ўнутраным пакоі. Нічога зь ёй за гэты час ня здарылася, вокны былі зачыненыя, пад столььлю перамешваў паветра лянотны вентылятар. Яна не зьдзівілася, што апынулася тут, часам рэчам уласьціва зьмяняць сваё месца знаходжаньня. Прыслухалася, ці ёсьць у доме нехта яшчэ, але ніякіх сьведчаньняў не пачула. Напэўна, ужо пераваліла за поўдзень. Галава была не на месцы. Дзяўчына ўзьнялася і знайшла на кухні ваду, але насамрэч не знайшла нікога іншага. Куды ўсе падзеліся? Яна пайшла ў лазенку з намерам як сьлед прарэанімавацца і выйшла больш-менш задаволеная. Цяпер пры дзённым асьвятленьні гэты дом выглядаў інакш. Ён ужо ня быў такім апантаным тусоўшчыкам, папросту жыльлё і жыльлё. Напэўна рабяты ня доўга абіралі гэтае месца. Ва ўсялякім выпадку не падобна да таго, што яны абустройваліся, падбіралі прадметы інтэр’еру. Але што зь іх узяць, з рабятаў. Са сьценаў глядзелі ідэлічныя карціны, часам на біблейскую тэматыку. Відаць, гаспадары ўкладалі ў гэтыя сьцены ўсю сваю любоў, увесь свой зарад  добразычлівасьці і ветлівасьці. Зрэшты, яны ўсё адное мусілі б здагадвацца, чаго чакаць ад усіх гэтых ненармальных, што натоўпамі пруцца ў іхную правінцыю. Відаць, што так.

Дохлая разглядала карцінкі яшчэ нейкі час, пасьля паднялася на шырокі ганбец і расьцягнулася пад тэнтам на цыноўцы. Яна было стала думаць, што ёй рабіць далей, але неўзабаве зноўку зьбілася на ўспаміны. Прыгадала Біфі з усімі ягонымі характэрнымі прыгодамі і новымі ідэямі. Тады той стаяў пад пад’ездам, і толькі што зьмянілі код у дамафоне, і на вуліцы быў стабільны двузначны мінус. І ў Біфі адключылі тэлефон, ён ня мог патэлефанаваць ёй, а Дохлая ў той час сядзела там у пакоі пад вакном прыціснуўшыся да батарэі і думала, што зь яе ўжо дастаткова, што больш яна так ня можа, што даўно ўжо час сканчаць. Яна думала, што гэтая гульня робіцца небясьпечнай і яшчэ непакоілася за гэтага прыдурка, які мусіў ужо сто год, як вярнуцца. І ён быў настолькі ёй патрэбны разам з усімі сваімі схільнасьцямі, наколькі яна яго тады ненавідзела. Дзіўныя стасункі ў іх вымалёўваліся, стасункі двух зьвяратаў.

– Слухай, я, напэўна, там вечнасьць прастаяў! Магла б хоць у вакно паглядзець!

– Што?

– Кажу код на дамафоне зьмянілі, пад пад’ездам танчыў.

– Ты гэта пра што кажаш цяпер!

Біфі паглядзеў на яе і змаўчаў. Не было сэнсу працягваць гэты драм-гурток, зноўку нешта было ня так. Яна ўсё так жа сядзела пад вакном, і з-за яркага белага сьвятла звон-

ку яе твар хаваўся ў цень. Абрысы гублялі пэўнасьць. Увогуле Біфі падабаліся тыя дні, ён, канешне, зразумеў гэта значна пазьней, калі яны скончыліся. Ягоны пратэст з той нагоды так і застаўся непачутым. Тады ён амаль дамовіўся, але да канца давесьці справу ўсё ж не атрымалася, несправацавалі "адказныя людзі", давядзецца зноўку бавіцца нечым няпэўным. Але якая розьніца, хіба іх калі нешта пужала? Ні ў якім разе.

– Ну, як там прайшло? – часам Дохлая казала нібыта праз сон. Голас плаваў, і можна было падумаць, што дзяўчына ня сочыць за словамі. Зманлівае ўражаньне.

– Ну пакуль прадынамілі крыху. Але зрухі ўжо прайшлі. Яшчэ трошачкі, і ўсё пераменіцца.

– Я думала ты ня верыш у перамены.

– Канешне, ня веру, што я дурань?

– Ня ведаю... Што рабіць будзем?

– Можна схадзіць да каго ў госьці. Ці пагуляць.

– Ясна. Як заўжды. Ну што, ва ўсялякім разе ў нас ёсьць стабільнасьць.

– Калі ты раптам супакоішся, скажы, бо ў мяне ёсьць чым цябе прастымуляваць.

– Ідзі, куды ішоў.

– Добра. Калі што, ты ведаеш, дзе мяне знайсьці.

Пасьля ў лазенцы лілася вада, пасьля кватэра зноўку правальвалася ў цішыню. Толькі цяпер яна падзялялася на два. Дохлая ўвесь час знаходзіла яго ў кухні, на падлозе. Ён чытаў кніжку і шмат паліў. Часам ім здавалася, што не зашкодзіць і з'есьці чаго. Тады яны елі, што было ў доме, нагадвалі сабе, што падчас вечаровага шпацыру варта заскочыць у начнік і акрамя надзённага ўзяць там яшчэ й пачак макаронаў. Гастранамічнае пытаньне цікавіла іх у апошнюю чаргу. Усё больш розныя тэарэтызаваньні і пошукі мецэнатаў. Яны не баяліся сьцьвярджаць так, як хацелі, і дзіўна, што ніхто так і не ўспрыняў іх усур'ёз. Па праўдзе, за што гэта? Біфі цярпець ня мог паважных дзядзькоў зь вялікімі азадкамі і няскладнымі тварамі. Ён ня верыў у іх, а яны па-ўзаемнасьці ня верылі ані ў яго, ані ва ўсіх тых, каму ў сваім пантэоне Біфі надаваў першаснае значэньне. Старыя адно пасьмейваліся і выяўлялі хітражопую лаяльнасьць, ад якой сур'ёзнага маладога чалавека элементарна цягнула на ваніты.

А ў той вечар яны ўсё ж такі выбраліся на шпацыр. І по фігу, што надвор'е не спрыяла, яны мала зважалі на ўсялякія глупствы, ды й не было ў іх ніякіх іншых шанцаў. Яны ішлі на сьвятло старой электрычнай лямпачкі ў сяброўскім асяродку і мелі звычку не падымаць лішняга разу вочы.

– Думаеш, яны дома?

– А дзе ім яшчэ быць?

– Ну ня ведаю, можа, варта было спачатку патэлефанаваць.

– У мяне не працуе. Якая розьніца! Хіба калісьці яны былі нам ня радыя? Ці вы ўжо нешта там муціце?

– Ты гэта пра што?

– Так, не пра што. Ага. Усё нармалёва.

– Ну дзе яны там, паснулі ці што? Халадно ж.

– Угу, тэлек зыраць.

І там ім адчынілі. Яны таўкліся ў калідоры, а пасьля сядзелі на пацертым дыване і пілі каву. Амаль усе рэчы ў пакоі ляжалі на падлозе. Яны былі цалкам ручныя і неаднойчы правераныя. Яны былі непадзельнымі з жыхарамі і нават з самімі гасьцямі. Агульны лёс вязаў надзейна, можа, гэта так хвалявала Дохлую. Хутчэй за ўсё. Але ж Біфі ёй да канца разгадаць так і не атрымлівалася. Ён быў настойлівы ў сваёй вылюдкавай трансгрэсіі, і нават калі ўсё між імі не выбухала і ня білася, нават тады нешта хавалася там глыбока, нешта ня большае за маленькае насеньне. На такія азначэньні хлопец толькі сьмяяўся. Ён казаў, што яна канчаткова паехала па гэтай тэме, і што лепей не запускаць, каб пасьля не шкадаваць. Дохлая ведала, што ўсё зусім ня так, што Біфі праганяў, калі весяліў яе гэткімі экспрэсіямі. Насамрэч, яго няўпэўненасьць выкрывалася пры першым жа непажаданым кантакце. Часам і ён баяўся людзей.

– Ну дык што? Мы едзем куды?

– Усё! Едзем! Зараз хуценька зьбіраемся і едзем. Дзе мае штаны?

– Карацей, зразумела. Нам трэба нешта мяняць у распарадку. Мы заўжды правісаем. Тыя хлопцы тэлефанавалі нам ужо з гадзіну таму, а ты ўсё яшчэ ня можаш знайсьці нагавіцы!

– Ты ж бачыш, я шукаю. Увогуле, што гэта з табой? Скажы, куды мы не пасьпелі на гэтым тыдні?

– На якім, на хрэн, на гэтым тыдні?! Мы правісаем заўжды. Паглядзі на сябе! Колькі ў цябе займае набраць нумар?

– Ды не хачу я яго набіраць! У мяне траўматызм па тым кірунку! Я так больш не магу!

– Ты ўвогуле калі-небудзь думаеш?

– Я на працы дзесяць год сядзеў і думаў, больш мне думаць ня хочацца, май гэта на ўвазе. Цяпер я зусім іншы чалавек і магу сам вырашаць, што рабіць і як жыць!

– Ну ладна ўжо, годзе! Слова яму ня скажаш... Вунь, дарэчы, твае штаны.

– О, божа, вы яшчэ тут! Вы яшчэ жывыя! Гэта ты іх схаваў, скажы шчыра!

– Апранай давай і паехалі! Часу няма!

– Час, мой даражэнькі, заўжды ёсьць. Шкада, але так ці інакш даводзіцца мірыцца.

– Не грузі!

Дохлая нармальна ўжывалася ў калектыў. Увесь гэты час яна сядзела на канапе і пацягвала колд дрынк. Усё, як дома. Толькі персанажы зьмяніліся. Пакуль не прыцерліся, трэба паменей паліцца, а то яшчэ палезуць касякі. Праўда, з чаго б? Вечар надышоў непрыкметна, і калі яна прачнулася, хлопчыкі ўжо ва ўсю сноўдаліся па гаўбцы. Сонца заходзіла, і дом набываў новыя якасьці. У нечым гэта былі прыкметы жыцьця. Жыхары зноўку вярталіся ў гэты сьвет і паўтаралі рытуал прысутнасьці. Так ёй падавалася нягледзячы на тое, што гэты вечар быў першым вечарам у гэтых сьценах. Хаця. Дохлая ня думала, што затрымаецца тут надоўга. Нейкае прадчуваньне. Людзі рана ці позна таксама губляюць свой непаўторны водар. Пачынае пахнуць пракісаньнем і ў выніку нечым з кухоннае сьметніцы. Нажаль.

Пасьля яны ўрэшце пагрузіліся ў машыну і даволі доўга залівалі дарогу гукамі з сабвуфераў. Там іх доўга чакалі, толькі з-за гэтага ніхто й ня думаў парыцца. Дохлая, дарэчы, ужо вельмі даўно хацела на дыскатэку. І ўсё атрымалася. Было сапраўды крута, і нават аніводнай хвіліны суму. Людзі не выклікалі ў яе такой гідлівасьці, як раней. Пад канец ночы ёй нават падалося, што пазбавілася нечага старога і закасьнелага, таго, чым жыла доўгія часы. Гэта была пабітая крытычнасьць і яшчэ некаторыя рэчывы. Раніцай яна сядзела на заднім сядзеньні адкрытага самаходу і ехала ў новы дом зь лёгкім адценьнем новага жыцьця. Усьміхалася ўзыходзячаму сонцу і лёгкаму ветру. Дохлая не баялася забываць, недзе глыбока трымаючы думку, што да канца адмыцца ўсё адно ўжо не атрымаецца.

Неяк Біфі прачнуўся і падумаў, што яму ўжо зусім не абавязкова прачынацца. Ён сказаў пра гэта Дохлай, але тая толькі стрымана вылаялася. Яна яшчэ спала. Тады Біфі ўзьняўся, запарыў сабе гарбаты, пасядзеў на кухні, пасьля апрануўся і выйшаў. Ён паўтараў сабе: “Так даўно тут, і што? Цэлую вечнасьць тут, і што далей? Што далей?!” Вусны дрыжэлі, ён зноўку ўляпаўся. Зноўку? Юнак ня ведаў, куды ісьці, заходзіў у краму, але губляўся ў шэрагах паліцаў і так і выходзіў ні з чым, зазіраў у твары пасажыраў аўтобусаў, стоячы на прыпынку і, можа, хацеў там кагосьці пазнаць. Не пазнаваў. Ён заходзіў у бар і быў там першым кліентам, і тое нават не кліентам, а хлопцам, што заўжды трэцца недзе тут. Біфі ня ведаў, што яму рабіць. Было падобна да таго, што нешта мінае, нешта губляецца, марнуецца, але што?

Калі ён вярнуўся ў кватэру, Дохлая ўсё яшчэ валялася ў ложку.

– Дзе ты быў? – спытала яна.

– Я быў у цырку. Там усё па-сапраўднаму.

– Не зарана для цырку? Колькі часу?

– Палова на дванаццатую.

– Не крытычна.

– Я сустрэў Георгія. Ён сказаў, што ноччу прыязджалі рабяты і прынялі Лыску. Толькі

яго. Астатнім сказалі валіць. Георгій там ужо з самога адкрыцьця. А дагэтуль паўночы па парку гуляў. Кажа, кубкаў зь пяць ужо кінуў, слухаўку не бярэ, баіцца.

– Нейкая трывожная раніца, табе не падаецца?

– Так, ня зь лепшых.

– Слухай, а чаму ты мне кветкі ніколі не прыносіш? Вось паставіў бы цяпер тут у слоіку, на стале, я бы прачнулася і зусім іначай сябе адчувала.

– Якія кветкі? Ты пра што?

– Ну, кветкі!

– Што ты ўчора ела такое? Адкуль у цябе такія думкі?

Біфі адчыніў дзьверы і выйшаў на гаўбец. Ногі падмярзалі, але гэта, можа, й на карысьць. Трэба было нешта рабіць з гэтай цьвярозасьцю. Падавалася, людзі на вуліцах вар'яцеюць, і знаёмыя ўнізе ўжо не настолькі надзейныя. Ён хваляваўся. Яму быў патрэбны іншы горад, іншая галактыка, іншая форма існаваньня, пажадана не фізычная. Біфі ўжо забыў тую думку, зь якой прачнуўся, і цяпер яго больш хвалявала надзённае, тое, што так лёгка надзяляла жыцьцё сэнсам і зьнішчала масу вольнага часу.

– Ты каву будзеш? – Дохлая крычала яму з пакою. Цяпер яна, здавалася, канчаткова прачнулася і пакрысе прагравала рухавікі.

– Якая, нахрэн, яшчэ кава?! Ты што ня чуеш?! Лыску павезьлі! Кава! Буду я каву! Што мне яшчэ рабіць?! Толькі каву і піць, – ён так і ня зьняў паліто. У ім было зручней жыць.

## ВЕРА. СОНЦА СЯДАЕ

Упершыню ў жыцці я ўбачыў Веру, калі толькі пачаў усведамляць, што я – гэта я, маленькі чалавек. У той дзень маці несла мяне на прагулку ў торбачцы-кенгуру, а бабуля Веры палівала з унучкай на клумбе вялізныя духмяныя рамонкі. (Потым гэтыя кветкі заўсёды нагадвалі мне першае каханне, белую скуру і светла-рудыя, сонечныя валасы).

"Ну як вам  надвор'е, спадарыня Кацярына, праўда ж файнае?" – усміхнулася маці сівая і надзвычай шляхетная цётка Марыся. А мама ёй адказала: "Усё б нішто, толькі шкада, што спрыяльнае надвор'е дапамагае развіццю капіталізма, а я не хачу, каб мой маленькі Энгельс (гэта я), калі падрасце, харчаваўся у Макдоналдсе..."

Мае бацькі былі абсалютнымі прыдуркамі. (Я маю на ўвазе, іх своеасаблівасць была падцверджаная дактарамі). Яны пазнаёміліся яшчэ ў нейкай піянерскай арганізацыі і даволі хутка ажаніліся. Што не дзіва. Бо калі ўжо і існуюць на самай справе ў свеце разарваныя паловы, якія час ад часу знаходзяць адно аднаго, то мае бацькі – дакладны таму прыклад. З тых часоў яны і жылі душа ў душу і нават ні аднаго разу, нават дзеля прыколу, не пасварыліся. Ды што далёка хадзіць – і грошы яны зараблялі на аднолькавых працах: тата чысціў клеткі ў пітомніку для малпаў, а мама была прыбіральшчыцай у гарвыканкаме.

Вельмі доўга, гадоў да 30 з капейкамі мама не магла зацяжарыць. Убачыўшы па тэлевізары перадачу пра тое, што зацяжарыць можна з дапамогай спермы чужога мужчыны, маман паехала ў медыцынскі цэнтр. Доктар залез ёй паміж ног, праверыў аналізы, пахмыкаў сабе пад нос і сказаў:

– Жанчыначка, так  вам і не патрэбная мая дапамога – вы на другім месяцы!

Маці,канечне, зразумела ўсё, як сама хацела, і вельмі хутка ўвесь раён ведаў пра тое, што ў нашым горадзе ёсць цуда-цэнтр, дзе доктар проста залазіць табе паміж ног, і ты ўжо цяжарная. І што Базыль, мой тата, стане мне, нягледзячы ні на што, сапраўдным бацькам... Чуллівыя людзі рабілі выгляд, што так яно і трэба, і не пераконвалі маіх бацькоў. Што да мяне, дык я дасюль цвёрда ўпэўнены, што Божанька спачатку не хацеў даваць такім дзівакам, як мае бацькі, дзіця на мучэнне. Але даведаўшыся пра іх каварныя планы, скінуў мяне на зямлю, каб не засмеціць карму нейкаму чужому, не вінаватаму ні ў чым мужыку...

Гісторыя Веры зусім-зусім аддалена, але нечым падобная на маю. Гадавалую дзяўчынку падкінулі цётцы Марысі пад дзверы (яе дачка збегла некалькі год таму з вандроўным цыганскім табарам). Жанчына ні за што не хацела аддаваць дзіця ў прытулак, казала ўсім, што гэта яе ўнучка, якую да яе "прыслала" дачка. У выніку ёй дапамог аформіць патрэбныя дакументы сам старшыня гарвыканкама, які ў маладосці быў каханкам цёткі Марысі. І з часам людзі таксама "паверылі" ў тое, што Вера – яе сапраўдная ўнучка. Бо, "як усім вядома, ген рудавалосых людзей самы моцны, і ён літаральна задушыў у дзяўчынцы ўсе знешнія рысы цыган", так-так.

Верачку заўсёды прывучалі да пачуцця прыгожага, выхоўвалі з яе сапраўдную паненку. З ранняга дзяцінства дзяўчынка ведала, што такое кастынгі і модныя паказы, здымалася для рэкламных кліпаў і часопісаў. Мабыць таму яна ніколі і не глядзела на чорнае, пачварнае жабяня з жудасным імем (якое "ад прыроды" ўвогуле было прозвішчам!!!) – Энгельс... Я проста не ўпісваўся ў межы яе паняцця прыгожага.

Мае крэйзі-бацькі таксама прывучалі мяне да прыгожага, а дакладней – прымушалі мяне да прыгожага. Па іх задуме я павінен  быў пад кіраўніцтвам маладога валасатага настаўніка-раздзяўбая гадзінамі пілікаць на скрыпцы. Настаўнік прыходзіў да нас кожны дзень, браў грошы, апранаў на мяне матыля, і, зацягнуўшыся "траўкай" казаў адное і тое ж: "Ну, грай, Энгельс Фрыдрыхавіч!"

Але затое менавіта ён адкрыў мне ў свае часы цудоўны свет markup розных кшталту лёгкіх наркатычных сродкаў.

Я кахаў Веру, як баство нейкае. Я лічыў яе анёлам, нават нягледзячы на тое, што бачыў,  як яна стала жанчынай проста пад вокнамі нашага дома. Яе стогны чулі хіба не ўсе суседзі, а цётка Марыся крычала роспачна з вакна:

– Ты б хоць прыкрылася, Ве-е-ерра-аа!!!

Але Веры хацелася дараваць усё, настолькі прыгожай, ідэальнай яна была. Яе ўсмешка рабіла мужчын ідыётамі, і нават жанчыны не маглі не пагадзіцца з тым, што Вера – гэта нешта. Але ў мяне не было ніякіх шанцаў. У свае 18 год я быў даўгалыгім і худым, як цвік, з чорнымі блытанымі валасамі... А Верачка ж сустракалася толькі з прыгожымі хлопцамі, каб усе сяброўкі зайдросцілі і плакалі ад злосці і крыўды ў падушку. Ёй тады ўжо было 20, і яна вяла сапраўднае багемнае жыццё, яе прывозілі дадому, часцей пад раніцу, на бліскучых машынах з кіроўцамі, засыпалі падарункамі, вазілі адпачываць у розныя экзатычны краіны. А я нават друкаць на яе не мог, настолькі яна для мяне была важнай істотай, так яе кахаў!

Калі мне споўнілася 19, я, нягледзячы на гены, атрымліваў у медыцынскім універы імянную стыпендыю і падгандлёўваў "траўкай" і рознымі "калёсамі". (Бо бацькі спускалі большую частку грошай на дабрачыннасць, а мне, па завядзёнцы, давалі драбязу "на школьны абед". Трэба было неяк выжываць). Мае зблытаныя валасы заплялі ў дрэды, з'явіліся такія-сякія дзяўчыны, знаёмыя, пайшлі тусоўкі, але я заставаўся цнатліўцам.

А для Веры, акрамя таго, я заставаўся тым жа чорным жабяняткам, які не ўпісваўся ў яе прыгожы свет. Канчаткова я гэта зразумеў тады, калі павітаўся пры сустрэчы, а яе сяброўкі засмяяліся: "... А-а-а... гэта сын "гэтых", відаць, таксама з сарваным дахам!!!.." І яна зрабіла выгляд, што ўвогуле не ведае мяне, хаця рэгулярна набывала ў мяне "траву"...

Мой тата, які з часоў піянерскай маладосці мяняў свае палітычныя арыентацыі некалькі разоў на год, лічыў сябе на той час лібералам. (Ён проста разгубіўся, калі пасля "адзінай ідэалагічна правільнай" партыі іх з'явілася так шмат, і не мог вырашыць, якая лепш). На яго пытанне, што ж мне падарыць на дзень народзінаў, я, жудасна злы на Веру, адказаў: "Курву, ды каб патаўсцей была!!! З вялікімі сіськамі, з агромністай дупай!!!"

І тата зрабіў мне такі падарунак. Прыціснуты да ложку вялікімі грудзьмі рудавалосай (як Вера!!!) і тоўстазадай маладзіцай, я нарэшце стаў сапраўдным мужыком. І – панеслася! Пазбавіўшыся ад гэтага рудымента – ад цноты, я пачаў мяняць дзяўчын разам з выкарыстанымі на іх прэзерватывамі.

Гэта здарылася тады, калі ў жыцці Веры адбыўся сапраўдны перелом. Яе "бабуля", цётка Марыся, памерла, а чарговы каханак, да якога яна нібыта нешта адчувала, кінуў, абчысціўшы ўшчэнт яе кватэру. У адну з начэй Вера пагрукалася да мяне ў вакно – залезла па пажарнай лесвіцы. Я пусціў яе, мы папалілі травы, потым закінуліся "калёсамі" і раптам апынуліся голымі на падлозе. Кахаліся да самай раніцы... З таго часу яна прыходзіла да мяне кожны вечар. Мы шмат размаўлялі, нам было добра разам па начах. Але днём Вера па-ранейшаму пазбягала мяне, не віталася, і я вельмі ад таго пакутаваў. Спачатку я суцяшаў сябе: вось, пройдзе час, яна захоча быць са мной побач заўсёды, але... Дні ішлі за днямі, і нічога не змянялася. Мая надзея памірала. Я адчуваў сябе лялькай для сэксу, лялькай для псіхалагічнай разгрузкі, папяльнічкай, у якую кідаюць недапалкі. Вера ж успрымала ўсё як належнае, яна не хацела бачыць, што для мяне гэта цяжка. Яе Вялікасці было ўсё роўна, што нехта там, акрамя яе, мае нейкія пачуцці, пакутуе. Усё ж павінна было круціцца толькі вакол яе асобы...

Але аднойчы, праз доўгі час нашых незразумелых стасункаў, Вера запрасіла мяне пайсці з ёй на дзень народзінаў сяброўкі. Як я хваляваўся! Купіў лепшую кашулю, набыў падарунак, мы цудоўна правялі вечар. Ніхто ўжо не звяртаў увагу на маю нестандартную знешнасць, і Вера, здавалася, свяцілася ад радасці. Гэта было пачаткам нашых, так бы мовіць, "афіцыйных" сустрэч. Мая сонечная дзяўчынка працягвала працаваць фотамадэллю, запрашала з сабой на здымкі, паказы, знаёміла са сваім прыгожым светам. І я адчуваў сябе шчаслівым проста ад таго, што яна побач, што яна мая.

І тут, зусім нечакана для мяне, мой тата вырашыў замест палітычнай арыентацыі змяніць сэксуальную, а да таго ж, змяніць пол! Пяцідзесяціцігадовы дурань закахаўся ў свайго не менш прыдурашнага калегу па мыццю клетак у пітомніку для малпаў. А той сказаў: "Калі ласка, будзем разам, але стань жанчынай, бо мае заможныя сваякі пазбавяць мяне спадчыны". Маці, і мяне гэта не здзівіла, падтрымала тату: "Мой мілы Базыль, калі ты будзеш шчаслівы, буду шчаслівай і я..."

І ўсё было б нічога, я б з часам змірыўся з новай татамамай, бо і так ўжо наглядзеўся ад маёй сямейкі ўсяго, – калі б не адмова дактароў змяніць пол чалавеку з псіхічнымі адхіленнямі, то бок майму бацьку. Вось тады ў маім жыцці пачаліся сапраўдныя праблемы.

Трэба адзначыць, мы з Верай хавалі ад агульных знаёмых, што мае бацькі маюць праблемы з псіхікай, – яна гэтага саромелася. А пад яе ўплывам і я пачаў саромецца сваіх мілых хатніх прыдуркаў. (Зараз я пра гэта вельмі шкадую!) Таму, калі па тэлевізары пачалі трансляваць мітынгі, зарганізаваныя маёй крэйзі-маман, з патрабаваннем дазволіць мужу змяніць пол, я ледзь не пасівеў. Справа ў тым, што адной з улюбёных карцінак тэлежурналістаў стаў той момант, дзе расчырванелая спадарыня Кацярына, мая мама, казала ў аб'ектыў камеры:

– Так, у нас ёсць дзеці… Дакладней адзін. Сын. Энгельс Н., навучаецца ў медыцынскім універсітэце і хутка ажэніцца з вядомай фотмадэллю Верай… Яны таксама падтрымліваюць нашыя памкненні… Так, так! Сын ня супраць, і яго нявеста таксама…

Пасля гэтага ў эфір пускалі фотаздымкі – мае і Веры. Тады я зразумеў, гамон усяму, я прапаў…

Вера папросту перастала рэагаваць на мае тэлефанаванні, пазбягала сустрэч. А праз нейкі час прыйшла, доўга плакала і прасіла, каб я выступіў па тэлебачанні з адмовай ад яе. Каб сказаў, што мы ніколі не былі парай, што ўсё гэта выдумкі маёй беднай маці… Ну, я пагадзіўся, бо кахаў яе!!! Ды дзеля Веры я быў гатовы пайсці на ўсё! Але і без яе маё жыццё было абсалютна бессэнсоўным. Я паспрабаваў на смак самую шыкоўную дзяўчыну ў свеце і без яе не хацеў жыць.

Я выступіў у прамым эфіры тэлебачання, сказаў, што мы з Верай "проста суседзі"…

А мае бацькі ў выніку дабіліся свайго. Тату дазволілі аперацыю, знайшліся чуллівыя спонсары, і вельмі хутка ён стаў жанчынай. Яго прыдурашны каханак, гісторыя якога са спадчынай была чыстай лухтой, вычытанай ім з дамскіх раманаў, перабраўся жыць да нас.

Пасля перажытага стрэсу мне пачаў сніцца незвычайны сон. Быццам бы я быў вялізным матылём з прыгожымі крыламі і целам чалавека. Я ляцеў над чыстай ракой і бачыў там сваё адлюстраванне, – у мяне былі прыгожыя жаночыя грудзі, а палавыя органы – мужчынскія. У нейкі момант я зразумеў, што нешта замінае мне ляцець. Аказалася, што да крыльцаў былі прывязаныя ніткі, як у марыянеткі, і кончыкі іх трымала Вера. Яна сказала мне: "Ты такі лёгкі, прыгожы, ляці ж без мяне, бо ў мяне няма крылаў, і я не ўмею быць такой свабоднай, як ты…" – і адрэзала ніткі нажніцамі. Пасля гэтага я прачынаўся.

Яшчэ пару год, да сканчэння вучобы я з упартай перыядычнасцю хадзіў да Веры і прасіў пачаць усё з пачатку:

Мы можам з'ехаць з гэтага горада, ты без праблем знойдзеш сабе працу, будзем жыць разам, Вера, Вера!!! Ды ўсе даўно забыліся на гэтую гісторыю з маімі бацькамі. Ды і людзі цяпер іншыя, яны да ўсяго прасцей ставяцца. Я ж бачу, ты кахаеш мяне! Ты не можаш ісці супраць сябе!

Але яна баялася пачаць жыць з новага ліста, і гэта было зразумела. Калісьці сам лёс падкінуў яе да дзвярэй спадарыні Марысі, якая сваімі рукамі зрабіла ёй кар'еру паспяховай мадэлі. Лёс падарыў ёй каханне, якое я беражліва насіў у сваіх руках. А Вера нічога не магла зрабіць сама. Яна толькі карысталася салодкімі пладамі ад людзей, якія яе любілі, захапляліся ёй. Але на той момант яна не ўсведамляла сваю нікчэмнасць і таму засталася ў гэтым горадзе. А я з'ехаў, як толькі атрымаў дыплом, і знайшоў сабе працу хірурга ў клініцы, дзе змянялі пол майму бацьку.

## МИШКА

Мишка курил с первого класса. Все вокруг так его и называли – МИШКА – бабушки-дедушки, родители, толстогрудые тётки с непутёвыми дядьками-пьяницами, сверстники, учительница в начальной школе, даже инспекторша по делам несовершеннолетних. Из-за сигарет Мишка совсем не рос и длиною походил на выдрессированный окурок. Даже отец примирился с Мишкиным курением, и порой выдавал ему скупые карманные на пачку "Союз-Аполлона" или "Балканской звезды".

Все Мишкины зубы давно погнили, а сходить вылечить он боялся, так как ему были свойственны все подростковые болезненные фобии.

Старший брат Мишки, Димка, учился в местном ПТУ на водителя мелиоративной техники.

Тяготами учёбы брательник особо не парился. Когда родители спрашивали, какие у сына сегодня были занятия, Димка идиотски смеялся, гордо пожимал плечами и задорно выдавал:

– Про тракторы.

Да и все деньги, которые мать давала Диме на ватманы и тетради, он тратил лишь на сигареты, частично отдаваемые Мишке в знак выполнения мелких пакостей: "дать подзатыльника" близорукому конопатому очкарику; поджечь дверь старому деду, вечно ворчащему на шпану, а один раз глубокой ночью спилившему их лавочку, чтобы не сидели и не матюкались под его окнами в тёмное время суток; или, на худой конец, задрать юбку плешивой соседке, за то, что та не давала списывать очередную контрольную по алгебре. Подобных пакостей в воображении будущего водителя существовало бесконечное множество, а Мишка, признаться, был готов выполнять их просто так, безвозмездно, даже не из-за сигарет.

Димкины приключения происходили достаточно спокойно и смирно. Ещё в восьмом классе он подсел на дешёвое вино. Научил его, вернувшийся с "малолетки", старший товарищ Руслик. Руслан собственно и предложил Диме устроить в подвале их дома КАМОРУ! Иногда туда, правда скрипя зубами, пускали и Мишку. Сначала парни делали вид, что играли в подвале в настольный теннис на куске расчерченной мелом ДСП, уложенном на две тумбы. Но это была всего лишь либеральная отмазка да умелое прикрытие для взрослых, которые вечно ждут от молодых головорезов подвохов. Камора понадобилась друзьям, чтобы "бухать" и "водить мацать тёлок". Что такое "мацать тёлок" Мишка уже знал и видел, но ни разу сам не пробовал.

Однажды вечером Мишка доедал на кухне куриный суп, когда матушке внезапно ни с того, ни с сего понадобился Димка. Стар*ая*, как называли между собой мать братья, в гневе носилась по всем трём комнатам, оставляя за собой ауру бури.

– Мишка! Живо Диму мне найди!!! – приказала та младшему сыну.

– Пизда Димке, – подумалось мальчику, – опять чего-нибудь накосячил.

– Мааа, я суп не доел!!! – грубым зёвом недовольного бычка простонал вечно голодный Мишка.

– Живо, сказала. Иди и приведи мне этого разгильдяя!!!

Матери не возразишь, может запретить играть с одноклассниками в "Денди", а то и хуже, не разрешит после девяти вечера появляться во дворе.

Мишка не сомневался, где искать брата.

Дверь в подвал в тот трогательный для подростка момент была нараспашку. В конце грязного затопленного коридора лунной дорожкой, неестественно сочилось томное освещение. Приглушенно, но вполне отчётливо, разливались голоса брата, Руслана и толстухи Ирки.

Ирка училась в одном ПТУ с Димой. Из неё подрастал будущий, не то полуовощевод, не то полуспециалист по приусадебному хозяйству. Задница и грудь у этой мёдом набитой бочки, разрослись, как говорится, что надо. Хотя сама по себе (из-за характера и, особенно, из-за выражения лица) Ирка причислялась к сорту изрядных дурнушек. Кривые зубы, свинячьи глаза, лошадиный ржач.

Мишка сразу почувствовал неладное. Судя по голосам, все трое в калину закинулись бухлом. Мальчик пробрался к каморе – вонючему закуточку около бойлерной, где собственно и робинзонили старшаки, и, как пугливая мышка, чтобы не получить от брата и опасного Руслана нагоняев, тихонечко притаился в темноте.

Ирка, полулёжа, раскинулась на батькином мотоцикле. Данное советское чудо техники, в былые годы заменявшее всей семье средство передвижения с города на деревню, когда-то существовало в комплекте с неуклюжей "нупогодишной" коляской. Мишка хорошо помнил, как отец с матушкой гордо надевали на него (Мишку) болотного цвета шлем и усаживали ребёнка на дно коляски вместе с вёдрами и корзинами, полными бытовой утвари и пакетов со скисшим молоком. Теперь их "Иж Юпитер 5" догнивал в мерзком подвале. Без коляски.

Иркина поза казалась до ужаса неестественной. Она напоминала коровью тушу, набекренившуюся на сидении бывшей грозы провинциальных дорог. Ноги, словно продолговатые пуфики от тахты, раскинулись в стороны, джинсовая юбка полузадрана к потолку, капли с которого динамично падали на макушку девушки. Из-под юбки маячили белые панталоны. Димка стоял возле Ирки и мотоцикла, не решаясь подойти ближе и совершить какой-то непонятный поступок. А бухая шалава нервно хихикала. Дура! Да и в придачу, до упадочности пришибленная! Из накрашенного яркой помадой рта текли слюни, а глаза закатились, непонятливо рассматривая пространство подвальной действительности. Руслик сидел на ободранном поломанном стуле с недопитой бутылкой в руке.

– Давай уже, Димон! Незачем было поить её тогда! За всё хорошее, Ирочка, нужно расплачиваться. Водка в роте, п...да в работе! Давай, давай, Димон! Так и быть, тебе первому разрешаю, – начальственная, но в меру тихая речь Руслика уже хромала.

– Ага. Сейчас, – испуганно прошептал Димка. – Может, это, перевернуть её? Чтобы сзади?

– Давай, шустрее, братан! Засунь ей по самые гланды и пусть лежит, как лежала. У меня бабы уже неделю не было, – предложения Русела звучали принципиально настойчиво.

Димка быстренько вплотную подошёл к Иркиной туше. Запустил одну руку в её трусы, а другой начал копошиться в собственной ширинке. Неведомо, с какого лешего, Ира, заметив Димкины наглые приставания, вскочила на ноги, чудом не опрокинув "ИЖ Планету"!

– Ты, чё, дурак что ли!? – замычала она на всю камору и внезапно упала в обморок, обратно на сидение мотоцикла.

Димка попятился и оробел.

– Во, даёт, вротбиручина! – заржал Русел. – Отойди, дай я её отдеру хорошенько, пока она того, в коме!

Он подошёл к "спящей красавице", снял свои синие семейники и начал ритмично дёргать задом, будто крутит обруч, или суёт в печь невидимую кочергу. Димка плюхнулся на стул. И залпом выпил из горла остатки вина.

– Вот, шкура поносная! Прикинь, Димон, она обделалась! От испугу!

На этой фразе Мишка чихнул.

– Э, малой! А ты тут что творишь? Шуруй отсюдова, нахрен! – заматюгался Димка.

Дальше Мишка ничего уже не слышал и не видел. Он пулей выбежал на улицу и через десять секунд залетел на второй этаж. В квартире ничего не изменилось. Мишка быстро закрыл на верхний засов входную дверь, прислонившись к ней спиной и, судорожно задыхаясь, начал реветь.

– Ну где ты ходишь, Михаил? Где брат? – тотчас закудахтала мать.

Мишка истерично рыдал во всю глотку...

– Ты, что? Что с тобой?! Обидел кто? Миша! А где же брат, я спрашиваю. Ты, что?! Плачешь?

Наконец-то заметила…

– Там, – Мишка не смог стоять возле матери. Он махнул рукой и побежал в комнату. Зарылся под подушку и начал ещё усерднее проливать детскую искреннюю слезу.

В этот момент Мишка особенно не хотел никого видеть.

# АСІНАЯ ФАБРЫКА

## 1: Ахвярныя Слупы

У дзень, калі я пачуў, што мой брат зьбег, я абыходзіў Ахвярныя Слупы. Да таго часу я ўжо ведаў, штосьці павінна было здарыцца; мне сказала Фабрыка.

На паўночным канцы вострава, ля паваленых рэштак верфі, там, дзе ручка іржавай лябёдкі рыпае на ўсходнім ветры, на далёкім баку апошняй выдмы ў мяне было два Слупы. Да аднаго зь іх была прымацавана галава пацука й дзьве страказы, да іншага – чайка й дзьве мышы. Я дадаў мышыную галаву на месца, калі птушкі, з крыкам і карканьнем узьляцелі ў вячэрняе паветра й сталі кружыцца над сьцяжынкай праз выдмы, там, дзе яна праходзіла ля гнёздаў. Я пераканаўся, што галава добра трымаецца, а потым узьлез на верхавіну выдмы, каб паглядзець у бінокль.

Дыгз, паліцыянт з горада, з апушчанай галавой ехаў па сьцежцы на ровары, моцна націскаючы на пэдалі, а колы правальваліся скрозь пясчаную паверхню глебы. На мосьце ён сышоў з ровара, пакінуўшы яго прыхінутым да падвесных канатаў, і прайшоў да сярэдзіны хісткага моста, да брамкі. Я бачыў, як ён націснуў на кнопку перамоўнай прылады. Дыгз пастаяў, аглядаючы ціхія выдмы й супакойваньне птушак. Мяне ён ня бачыў, таму што я добра схаваўся. Потым бацька, напэўна, адказаў на званок у хаце, таму што Дыгз зьлёгку нахіліўся да мембраны ля кнопкі, затым адкрыў брамку, перайшоў мост, ступіў на выспу й прайшоў да дома. Калі ён зьнік за выдмамі, я трохі пасядзеў, пачухваючы лабок, а вецер гуляў маімі валасамі, і птушкі вярталіся ў свае гнёзды.

Я зьняў катапульту з рэменя, выбраў кавалак жалеза памерам з паўцалі, старанна прыцэліўся й адправіў яго па дузе над ракой, тэлефоннымі слупамі й маленькім падвесным мостам на Вялікую Зямлю. Жалеза ўдарыла шыльду "Уваход забаронены – прыватная ўласнасьць" з гукам на мяжы чутнасьці, і я ўсьміхнуўся. Гэта быў добры знак. Фабрыка не паведаміла дэталяў (яна рэдка гэта робіць), але ў мяне было адчуваньне, быццам тое, пра што яна папярэджвала, было важным, і я падазраваў, што яно будзе дрэнным, але прадбачліва зразумеў намёк і праверыў мае Слупы, цяпер я ведаў, што мая рука па-ранейшаму цьвёрдая; я па-ранейшаму кантраляваў абставіны.

Я вырашыў не йсьці дадому адразу. Бацьку не спадабалася б, калі б я там быў адначасова з Дыгзам, і ў любым выпадку мне трэба было праверыць некалькі Слупоў да заходу сонца. Я скокнуў й сасьлізнуў па схіле выдмы ў яе цень, потым павярнуўся паглядзець на гэтыя маленькія галовы й целы, якія ахоўваюць паўночны край выспы. Яны выглядалі выдатна на высмаглай кары скрыўленых галінак. Чорныя стужкі, прывязаныя да галін, матляў ветрык, яны махалі мне. Я вырашыў, што ўсё абыйдзецца, і што заўтра папрашу Фабрыку аб дадатковай інфармацыі. Калі пашанцуе, бацька што-небудзь мне раскажа, а калі зусім пашчасьціць, магчыма, гэта нават апынецца праўдай.

Калі згусьцілася цемра й на небе выступілі першыя зоркі, я пакінуў мяшок са здыхляцінай у бункеры. Птушкі распавялі мне, што Дыгз ужо некалькі хвілін як пайшоў, таму я найкарацейшым шляхам прабег да дома, дзе, як звычайна, гарэлі ўсе агні. Бацька сустрэў мяне на кухні.

– Толькі што быў Дыгз. Ты, напэўна, у курсе.

Ён сунуў тоўстую недакураную цыгару пад струмень халоднай вады і, калі тая гучна зашыпела й патухла, кінуў размоклы недакурак у сьмецьцевае вядро. Я паклаў свае рэчы на вялікі стол і, паціснуўшы плячыма, усеўся. Бацька ўключыў газ пад рондалем з супам, зазірнуў пад вечка на варыва й павярнуўся паглядзець на мяне.

Прыкладна на ўзроўні пляча ў пакоі вісела воблака шэра-блакітнага дыму, і ў ім была вялікая хваля, верагодна, паднятая мной, калі я прайшоў праз падвойныя дзьверы задняга ганка. Хваля павольна ўздымалася між намі, пакуль бацька сьвідраваў мяне позіркам. Я занерваваўся, паглядзеў уніз, гуляючы з ручкай чорнай катапульты. Мне здалося, што бацька выглядае заклапочаным, але ён быў добрым акцёрам і, магчыма, гэта было як раз

тое, у чым ён хацеў мяне пераканаць, таму ў глыбіні душы я яму не паверыў.

– Думаю, мне лепш расказаць табе, – сказаў ён, але зноў адвярнуўся, узяў драўляную лыжку й стаў памешваць суп. Я чакаў. – Гэта Эрык.

І тады я зразумеў, што здарылася. Ён мог бы не працягваць. Са сказанага ім можна было б зрабіць выснову, быццам мой зводны брат памёр або захварэў, ці што-небудзь здарылася зь ім, але я ведаў – гэта было нешта, што натварыў Эрык, і толькі адно дзеяньне Эрыка магло прымусіць майго бацьку выглядаць усхваляваным. Ён зьбег. Але ўголас я нічога не сказаў.

– Эрык уцёк са шпіталя. Вось навошта Дыгз прыяжджаў. Яны думаюць, ён можа накіравацца сюды. Здымі гэтыя штукі са стала, колькі можна казаць, – ён пакаштаваў суп, па-ранейшаму стоячы сьпіной да мяне. Я дачакаўся, пакуль ён пачаў абарочвацца й тады зьняў катапульту, бінокль і лапатку са стала. Тым жа роўным тонам бацька працягнуў. – Ну, сумняваюся, што яму ўдасца забрацца так далёка. Хутчэй за ўсё, яны зловяць яго праз дзень-другі. Проста, каб ты ведаў. На выпадак, калі хтосьці даведаецца пра гэта й стане балбатаць. Дастань талерку.

Я падышоў да шафы й дастаў талерку, потым зноў сеў, падагнуўшы адну нагу пад сябе. Бацька працягваў памешваць суп, пах якога я адчуваў скрозь цыгарны дым. Я адчуваў узбуджэньне ў жываце – казытлівы прыліў нястрымнай радасьці. Эрык вяртаецца дадому; гэта й добра, й кепска. Я ведаў, ён зробіць гэта. Я нават не зьбіраўся пытацца пра гэта Фабрыку; ён дабярэцца. Цікава, колькі часу яму спатрэбіцца, і ці прыйдзецца Дыгзу хадзіць па горадзе, крычучы, папярэджваючы аб тым, што звар'яцелы хлопец, які падпальваў сабак, зноў на волі; замыкайце вашых псоў!

Бацька наліў суп у маю талерку. Я падзьмуў на яго. Падумаў пра Ахвярныя Слупы. Яны былі маёй сістэмай раньняга папярэджаньня й адпужваньня адначасова; напоўненыя сілай рэчы, зьвернутыя вонкі, абараняючыя. Гэтыя татэмы – мой папераджальны стрэл; любы, хто трапіць на выспу пасьля таго, як іх убачыць, павінен ведаць, чаго чакаць. Але падобна на тое, што замест сьціснутага пагрозьлівага кулака яны паўстануць ветліва працягнутай, адкрытай далоньню. Для Эрыка.

– Я бачу, ты зноў памыў рукі, – сказаў бацька, калі я пачаў есьці гарачы суп. Зьедлівая заўвага. Ён дастаў бутэльку віскі з бара й наліў сабе ў шклянку. Другую шклянку, мабыць канстэбля, ён паставіў у ракавіну. Сеў ля дальняга канца стала.

Мой бацька высокі й стройны, хоць зьлёгку сутуліцца. У яго тонкі, як у жанчыны, твар і цёмныя вочы. Ён кульгае з тых часоў, як я яго памятаю. Яго левая нага амаль не зьгінаецца, і, выходзячы з дому, ён звычайна бярэ з сабой трысьціну. Часам, у вільготныя дні ён вымушаны карыстацца трысьцінай і ў доме, і тады я чую як ён грукае ў не засланых дыванамі пакоях і калідорах дома; манатонны гук, які перамяшчаецца з месца на месца. Толькі на кухні кій заціхае, каменныя пліты заглушаюць яго.

Трысьціна – гэта сымбаль бясьпекі Фабрыкі. Замкнёная ў нерухомасьці, нага майго бацькі дала мне прытулак у цёплай прасторы паддашка, сярод непатрэбных рэчаў й сьмецьця наверсе дома, там, дзе варушыцца пыл, сонечнае сьвятло падае касымі прамянямі й там, дзе стаілася Фабрыка – маўклівая, жывая й нерухомая.

Бацька ня можа ўскараскацца па вузкай лесьвіцы зь верхняга паверха; ды нават калі б і мог, я ведаю, ён бы ня здолеў перайсьці зь лесьвіцы на гарышча, для гэтага трэба выгнуцца з-за трубы коміна.

Таму паддашак належыць мне.

Я мяркую, майму бацьку каля сарака пяці, хаця часам ён выглядае значна старэй, а іншы раз я думаю, ён можа быць крыху маладзейшым. Ён ня скажа мне свой сапраўдны ўзрост, таму па маёй ацэнцы яму сорак пяць, калі судзіць па яго зьнешнім выглядзе.

– Якая вышыня гэтага стала? – раптам спытаў ён, калі я сабраўся пайсьці да хлебніцы за кавалкам хлеба, каб выцерці маю талерку. Я павярнуўся й паглядзеў на яго, не разумеючы, чаму ён задаў такое простае пытаньне.

– Трыццаць цаляў, – сказаў я й ўзяў скарынку з хлебніцы.

– Ня правільна, – сказаў ён з задаволенай усьмешкай. – Два футы й шэсьць цаляў.

Я нахмурыўся й паківаў галавой, выцер карычневы абадок супу з талеркі. Быў час, калі я па-сапраўднаму баяўся такіх ідыёцкіх пытаньняў, але цяпер я ведаў вышыню, шырыню, даўжыню, плошчу й аб'ём амаль любой часткі дома й ўсяго, што ў ім знаходзіцца, й навучыўся не зьвяртаць увагу на дакучлівую ідэю бацькі. Іншы раз становіцца сорамна, напрыклад, калі ў нас госьці, нават калі яны нашыя сваякі й павінны ведаць, чаго можна чакаць. Уяўляю сабе, сядзяць яны хутчэй за ўсё ў сталовай і думаюць, зьбіраецца бацька даць ім хоць чаго-небудзь паесьці, ці ён абмяжуецца імправізаванай лекцыяй пра рак прамой кішкі або пра глісты, а тут бацька падсаджваецца да каго-небудзь, азіраецца па баках, каб пераканацца ва ўсеагульнай увазе, а потым змоўніцкім тэатральным шэптам кажа: "Бачыце гэтыя дзьверы? У іх 85 цаляў, ад вугла да вугла", – потым ён падміргвае й выходзіць альбо адсоўваецца на сваё месца з абыякавым выглядам.

Колькі сябе памятаю, у доме заўсёды было поўна самаклейных кавалачкаў белай паперы, пакрытых акуратнымі надпісамі чорнай шарыкавай асадкай. Прымацаваныя да ножак крэслаў, краёў дыванкоў, донцаў збаноў, антэн радыё, дзьвярэй шафаў, падгалоўяў ложкаў, экранаў тэлевізараў, ручак рондаляў й патэльняў, яны паведамляюць дакладныя памеры аб'екта, на які наклеены. Нават да лісьця расьлін прымацаваныя паперкі, падпісаныя алоўкам. Аднойчы ў дзяцінстве я абышоў увесь дом, абрываючы стыкеры; мяне адхвасталі рамянём, і два дні я быў пад арыштам у сваім пакоі. Пазьней бацька вырашыў, што мне для фарміраваньня характару было б карысным ведаць усе гэтыя лічбы, таму мне прыйшлося гадзінамі сядзець над Кнігай Вымярэньняў (велізарнай штукай з асобнымі лістамі, на якіх інфармацыя з маленькіх стыкераў была акуратна згрупавана адпаведна пакою й катэгорыі аб'екта) або хадзіць па хаце з нататнікам і рабіць уласныя запісы. Усё гэта ў дадатак да звычайных заняткаў па матэматыцы, гісторыі й гэтак далей, якія праводзіў са мной бацька. Гэта не пакідала часу на гульні, і я надта не любіў вучыць усе гэтыя лічбы. Тады ў мяне йшла Вайна – Мідыі супраць Здыхлячых Мух, калі ня блытаю, – і пакуль я сядзеў у бібліятэцы, утаропіўшыся ў кнігу й спрабуючы трымаць вочы адкрытымі, запамінаючы чартоўскі бязглуздую Імпэрскую сістэму вымярэньняў, халодны вецер нёс мае арміі мух над паловай выспы, а мора спачатку затаплівала ракаўкі мідый, а затым накрывала іх пяском. На шчасьце, бацька стаміўся ад свайго грандыёзнага плана й задаволіўся неспадзяванымі пытаньнямі адносна ёмістасьці ў пінтах падстаўкі для парасонаў ці агульнай плошчы ў акрах усіх вісячых у доме фіранак.

– Я больш ня буду адказваць на твае пытаньні, – сказаў яму я, адносячы талерку ў ракавіну. – Нам даўно трэба было перайсьці на Метрычную сыстэму.

Бацька хмыкнуў ды асушыў сваю шклянку:

– Гектары й да таго падобная лухта. Ні ў якім выпадку. Там жа ўсё грунтуецца на велічыні зямнога шара. Ты й сам ведаеш, які гэта ўсё нонсэнс.

Я ўздыхнуў й ўзяў яблык зь міскі на падаконьніку. Бацька аднойчы пераканаў мяне ў тым, што зямля мае форму стужкі Мёбіуса, а не шара. Ён па-ранейшаму настойвае на сваёй перакананасьці й з вялікай помпай адпраўляе рукапіс у лонданскае выдавецтва, спрабуючы прымусіць іх апублікаваць кнігу з падрабязным выкладаньнем сваіх поглядаў, але я ведаю, што ён зноў забаўляецца й атрымлівае задавальненьне ад свайго ашаломленага нявер'я й справядлівага абурэньня, калі рукапіс вяртаюць. Гэта адбываецца ў сярэднім раз на тры месяцы, і сумняюся, што жыцьцё дастаўляла б яму столькі задавальненьня без такога роду рытуалу. Так ці інакш, гэта адзін зь яго аргументаў супраць пераводу яго дурных вымярэньняў у мэтрычную сыстэму, хаця на самай справе ён проста лянуецца.

– Чым ты займаўся сёньня? – ён утаропіўся на мяне, катаючы пустую шклянку па драўлянай стальніцы.

Я паціснуў плячыма.

– Шпацыраваў па выспе ды ўсё такое.

– Зноў будаваў дамбы? – ён пагардліва ўсьміхнуўся.

– Не, – упэўнена сказаў я, кусаючы яблык. – Ня сёньня.

– Спадзяюся, ты не забіў ніякіх божых стварэньняў.

Я зноў паціснуў плячыма. Вядома, я забіў сёе-тое. А як інакш, каб іх чорт узяў, я здабуду целы й галовы для Слупоў й Бункера, калі ня буду забіваць? Натуральных сьмерцяў відавочна недастаткова. Хоць растлумачыць гэта іншым людзям даволі складана.

– Часам я думаю, што гэта ты, а не Эрык, павінен быць замкнёны ў шпіталі.

Ён глядзеў на мяне з-пад сваіх цёмных броваў, голасу не павышаў. Калісьці падобная размова магла б спалохаць мяне, але не цяпер. Мне амаль сямнаццаць, я ўжо не дзіця. Тут, у Шатляндыі, я дастаткова дарослы, каб ажаніцца бяз згоды маіх бацькоў, я ўжо цэлы год як магу гэта зрабіць. У жаніцьбе не было б ніякага сэнсу, прызнаю, але галоўнае – прынцып.

Акрамя таго, я не Эрык; я – гэта я, і я тут, і ўсё на гэтым. Я не турбую людзей, і ім лепш не турбаваць мяне, калі яны разумеюць сваю выгаду. Я не дару людзям падпаленых сабак і не палохаю мясцовых дзетак прыгаршчамі апарышаў й ротам, поўным чарвякоў. Людзі ў горадзе могуць сказаць: “О, у яго зьлёгку ня ўсе дома”, – але гэта проста жарт (і часам яны нават ня круцяць пальцам ля скроні); я ня супраць. Я прыстасаваўся жыць са сваёй траўмай і навучыўся жыць бязь іншых людзей, так што мяне гэта не турбуе.

Мабыць, бацька хацеў мяне закрануць; у звычайнай сытуацыі ён бы такога не сказаў. Напэўна, навіны пра Эрыка ашаламілі яго. Думаю, ён гэтак жа як і я ведаў, што Эрык дабярэцца да выспы й хваляваўся аб тым, што магло здарыцца. Я яго не вінавачу й не сумняюся, што ён хваляваўся й за мяне. Я ўвасабляю злачынства, і калі Эрык вернецца й ўзбаламуціць акругу, Праўда Пра Фрэнка можа выплыць вонкі.

Я не зарэгістраваны. У мяне няма пасьведчаньня аб нараджэньні, нумара нацыянальнай медыцынскай страхоўкі, нічога ў пацьвярджэньне таго, што я жывы або калі-небудзь існаваў. Я ведаю – гэта злачынства, і бацька таксама гэта ведае, і, думаю, часам ён шкадуе аб рашэньні, прынятым каля сямнаццаці гадоў таму, у дні захапленьня хіпі-анархізмам ці чым там яшчэ.

Ня тое, каб я ад гэтага пацярпеў. Мне гэта падабалася, ды й ніхто ня можа сказаць, што я неадукаваны. Магчыма, я ведаю звычайныя школьныя прадметы лепей за большасьць людзей майго ўзросту. Я магу скардзіцца на недакладнасьць сёй-той інфармацыі, якую паведаміў мне бацька. З таго часу, як я магу самастойна выбрацца ў Портнэйл і праверыць усё ў бібліятэцы, бацька вымушаны гаварыць са мной начыстую, але калі я быў маладзейшы, ён уводзіў у зман мяне раз за разам, адказваючы на мае сумленныя, хоць і наіўныя пытаньні ўсялякай бязглуздзіцай.

Некалькі гадоў я верыў, што Патас – гэта адзін з трох мушкэцёраў, Фэляцыя – пэрсанаж “Гамлета”, Вітрыёль – горад у Кітаі, й што ірляндскія сяляне цісьнуць нагамі торф, калі робяць “Гінэс”.

Цяпер я магу дастаць да самых высокіх паліц хатняй бібліятэкі ці схадзіць у Портнэйл і праверыць сказанае маім бацькам, таму ён вымушаны казаць мне праўду. Думаю, яго гэта страшэнна раздражняе, але нічога ня зробіш. Можаце лічыць гэта прагрэсам.

Але я адукаваны. І хоць ён ня мог не трэніраваць сваё недаразьвітае пачуцьцё гумару, выстаўляючы мяне дурнем, бацька ня мог бы трываць сына, якім бы ён не ганарыўся; не было ніякай надзеі на ўдасканаленьне майго цела, заставаўся толькі розум. Адсюль і ўсе ўрокі для мяне. Бацька – адукаваны чалавек, і ён перадаў мне многае з таго, што ведаў, плюс ён вывучыў прадметы, якія ня ведаў дасканала, каб вучыць мяне. Мой бацька – доктар хімічных навук, або біяхімічных, я ня ўпэўнены. Ён ведае досыць аб медыцыне – і верагодна ў яго дагэтуль ёсьць знаёмыя дактары – таму я змог атрымаць усе неабходныя прышчэпкі ў патрэбны час, нягледзячы на маё неіснаваньне з пункту гледжаньня Нацыянальнай службы аховы здароўя.

Я думаю, бацька працаваў ва ўнівэрсытэце пасьля атрыманьня дыплёма, і ён, напэўна, нешта вынайшаў; ён часам намякае, што атрымлівае нейкія грошы за патэнт альбо нешта накшталт гэтага, але я падазраю, стары хіпан пражывае рэшткі колдхэймаўскага багацьця.

Як я высьветліў, наша сям’я жыла ў гэтай частцы Шатляндыі па меншай меры дзьвесьце гадоў, і калісьці нам належала тут шмат зямлі. Усё, што цяпер засталося – выспа, гэта даволі мала й нават не зусім выспа падчас нізкага прыліву. Іншы рэлікт нашага мінулага –

назва папулярнага ў Портнэйле месца, бруднага паба “Колдхэймармз“, куды я перыядычна наведваюся, хоць і не дасягнуўшы паўналецьцця, паглядзець на тутэйшых хлопцаў, што спрабуюць быць панк-гуртамі. Там я сустрэў й да гэтага часу сустракаю адзінага чалавека, якога магу назваць сваім сябрам – Джэймі-карузьліка; яму я дазваляю сядзець у сябе на плячах, каб ён мог убачыць музыкаў.

– Ну, ня думаю, што яму ўдасца забрацца так далёка. Яны зловяць яго праз дзень-другі, – зноў сказаў бацька пасьля працяглага заклапочанага маўчаньня. Ён падняўся спаласнуць шклянку. Я напяваў пра сябе, я заўсёды так раблю, калі хачу ўсьміхнуцца або засьмяяцца, але думаю, што лепш гэтага не рабіць. Бацька паглядзеў на мяне:

– Я іду ў кабінэт. Не забудзь замкнуць дзьверы, добра?

– Окі-докі, – кіўнуў я.

– Дабранач.

Бацька выйшаў з кухні. Я сядзеў ды глядзеў на маю лапатку, Моцны Удар. Маленькія кавалачкі зямлі прыляпіліся да яе, і я іх змахнуў. Кабінэт. Адно з маіх нешматлікіх нязьдзейсьненых жаданьняў – трапіць у кабінэт старога. Падвал я хаця б бачыў й зрэдку там бываў; я ведаю ўсе пакоі першага ды другога паверхаў; гарышча – цалкам мае валоданьні й дом Асінай Фабрыкі; але кабінэт – адзіны пакой другога паверха, які я ня ведаю, нават ня бачыў, што там знутры.

Я ведаю, што бацька захоўвае там нейкія хімікаты, і верагодна, займаецца там нейкімі экспэрымэнтамі, але як выглядае пакой, і чым канкрэтна ён займаецца – ня маю аніякага разуменьня. Усё, што прасачылася адтуль – дзіўныя пахі й тап-тап трысьціны майго бацькі.

Я пагладзіў доўгую ручку лапаткі, разважаючы, ці ёсьць у кія бацькі імя. Сумняюся. Ён не надае імёнам такога значэньня, як я. Я ведаю, што гэта істотна.

Думаю, у кабінэце ёсьць нейкая таямніца. Ён намякаў на яе некалькі разоў, вельмі неакрэсьлена, але дастаткова для прыцягненьня маёй увагі, каб прымусіць мяне спытаць, каб ведаць – я хачу спытаць. Вядома, я не пытаюся, бо ніякага выразнага адказу не атрымаю. Калі ён і адкажа, сказанае будзе поўнай лухтой, бо сакрэт ня будзе больш сакрэтам, калі ён скажа праўду, а ён, як і я, ведае, што па меры таго, як я сталею, ён мае патрэбу ў любым уплыве на мяне; я больш не дзіця. Толькі гэтыя жаласныя рэшткі фальшывай ўлады дазваляюць яму думаць, нібы ён да гэтага часу цалкам кантралюе тое, што лічыць правільнымі ўзаемаадносінамі паміж бацькам і сынам. На самай справе гэта проста жаласныя патугі, але з дапамогай сваіх гульняў, сакрэтаў й крыўдных заўваг ён спрабуе захаваць сваю бясьпеку.

Я адкінуўся на сьпінку крэсла й пацягнуўся. Я люблю пах кухні. Ежа й бруд на нашых велінгтонах, а часам і слабы пах пораху, які даносіцца з падвалу, выклікаюць у мяне добрае, цёплае, чароўнае пачуцьцё, калі я думаю пра іх. Калі йдзе дождж і нашае адзеньне мокрае, пахне па-іншаму. Узімку вялікая чорная печка грэе цяплом, насычаным пахам сплаўнога лесу й торфу, і ўсё пацее, і па шклу барабаніць дождж. Тады ёсьць прыемнае пачуцьцё замкнёнай прасторы, й табе ўтульна, нібы вялікаму кату з закручаным вакол яго хвастом. Іншы раз мне хочацца, каб у нас быў кот. У мяне была толькі каціная галава, і тую зьнесьлі чайкі.

З кухні я накіраваўся ў туалет, спаражніцца. Мачыцца патрэбы не было, днём я памеціў Слупы, перадаючы ім свае пах ды сілу.

Я сядзеў там і думаў пра Эрыка, зь якім здарылася такая непрыемная гісторыя. Бедны скалечаны крэтын. Я думаў, я часта думаў, як бы я справіўся. Але гэта здарылася не са мной. Я застаўся тут, а Эрык зьехаў, і гэта адбылося дзесьці ў іншым месцы, вось і ўсё. Я – гэта я, і тут – гэта тут.

Я быў насьцярожаны й спрабаваў пачуць майго бацьку. Магчыма, ён ужо сьпіць. Ён часта сьпіць у кабінэце, а не ў вялікай спальні на другім паверсе, дзе знаходзіцца й мая спальня. Мо, яго пакой выклікае ў яго занадта шмат непрыемных (або прыемных) успамінаў. У любым выпадку, я ня чуў храпу.

Ненавіджу, што я вымушаны ўвесь час сядзець на ўнітазе. З маёй інваліднасьцю я павінен гэта рабіць, быццам я чортава жанчына, і я шалею ад гэтага. Часам у “Колдхэймармз“ я прыладжваюся да пісуара, але амаль усё сьцякае па маіх руках і нагах.

Я напружыўся. Плюх. Пырскі фантанам закранулі маю задніцу, і менавіта ў гэты момант зазваніў тэлефон.

– Вось гаўно, – сказаў я й засьмяяўся.

Хуценька выцер сраку, падцягнуў штаны, тузануў ланцужок зьліву й зачыкільгаў па калідоры, зашпільваючыся. Узьбег па шырокай лесьвіцы на пляцоўку паміж першым і другім паверхам, дзе стаіць наш адзіны тэлефон. Я заўжды даймаю бацьку, патрабуючы паставіць яшчэ апараты, але ён кажа, нібыта нам недастаткова часта тэлефануюць, каб кешкацца з дадатковымі трубкамі. Я дабег да тэлефона да таго, як на тым канцы паклалі слухаўку. Бацька не прыйшоў.

– Алё, – сказаў я.

Тэлефанавалі з аўтамата.

– Скрав-аак! – ускрыкнуў голас на іншым канцы провада.

Я адсунуў слухаўку ад вуха й паглядзеў на яе, нахмурыўшыся. Ледзь чутныя крыкі прарываліся зь яе. Калі яны скончыліся, я зноў прыклаў слухаўку да вуха.

– Портнэйл пяцьсот трыццаць адзін, – холадна сказаў я.

– Фрэнк! Фрэнк! Гэта я. Я! Алё! Алё!

– Гэта рэха на лініі ці ты ўсё паўтараеш двойчы? – сказаў я. Я пазнаў голас Эрыка.

– І тое, і другое! Ха-ха-ха-ха!

– Алё, Эрык. Ты дзе?

– Тут! Ты дзе?

– Тут.

– Калі мы абодва тут, навошта мы валтузімся з тэлефонам?

– Скажы мне, дзе ты, пакуль у цябе манеты ня скончыліся.

– Але калі ты сам тут, ты павінен ведаць. Хіба ты ня ведаеш, дзе знаходзішся? – Ён пачаў хіхікаць.

Я спакойна сказаў:

– Годзе дурнем прыкідвацца.

– Я й не прыкідваюся. Не скажу я табе, дзе я; ты скажаш Энгусу, ён паведаміць паліцыі, і мяне зноў засунуць у ябаны шпіталь.

– Не мацюкайся. Ты ж ведаеш, я гэта не люблю. Канечне, бацьку я нічога не скажу.

– "Ябаны" – гэта не непрыстойнасьць. Гэта... гэта слова з пяці літар. Хіба пяцёрка не твая шчасьлівая лічба?

– Не. Дык ты скажаш, дзе ты? Я хачу ведаць.

– Я скажу табе, дзе я, калі ты назавеш мне сваю шчасьлівую лічбу.

– Мая шчасьлівая лічба – "е".

– Гэта ня лічба. Гэта літара.

– Гэта лічба. Трансцэндэнтная лічба: 2,718...

– Ты махлюеш. Я меў на ўвазе натуральную лічбу.

– Трэ было быць больш дакладным, – сказаў я й ўздыхнуў, пачуўшы як загучаў папераджальны гудок, і Эрык нарэшце кінуў яшчэ грошай. – Хочаш, я табе ператэлефаную?

– Хо-хо. Ты, мабыць, ад мяне так проста не адстанеш. Як сам?

– Добра. А ты як?

– Па-вар'яцку, – сказаў ён злосна. Я ўсьміхнуўся.

– Слухай, наколькі я разумею, ты зьбіраешся вярнуцца сюды. Калі так, калі ласка, ня трэба падпальваць сабак ці рабіць што-небудзь гэткае, добра?

– Што ты вярзеш? Гэта я. Эрык. Не падпальваю я ніякіх сабак! – ён пачаў крычаць. – Я не падпальваю грэбаных сабак! Ты што, блядзь, пра мяне думаеш? Ня сьмей вінаваціць мяне ў падпале чортавых сабак, ты, маленькі вырадак! Вырадак!

– Добра, Эрык, прабач, прабач! – сказаў я так хутка як мог. – Я толькі хачу, каб ты быў у парадку; будзь асьцярожны. Не рабі нічога, што можа адпудзіць людзей, разумееш? Людзі бываюць страшна чульлівымі...

– Ну... – пачулася. Я слухаў яго дыханьне, потым яго голас зьмяніўся. – Так, я вяртаюся дадому. Зусім ненадоўга, проста праведаць вас. Вы ж там толькі ўдвух, ты й стары?

– Так, толькі я й стары. Хочацца хутчэй цябе ўбачыць.

– Гэта добра, – потым павісла паўза. – Што ж вы ні разу не прыехалі мяне наведаць?

– Я... Мне здавалася, бацька быў у цябе на Каляды.

– Бацька? Ну... а чаму ты ніколі не прыедзеш?

Яго голас гучаў жаласьліва. Я перанёс вагу цела на іншую нагу, паглядзеў вакол і ўверх па лесьвіцы, разьлічваючы ўбачыць бацьку над парэнчамі або яго цень на сьцяне пляцоўкі зьверху, дзе ён схаваўся й падслухоўвае мае тэлефонныя размовы, думаючы, што я нічога не заўважаю.

– Я не люблю надоўга зьязджаць з выспы, Эрык. Прабач, але ў мяне зьяўляецца ў жываце гэтае жудаснае пачуцьцё, нібы кішкі вузлом завязваюцца. Я проста не магу паехаць так далёка, прыйдзецца дзесьці начаваць альбо... Проста не магу. Я хачу пабачыць цябе, але ты так далёка.

– Я набліжаюся, – яго голас зноў гучаў ўпэўнена.

– Выдатна. Як далёка ты цяпер?

– Я не скажу.

– Я ж сказаў табе сваю шчасьлівую лічбу.

– Я схлусіў. Не зьбіраюся табе казаць, дзе я.

– Гэта не...

– Зьбіраюся пакласьці слухаўку.

– Ты ня хочаш пагаварыць з бацькам?

– Пакуль не. Пагавару зь ім пазьней, калі буду нашмат бліжэй. Усё, пайду. Да сустрэчы. Беражы сябе.

– Да сустрэчы. І ты таксама... акуратней там.

– Аб чым мне хвалявацца? Усё будзе ў парадку. Што са мной можа здарыцца?

– Проста не рабі нічога, што раздражняе людзей. Сам ведаеш, я маю на ўвазе, яны так лёгка выходзяць зь сябе. Асабліва з-за хатніх жывёл. То бок я не...

– Што? Чаго? Што там наконт хатніх жывёл? – ускрыкнуў ён.

– Нічога! Я проста сказаў...

– Ты, маленькі засранец! – загарланіў ён. – Ты зноў вінаваціш мяне ў падпале сабак, так ці не? Можа я яшчэ засоўваю чарвякоў ды апарышаў дзецям у рот і сцу на іх, га? – завішчаў ён.

– Ну, – асьцярожна пачаў я, зьгінаючы й разьгінаючы тэлефонны провад, – калі ты пра гэта згадаў...

– Гаўнюк! Вырадак! Ты, маленькі засранец! Я цябе заб'ю! Ты..., – голас яго зьнік, і мне зноў прыйшлося адсунуць слухаўку ад вуха, калі Эрык загрукацеў сваёй трубкай па сьценах будкі. Гукі гучных udараў наклаліся на мерныя гудкі – у яго скончыліся грошы. Я даў адбой.

Я паглядзеў уверх, але бацькі па-ранейшаму не было. Пракраўшыся па лесьвіцы, я ўсунуў галаву паміж прутамі й паглядзеў на пляцоўку, але там было пуста. Я ўздыхнуў ды сеў на прыступку. У мяне было пачуцьцё, што я ня вельмі добра змог пагутарыць з Эрыкам па тэлефоне. Я ня так лёгка кантактую зь людзьмі, і хоць Эрык мой брат, я ня бачыў яго больш за два гады, з таго самага часу, як ён зьехаў з глузду.

Я падняўся й пайшоў на кухню, замкнуць дзьверы ды забраць мае інструмэнты. Потым я пайшоў у ванную. Я вырашыў паглядзець тэлевізар у маім пакоі альбо паслухаць радыё й пайсьці рана спаць, каб падняцца адразу пасьля сьвітанку й злавіць асу для Фабрыкі.

Я ляжаў на ложку, слухаў Джона Піла па радыё, шум ветру ля дома й шум прыбою на пляжы. Пад маім ложкам самаробнае піва пахла дрожджамі.

Я зноў падумаў пра Ахвярныя Слупы, на гэты раз больш падрабязна, уяўляючы кожны па чарзе, успамінаючы іх разьмяшчэньне й кампанэнты, у думках бачачы месцы, на якія яны глядзяць сваімі сьляпымі вачыма, перагортваючы карцінкі, нібы вартаўнік, які мяняе малюнкі з камэр на экране манітора. Я нічога не прапусьціў, усё было ў парадку. Мае мёртвыя вартавыя, працягі мяне, якія падпарадкаваліся мне пасьля элемэнтарнай, але канчатковай капітуляцыі – сьмерці, – ня адчувалі нічога, што магло б пашкодзіць мне ці высьпе.

Я адкрыў вочы ды зноўку ўключыў начнік ля ложка. Паглядзеў на сябе ў люстэрка туалетнага століка ля супрацьлеглай сьцяны. Я ляжаў на пасьцілцы голы ў адных трусах.

Я занадта тоўсты. Гэта не так ужо страшна й не мая віна, але ў любым выпадку я ня выглядаю так, як хацелася б. Кругленькі – гэта я. Моцны й спрытны, але ўсё роўна занадта поўны. Я хачу выглядаць суворым і пагрозьлівым; я павінен так выглядаць, я мог бы так выглядаць, калі б ня мой няшчасны выпадак. Калі вы паглядзіце на мяне, вы ніколі не падумаеце, што я забіў трох чалавек. Гэта не сумленна.

Я зноў выключыў сьвятло. Пакой быў абсалютна цёмны, нават сьвятло зорак ня было бачным, пакуль мае вочы прыстасоўваліся. Магчыма, я папрашу радыё з зіхоткім электронным табло, якое паказвае час, хаця я вельмі люблю мой стары бронзавы будзільнік. Аднойчы я прывязаў па асе да медна-чырвоных званочкаў на корпусе будзільніка, туды, дзе малаточак б'е іх раніцай.

Я заўсёды прачынаюся да сыгналу будзільніка, так што прыходзіцца глядзець.

**2: Зьмяіны Парк**

Я ўзяў вугалёк, які быў рэшткамі асы й паклаў яго ў запалкавы пачак, абгорнуты старой фатаграфіяй Эрыка з бацькам. На здымку бацька трымаў фота сваёй першай жонкі, маці Эрыка, і яна была адзінай, хто ўсьміхаўся. Бацька вытарэшчваўся ў аб'ектыў й выглядаў сумным. Маленькі Эрык глядзеў у бок і калупаўся ў носе з сумным выглядам.

Раніца выдалася халаднаватай і сьвежай. Я бачыў смугу над лясамі ля падножжа гор і туман над Паўночным морам. Я хутка бег па мокрым пяску, там, дзе ён быў цьвёрды, выдаючы гук самалёта й моцна прыціскаючы да бакоў бінокль і мяшок. Калі я параўняўся з Бункерам, я плаўна павярнуў ад мора, запавольваючыся па меры набліжэньня да паласы мяккага белага пяску. Прабягаючы міма, я праверыў сьмецьце, выкінутае на бераг хвалямі, але сярод яго не было нічога, што выглядала б цікава, нічога, што варта было б падабраць, проста старая медуза, пурпурная маса з чатырма бледнымі колцамі ўсярэдзіне. Я крыху зьмяніў курс, каб праляцець над ёй, і з лямантам "Трррррфффау!" падштурхнуў медузу нагой, узьняўшы вакол сябе брудны фантан пяску й жэле. "Пучррт!" – пачуўся гук выбуху. Я павярнуў ізноў і накіраваўся да Бункера.

Слупы былі ў поўнай спраўнасьці. Мяшок з целамі й галовамі не спатрэбіўся. Я праверыў усе да аднаго, працуючы ўсю раніцу, і закапаў мёртвую асу ў яе папяровай труне не паміж двума самымі важнымі Слупамі, як спачатку зьбіраўся, а пад сьцяжынкай, на выспе ля маста. Мімаходам залез па канатах, якія падтрымліваюць мост, на верхавіну вежы з боку Вялікай Зямлі й паглядзеў вакол. Я бачыў верхавіну дома й акно гарышча. Яшчэ я бачыў шпіль Шатляндскай царквы ў Портнэйле й дым, які ўздымаўся з комінаў у гарадку. Я дастаў ножык зь левай нагруднай кішэні й асьцярожна надрэзаў палец. Размазаў чырвоную вадкасьць па верхавіне галоўнай бэлькі, якая праходзіць ад аднаго да другога вертыкальнага слупа вежы, потым выцер ранку антысэптычнай тканінай з аднаго з маіх мяшкоў. Пасьля гэтага я зьлез і падняў шарык ад падшыпніка, якім напярэдадні трапіў у шыльду.

Першая місіс Колдхэйм, Мэры, маці Эрыка, памерла ў нашым доме, нараджаючы яго. Галава Эрыка была занадта вялікая для яе; у Мэры адкрыўся крывацёк, і яна памерла ад страты крыві на шлюбным ложку ў 1960-м. Эрык пакутаваў ад моцных галаўных боляў усё жыцьцё, і я схільны прыпісваць яго мігрэнь спосабу яго прыходу ў сьвет. Уся гісторыя галаўных боляў ды яго мёртвай маці, думаю, моцна паўплывала на Тое, Што Здарылася З Эрыкам. Бедная няшчасная душа; ён проста апынуўся ў няўдалым месцы ў няўдалы час, і здарылася нешта зусім неверагоднае, што па чыстай выпадковасьці значыла больш для яго, чым для каго б там ні было яшчэ. Але гэтым вы рызыкуеце, калі пакідаеце выспу.

Калі паразважаць, Эрык таксама забіў кагосьці. Я думаў, я адзіны забойца ў сям'і, але старына Эрык апярэдзіў мяне, забіўшы сваю маму нават да таго, як задыхаў. Вядома, ненаўмысна, але часам учынкі красамоўнешыя за намеры.

Фабрыка сказала штосьці аб агні.

Я працягваў думаць пра тое, што б гэта значыла на самай справе. Відавочная інтэрпрэтацыя была ў тым, што Эрык зьбіраўся падпаліць некалькіх сабак, але я занадта добра ведаў Фабрыку, каб лічыць гэта пэўным; падазраю, тут усё значна складаней.

Я трохі шкадаваў, што Эрык вяртаецца. Я разьлічваў неўзабаве, прыблізна праз тыдзень, арганізаваць Вайну, але зь верагодным зьяўленьнем Эрыка вырашыў гэтага не рабіць. У мяне не было добрай Вайны ўжо некалькі месяцаў; апошняя была паміж Звычайнымі Салдатамі й Аэразолямі. Па сцэнары ўсе 72 арміі, укамплектаваныя танкамі й зброяй, і грузавікамі, і складамі, і верталётамі, і лодкамі павінны былі абʼяднацца супраць Уварваньня Аэразоляў. Спыніць аэразоляў было амаль немагчыма, салдаты ды іх зброя былі спалены й плавіліся паўсюль, пакуль адзін бравы салдат, які ўчапіўся ў Аэразоль, які ляцеў на базу, вярнуўся назад (пасьля мноства прыгодаў) з данясеньнем, што іх база – гэта кухонная дошка, прымацаваная пад брылём берага над залівам. Абʼяднаная група камандас зьявілася там своечасова, разьнесла базу на дробныя кавалачкі й у рэшце рэшт абваліла брыль на дымлівыя абломкі. Добрая вайна з усімі патрэбнымі інгрэдыентамі й больш уражлівым канцом, чым у большай частцы іншых (калі я прыйшоў увечары дадому, бацька нават спытаў, навошта патрэбны былі выбухі й агонь), але яна была занадта даўно.

Так ці інакш, калі ўжо Эрык накіроўваецца дахаты, ня думаю, што было б добрай ідэяй пачаць чарговую вайну толькі дзеля таго, каб кінуць яе ў сярэдзіне й разьбірацца з рэальным сьветам. Я вырашыў адкласьці вайну на некаторы час. Замест гэтага, пасьля таго, як я памазаў некалькі самых важных Слупоў каштоўнымі рэчывамі, я пабудаваў сыстэму дамбаў.

Калі я быў маладзейшы, я марыў пра тое, як выратую наш дом, пабудаваўшы дамбу. Напрыклад, трава, якая расьце на выдмах, загарыцца ці самалёт разабʼецца, і толькі я, адвёўшы ваду з дамбаў па каналу да дома, прадухілю ўзгараньне пораху ў склепе. Быў час, калі маім галоўным жаданьнем было прымусіць бацьку купіць мне экскаватар, тады б я змог будаваць па-сапраўднаму вялікія дамбы. Але цяпер я маю больш выдасканалены, калі не сказаць мэтафізычны, падыход да іх будаўніцтва. Я ўсьвядоміў, вы ніколі ня можаце канчаткова перамагчы ваду; у рэшце рэшт заўсёды пераможа яна, прасочваючыся й намочваючы, і падточваючы, і пераліваючыся. Усё, што вы можаце зрабіць – пабудаваць нешта, што зьменіць яе кірунак альбо затрымае яе ненадоўга; пераканаць яе зрабіць нешта, чаго яна на самай справе ня хоча. Задавальненьне складаецца з вытанчанасьці кампрамісу паміж тым, куды вада хоча рухацца (накіроўваецца гравітацыяй і асяроддзем, над якой яна цячэ), і тым, што вы хочаце зрабіць зь ёй.

На самай справе, я лічу, у жыцьці мала задавальненьняў, параўнальных з будаўніцтвам дамбаў. Дайце мне добры шырокі пляж з умераным ухілам, не занадта закіданы багавіньнем, і сярэдняга памеру ручай, і я буду шчасьлівы цэлы дзень, штодня.

Калі сонца паднялося высока, я зьняў жакет і паклаў яго разам з маімі мяшкамі й біноклем. Моцны Удар надкусваў й рэзаў, і капаў, будуючы велізарную трохузроўневую дамбу, галоўная секцыя якой стрымлівала ваду Паўночнага мора на працягу васьмідзесяці крокаў, крыху не дацягваючы да рэкорду для абранага мною месца. Для адводу залішняй вады я выкарыстаў звычайны кавалак металу, які хаваў у выдмах непадалёк ад лепшага месца для будаўніцтва дамбаў, але самае галоўнае – гэта аквэдук, знойдзены ў сплаўным лесе й высланы старым сьмецьцевым мяшком з чорнага плястыка. Акведук адвёў лішнюю ваду над трыма секцыямі канала, які я прарэзаў у дамбе непадалёк. За дамбай я пабудаваў маленькую вёску з дарогамі, мостам над рэшткамі ручайка й царквой.

Узарваць добрую трывалую дамбу альбо проста дапусьціць, каб вада пералілася праз яе, задавальняе ня менш, чым яе планаваньне й будаўніцтва. Як звычайна, я выкарыстаў маленькія ракавінкі для абазначэньня людзей у мястэчку. І, як звычайна, аніводная з ракавінак не перанесла патоп пасьля прарыву дамбы; яны ўсе патанулі, што азначае – усе памерлі.

Неўзабаве я вельмі прагаладаўся, мае рукі стаміліся й далоні пачырванелі ад ручкі рыдлёўкі й ад капаньня ў пяску. Я паглядзеў на першы паток бягучай да мора вады, брудный і засьмечанай, потым павярнуўся й пайшоў дадому.

– Ты ўчора ўвечары размаўляў па тэлефоне? – спытаў бацька.

Я пакруціў галавой.

– Не.

Мы сядзелі на кухні й заканчвалі наш абед, я еў тушанае мяса, бацька – карычневы рыс і салату з марской капусты. Ён быў апрануты ў свае Гарадзкія Прычындалы: карычневыя туфлі, карычневы цьвідавы касьцюм-тройку, а на стале ляжаў яго карычневы капялюш. Я праверыў свой гадзіньнік і ўбачыў, што сёньня чацьвер. Для бацькі было вельмі незвычайным пайсьці кудысьці ў чацьвер, у Портнэйл ці яшчэ куды далей. Я не зьбіраўся пытацца ў яго, куды ён сабраўся, ён бы толькі схлусіў. Раней, калі я пытаўся, ён адказваў: "На блядкі", – сьцьвярджаючы, што ёсьць такая выспа на поўначы ад Інвэрнэса. Каб дазнацца праўду спатрэбіліся гады й мноства дзіўных поглядаў на мяне ў Портнэйле.

– Сёньня я еду ў горад, – сказаў ён мне паміж салатай і рысам. Я кіўнуў, і ён працягнуў. – Вярнуся позна.

Магчыма, ён зьбіраўся ў Портнэйл, напіцца ў "Рок-гатэлі", або ў Інвэрнэс, дзе ён часта бывае па справах, адносна якіх ён напускае туману, але я падазраю, яны нейкім чынам зьвязаны з Эрыкам.

– Добра, – сказаў я.

– Я вазьму ключ, так што можаш замкнуцца, калі захочаш. – Ён са звонам паклаў нож і відэлец на пустую талерку й выцер рот карычневай сурвэткай з другаснай сыравіны. – Толькі не замыкай засаўкі, добра?

– Ладна, – сказаў я.

– Прыгатуеш сабе чаго-небудзь паесьці на вячэру, га?

Я кіўнуў зноў, не паднімаючы галавы ад ежы.

– Посуд памыеш?

Я зноў кіўнуў.

– Я ня думаю, што Дыгз прыедзе зноў, але калі так, я хачу, каб ты яму не трапляўся.

– Не хвалюйся, – сказаў я яму й ўздыхнуў.

– Значыць, можна не хвалявацца? – устаючы, спытаў ён.

– Мм... угу, – прамармытаў я, даядаючы рэштκі тушанага мяса.

– Ну я пайшоў тады.

Я паглядзеў уверх якраз своечасова, каб убачыць, як ён надзеў свой капялюш на галаву й акідваў позіркам кухню, паляпваючы сябе па кішэнях. Ён зноў паглядзеў на мяне й кіўнуў.

– Пакуль, – сказаў я.

– Ага, – сказаў ён. – Бывай.

– Да спатканьня.

– Ага.

Ён павярнуўся, потым зноў павярнуўся, яшчэ раз акінуў позіркам пакой і пайшоў да дзьвярэй, па дарозе ўзяўшы свой кій з вугла ля пральнай машыны. Я чуў, як грукнулі вонкавая дзьверы, потым стала ціха. Я ўздыхнуў.

Я пачакаў хвіліну-другую й потым падняўся, пакінуўшы амаль чыстую талерку, і прайшоў праз увесь дом у гасьціную, дзе я мог бачыць сьцежку, што вяла праз выдмы да моста. Бацька ішоў з апушчанай галавой, нецярпліва перастаўляючы трысьціну, хутка рухаючыся ў стылі чагосьці накшталт заклапочанага маршу. Я бачыў, як ён зьнёс кіем некалькі палявых кветак на ўзбочыне сьцяжынкі.

Я ўзьбег па лесьвіцы, затрымаўшыся ля вакна на пляцоўцы, паглядзець, як бацька зьнікае за выдмай перад мостам, адолеў яшчэ адзін пралёт, кінуўся да дзьвярэй бацькоўскага кабінэта й рэзка крутануў ручку. Дзьверы не паддаліся, яны ня зрушыліся й на мілімэтар. Аднойчы ён забудзе, я ўпэўнены, але ня сёньня.

Пасьля таго, як я скончыў есьці й памыў посуд, я пайшоў у свой пакой, праверыў хатняе піва ды ўзяў пнэўматычную стрэльбу. Упэўніўся, што ў мяне досыць куль у кішэнях жакета, потым накіраваўся на Трусіныя Угоддзі – участак на Вялікай Зямлі паміж рукавом заліва й гарадзкім сьметнікам.

Я не люблю ўжываць стрэльбу; занадта ўжо ў яе дакладны бой. Катапульта – гэта Унутраная рэч, якая патрабуе зьліцьця цябе й яе ў адзінае цэлае. Калі ты кепска сябе адчуваеш, ты прамахнешся; калі ты ведаеш, што робіш нешта ня тое, ты таксама прамахнешся. Калі ты страляеш не зь бядра, страляніна – Зьнешняе дзеяньне; ты накіроўваеш стрэльбу, цэлішся й усё, калі, зразумела, бачнасьць ніштаватая й ня дзьме моцны вецер. Як толькі ты ўзьвёў курок, уся сіла ўжо тут, чакае вызваленьня націскам пальца. Катапульта жыве з табой да апошняга імгненьня; яна напружана ў тваіх руках, дыхае з табой, рухаецца з табой, гатовая скокнуць, гатовая засьпяваць, здрыгануцца й пакінуць цябе ў драматычнай позе, а ты чакаеш, пакуль цёмная дуга шара з чароўным глухім стукам знойдзе ў сваім палёце цэль.

Але палюючы на трусаў, асабліва на маленькіх ублюдкаў з Угоддзяў, табе спатрэбіцца ўсё, што ты можаш дастаць. Адзін стрэл, і яны разьбягаюцца па сваіх норах. Стрэльба таксама досыць гучная, каб распужаць іх, але гэты спакойны хірургічны інструмэнт павялічвае шанец забіць зь першага стрэлу.

Наколькі я ведаю, ніводзін з маіх няшчасных сваякоў не памёр ад кулі. Колдхэймы й іх спадарожнікі жыцьця сышлі ў іншы сьвет мноствам дзіўных спосабаў, але мне нічога не вядома пра ружжо, якое спыніла б зямны шлях аднаго зь іх.

Я дайшоў да канца моста, дзе афіцыйна мая тэрыторыя сканчваецца, й пастаяў там некалькі хвілін, думаючы, адчуваючы, слухаючы й нюхаючы. Здаецца, усё было ў парадку.

Акрамя тых, каго забіў я (яны былі ўсе прыблізна аднаго ўзросту, калі я іх прыкончыў), я ведаю як мінімум трох з нашай сям'і, якія пайшлі да таго, каго яны ўяўлялі сваім Стваральнікам, незвычайнымі шляхамі. Левіцікус Колдхэйм, старэйшы брат майго бацькі эміграваў у Паўднёвую Афрыку й купіў там фэрму ў 1954-м. Левіцікус, чалавек, разумовыя здольнасьці якога былі такой буйнакалібэрнай дурасьці, што яна, верагодна, была б палепшана надыходам старэчага маразму, зьехаў з Шатляндыі, паколькі кансэрватары не адмянілі сацыялістычныя рэформы папярэдняга лейбарысцкага ўраду: жалезныя дарогі ўсё яшчэ нацыяналізаваны, рабочы кляс размнажаецца, як мухі, дзяржаўная ахова здароўя перашкаджае натуральнай сьмерці ад хвароб, дзяржаўныя шахты... немагчыма трываць. Я чытаў некаторыя зь яго лістоў бацьку. Левіцікус быў шчасьлівы ў іншай краіне, хоць вакол было шмат чорных. У першых лістах ён менаваў палітыку расавай ізаляцыі "адасобленае пекла", пакуль яго, мабыць, хтосьці не прасьвяціў. Але ўжо ніяк ня бацька.

Аднойчы Левіцікус праходзіў ля паліцэйскага кіраваньня ў Ёханэсбургу, ішоў па ходніку пасьля паходу за пакупкамі, калі звар'яцелы чорны скочыў з даху й сарваў усе свае пазногці на шляху ўніз. Ён упаў й сьмяротна параніў майго нявіннага й няшчаснага дзядзьку, апошнімі словамі якога ў бальніцы, перад тым як кома дабіла яго, былі: "Божа, гэтыя підары навучыліся лётаць...".

Наперадзе над гарадзкім сьметнікам узьняўся невыразны струменьчык дыму. Я не планаваў забірацца сёньня гэтак далёка, але пачуў бульдозэр, які, газуючы й круцячыся, разраўноўваў сьмецьце.

Даўно я ня быў на сьметніку, самы час праверыць, што выкінулі добрыя людзі Портнэйла. Менавіта там я разжыўся старымі аэразолямі для апошняй Вайны, ня кажучы ўжо аб некалькіх частках Асінай Фабрыкі, у тым ліку непасрэдна сам Цыфэрблат.

Мой дзядзька па матчынай лініі Атэльвальд Трэплі эміграваў у Амэрыку ў канцы Другой Сусьветнай вайны. Ён кінуў добрую працу ў страхавой кампаніі з-за жанчыны й апынуўся, у рэшце рэшт, зламаны з разьбітым сэрцам на таннай трэйлернай стаянцы на ўскраіне Форт-Уэрта, дзе вырашыў пакончыць з сабой.

Ён уключыў, не запальваючы, газавую пліту й калонку ды ўсеўся чакаць канца. Нярвуючыся па зразумелай прычыне й, без сумневу, звар'яцеўшы ад несвоечасовага й незапланаванага ім сыходу сваёй каханай, ён без задняй думкі вырашыў супакоіцца звыклым спосабам і запаліў "Мальбара".

Крычучы, ён выскачыў з палаючых рэшткаў фургона, з галавы да ног ахоплены полымем. Ён хацеў памерці бяз болю, а не згарэць жыўцом. Таму ён скокнуў галавой наперад у саракагалонную бочку з-пад бэнзыну, поўную дажджавой вады, якая стаяла ў канцы пляцоўкі. Уціснуўшыся ўнутр бочкі, ён патануў, журботна боўтаючы сваімі маленькімі ножкамі, глытаючы й выгінаючыся, спрабуючы ўхапіцца рукамі, каб выцягнуць сябе адтуль.

За дваццаць мэтраў ад парослага травой пагорка, зь якога адкрываецца від на Трусіныя Угоддзі, я пераключыўся на Маўклівы Бег, таемна перамяшчаючыся цераз траву й чарот, клапоцячыся, каб нішто з маёй паклажы ня дзынкнула. Я спадзяваўся злавіць маленькіх шкоднікаў рана раніцай, але калі б прыйшлося, я быў гатовы чакаць да заходу сонца.

Я ціха поўз уверх па схіле, трава сьлізгала пад грудзьмі й жыватом. Ногі напружваліся, прасоўваючы маё цела ўверх і наперад. Зразумела, я быў з падветранага боку, ды й вецер быў досыць моцны, каб заглушыць невялікія гукі. Я не бачыў трусаў-вартавых на пагорку. Спыніўся прыблізна ў двух мэтрах ад грэбня й ціха ўзьвёў стрэльбу, праверыўшы кулю з сумесі сталі ды нэйлону, перш чым зарадзіць, і ціха зашчоўкнуў стрэльбу. Я заплюшчыў вочы й ўявіў узьведзеную, сьціснутую спружыну й маленечкую кулю на самым дне бліскучай трубкі ствала. Потым ускараскаўся на вяршыню ўзгорка.

Спачатку я думаў, што мне прыйдзецца чакаць. Угоддзі ў пасьляпаўдзённым сьвятле здаваліся пустымі, толькі трава калыхалася ветрам. Я бачыў норы, маленькія кучкі параскіданага памёту й зарасьнікі ядлоўца на процілеглым схіле, на якім была большасьць нор, і трусіныя сьцежкі зьмяіліся між кустоў зьвілістымі тунэлямі, але не было й сьледу саміх жывёл. На гэтых сьцежках, ідучых праз ядловец, мясцовыя хлопцы ўсталёўвалі пасткі. Я бачыў, як яны гэта рабілі, і калі знаходзіў драцяныя петлі, то альбо выкідваў іх, альбо ўсталёўваў на тых самых сьцяжынках, па якіх хлопцы вярталіся праверыць пасткі. Ужо ня ведаю, ці трапіў хто-небудзь зь іх у сваю ўласную пастку, але мне хочацца думаць, што яны сапраўды спатыкаліся й расквашвалі галовы. У любым выпадку, яны ці іх зьмена больш не ставяць пастак; мяркую, мода прайшла, і цяпер яны малююць фарбай лозунгі на сьценах, нюхаюць клей альбо спрабуюць каго-небудзь выябаць.

Жывёліны рэдка зьдзіўляюць мяне, але калі я заўважыў гэтага самца, то мімаволі замёр. Напэўна, ён увесь час быў там, седзячы нерухома й ўтаропіўшыся наўпрост на мяне з роўнага ўчастка на дальнім краі Угоддзяў, але спачатку я яго не заўважыў. Калі ж я згледзеў яго, гэтая нерухомасьць спыніла й мяне на імгненьне. Не варухнуўшы ніводнай цягліцай, я мысьленна абдумаў й вырашыў, што галава вялікага самца спатрэбіцца для Слупа. Трус выглядаў чучалам, ён не зрабіў аніводнага руху, і я дакладна бачыў, што ён глядзеў акурат на мяне, гэтыя вочкі не міргалі, нос ня чмыхаў, вушы не варушыліся. Не адрываючы позірку, я вельмі павольна перанёс стрэльбу, накіроўваючы яе спачатку трохі ў адзін бок, потым у іншы, каб гэта выглядала, як быццам штосьці гойдалася ад ветру ў траве. Перанесьці стрэльбу ў патрэбную пазіцыю й павярнуць галаву заняло каля хвіліны, але жывёла ня ссунулася ні на мілімэтар.

У чатырохкратным павелічэньні яго вусатая морда, крыж-накрыж рассечаная ніцямі аптычнага прыцэлу, глядзелася яшчэ больш уражліва, ён быў па-ранейшаму нерухомы. Я нахмурыўся й падняў галаву, раптам падумаўшы, мо, ён на самай справе пудзіла, магчыма, хтосьці вырашыў пасьмяяцца зь мяне. Гарадзкія хлопцы? Бацька? Не Эрык жа? Я зрабіў глупства, тузануўшы галавой занадта рэзка, і трус гайсануў уверх па схіле. У той жа момант я прыгнуў галаву й падняў стрэльбу, нават не падумаўшы. Зноўку цэліцца, затрымліваць дыханьне й плаўна спускаць курок часу не было; ускінуў, стрэліў ды, не ўтрымаўшы раўнавагі, куліўся наперад, пераварочваючыся, каб ствол не забіўся пяском.

Калі я прыўзьняўся ў пяску, ямчэй перахапіўшы стрэльбу й перавёўшы дыханьне, труса й сьлед прастыў. Я пераламіў стрэльбу й гваздануў сябе па каленях. “Вось гаўно!” – сказаў я сам сабе.

Аднак у нары труса не было. Не было яго нават каля схілу, дзе разьмешчаны норы. Ён імчаўся па роўнай зямлі вялікімі скачкамі, накіроўваючыся наўпрост да мяне й дрыжучы ў

паветры пры кожным скачку. Ён нёсся да мяне нібы куля, галава трэслася, вусны рассунутыя, разцы доўгія й жоўтыя – самыя вялікія з тых, якія я калі-небудзь бачыў у труса, жывога ці мёртвага. Яго вочы былі падобныя да скручаных сьлімакоў. Кроплі чырвонага сачыліся зь яго левай задняй нагі пасьля кожнага атакуючага скачку; ён быў амаль побач, а я сядзеў й глядзеў.

Часу перазараджаць не было. Калі я пачаў рэагаваць, часу не хапала ўжо ні на што, акрамя дзеяньняў на ўзроўні інстынкту. Мае рукі выпусьцілі стрэльбу, якая павісла над каленьмі, і пацягнуліся да катапульты, як заўсёды затыкнутай за пояс. Аднак нават мае шарыкі хуткага рэагаваньня нельга было дастаць своечасова; праз паўсэкунды трус ўжо наляцеў на мяне, мецячы прама ў горла.

Я злавіў яго катапультай, захліснуўшы за шыю чорнай трубчастай гумай і, самкнуўшы рукі, паваліўся на сьпіну, прапускаючы яго над галавой, потым агрэў яго нагамі й павярнуўся так, каб быць на адным узроўні зь ім, дрыгаючы нагамі з сілаю расамахі, раскрыжаваным на пяску, з шыяй, захопленай чорнай гумай. Ён круціў галавой, спрабуючы дацягнуцца сваімі разцамі да маіх пальцаў. Я зашыпеў на яго праз сьціснутыя зубы й нацягнуў гуму тужэй, потым яшчэ тужэй. Трус біўся, і пляваўся, і выдаваў высокі гучны гук, на які, па маім меркаваньні, трусы ня здольныя, і барабаніў па зямлі лапамі. Я быў так халерна напалоханы, што агледзеўся вакол, каб пераканацца – гэта не сыгнал для арміі трусаў кшалту гэтага зьвера-дабэрмана наступаць на мяне са сьпіны й разарваць на кавалачкі.

Чортава жывёла не зьбіралася паміраць! Гума расьцягвалася й расьцягвалася, і не сьціскала яго горла досыць шчыльна, а я ня мог зрушыць рукі з-за боязі, што трус адгрызе кавалак пальца або мой нос. З тых жа меркаваньняў я ня адважваўся аглушыць яго ўдарам галавы; не хапала яшчэ набліжаць свой твар да гэтых зубоў. Ускінуць калена й пераламаць яму хрыбет я таксама ня мог, таму што амаль сасьлізгваў па схіле, і не ўтрымаўся б на такой паверхні адной нагой. Здурнець можна! Тут жа не Афрыка! Гэта трус, а не леў! Што, к чортавай мацеры, адбываецца?

Нарэшце ён мяне ўкусіў, вывернуўшы шыю больш, чым я лічыў магчымым, і цапнуў мой правы ўказальны палец на зьгіне.

Гэта было апошняй кропляй. Я закрычаў й пацягнуў што ёсьць моцы, напружваючы рукі й закінуўшы галаву, пакаціўся назад, стукнуўшыся каленам аб стрэльбу, якая ўпала ў пясок.

Лежачы ў рэдкай траве ля падножжа пагорка, я душыў труса чорнай гумай – у мяне ажно косткі пальцаў пабялелі ад натугі. Морда яго матлялася перад маім тварам, мяне таксама трэсла, так што ня ведаю, чые гэта былі канвульсіі – яго ці мае. Потым гума лопнула. Трус чмякнуўся мне ў левае запясьце, а абрывак гумкі хвастануў па правым запясьці; рукі мае разьляцеліся ў процілеглыя бакі, стукнуўшыся вобземлю.

Я ляжаў на сьпіне, не адрываючы галавы ад пясчанай зямлі, і глядзеў на цела труса, за якім зьвілістым чорным сьледам цягнулася гумка, заблытаная ў жалезнай ручцы катапульты. Жывёла была нерухомая.

Я падняў вочы да неба, сьціснуў кулак і ўвагнаў яго ў зямлю. Перавёў погляд на труса, падняўся й ўстаў ля яго на калені. Ён быў мёртвы; калі я падняў яго, галава млява адкінулася, шыя была зламаная. На левай задняй лапе запеклася кроў ад маёй кулі. Здаравенны трус; велічынёю з адкормленага ката; самы вялікі трус з тых, што я калі-небудзь бачыў. Відаць, занадта даўно я не наведваўся да трусаў, інакш напэўна заўважыў бы такога зьвяругу.

Я смактаў невялічкі ручаёк крыві, які сачыўся з майго пальца. Мая катапульта, мой гонар і радасьць, Чорны Разбуральнік, зьнішчаны трусам! О, вядома ж, я мог бы забыць усё й здабыць новы кусок гумы ці папрасіць старога Камэрона пакапацца ў скабяной краме, але я ніколі не змагу адчуваць сябе па-ранейшаму. Кожны раз, наводзячы яе на мішэнь – жывую ці не – гэтая хвіліна ўсплыве ў падсьвядомасьці. Чорнаму Разбуральніку прыйшоў гамон.

Я прысеў ды хуценька агледзеўся. Усё яшчэ ніводнага іншага труса. Ня дзіўна. Нельга было губляць ні хвіліны. З гэтай сытуацыі быў толькі адзін выхад.

Я ўстаў, адшукаў прысыпаную пяском стрэльбу, падняўся на вяршыню ўзгорка, агледзеўся й вырашыў рызыкнуць і пакінуць усё як ёсьць. Прыціснуўшы стрэльбу да

грудзей, я сарваўся зь месца на Надзвычайнай Хуткасьці, ірвануўшы па сьцежцы да выспы на максімуме, спадзяючыся на ўдачу й адрэналін, што я не пастаўлю нагу няўдала й не апынуся ў траве, хапаючы ротам паветра, са шматлікімі пераломамі сьцегнавой косткі. Я балансаваў зброяй на стромкіх паваротах. Зямля й трава былі сухімі, таму я ня вельмі рызыкаваў. Збочыўшы з утаптанай сьцяжынкі, я ўзьбег на выдму й скаціўся па дальнім схіле, дзе труба, якая праводзіць ваду й электрычнасьць у дом, выходзіць з-пад зямлі й перасякае заліў. Я перамахнуў цераз жалезныя пруты й прызямліўся абедзьвюма нагамі на бэтон, потым прабег па вузкай верхавіне трубы й скокнуў на выспу.

Дома я адразу пайшоў у свой пакой. Пакінуў стрэльбу, праверыў Вайсковую Торбу й надзеў рэмень ад яе на галаву, шпарка замацаваўшы другі на поясе. Ізноў замкнуў пакой і прабег трухам да моста, аднаўляючы дыханьне. Калі мінуў вузкую брамку на сярэдзіне моста, я паскорыўся.

На Трусіных Угоддзях усё было так, як я пакінуў – трус ляжаў задушаны ў зламанай катапульце, пясок быў узьбіты й перамяшаны там, дзе я ўпаў. Вецер па-ранейшаму варушыў траву й кветкі, і вакол не было жывёл; нават чайкі яшчэ не заўважылі труп. Я тут жа ўзяўся за працу.

Спачатку я дастаў дваццацісантымэтровую бомбу для рыцьця траншэй з Вайсковай Торбы. Разрэзаў трусу задні праход. Праверыў бомбу, пераканаўся, што белыя крышталікі выбуховай сумесі не адсырэлі, дадаў саломіну плястыкавага выбухоўніка й зарад выбухоўкі вакол дзіркі, прабітай у чорнай трубцы, і заклеіў усё ліпкай стужкай. Я запіхнуў усё ўнутр яшчэ цёплага труса й паставіў яго нібыта сядзячым на кукішках і назіраючым за норамі. Потым узяў некалькі меншых бомбаў ды парасьпіхваў іх па норах, прытаптаўшы дахі тунэляў так, каб вонкі тырчалі толькі саломінкі запалаў. Напоўніў плястыкавыя бутэлькі з-пад растваральніка й падпаліў запальнічку, пакінуўшы яе ляжаць на вяршыні абрыву, у якім была большасьць нор, вярнуўся да першых абваленых тунэляў й запаліў выбухоўнік сваёй запальнічкай. Пах гарэлага плястыка заставаўся ў маім носе, і яркі водбліск падпаленай сумесі скакаў перад вачыма, калі я сьпяшаўся да наступнай дзіркі, зірнуўшы на гадзіньнік. Паставіў шэсьць маленькіх бомбаў й падпаліў іх запалы за сорак сэкунд.

Я сядзеў на вяршыні пагорка над норамі, а полымя агнямёта слаба гарэла ў сонечным сьвятле, калі праз хвіліну з гакам выбухнуў першы тунэль. Я адчуў гэта задніцай і ўсьміхнуўся. Астатнія норы неўзабаве таксама выбухнулі, воблака дыму ад зарада вакол кожнай бомбы вырывалася з-пад зямлі за сэкунду да асноўнага выбуху. Зямлю раскідала па ўсім Трусіным Угоддзям, і паветра дрыжала ад выбухаў. Я ўзрадаваўся ім. Увогуле шуму было няшмат. Вы не змаглі б пачуць ні гуку, калі б былі ў доме. Амаль уся энэргія бомбаў сышла на выкід зямлі й паветра.

Выбеглі першыя аглушаныя трусы, у дваіх зь іх ішла з носа кроў, у астатнім яны выглядалі непашкоджанымі, але хісталіся, амаль падалі. Я сьціснуў плястыкавую бутэльку й пырснуў струменем бэнзіну над кнотам запальніцы, якую я трымаў алюміневым мацаваньнем ад палаткі ў некалькіх сантымэтрах ад горлачка. Бэнзін загарэўся, праля-таючы над кнотам у маленькай сталёвай чашачцы, зароў у паветры й з успышкай разьляцеўся вакол і на трусаў. Ахопленыя полымем, яны далі драла, хістаючыся й падаючы. Я пашукаў вакол яшчэ трусаў, пакуль першыя два гарэлі ў цэнтры Угоддзяў і, нарэшце, рухнулі ў траву, з нягнуткімі лапамі, але калоцячыся й патрэскваючы на ветры. Невялічкі язычок агню лізнуў рот Агнямёта; я задзьмуў яго. Зьявіўся іншы, меншы трус. Я закрануў яго струменем агню, і ён ірвануў за межы паражэньня, накіроўваючыся да вады ля пагорка, на якім шалёны самец атакаваў мяне. Я запусьціў руку ў Вайсковую Торбу, выцягнуў пнеўматычны пісталет, узьвёў яго й спусьціў курок. Стрэл не дасягнуў цэлі, і трус схаваўся за ўзгоркам, цягнучы за сабой шлейф дыму.

Я спаліў яшчэ трох жывёл агнямётам, перш чым загасіў яго. Апошняе, што я зрабіў – стрэліў палаючым струменем бэнзіну ў начыненага выбухоўкай самца, які да гэтага часу сядзеў мёртвы, сьцякаючы кры-вёю на пярэднім плане Угоддзяў. Трус зьнік у вогненным, з чорнымі пераліўамі, полыме. Праз некалькі сэкунд спрацаваў запал, а яшчэ сэкунд праз дзесяць грымнуў выбух, выкінуўшы нешта чорнае й дымлівае болей за дваццаць мэтраў

у вячэрняе паветра й раскідваючы кавалкі па Угоддзям. Выбух, куды болей магутны за тыя ў норах, нічым не прыглушаны, пракаціўся над выдмамі, нібы ўдар пугі, ажно ўвушшу зазьвінела, я нават падскочыў.

Рэшткі самца ўпалі далёка ззаду мяне. Я знайшоў іх, арыентуючыся на пах смаленага. У асноўным гэта была галава, пашматаны кавалак хрыбетніка й рэбраў, а таксама прыкладна палова шкуры. Я сьціснуў зубы й падняў цёплыя астанкі, прынёс іх на Угоддзі і, размахнуўшыся, шпурлянуў іх зь вяршыні абрыву.

Я стаяў у касых сонечных промнях, цёплых і жоўтых, у смуродзе гарэлага мяса й паленай травы на ветры, у дыме, што падымаўся ў паветра з нор і ад трупаў, шэрых і чорных, у саладкаватым паху недапаленага бэнзіну, які выцякаў з пакінутага мной Агнямёта, я дыхаў глыбока.

Рэшткамі бэнзіну я заліў цела катапульты й скарыстаную бутэльку ад Агнямёта, якія ляжалі на пяску, і падпаліў іх. Я сядзеў са скрыжаванымі нагамі непадалёк ад агню, утаропіўшыся на яго з наветранага боку. Калі ён дагарэў, і сталі бачныя толькі астаткі Чорнага Разбуральніка, я ўзяў яго запэцканы сажай шкілет і закапаў там, дзе ён знайшоў сваю пагібель, ля падножжа ўзгорка. Цяпер у груды будзе імя – Узгорак Чорнага Разбуральніка.

Агонь усюды патух; трава была занадта маладая й вільготная, каб загарэцца. Але я ня быў бы занепакоены й калі б яна загарэлася. Я падумаў, ці не падпаліць кустоўе ядлоўца, але калі распускаліся кветкі, яны выглядалі так весела, ды й жывое кустоўе пахла лепей за гарэлае, таму я ня стаў. Вырашыў, што руйнаваньняў для аднаго дня дастаткова. Катапульта была адпомшчана, трус – ці тое, што ён сымбалізаваў, яго дух, напэўна – зганьбаваны й зьнішчаны, атрымаў суворы ўрок, і я адчуваў сябе выдатна. Калі б з стрэльбай было ўсё ў парадку й пясок ня забіўся бы ў прыцэл ці яшчэ куды-небудзь, дзе цяжка вычысьціць, яно было б амаль вартым таго. Абаронны Бюджэт вытрымае набыцьцё новай катапульты заўтра; праўда, з арбалетам прыйдзецца пачакаць да наступнага тыдня.

З гэтым цудоўным пачуцьцём задаволенасьці ўнутры, я сабраў Вайсковую Торбу й стомлена паплёўся дадому, думаючы аб тым, што здарылася, спрабуючы высьветліць, што, як і чаму, зразумець, які ўрок можна атрымаць з усяго гэтага, якія разглядзець знакі.

Па дарозе я натыркнуўся на труса, якога лічыў уцеклым, ён ляжаў непадалёк ад бліскучай чыстай вады ручая; чорны й перакошаны, скручаны ў дзіўнай скажонай позе, ён дакорліва ўтаропіўся на мяне сухімі вачыма.

Я сьпіхнуў яго ў ваду.

Майго другога мёртвага дзядзьку з боку маці Эрыка звалі Хармсворт Стоўв. Ён быў бізнэсмэнам у Бельфасьце, ён і яго жонка прыглядвалі за Эрыкам на працягу амаль пяці гадоў, калі ён быў маленькім. У рэшце рэшт, Хармсворт зьдзейсьніў самагубства з дапамогай электрычнага дрыля й сьвердла ў чвэрць цаля. Ён увагнаў сьвердзел сабе ў скронь і, зразумеўшы, што ўсё яшчэ жывы, паехаў у бліжэйшы шпіталь, дзе пазьней памёр. На самай справе да яго сьмерці я таксама ў нейкім сэнсе маю дачыненьне, паколькі гэта здарылася менш, чым праз год пасьля таго, як Стоўвы страцілі свайго адзінага дзіцяці, Эсь-меральду. Яны ня ведалі – ды й ніхто ня ведаў – яна была адной з маіх ахвяр.

Гэтай ноччу я ляжаў у ложку, чакаючы вяртаньня майго бацькі й тэлефоннага званка, прыгадваючы тое, што адбылося.

Магчыма, вялікі самец не з Угоддзяў, а нейкая дзікая жывёла, якая прыйшла ў норы звонку, каб тэрарызаваць мясцовых і зрабіцца галоўнай, але загінула ў паядынку з вышэйшай істотай, якая на парадак пераўзыходзіць яе разуменьне.

Як бы там ні было, але гэта быў Знак. Тут ніякіх сумневаў. Увесь гэты пагрозьлівы эпізод павінен штосьці значыць. Ня выключана, мая аўтаматычная рэакцыя нейкім чынам зьвязана з агнём, прадказаным Фабрыкай, але глыбока ўнутры я ведаў, што гэта было не ўсё, ягадкі чакалі наперадзе. Знак быў ва ўсім, ня толькі ў нечаканай лютасьці забітага мною труса, але таксама ў маім разьюшаным, амаль неразважлівым адказе й у лёсе нявінных трусаў, якія прынялі на сябе цяжар майго гневу.

У дадатак гэта азначала позірк у мінулае, ня толькі ў будучыню. Першае маё забойства таксама было зьвязана са сьмерцю трусаў, якія сустрэлі вогненную сьмерць, больш за тое іх скананьне ад Агнямёта была практычна ідэнтычным помсьце, абрушанай мной на норы. Гэта ўжо занадта – адзін у адзін, залішне ідэальна. Падзеі разьвіваліся імкліва, нічога нельга было прадбачыць. Я рызыкаваў цалкам страціць кантроль над сытуацыяй. Трусіныя Угоддзі – тэарэтычна шчасьлівыя паляўнічыя надзелы – прадэманстравалі, што гэта цалкам верагодна.

Тэндэнцыя заўсёды была ад малога да вялікага, і Фабрыка навучыла мяне адшукваць заканамернасьці й не пярэчыць ім.

Сваё першае забойства я зьдзейсьніў з-за таго, што мой стрыечны брат Блайт Колдхэйм зрабіў з нашымі з Эрыкам трусамі. Эрык першым вынайшаў Агнямёт і пакінуў яго ў роварным хляве (цяпер гэта мой хлеў), калі кузэн, што гасьцяваў у нас з бацькамі, вырашыў, што выдатна будзе праехаць на Эрыкавым ровары па мяккім брудзе на паўднёвым ускрайку выспы. Так ён і зрабіў, пакуль мы запускалі папяровых зьмеяў. Потым ён вярнуўся й напоўніў бэнзінам Агнямёт. Прымасьціўся ў садку за домам так, каб ад веранды (дзе сядзелі ягоныя бацькі й наш тата) яго засланяла разьвешаная на вяроўцы бялізна; запаліў Агнямёт і абдаў полымем дзьве нашыя клеткі, спальваючы ўсіх нашых прыгажуноў.

Асабліва быў засмучаны Эрык. Ён плакаў як баба. Я хацеў забіць Блайта прама на месцы; лупцоўкі, якую ён атрымаў ад свайго бацькі, Джэймса – брата майго таты – было, на мой погляд, недастаткова за тое, што ён зрабіў з Эрыкам, з маім братам. Эрык быў няўцешны, у адчаі, бо ён зрабіў рэч, з дапамогай якой Блайт зьнішчыў нашых улюбёнцаў. Эрык заўсёды быў трохі больш сэнтымэнтальным, адчувальным, разумнейшым за мяне; да таго агіднага выпадку ўсе былі ўпэўненыя, што ён далёка пойдзе. Так ці інакш, Блайт фактычна заклаў пачатак Закутку Чэрапа, вялікаму й старому ўчастку, збольшага засыпанаму зямлёй выдмы за домам, куды адпраўляліся ўсе нашыя хатнія жывёлы пасьля сваёй сьмерці. Згарэлыя трусы пачалі традыцыю. Стары Сол спачыў там да іх, але гэта была аднаразовая акцыя.

Аб тым, што я зьбіраўся зрабіць з Блайтам, я нікому нічога не сказаў, нават Эрыку. Я быў мудры ў дзяцінстве, нават у такім чуйным узросьце пяці гадоў, калі большасьць дзяцей вечна крычаць сваім сябрам і бацькам, што ненавідзяць іх і што лепей бы яны памерлі. Я ж захоўваў спакой.

Калі Блайт прыехаў у наступным годзе, ён быў нават яшчэ болей непрыемны, чым раней, страціўшы сваю левую нагу ніжэй калена ў аварыі на дарозе (хлопчык, зь якім ён гуляў у ‘‘слабо’’, загінуў). Блайт пагарджаў сваёю інваліднасьцю, яму тады было дзесяць, і ён быў вельмі актыўны. Ён спрабаваў зрабіць выгляд, што брыдкая ружовая штуковіна, якую ён вымушаны быў прышпільваць, ня існуе, што яна ня мае зь ім нічога агульнага. Худабедна ён мог езьдзіць на ровары й любіў бароцца, гуляць у футбол, звычайна галкіпэрам. Мне тады толькі споўнілася шэсьць. І хоць Блайт ведаў аб нейкім няшчасным выпадку, які адбыўся са мной, калі я быў зусім маленькім, я, напэўна, здаваўся яму больш здаровым, чым быў ён сам. Ён думаў, гэта вельмі весела – памыкаць мной і бароцца са мной, і біць, і штурхаць мяне. Прыкладна з тыдзень я пераканаўча прыкідваўся, быццам у захапленьні ад усіх гэтых гульняў, а сам тым часам думаў, як бы расправіцца з нашым стрыечным братам.

Мой другі брат, родны, Пол, быў тады яшчэ жывы. Ён, Эрык і я павінны былі забаўляць Блайта. Мы прыклалі ўсе намаганьні, вадзілі Блайта па нашых любімых месцах, дазвалялі гуляць з нашымі цацкамі, гулялі зь ім. Эрык і я час ад часу павінны былі спыняць яго: калі ён хацеў кінуць маленькага Пола ў ваду, каб паглядзець, ці будзе ён трымацца на паверхні, альбо калі ён хацеў зваліць дрэва на чыгуначныя шляхі, якія йдуць праз Портнэйл, але, як правіла, мы ладзілі на зьдзіўленьне добра, хоць мяне вельмі раздражняла, калі я бачыў як Эрык, які быў аднаго з Блайтам узросту, баіцца яго.

У адзін цудоўны дзень, вельмі гарачы й поўны гнюсу, калі з мора дуў ледзьве ўлоўны ветрык, мы ўсе валяліся на лузе на поўдзень ад дома. Пол і Блайт паснулі, а Эрык ляжаў з рукамі пад шыяй, асавела гледзячы ў яркі блакіт. Блайт зьняў пусты плястыкавы пратэз і пакінуў яго валяцца ў блытаніне рамянёў й доўгіх сьцяблін травы. Я сачыў, як Эрык павольна заснуў, яго галава мякка схілілася ў бок, вочы заплюшчыліся. Я падняўся й пайшоў прагу-

ляцца, у рэшце рэшт апынуўшыся ля Бункера. Ён яшчэ ня меў значэньня, якое набыў у маім далейшым жыцьці, але месца мне ўжо падабалася, і я адчуваў сябе як дома ў яго прахалодзе й цемры. Гэта быў стары бэтонны бліндаж, пабудаваны ў канцы апошняй вайны для гарматы, якая абараняла заліў, і ён тырчаў нібы вялікі бетонны зуб. Я ўвайшоў унутр і заўважыў зьмяю. Гэта была гадзюка. Спачатку я яе не бачыў, таму што быў заняты прасоўваньнем старога спарахнелага слупа ад агароджы скрозь амбразуру, уяўляючы, што гэта гармата, і страляючы па ўяўным караблям. Толькі калі настраляўся, пабрыў адліць ў кут, дзе ляжала куча іржавых каністраў й старых бутэлек; там я й ўбачыў зігзагападобныя палосы сьпячай зьмяі.

Рашэньне дзейнічаць прыйшло амаль імгненна. Я ціха выйшаў вонкі й знайшоў кусок драўніны прыдатнай формы, вярнуўся ў Бункер, злавіў дзеравякай зьмяю за шыю й закінуў яе ў першую ж знойдзеную іржавую банку, у якой захавалася накрыўка.

Ня думаю, што зьмяя цалкам прачнулася, калі я злавіў яе, я быў асьцярожны й стараўся ня трэсьці яе на зваротным шляху да паляны, дзе спалі мае браты й Блайт. Эрык перавярнуўся, і адна яго рука была пад галавой, а другая прыкрывала вочы. Яго рот быў трошкі адкрыты, і грудная клетка ўздымалася павольна й роўна. Пол ляжаў на сонцы, скруціўшыся ў маленькі камяк, Блайт нерухома ляжаў на жываце, рукі пад шчакой, кукса яго левай нагі, прымінаючы кветкі й траву, высоўвалася з шортаў жудаснай эрэкцыяй. Я падышоў бліжэй, сьціскаючы іржавую банку за сьпіной. Задняя, бяз вокнаў, сьцяна дома глядзела на нас зьверху ўніз з адлегласьці прыблізна пяцідзесяці мэтраў. Белыя прасьціны ледзьве пагойдваліся ў садзе. Маё сэрца ашалела білася, і я аблізаў вусны.

Я асьцярожна сеў каля Блайта, так каб мая цень не ўпала яму на твар. Наблізіў адно вуха да банкі й замёр. Я ня чуў ды не адчуваў рухаў зьмяі. Я дацягнуўся да пратэза, які ляжаў ззаду Блайта ў цені, гладкі й ружовы. Паднёс да банкі, зьняў зь яе накрыўку й тут жа накрыў штучнай нагой. Я страсянуў банку й адчуў, як зьмяя звалілася ў пратэз. Спачатку ёй гэта не спадабалася. Яна рухалася й білася аб плястыкавыя сьценкі, пакуль я трымаў яе й пацеў, слухаючы гул насякомых і шоргат травы, пазіраючы на нерухомага Блайта, чые цёмныя валасы час ад часу кранаў вецер. Мае рукі дрыжэлі, і пот заліваў вочы.

Зьмяя перастала варушыцца. Я яшчэ нейкі час не адпускаў яе, паглядваючы на дом. Потым павольна нахіліў пратэз разам з банкай, пакуль той не лёг ззаду Блайта пад тым жа вуглом, што й раней. У апошні момант я асьцярожна адняў банку. Нічога не здарылася. Зьмяя па-ранейшаму была ўсярэдзіне, я яе нават не бачыў. Я падняўся, падаўся назад да бліжэйшай выдмы й зашпурнуў банку далёка за грэбень, потым вярнуўся, лёг туды, дзе сядзеў раней, і заплюшчыў вочы.

Першым прачнуўся Эрык, потым я адкрыў вочы нібыта заспаны, і мы разбудзілі Пола й нашага стрыечнага брата. Блайт пазбавіў мяне ад клопату прапанаваць згуляць у футбол, і сам зрабіў гэта. Эрык, Пол і я акрэсьлівалі вароты, а Блайт пасьпешліва прышпільваў сваю нагу.

Ніхто нічога не западозрыў. З таго самага моманту, калі мае браты ды я стаялі зьбянтэжана, а Блайт крычаў й скакаў, тузаючы сваю нагу, і да сьлёзнага разьвітаньня бацькоў Блайта й здыманьнем паказаньняў Дыгзам (у "Інвэрнэскім Кур'еры" нават зьявілася кароценькая нататка, сьмерць была адзначана з-за сваёй кур'ёзнасьці некалькімі бульварнымі пісакамі з Фліт-стрыт), ніхто нават ня выказаў меркаваньне, што гэта магло б быць чымсьці, акрамя трагічнага й зьлёгку дзіўнага выпадку. Толькі я ведаў больш.

Я не сказаў Эрыку. Ён быў шакаваны тым, што здарылася й шчыра шкадаваў Блайта й яго бацькоў. Я толькі сказаў, што ў гэтым, напэўна, суд Божы: спачатку Блайт страціў нагу, а затым прыняў сьмерць ад пратэза. І ўсё з-за трусаў. Эрык, які тады праходзіў рэлігійную фазу – здаецца, я нават спрабаваў гэта ў яго пераймаць – думаў, што так казаць ні ў якім разе нельга, Бог не такі. Я сказаў, што той, у якога веру я, такі.

У любым выпадку, з гэтае нагоды й пайшла назва таго ўчастка зямлі – Зьмяіны Парк.

Я ляжаў у ложку, думаючы пра ўсё гэта. Бацька да гэтага часу не вярнуўся. Магчыма, ён не зьбіраўся ночыць дома. Гэта было надзвычай дзіўна, нават палохала. Мо, ён зьбіты кім-небудзь ці памёр ад сардэчнага прыступу.

У мяне заўсёды было й засталося дагэтуль дваістае стаўленьне да мажлівага няшчаснага выпадку з маім бацькам. Сьмерць заўсёды бадзёрыць, прымушае цябе зразумець, наколькі ты сам жывы, наколькі ты ўразьлівы, але пакуль удачлівы; сьмерць каго-небудзь блізкага дае добрую нагоду на кароткі час крыху сысьці з розуму й рабіць тое, што ў іншай сытуацыі было б недаравальна. Якое задавальненьне паводзіць сябе па-сьвінску й усё роўна атрымліваць кучу спачуваньняў!

Але мне будзе не хапаць яго, ды й ня ведаю, ці мог бы я застацца тут зь юрыдычнага пункту гледжаньня. Атрымаў бы я ўсе яго грошы? Гэта было б цудоўна; я змог бы адразу купіць сабе матацыкл замест таго, каб чакаць. Ісусе, я б шмат чаго мог бы зрабіць, нават ня ведаю, з чаго менавіта пачаць думаць. Але гэта было б вялікай пераменай і ня ўпэўнены, ці гатовы я да яе.

Я адчуваў, як сасьлізгваю ў сон; пачаў ўяўляць і бачыць усялякія незвычайныя штукі перад вачыма: формы лябірынтаў й плямы невядомых колераў, якія распаўзаліся, затым фантастычныя будынкі й касьмічныя караблі, і зброю, і краявіды. Шкада, што я так кепска запамінаю сны...

Праз два гады пасьля таго, як я прыкончыў Блайта, я забіў свайго малодшага брата Пола, па іншых і больш важкіх прычынах за тыя, што прымусілі мяне расправіцца з Блайтам; яшчэ праз год я зрабіў тое ж самае з маёй стрыечнай сястрой Эсьмеральдай, у большай ступені дзеля забавы.

Вось мой рахунак на сёньняшні дзень. Тры. Даўненька я нікога не забіваў й ніколі не зьбіраюся гэтага рабіць.

Гэта проста была стадыя, праз якую я праходзіў.

**3: У Бункеры**

Мае САМЫЯ ГАЛОЎНЫЯ ВОРАГІ – Жанчыны й Мора. Іх я ненавіджу. Жанчын – таму, што яны слабыя й дурныя ды жывуць у цені мужчын, у параўнаньні зь якімі яны ніхто, а Мора – таму, што яно заўсёды раздражняе мяне, руйнуючы пабудаванае мной, змываючы пакінутае мною, начыста сьціраючы сьляды майго існаваньня. І я, дарэчы, ня ўпэўнены ў бездакорнасьці Ветру.

Мора – нешта накшталт міталягічнага ворага, і ў душы я прыношу яму тое, што можна назваць ахвярамі, трохі пабойваючыся яго, паважаючы яго, як мае быць, але ў многім стаўлюся да яго як да роўнага. Яно ўзьдзейнічае на сьвет, і я таксама; нас абодвух трэба баяцца. Жанчыны... ну, як па мне, яны заўсёды крыху бліжэй, чым неабходна для камфорту. Я не люблю, калі яны ёсьць на выспе, нават калі гэта ўсяго толькі місіс Клэмп, якая прыходзіць кожны тыдзень па суботах прыбіраць у хаце й прыносіць прадукты. Яна вельмі старая й такая ж бясполая, як усе дужа старыя й зусім маленькія, але ўсё роўна яна жанчына, а я іх цярпець не магу, на што ў мяне ёсьць свае прычыны.

Я прачнуўся наступнай раніцай, гадаючы, вярнуўся бацька ці не. Не губляючы часу на апрананьне, пацягнуўся ў яго пакой. Ужо зьбіраўся таргануць дзьверы, але пачуў яго храп да таго, як дакрануўся да ручкі, таму разьвярнуўся й пайшоў у ванны пакой.

Справіўшы патрэбу, я прыступіў да штодзённага рытуалу мыцьця. Сьпярша прыняў душ. На працягу ўсяго дня толькі падчас душа я здымаю майткі. Засунуў старую пару ў мяшок для бруднай бялізны ў шафе. Старанна памыўся, пачаўшы з валасоў й скончыўшы пальцамі ног і пазногцямі. Часам, калі я павінен прыгатаваць каштоўныя рэчывы, такія як падногцевы тваражок ці пыл з пупка, я вымушаны не прымаць ванну або душ некалькі дзён запар; цярпець гэтага не магу, таму што адчуваю сябе брудным, усё чухаецца й адзіная вартая рэч у такім устрыманьні – неперадаваймае пачуцьцё пасьля добрага душа ў канцы.

Пасьля душа й бадзёрага расьціраньня спачатку ручніком для твару, затым вялікім махровым, я падстрыг пазногці. Дасканала вычысьціў зубы электрычнай зубной шчоткай. Затым – галеньне. Я заўсёды карыстаюся пэнаю для галеньня й станкамі апошняй мадэлі (найноўшае дасягненьне на сёньняшні момант – плаваючая галоўка з падвойным лязом),

спрытна й дбайна выдаляючы мяккія валасінкі, выраслыя за ўчорашні дзень і ноч. Падобна ўсім маім ачышчэньням, я галюся, прытрымліваючыся дакладнага й наканаванага рытуалу: раблю брытвай аднолькавую колькасьць рухаў аднолькавай працягласьці ў адной і той жа пасьлядоўнасьці шторанку. Як заўсёды, я адчуў нарастаючую дрыготку ўзбуджэньня, уважліва разглядаючы ідэальна выгаленую паверхню майго твару.

Я высмаркаўся й вычысьціў нос, вымыў рукі, пачысьціў брытву, шчыпчыкі для пазногцяў, душ і ракавіну, спаласнуў ручнік і прычасаўся. На шчасьце, прышчэй не было, так што заставалася толькі памыць напасьледак рукі й нацягнуць чыстыя майткі. Я паставіў туалетныя прыналежнасьці, ручнікі, брытву ды іншае, на іх законныя месцы, працёр спатнелае люстэрка ваннай шафы й вярнуўся ў свой пакой.

Там я надзеў шкарпэткі; у гэты дзень належала зялёныя. Потым кашулю колеру хакі з мноствам кішэняў. Узімку ў мяне была б пад ка-шуляй саколка й зялёны вайсковы швэдар над ёй, але ня летам жа. Затым пайшлі ўсьлед мае зялёныя вэльвэтавыя штаны, карычневыя чаравікі “Кікэрс”, лэйблы зь іх былі сарваныя, як і з усяго, што я нашу, паколькі адмаўляюся быць хадзячай рэклямай. Ваенны жакет, нож, сумкі, катапульту ды іншую амуніцыю я ўзяў з сабой на кухню.

Было яшчэ рана, і, мусіць, зьбіраўся дождж, абяцаны ўчора ў прагнозе надвор’я. Зьлёгку пасьнедаў ды быў гатовы.

Я выйшаў у сьвежы вільготны ранак, рухаючыся хутка, каб сагрэцца й пасьпець абысьці востраў да пачатку дажджу. Пагоркі за горадам былі схаваныя аблокамі, вецер крыпчэў, на моры ўзмацнялася хваля-ваньне. Трава была мокрая ад расы, кроплі схілялі бутоны кветак і чапляліся за мае Ахвярныя Слупы, раса была як празрыстая кроў на скурчаных галовах і маленькіх высмаглых целах.

Пара самалётаў загулі над выспаю, крыло да крыла на вышыні ста мэтраў шпарка йшлі два “Ягуара”, яны перасяклі ўсю выспу за лічаныя імгненьні й панесьліся над морам. Я правёў іх вачыма й працягнуў шлях. Аднойчы пару гадоў таму двое такіх жа прымусілі мяне падскочыць. Яны йшлі на недапушчальна нізкай вышыні пасьля вучэбнай бамбёжкі над дальнім вусьцем заліва й так раптоўна зараўлі над выспаю, што я падскочыў у самы разгар ювэлірнай апэрацыі: спрабаваў заманіць у бляшанку асу, якая сядзела на старым пні ля разбуранага авечніка. Аса ўджаліла мяне.

У той жа дзень я пайшоў у горад, купіў плястыкавую мадэль “Ягуара”, пасьля абеду склеіў яе й ўрачыста падарваў маленькай бомбай на даху бункера. Праз два тыдні ў мора непадалёк ад Нэрна зваліўся “Ягуар”, хаця пілёту й ўдалося своечасова катапультавацца. Мне б хацелася думаць, што гэта было праявай Сілы, але падазраю супадзеньне: высакахуткасныя самалёты церпяць крушэньне так часта, нядзіўна, што сымбалічная й рэальная аварыя адбыліся цягам двух тыдняў.

Я прысеў на земляным адхоне над Мутным Ручаём і еў яблык. Абапіраўся на маладое дрэва, якое яшчэ саджанцам было Забойцам. Цяпер яно вырасла й стала нашмат вышэй за мяне, але калі я зь ім былі аднаго росту, я выкарыстоўваў яго як нерухомую катапульту для абароны паўднёвых падыходаў да вострава. Тады, як і дагэтуль, яно стаяла на беразе шырокай рэчкі, забітай глеем колеру зброевага мэталу, а з глею тырчэў абгрызены каркас рыбацкай лодкі.

Пасьля Гісторыі са Старым Солам я выкарыстоўваў катапульту па іншым прызначэньні, зрабіўшы зь яе Забойцу: ліха хамякоў, мышэй і пясчанак.

Помніцца, яно магло паслаць камень велічынёй з кулак праз увесь заліў, больш чым на 20 мэтраў у пагорыстую глебу Вялікай Зямлі, і, калі я прыстасаваўся да натуральнага рытму ваганьняў дрэва, то мог даваць выстрал кожныя дзьве сэкунды. Я мог паслаць камяні ў любую кропку ў межах шасьцідзесяці градусаў, у залежнасьці ад таго, у які бок і зь якой сілай нахіляў дрэўца. Я не запускаў грызуноў кожныя дзьве сэкунды: яны расходваліся па некалькі штук у тыдзень. Шэсьць месяцаў я быў лепшым пакупнікам зоокрамы ў Портнэйле, кожную суботу купляючы пару грызуноў, і прыблізна раз у месяц купляў набор валанаў у краме цацак. Сумняваюся, што камусьці, акрамя мяне, прыходзіла да галавы сумясьціць адно з другім.

Вядома ж, у мяне была прычына рабіць усё гэта; калі ўжо на тое пайшло, я амаль нічога не раблю проста так. Я шукаў чэрап Старога Сола.

Я запусьціў агрызак над залівам; ён шлёпнуўся ў гразь на дальнім баку з прыемным плюханьнем. Я вырашыў, што настаў час як сьлед агледзець Бункер і пабег трушком па беразе ў напрамку старога бліндажа, агінаючы самую паўднёвую выдму выспы. Спыніўся й агледзеў узьбярэжжа. Здаецца, нічога цікавага там не было, але я памятаў учорашні ўрок, калі гэтак жа спыніўся панюхаць паветра й быццам бы ўсё было ў парадку, а ўжо праз дзесяць хвілін я змагаўся з трусам-камікадзэ, таму прагуляўся па схіле выдмы й уздоўж лініі сьмецьця, выкінутага морам.

Там была бутэлька. Несур'ёзны праціўнік ды й пусты. Я наблізіўся да лініі прыбою й выкінуў бутэльку. Яна праскакала мэтраў дзесяць горлачкам уверх. Прыліў яшчэ не закрыў гальку, я набраў поўныя прыгаршчы каменьчыкаў й шпурнуў іх па дузе, мецячы ў бутэльку. Дыстанцыя была досыць невялічкая, каб весьці агонь такім стылем, і каменьчыкі падабраліся прыкладна аднаго калібру, так што выйшла даволі кучна: чатыры ўдары ляглі ў непасрэднай блізкасьці, запырскаўшы бутэльку, а пяты разьбіў горлачка. Сьціплая перамога на самай справе, вырашальная перамога над бутэлькамі адбылася даўно, адразу пасьля таго, як я навучыўся кідаць, калі зразумеў, што мора – вораг мне. Яно правакавала мяне час ад часу, а я ня быў схільны пакідаць беспакаранымі нават самыя нязначныя замахі на маю тэрыторыю.

Бутэлька патанула, я вярнуўся ў выдмы, падняўся на вяршыню той, у якой напалову пахаваны Бункер і агледзеў навакольле ў бінокль. Узьбярэжжа было пустэльным. Я спусьціўся ў Бункер.

Я даўно ўжо адрамантаваў сталёвыя дзьверы, аслабіўшы заржавелыя завесы й выпраставшы накіравальныя засаўкі. Выняў ключ і адчыніў вісячы замок. Унутры быў знаёмы васковы, гарэлы пах. Зачыніў дзьверы, падпёр іх дзеравякай і пачакаў, пакуль вочы прывыкнуць да змроку, а прытомнасьць – да атмасферы месца.

Неўзабаве я змог крыху бачыць у сьвеце, што прасочваўся скрозь мешкавіну на двух вузкіх шчылінах – адзіных вокнах Бункера. Зняў свой заплечны мяшок і бінокль ды павесіў іх на цьвікі, убітыя ў зьлёгку патрэсканы бэтон. Узяў бляшанку з запалкамі й запаліў сьвечкі; яны гарэлі жоўтым полымем, я апусьціўся на калені, сьціснуў кулакі й задумаўся. Пяць ці шэсьць гадоў таму я знайшоў набор для вырабу сьвечак у шафе пад лесьвіцай, месяцамі экспэрымэнтаваў з колерамі й кансістэнцыяй, пакуль ня здагадаўся выкарыстоўваць воск як турму для вос. Я паглядзеў уверх і ўбачыў галоўку асы, якая тырчэла на верхавіне сьвечкі на алтары. Нядаўна запаленая сьвечка, крывава-чырвоная, таўшчынёй з маё запясьце, гарэла спакойным полымем, якое падбіралася да галоўкі ў васковым кокане – у сантыметры адзін ад аднаго, нібыта фішкі ў таямнічай гульні. Я глядзеў, як агонь пачаў плавіць васковую абалонку асінай галавы, і вусікі на імгненьне выпрасталіся, пакуль ня згарэлі. Калі з галоўкі растаў воск, яна пачала дыміцца, потым дым ператварыўся ў агонь, цела асы ўспыхнула унутры кокана, полымя зьзяла й патрэсквала, спальваючы насякомае ад галавы ўніз.

Я запаліў сьвечку ў чэрапе Старога Сола. Гэты касьцяны шар, дзіравы й пажоўклы, быў прычынай забойства ўсіх тых маленькіх істот, якія сустрэлі сьмерць у глеі на дальнім баку ручая. Я глядзеў, як дымнае полымя трымцела там, дзе калісьці быў мозг сабакі й заплюшчыў вочы. Зноўку перада мной Трусіныя Угоддзі й хаатычныя піруэты палаючых цел. Ізноў я бачыў таго труса, які ўцёк з Угоддзяў й памёр, крыху не дацягнуўшы да ручая. Пабачыў Чорнага Разбуральніка й нанава перажыў яго сьмерць. Я падумаў пра Эрыка й спытаў сябе, аб чым жа папярэджвала Фабрыка.

Я ўбачыў самога сябе, Фрэнка Л. Колдхэйма, я ўбачыў сябе, якім я мог бы быць: высокі мужчына, моцны й ўпэўнены, які йдзе сваім шляхам, рашучы й мэтанакіраваны. Я адкрыў вочы й глытнуў, дыхаючы глыбока. Смуроднае сьвятло вырывалася з вачніц Старога Сола. Сьвечкі па абодвум бакам алтара зіхацелі на скразьняку разам з полымем у чэрапе.

Я агледзеў Бункер. Галовы чаек, трусаў, варон, мышэй, соў, кратоў й маленькіх яшчарак вытарэшчваліся на мяне зьверху ўніз. Яны сушыліся на кароткіх, з чорнага шнура,

петлях, падвешаных да нацягнутай з вугла ў вугал вяроўкі, і невыразныя цені павольна паварочваліся на сьцяне ззаду іх. Зьнізу, з усіх чатырох бакоў, за мной назіралі мае калекцыйныя чэрапы, устаноўленыя на драўляных і каменных пастамэнтах ці на банках і бутэльках з ліку Дароў Мора. Жоўтыя косьці чэрапаў коней, сабак, птушак, рыб і бараноў глядзелі ў бок Старога Сола, некаторыя з адкрытымі дзюбамі й сківіцамі, некаторыя з зачыненымі, ашчэраныя зубы падобныя на выпушчаныя кіпцюры. Направа ад цагляна-драўляна-бетоннага алтара, на якім стаялі сьвечкі й чэрап, былі маленькія фляконы маіх каштоўных вадкасьцяў; налева ўздымаўся высокі стос празрыстых плястыкавых скрынак, прызначаных для захоўваньня шрубаў, гаек, цьвікоў й гаплікаў. У кожнай скрыначцы велічынёй крыху больш за пачак запалак ляжала цельца асы, якая прайшла праз Фабрыку.

Падчапіўшы нажом шчыльна прыгнанае вечка вялікай бляшанкі справа, я набраў чайную лыжку белага парашку й высыпаў на жалезны сподак перад чэрапам старога сабаку. Затым узяў маленькую скрынку з самым старым трупікам асы ды перакуліў яе на горку белых гранул. Паставіў на месца закрытую бляшанку й плястыкавую скрынку ды зладзіў невялічкае пахавальнае вогнішча запалкай.

Сумесь цукру й гэрбіцыду шыпела ды палала; яркае сьвятло пранізала наскрозь, дымнае воблака ахутала мяне, і я затрымаў дыханьне, калі вочы сталі сьлязіцца. Праз сэкунду ўспышка скончылася, сумесь і аса сплавіліся ў адзін чорны камяк няроўнага пузырыстага сьмецьця, якое астывала ад жоўтага яскравага жару. Я зажмурыўся, спрабуючы ўлавіць заканамернасьці, але там застаўся толькі адбітак полымя, які зьнікаў нібыта водбліск на мэталічнай пліце. Я спадзяваўся ўбачыць твар Эрыка ці іншы намёк на будучыя падзеі, але нічога не атрымалася.

Я нахіліўся й задзьмуў сьвечкі з восамі, потым дунуў праз вачніцу, загасіўшы сьвечку ўсярэдзіне чэрапа. Усё яшчэ асьлеплены, навобмацак прабраўся да выхаду праз цемру й дым. Выйшаўшы вонкі, выдыхнуў у вільготнае паветра ўсю гаму выпарэньняў; ад адзежы й валасоў йшлі сінявата-шэрыя завіткі дыму, калі я стаяў й дыхаў поўнымі грудзьмі. На некаторы час закрыў вочы, а потым вярнуўся ў Бункер прыбрацца.

Я замкнуў дзьверы. Вярнуўся дадому да сьняданку й застаў бацьку, ён калоў плаўнік на заднім двары.

– Добрай раніцы, – сказаў ён, выціраючы лоб. Было ня горача, але вільготна, і ён быў распрануты да камізэлькі.

– Прывітаньне, – сказаў я.

– Ну, як ты ўчора?

– Нармальна.

– Я вярнуўся позна.

– Я ўжо спаў.

– Я так і падумаў. Ты напэўна прагаладаўся.

– Сёньня я магу прыгатаваць сьняданак, калі хочаш.

– Не, усё нармальна. Можаш калоць дровы, калі ты ня супраць. Я зраблю ленч на дваіх. – Ён апусьціў сякеру й выцер рукі аб штаны, гледзячы на мяне. – Усё было спакойна ўчора?

– О, так, – я кіўнуў й застаўся стаяць.

– Нічога не здарылася?

– Нічога істотнага, – запэўніў я яго, складаючы сваю амуніцыю ды здымаючы швэдар. Узяў сякеру. – Цішыня ды супакой.

– Добра, – сказаў ён, відавочна перакана்ны, і пайшоў у дом. Я замахнуўся сякерай на кавалкі драўніны.

Пасьля сьняданку я ўзяў трошкі грошай і накіраваўся ў горад на Шчэбне, на маім ровары. Бацьку сказаў, што вярнуся да абеду. На паўдарозе да Портнэйла пачаўся дождж, так што прыйшлося спыніцца й накінуць дажджавік. Ехаць было цяжка, але я дабраўся без здарэньняў. Горад быў шэры й пусты ў сумным дзённым сьвятле; па дарозе на поўнач

мільгалі машыны, некаторыя былі з уключанымі фарамі, што надавала ўсяму навакольлю яшчэ большую цьмянасьць. Спачатку я зайшоў у краму “Паляваньне й рыбалка”, пабачыцца са старым Макэнзі ды набыць у яго амэрыканскую паляўнічую катапульту й кулі для пнеўматычнай стрэльбы.

– Як жыцьцё маладое?

– Выдатна. А вы як маецеся?

– Ох, ты ведаеш, нядрэнна, – сказаў ён, павольна ківаючы сівой галавой, яго пажоўклыя вочы й валасы выглядалі хваравіта ў электрычным сьвятле крамы. Мы заўсёды кажам адно аднаму адно й тое ж. Часам я затрымліваюся ў краме даўжэй, чым трэба, таму што люблю пах ўнутры.

– І як там цяпер твой дзядзька? Я не бачыў яго з ... ох, даўнютка.

– Зь ім усё ў парадку.

– О, добра, добра, – сказаў містэр Макэнзі, скасавурыўшы вочы, як быццам у яго нешта балела й зноў паволі заківаў. Я таксама кіўнуў ды паглядзеў на свой гадзіньнік.

– Ну, мне пара, – сказаў я й стаў адступаць да дзьвярэй, засоўваючы новую катапульту ў заплечнік на сьпіне, а кулі, загорнутыя ў карычневую паперу, – у кішэні майго армейскага швэдра.

– Ох, ну што ж, пара, значыць, пара, – канстатаваў Макэнзі й згорбіўся над прылаўкам, нібы вывучаючы раскладзеныя пад шклом прылады, шпулькі й качыныя вабікі. Ён узяў анучу ля касавага апарата й пачаў павольна рухаць ёй па паверхні, толькі аднойчы падняўшы галаву, калі я зьвярнуўся да яго ўжо з парога:

– Тады да пабачэньня.

– Так, да пабачэньня.

У кафэ “Від на заліў” (якое зьяўлялася, мяркуючы па ўсім, месцам радыкальнага й лакалізаванага асяданьня глебы: каб зь яго адкрываўся від на ваду, будынак павінен быў стаяць па меншай меры на паверх вышэй) я выпіў кубак кавы й згуляў у “Захопнікаў з Космасу”. У кафэ ўсталявалі новы гульнявы аўтамат, але пасьля фунта-другога я адолеў гульню й выйграў дадатковы касьмічны карабель. Мне гэта надакучыла, і я сеў піць каву.

Я вывучыў плякаты на сьценах кафэ, каб даведацца, ці ня будзе тут чагосьці цікавага ў бліжэйшы час, але акрамя Кінаклюба нічога асаблівага не было. Наступным быў паказ “Бляшанага барабану”, але гэтую кнігу бацька купіў мне некалькі гадоў таму, адзін з нешматлікіх падарункаў, якія ён мне калісьці зрабіў, таму я ўпарта пазьбягаю чытаць яе, гэтак жа як і “Майру Брэкінрыдж”, другі зь яго рэдкіх падарункаў. Як правіла, бацька дае мне грошы, калі я прашу, і дазваляе купіць усё, што мне хочацца. Ня думаю, што яму на самой справе цікава; з другога боку, ён ні ў чым мне не адмаўляе. Наколькі ведаю, у нас зь ім нешта накшталт сакрэтнага пагадненьня: я трымаю язык за зубамі наконт таго, што афіцыйна мяне як бы не існуе, а наўзамен ён дазваляе мне займацца на выспе практычна ўсім, чым заўгодна, і купляць у горадзе амаль усё, што мне трэба. Адзінае, аб чым мы нядаўна спрачаліся, быў матацыкл, які, па яго словах, ён купіць мне, калі я крыху падрасту. Я выказаў меркаваньне, што было б нядрэнна купіць яго ў сярэдзіне лета, тады я змог бы добра натрэніравацца да таго, як дарогі размокнуць і стануць сьлізкімі, але ён адказаў, быццам у сярэдзіне лета тут будзе занадта шмат турыстаў, едучых праз горад і вакол яго. Па-мойму, ён проста цягне час: магчыма, ён напалоханы узмацненьнем маёй незалежнасьці ці проста баіцца, што я разаб’юся, як гэта робяць мноства падлеткаў на матацыклах, асабліва спачатку. Ня ведаю; ніколі дакладна ня ведаў, якія ў яго пачуцьці адносна мяне, зь іншага боку, я ніколі дакладна ня ведаў, якія ў мяне пачуцьці адносна яго.

Я спадзяваўся ўбачыць у горадзе кагосьці са знаёмых, але адзіныя людзі, якіх я сустрэў, былі стары Макэнзі ў краме “Паляваньне й рыбалка” ды таўстуху місіс Сьцюарт у кафэ, якая сядзела за кававаркай і, пазяхаючы, гартала “Mills & Boon”. Ня тое, каб я ведаў шмат народу: Джэймі – мой адзіны сапраўдны сябрук, праўда, праз яго я пазнаёміўся яшчэ зь некалькімі хлопцамі майго ўзросту, якіх лічу сваімі знаёмымі. Улічваючы, што ў школу я не хадзіў й пры неабходнасьці прыкідваўся, нібыта на востраве жыву толькі наездамі, з

аднагодкамі я амаль ня меў зносін (калі ня лічыць Эрыка, але й ён падоўгу адсутнічаў), а калі я пачаў было падумваць аб тым, што пара выйсьці ў вялікі сьвет і даведацца пабольш народу, Эрык зьехаў з глузду, і на пэўны час становішча ў горадзе зрабілася крыху напружаным.

Маці казалі дзецям паводзіць сябе добра, інакш прыйдзе Эрык Колдхэйм і зробіць зь імі нешта жудаснае, выкарыстоўваючы чарвякоў й апарышаў. Зь цягам часу гісторыя – мяркую, гэта было непазьбежна – карэктавалася: Эрык падпаліць цябе, а не тваіх сабак, і –

што таксама было непазьбежна – многія дзеці сталі думаць, быццам я й быў Эрыкам, альбо я выкідваю тыя ж нумары. Ці, можа, іх бацькі нешта падазравалі наконт Блайта, Пола й Эсьмеральды. Так ці інакш, але дзеці ўцякалі ад мяне альбо выкрыквалі здалёк усялякія абразы. Таму я трымаўся ціха ды зьвёў свае кароткія візыты ў горад да мінімуму. Дагэтуль часам я лаўлю на сабе той самы ацэньваючы погляд дзяцей, падлеткаў й дарослых, і я ведаю, што некаторыя маці кажуць сваім дзецям паводзіць сябе добра інакш “Фрэнк забярэ цябе“, але мяне гэта не турбуе. Гэта я вытрымаю.

Я сеў на свой ровар і пакаціў дадому, бестурботна праносячыся праз лужыны на дарозе, і зрабіўшы Скачок – там, дзе пасьля доўгага спуску з выдмы маецца пагорак, на якім лёгка адарвацца ад зямлі – на хуткасьці ў добрых сорак кілямэтраў у гадзіну, плюхнуўся з гучным шлёпам у гразь, ледзь не трапіўшы ў кусты ядлоўцу, ды яшчэ й задніцу адбіў, так што самы раз было гарлапаніць да самага дому. Але ўсё абышлося. Я сказаў бацьку, што ўсё ў парадку, і што прыйду абедаць прыкладна праз гадзіну, потым пайшоў у хлеў выцерці Шчэбень. Пасьля гэтага зрабіў некалькі бомбаў наўзамен зрасходаваных напярэдадні й яшчэ некалькі лішніх. Уключыў стары электракамін, ня столькі дзеля таго, каб сагрэцца, колькі каб высока гіграскапічная сумесь не ўбірала вільгаць з волкага паветра.

Чаго б мне сапраўды хацелася, дык гэта не валэндацца з кіляграмовымі мяхамі цукру ды банкамі з пэстыцыдамі з горада, каб напоўніць трубы для электрычнай праводкі, якія Джэймі-карузьлік дастае для мяне на будоўлі ў Портнэйле, дзе ён працуе. Маючы падвал, поўны пораху, якога дастаткова каб падарваць палову выспы, гэта здаецца трохі бязглуздым, але бацька ня дазваляе й блізка падысьці да яго.

Гэта яго тата, Колін Колдхэйм, дастаў порах са звалкі караблёў, якая раней была на ўзьбярэжжы. Адзін зь яго сваякоў працаваў там і знайшоў стары ваенны карабель, усё яшчэ гружаны выбухоўкай. Колін купіў порах і выкарыстоўваў яго для распальваньня агню.

У незамкнутай прасторы порах ідэальны для падпалкі. Колін купіў яго столькі, што хапіла б на дзьвесьце гадоў, нават калі б бацька працягваў выкарыстоўваць рэчыва, так што, верагодна, ён зьбіраўся яго прадаць. Наколькі мне вядома, бацька сапраўды ўжываў яго некаторы час, калі запальваў пліту, але ўжо даўно гэтага ня робіць. Бог ведае, колькі яшчэ там засталося; я бачыў велізарныя штабелі й вязанкі з пячаткай Каралеўскага флоту, але ня ведаю, як іначай яго дастаць, калі не пракапаць тунэль ад хлява й браць порах з задняй часткі, каб ён выглядаў некранутым знутры падвалу. Бацька правярае падвал кожныя два тыдні, нэрвова спускаючыся зь ліхтаром, пералічваючы штабялі й нюхаючы паветра, правяраючы тэрмометар і гігромэтар.

У падвале халаднавата й хораша, зусім ня волка, хоць, падазраю, грунтовыя воды мусяць залягаць вельмі блізка, і бацька быццам бы ведае, што робіць, ён упэўнены, што выбуховае рэчыва ня стане нестабільным, але, думаю, ён усё роўна асьцерагаецца, асабліва пасьля Бомбавага Колца. (Таксама мая віна. Маё другое забойства, пасьля якога, здаецца, некаторыя сваякі пачалі падазраваць праўду). Зрэшты, калі ён гэтак напалоханы, ня ведаю, чаму ён проста ня пазбавіцца яго. Але, па-мойму, у яго ёсьць уласныя маленькія забабоны адносна пораху. Якаясь сувязь зь мінулым, ці са злосным дэманан, што хаваецца ў нас; сымбаль зла нашай сям'і, які чакае зручнага моманту нас зьдзівіць.

Так ці інакш, у мяне няма доступу да пораху, і я вымушаны прывозіць з горада мэтры чорных мэталічных труб і пацець, і працаваць над імі, зьгінаючы й разразаючы, і сьвідруючы, і складаючы, зноў зьгінаючы, змагаючыся зь імі, пакуль лаўка й хлеў ня пачынаюць рыпаць ад маіх намаганьняў. Цэлае мастацтва, калі падумаць, яно бясспрэчна па-

трабуе некаторых навыкаў, але часам мне становіцца сумна й толькі думка аб прымяненьні маленькіх чорных тарпэд прымушае мяне працягваць пераносіць і зьгінаць.

Я ўсё прыбраў й памыў хлеў пасьля вырабу бомбаў, а потым пайшоў вячэраць.

– Яны яго шукаюць, – раптам сказаў бацька, пражоўваючы капусту з соевым фаршам. Яго цёмныя вочы блішчэлі перада мной як курадымныя язычкі полымя, потым ён зноў уткнуўся ў талерку. Я глынуў піва, якое адкрыў. У новай бочцы хатняе піва было лепей на смак і мацней за папярэднюю партыю.

– Эрыка?

– Так, Эрыка. Яны шукаюць яго на тарфяніках.

– На тарфяніках?

– Яны думаюць, ён можа быць на тарфяніках.

– Так, гэта можа растлумачыць, чаму яны яго там шукаюць.

– Сапраўды, – кіўнуў бацька. – Чаму ты мыкаеш?

Я прачысьціў горла й працягваў есьці свае катлеты, зрабіўшы выгляд, што не пачуў.

– Я тут падумаў, – пачаў ён і зачэрпнуў чарговую порцыю карычнева-зялёнай сумесі, доўга пэражоўваў. Я чакаў, што ён скажа далей. Бацька млява махнуў сваёй лыжкай і паказаў невыразна ўверх, потым прамовіў:

– Так якая, па-твойму, даўжыня тэлефоннага праваду?

– Нацягнутага ці аслабленага? – адразу ж удакладніў я, адставіўшы куфаль з півам. Ён хмыкнуў і больш нічога не сказаў, вярнуўшыся да сваёй талеркі зь ежай, відавочна ўсьцешаны, калі й не задаволены. Я выпіў.

– Ці ёсьць штосьці асаблівае, што ты хацеў бы замовіць у горадзе? – нарэшце спытаў ён і спаласнуў рот натуральным апэльсінавым сокам. Я пакруціў галавой, дапіў сваё піва.

– Не, усё як звычайна, – я перасмыкнуў плячыма.

– Хуткараствральнае бульбяное пюрэ й ялавічныя катлеты, цукар, піражкі з мясам, кукурузныя шматкі й таму падобную дрэнь, я мяркую. – Ён пагардліва хмыкнуў, хоць казаў гэта роўным тонам.

Я кіўнуў:

– Так, файна. Ты ведаеш, што я люблю.

– Ты не харчуешся належным чынам. Трэ было з табой стражэй.

Я нічога не адказаў, працягваючы нетаропка есьці. Я адчуваў, як бацька глядзеў на мяне з другога канца стала, калыхаючы сок у шклянцы па крузе, утаропіўшыся на маю галаву, калі я сагнуўся над талеркай. Ён пакруціў галавой, падняўся з-за стала і рушыў да ракавіны спаласнуць талерку.

– У горад вечарам зьбіраешся? – спытаўся ён, адкрываючы кран.

– Не, сёньня я дома. Заўтра пайду.

– Спадзяюся, ты не нап'ешся ўшчэнт, як у мінулы раз. Калі-небудзь цябе арыштуюць, і што тады загадаеш рабіць? – Ён скоса зірнуў на мяне. – Га?

– Не зьбіраюся я напівацца ўшчэнт, – запэўніў яго я. – Проста вып'ю куфаль-другі за кампанію ды ўсё.

– Ну, па вяртаньні ты занадта шумны для таго, хто проста сустракаўся ды ўсё такое. – Ён кінуў на мяне нездаволены погляд і сеў.

Я пацісну плячыма. Зразумела, я нап'юся. Які сэнс піць, калі не напівацца? Але я буду асьцярожны, не хачу лішніх ускладненьняў.

– Ну, паспрабуй трымаць сябе ў руках. Я заўсёды ведаю, колькі ты выпіў па твайму бзьдзёху. – Ён фыркнуў, быццам імітуючы адзін зь іх.

У майго бацькі ёсьць цэлая тэорыя аб тым, што паміж мозгам і кішачнікам існуе сувязь, асноватворная й самая што ні на ёсьць прамая. Гэта адна зь яго йдэй, якімі ён спрабуе зацікавіць людзей; у яго ёсьць рукапіс па гэтым пытаньні ("Структура бзьдзеньня"), які ён таксама перыядычна дасылае выдаўцам у Лондан і які яны, канешне ж, адпраўляюць назад. Ён сьцьвярджае, што па пуку можа сказаць ня толькі што чалавек еў альбо піў, але таксама яго асаблівасьці: аптымальны рацыён, склад характару, нярвуецца чалавек аль-

бо засмучаны, ці ёсьць у яго сакрэты, сьмяецца з цябе ўпотайкі альбо спрабуе ўцерціся ў давер, і нават што ён думае ў момант, калі пускае газы (пераважна мяркуючы па гуку). Поўная бязглузьдзіца.

– Хм-м, – унікліва сказаў я.

– О, я магу, – сказаў ён, калі я скончыў есьці й адкінуўся на сьпінку крэсла, выціраючы рот тыльным бокам далоні, галоўным чынам дзеля таго, каб пазлаваць бацьку. Ён працягваў ківаць галавой.

– Я ведаю, калі ты піў цёмнае, калі сьветлае. Нават “Гінэс” часам чую.

– Я не п’ю “Гінэс”, – схлусіў я, ня выдаўшы свайго зьдзіўленьня. – Баюся падхапіць грыбковае захворваньне горла.

Ён яўна прапусьціў жарт міма вушэй, таму што адразу працягнуў:

– Гэта проста спусканьне грошай ва ўнітаз. Ня думай, што я буду фінансаваць твой алькагалізм.

– Ох, гэта проста недарэчна, – парыраваў я й ўстаў.

– Ты ведаеш, пра што я. Я бачыў мужыкоў лепей за цябе, якія думалі, што ведаюць сваю норму, і ў рэшце рэшт, аказваліся ў канаве з бутэлькай моцнага.

Калі апошні выпад павінен быў ударыць ніжэй пояса, то тут ён пралічыўся; фраза “мужыкоў лепей за цябе” даўно сябе вычарпала.

– Ну, гэта маё жыцьцё, ці ня праўда? – сказаў я й, паставіўшы сваю талерку ў ракавіну, выйшаў з кухні. Бацька нічога не сказаў.

У гэты вечар я глядзеў тэлевізар і займаўся такімі-сякімі паперамі, нанёс на карты нядаўна названы Узгорак Чорнага Разбуральніка, сьцісла апісаў акцыю пакараньня, зафіксаваў у ведамасьці эфэктыўнасьць зрасходаваных бомб і выраб новай партыі. Я вырашыў трымаць “Polaroid” у Вайсковай Торбе; для карнай вылазкі зь невялікай ступеньню рызыкі накшталт гэтай, супраць трусаў, карыснасьць камэры з лішкам перавышае нязручнасьці, зьвязаныя з дадатковай вагой і выдаткамі часу на яе выкарыстаньне. Канешне, пры сур’ёзных разборках прыйдзецца абыходзіцца толькі Вайсковай Торбай, і камэра будзе толькі перашкодай, але я пару гадоў не сустракаў рэальнай пагрозы, з таго часу, як вялікія хлопцы запалохвалі мяне ў горадзе й нападалі з засады па дарозе дадому.

Я думаў, што становішча стане зусім цяжкім, але яны ніколі не даводзілі яго да той ступені, да якой, здавалася б, маглі. Я прыстрашыў іх нажом, пасьля таго як яны спынілі мяне на ровары, сталі штурхаць і патрабаваць грошай. У той раз яны адступілі, але праз некалькі дзён спрабавалі ўварвацца на выспу. Я адбіваўся ад іх шарыкамі са сталі й камянямі, яны вялі зваротны агонь стрэламі з пнэўматычных стрэльбаў, і некаторы час гэта было даволі захапляльна, але потым зьявілася місіс Клэмп з лістамі за тыдзень, прыстрашыла выклікаць паліцыю, і яны адступілі, аблаяўшы яе напрыканцы апошнімі словамі.

Тады я пачаў ствараць сыстэму таемных складоў, запасаючы жалезіны, камяні, ніты й рыбацкія грузілы, закопваючы іх у плястыкавых пакетах і скрынках у стратэгічных кропках выспы. Яшчэ я ўсталяваў пасткі й дрот, прымацаваны да шкляных бутэлек у траве на выдмах уздоўж ручая, так што калі хтосьці паспрабуе пракрасьціся, яны альбо трапяць ў пасткі, альбо нацягнуць дрот, выдраўшы бутэльку з дзіркі ў пяску і ударыўшы яе аб камень. Колькі наступных начэй я чакаў, высунуўшы галаву з задняга вакна гарышча, напружваючы слых, каб пачуць звон бітага шкла, або прыглушаную лаянку, або больш звыклы сыгнал – лямант патрывожаных і адлятаючых птушак, але больш нічога ня здарылася. Я проста пэўны час пазьбягаў гарадзкіх хлопцаў, прыходзячы ў Портнэйл толькі з бацькам ці ў час, калі ведаў, што яны ў школе.

Сыстэма складоў існуе й дагэтуль, я нават дадаў пару запальных бомбаў да аднаго-двух сакрэтных месцаў, туды, дзе ў сэтары верагоднай атакі бутэлькам будзе аб што разьбіцца, але дрот я дэмантаваў і пакінуў у хляве. Мой План Абароны зьмяшчае рэчы кшталту карт выспы з пазначанымі на іх сховішчамі, верагодныя шляхі нападаў, сьціслы выклад тактыкі, сьпіс зброі, якая ў мяне ёсьць ці якую я магу зрабіць, уключаючы ў апошнюю катэгорыю даволі шмат непрыемных штук кшталту нацягнутага дроту або пастак, устаноўленых

на адлегласьці чалавечага росту ад пабітых бутэлек, укапаных зубцамі ўверх і схаваных травой, супрацьпяхотных мін з нашпігаваных цьвікамі абрэзкаў труб зь электрычнымі дэтанатарамі, а таксама сякой-такой зусім ужо экзатычнай сакрэтнай зброі, напрыклад лятаючых талерак з брытвамі па краях.

Ня тое каб я хацеў забіць зараз кагосьці, усё пералічанае хутчэй для абароны, чым нападу, так я адчуваю сябе ў большай бясьпецы. Хутка ў мяне будзе дастаткова грошай для куплі па-сапраўднаму магутнага арбалета, і я з нецярпеньнем чакаю гэтага моманту; хоць нейкая кампэнсацыя за тое, што я ня змог перакканаць бацьку купіць стрэльбу ці драбавік, якія я змог бы калі-нікалі выкарыстоўваць. У мяне ёсьць катапульты й пнэўматычная стрэльба, якія могуць быць сьмяротнымі пры пэўных умовах, але яны ня настолькі дальнабойныя, як мне хацелася б. У бомбаў такі ж недахоп. Яны павінны быць усталяваны ці ў лепшым выпадку кінутыя у цэль, і нават катапультаваць спэцыяльна скананструяваныя маленькія бомбы атрымліваецца недакладна й марудна. Я магу ўявіць розныя непрыемныя штукі, якія могуць здарыцца з катапультай: у бомбаў для яе павінен быць кароткі запал, яны павінны выбухнуць адразу пасьля прызямленьня, каб іх нельга было кінуць назад, і ў мяне ўжо было некалькі выпадкаў, калі бомбы разрываліся, ледзь вылецеўшы з катапульты.

Зразумела, я экспэрымэнтаваў з рэактыўнай зброяй і з гарматамі, якія стралялі б бомбамі, але ўсе яны непаваротлівыя, небясьпечныя, павольныя й схільныя да выбуху.

А вось драбавік – гэта было б ідэальна, супраць вінтоўкі дваццаць другога калібра я б таксама ня стаў пярэчыць, аднак прыйдзецца задавольвацца арбалетам. Магчыма, калі-небудзь я змагу абыйсьці сваё афіцыйнае неіснаваньне й падаць заяўку на стрэльбу, хаця нават тады, калі ўлічваць усё, я магу й не атрымаць ліцэнзію. Часам я думаю, ох, жыць бы ў Амэрыцы!

Я рэгістраваў напалмавыя бомбы са склада, якія даўно не правяраліся на выпарэньне бэнзіну, калі зазваніў тэлефон. Я паглядзеў на свой гадзіньнік, зьдзіўлены, што было так позна, амаль адзінаццаць. Зьбег па лесьвіцы да тэлефона, пачуўшы як бацька прытуліўся да дзьвярэй свайго пакоя, калі я прабягаў міма яго.

– Портнэйл, 531, – гучэлі гудкі.

– Ну нахуй, Фрэнк, у мяне на падэшвах мазалі велічынёй зь месяцовыя кратэры. Як ты там, мелкі?

Я паглядзеў на слухаўку, потым на бацьку, які стаяў ля парэнчаў на верхняй пляцоўцы, запраўляючы сваю піжамную кашулю ў штаны. Сказаў у тэлефон:

– Здароў, Джэймі, што так позна тэлефануеш?

– Што...? А, стары тут, так? – здагадаўся Эрык. – Скажы яму ад мяне, што ён гнойны мяшок.

– Прывітаньне ад Джэймі, – сказаў я бацьку, які без аніводнага слова павярнуўся й рушыў у свой пакой. Я пачуў, як грукнулі дзьверы. Вярнуўся да тэлефона:

– Эрык, дзе ты на гэты раз?

– Во халера, так я табе й сказаў. Здагадайся.

– Ну, ня ведаю ... Глазга?

– Ах-ха-ха-ха-ха! – закудахтаў Эрык.

Я сьціснуў плястык.

– Як ты? Усё ў парадку?

– Лепей няма куды. А ты як?

– Усё крута. Слухай, што ты там ясі? У цябе грошы хоць ёсьць? Ловіш спадарожкі ці што? Ведаеш, яны шукаюць цябе, але ў навінах яшчэ нічога не было. Ты не... – я асекся, пабаяўшыся сказаць нешта, на што ён можа пакрыўдзіцца.

– Усё нармуль. Я ем сабак. Хе-хе-хе!

Я застагнаў:

– Божа, гэта ж не праўда, ну скажы.

– Што яшчэ я магу есьці? Гэта цудоўна, браце Фрэнкі: я трымаюся палёў ды лясоў, іду й лаўлю спадарожкі, а калі бываю ля горада, шукаю добрую, тлустую, сакавітую сабаку, мы

зь ёю становімся сябрамі, я адводжу яе ў лес, потым забіваю яе ды ем. Што можа быць прасьцей? Люблю жыцьцё на сьвежым паветры.

– Ты іх што, смажыш?

– Вядома ж, я, блядзь, смажу іх, – абурана сказаў Эрык. – Хто я па-твойму?

– І гэта ўсё, што ты там ясі?

– Не. Я краду. У крамах. Вельмі лёгка. Краду тое, што не магу зьесьці, проста каб ня сумаваць. Напрыклад, тампоны й плястыкавыя пакеты для сьмецьця, пакунак чыпсаў для вечарынак і сотні трубачак для кактэйляў, дванаццаць рознакаляровых сьвечак для торта й рамкі для фатаграфій, і чахлы для рулявога кола са штучнай скуры, і гаплікі для ручнікоў, і кандыцыянеры для бялізны, і асьвяжальнікі паветра "два ў адным" для зьнішчэньня гэтых дакучлівых кухонных пахаў, сымпотныя скрыначкі для дробязі й пакоўкі касэтаў, каўпачкі зь фіксатарам для каністраў з палівам і тэлефонныя даведнікі, часопісы для пахуданьня, кашпо, скрынкі шыльдаў зь імёнамі, штучныя павекі й касмэтычкі, мікстуры супраць курэньня й цацачныя гадзіньнікі...

– Хіба ты ня любіш чыпсы? – раптам перапыніў я.

– Га? – ягоны голас гучаў разгублена.

– Ты згадаў чыпсы для вечарынак як нешта, чаго не можаш есьці.

– Далібог, Фрэнк, ты можаш зьесьці пакунак чыпсаў для вечарынак?

– Ну, а як здароўе наогул? – хуценька прамовіў я. – То бок ты жа сьпіш на зямлі. Ці не прастудзіўся ды ўсё такое?

– Я ня сплю.

– Ты ня сьпіш?

– Вядома ж, не. Спаць неабавязкова. Гэта нешта, у чым яны пераконваюць цябе, каб трымаць цябе пад кантролем. Ніхто не абавязаны спаць. Цябе вучаць спаць, калі ты яшчэ дзіця. Калі ты па-сапраўднаму хочаш, можаш гэта пераадолець. Цяпер я ніколі ня сплю. Так значна прасьцей быць напагатове, каб яны ня падкраліся, і працягваць ісьці. Няма нічога лепш, чым працягваць ісьці. Становішся падобным на карабель.

– На карабель? – цяпер ужо я разгубіўся.

– Годзе паўтараць усё, што я кажу, Фрэнк. – Я чуў, як ён кінуў грошы ў аўтамат. – Вось вярнуся, навучу цябе, як ня спаць.

– Дзякуй. А калі ты вернешся?

– Раней ці пазьней. Ха-ха-ха-ха!

– Слухай, Эрык, навошта ты ясі сабак, калі можаш украсьці ўсю гэтую хрэнь?

– Я ўжо табе сказаў, ты – ідыёт, гэтае гаўно нельга есьці.

– Дык ці не прасьцей красьці замест неядомага што-небудзь ядомае, тады й з сабакамі важдацца ня трэба, – прапанаваў я. З самага пачатку было зразумела, што гэта дрэнная йдэя; я адчуваў, што тон майго голасу падымаецца вышэй і вышэй – пэўная прыкмета таго, што я пачынаю несьці поўную бязглузьдзіцу.

– Ты ёбнуўся? – залямантаваў Эрык. – Ды што з табой такое? Што ты вярзеш? Гэта ж сабакі, га? Я ж забіваю не катоў або палявых мышэй, ці залатых рыбак, ці каго там яшчэ. Я кажу пра сабак, пізданутае ты боўдзіла! Пра сабак!

– Ня трэба крычаць на мяне, – сказаў я роўным тонам, хоць і пачынаючы закіпаць. – Я толькі спытаў, навошта ты трапіш дарэмна столькі часу, крадучы хрэнь, якую ня можаш есьці, а потым зноўку губляеш час, выкрадаючы сабак, калі ты мог бы адным заходам, так бы мовіць, і красьці, і есьці.

– "Так бы мовіць"? "Так бы мовіць"? Што ты там балбочаш? – зароў Эрык, яго стрыманы голас стаў грубым кантральта.

– Ох, ня трэба раўці, – застагнаў я, паклаў руку на лоб, правёў ёю скрозь валасы й заплюшчыў вочы.

– Хачу раўці – і буду! – закрычаў Эрык. – Чым па-твойму я тут займаюся? Га? Дзеля чаго, халера цябе бяры, я ўсё гэта раблю, як ты думаеш? Гэта ж сабакі, ты маленькі бязмозглы мяшок гаўна! У цябе зусім мазгоў не засталося? Што здарылася з тваімі мазгамі, браце Фрэнкі? Ты язык праглынуў? Я кажу, ты язык праглынуў?

– Толькі ня трэба калаціць… – сказаў я, наогул ня ў слухаўку.

– Йййёёооббгхххрррт твааааййуўйуууугхххт! – душачыся, выплюнуў Эрык на іншым канцы лініі й з віскатам ды скрыгатам закалашмаціў слухаўкай па сьценках будкі. Я ўздыхнуў й асьцярожна павесіў слухаўку. Здаецца, я проста не магу мець стасункі з Эрыкам па тэлефоне.

Я вярнуўся ў свой пакой, спрабуючы забыць аб сваім браце; хацелася рана легчы спаць, каб падняцца своечасова для цырымоніі прысваеньня імя новай катапульце. Разьбяруся з гэтым, а там ужо падумаю пра тое, як паводзіць сябе з Эрыкам.

…Як карабель, сапраўды. Во дзе прыдуркаваты.

***Пераклаў з ангельскае мовы Віталь Латыш***

***Паводле выданьня THE WASP FACTORY***
***Iain Banks, Abacus, 1987, ISBN 0349102145***

# ЯК ДЗЬМІТРЫЙ ШАСТАКОВІЧ ХАДЗІЎ У МІНСКУ НА ФУТБОЛ

## 1. ЭЎТЭРПА. МУЗЫКА

*З кнігі "Музы і сьвіньні"*

Ці ня кожны праўдзівы творца – наступная ступень эвалюцыі курыцы, якая толькі што зьнесла яйка. Мэта курыцы – квахтаць пра сваё дасягненьне на ўвесь куратнік, каб давесьці, што плён ёйнай дупы – самы пукаты, вялікі і прыгожы ў цэлым сьвеце. Мэта пісьменьніка, мастака і кампазытара – давесьці цэламу сьвету, што плён яго мазгоў самы таленавіты, крэатыўны і бліскучы, асабліва – у параўнаньні з плёнам шэрых і бяздарных калегаў.

Дзьмітрый Дзьмітрыевіч Шастаковіч быў прыемным выключэньнем з агульнага шэрагу. Пра свае творы Шастаковіч гаварыць не любіў. У "геніі", у адрозьненьне ад шматлікіх калегаў з Саюза Кампазытараў, ніколі не запісваўся. На высокія трыбуны без дайпатрэбы ня пнуўся. Былі ў Дзьмітрыя Дзьмітрыевіча дзьве тэмы, пра якія ён мог размаўляць бясконца. Па-першае – які кончаны мудзіла старшыня Саюза Кампазытараў СССР Ціхан Хрэньнікаў, сталінскі жапаліз і "сын гандлёвага работніка", як яго сам Шастаковіч называў. Па-другое – якая баявітая, бескампрамісная і прыгожая каманда "Зеніт" Ленінград, які зьмястоўны футбол яна штораз дэманструе і як прыемна глядзець на гэты футбол з трыбуны стадыёна.

Менавіта на любові да футбола Шастаковіч і пагарэў падчас сваёй вандроўкі ў Мінск...

Трынаццатая сімфонія Шастаковіча "Бабій Яр" ці не адразу патрапіла ў шэраг падазроных і напаўзабароненых. І хаця ідэалягічна вытрыманыя паэтычныя, празаічныя, драматургічныя і музычныя творы "пра зьверствы фашыстаў" ад рана да рана ліліся з радыёкропак, са сцэнаў Дамоў культуры і з паэтычных вечарынаў, згадваць пра расстрэлы савецкіх грамадзянаў яўрэйскай нацыянальнасьці асабліва не рэкамэндавалася; "праявы сусьветнага сіянізму". Немаскоўская прэм'ера Трынаццатай сымфоніі першапачаткова мелася прайсьці ў Кіеве, што было б слушна, але ж тагачасны першы сакратар ЦК КПУ таварыш Падгорны адмовіўся катэгарычна: маўляў, нам гэтых жыдоўскіх енкаў у сталіцы савецкай Украіны ня трэба! А вось тагачасны першы сакратар ЦК КПБ тав. Мазураў чамусьці паставіўся да мажлівай прэм'еры ў Мінску паблажліва. Можа, не зусім разумеў, што такое сімфонія і чым яна адрозьніваецца ад опэры. Можа, прыгадаў сваё гомельскае юнацтва і шматлікіх сяброў-яўрэяў. А можа проста нападпітку быў. Карацей, праявіў палітычную блізарукасьць.

І вось увесну 1963 года Дзьмітрый Дзьмітрыевіч прыяжджае ў Мінск. Сустракаюць яго, як і мае быць, на чорнае "Волзе". І вязуць у цэкашны гатэль "Беларусь", які на той час месьціўся акурат насупраць стадыёна "Дынама". Часу на адпачынак няма: галоўнае для кожнага праўдзівага мужчыны – праца. Шастаковіч пасьпешліва раскладае транты, прымае душ і неадкладна выпраўляецца на рэпэтыцыю. Дый мінскую залю трэба ацаніць – сцэна, акустыка і ўсё астатняе...

На першы погляд, заля, як заля: клясычная плюшавая заслона, ампірныя аздобы па сьценах. Але на калідорах і ў фае чамусьці панатыкана процьма партрэтаў Фэлікса Эдмундавіча і шчытоў зь перакрыжаванымі мячамі. Дый публіка, якая прыйшла на рэпэтыцыю, нібы з інкубатара Дзяржынскай птушкафабрыкі: аднолькавыя індпашываўскія стройчыкі, аднолькавыя шкляныя вочкі.

Шастаковічу становіцца крыху ніякавата. Не, ён канешне, начуты, пра любоў беларусаў "да парадку", бо дзед яго – з тутэйшых шляхцюкоў, браў удзел у паўстаньні Каліноўскага, за што і быў у Сібір сасланы. Але ж каб "парадак" сягаў ступені татальнай уніфікацыі!...

І тут высьвятляецца, што нічога да прэм'еры не гатова. Аркестровых партый няма, клявіру няма, нават пюпітраў для ўсіх аркестрантаў бракуе. У дадатак да ўсяго, Дзяржаўны хор БССР катэгарычна адмаўляецца браць удзел у канцэрце. Міністар культуры БССР таварыш Кісялёў морду ад Шастаковіча вароціць і не вітаецца дэманстратыўна, нібы ня ведае, хто гэта такі. Друкарня атрымлівае загад з ЦК КПБ – тэрмінова спыніць вытворчасьць афішаў. Прэм'ера пад пагрозай зрыву; пэўна, пільныя ідыёлягі з Масквы ўжо затэлефанавалі

малодшым мінскім братам пра падступную сіяністкую правакацыю, зарганізаваную на грошы ЦРУ і "Масада". А то і Глаўкампазытар СССР Ціхан Мікалаевіч Хрэньнікаў вырашыў прыціснуць кіпцюрастую лапу сусьветнай жыда-масонскай змовы...

Пачынаецца рэпэтыцыя аркестру. Музыкі не трапляюць у такт. Дырыжор злосна ломіць палачку за палачкай. Публіка ў індпашываўскіх стройчыках паглядае на Шастаковіча, нібы атрад эсэсаўскіх карнікаў на палоннага беларускага партызана. Карацей, сумбур замест музыкі.

І ад усёй гэтай бязглузьдзіцы, і ад тупых пысаў меламанаў у цывільным, і ад падазроных шчытоў зь мячамі Шастаковічу канчаткова становіцца пагана. Ён даручае разабрацца з усімі негараздамі дырыжору, а сам сьпяшаецца на сьвежае паветра. Трэба яшчэ высьветліць, што ж гэта за такая дзіўная заля і што за публіка на рэпэтыцыі сабралася!

Першае, што бачыць кампазытар – такую прыгожую шыльдачку каля дубовых дзьвярэй: "Клуб ім. Дзяржынскага КГБ БССР".

Шастаковіч адразу згадвае пра свайго сябру Салямона Міхоэлса, які акурат пятнаццаць гадоў таму загінуў у Мінску дзякуючы такім вось хлопчыкам з гарачымі сэрцамі, шклянымі вочкамі і доўгімі-доўгімі рукамі. Пра прыяцеля-піяніста Рудольфа Керара, якога "органы" за нямецкае прозьвішча пасадзілі. І пра шмат чаго яшчэ. І, як у кожнага нармалёвага чалавека, у кампазытара першае жаданьне – бегчы адсюль куды падалей. Ды хаця б у свой гатэльны нумар.

А дарога ад будыны Ўпраўленьня КГБ БССР да тагачаснага гатэлю "Беларусь", як ні круці – толькі ўздоўж стадыёна "Дынама". Каля стадыёна – вірлівы натоўп. Футбольны фанат Шастаковіч, натуральна, цікавіцца – а хто з кім? Ды наша мінскае "Дынама", кажуць, якое раней "Беларусь" называлася, супраць маскоўскага "Спартака".

– "Спартак"? – перапытваецца кампазітар, і ягоныя вочы пад акулярамі зь біфакальнымі лінзамі запальваюцца лютай нянавісьцю; як і мае быць для праўдзівага фаната "Зеніта", маскоўскі клюб для яго – вораг нумар адзін.

Датаго ж, калі мінчане выйграюць сёньня ў "мяса", дык роднаму "Зеніту" гэта будзе адно на карысьць, з улікам турнірнай табліцы.

Тут і вагацца ня варта – ісьці ці ня йсьці! На стадыёне дакладна музыказнаўцаў у цывільным не будзе. Як і партрэтаў Дзяржынскага...

Касы ўжо зачынены, але ж госьцю неверагодна шанцуе. Нейкі пралетар у кепцы прапануе: маўляў, у мяне залішні квіток, дружбана жонка не пусьціла... Дык купляеш, інтэлігент?

І вось Шастаковіч сядзіць на самых танных месцах стадыёну "Дынама", акурат за футбольнай брамай, побач з дабрадзеем-пралетарам. Усе імпэтна падтрымліваюць "Дынама" Мінск. Мяч у Савосьціката, ён пасуе Арзамасцаву, той вытанчаным фінтам абводзіць нейкага спартакаўца, аддае пас Малафееву проста ў штрафную, яго зьбіваюць... Пенальці?

У СССР футбол з хакеем пасьпяхова замяніў паспалітаму людзтву рэлігію і культуру, і таму абурэньне з прычыны непрызначанага пенальці – адзіная дазволеная форма грамадзкага пратэсту. Як гэта "парушэньня не было", яго ж у штрафной пляцоўцы скасілі! Было, яшчэ як было, гэты казёл у чорным адмыслова масквічам падсуджвае, як і заўсёды!

Стадыён, нібы па камандзе, падымаецца і раве: "Судзьдзю на мыла!" Пралетар у кепцы лаецца нецэнзурна. Шастаковіч таксама абураны. Але ж эмоцыі выяўляе куды больш культурна:

– Прадай сьвісток, купі акуляры! – лямантуе.

Трыбуны паглядаюць на яго са шчырай павагай: ты ж глядзі, інтэлігент, а разьбіраецца!

І вось у перапынку пасля першага тайму ўражаны пралетар добразычліва прапануе новаму знаёмцу папіць піўка. Купляе "Жыгулёўскае", здзьмувае шум. Выцягвае нейкую шклянку, ад якой смуродзіць першабытным перваком.

– З роднай вёскі прывёз! – шчасьліва каментуе пралетар. – Алё, інтэлігент, давай свой куфаль, я і табе ў піва налію для мацунка!

Адмовіцца няёмка: субяседнік са шчырай душой. Дый не "спартакавец". А, галоўнае – савецкаму кампазытару заўсёды трэба быць бліжэй да народа!

Аматары футболу смакуюць піва з самагонкай і абмяркоўваюць турнірную табліцу чэмпіянату СССР. Інтэлігент у акулярах дэманструе проста неверагодную эрудыцыю: словы “хаўбэк”, “афсайд”, “карнёр”, “сухі ліст” сыплюцца зь яго, бы з футбольнага камэнтатара.

І тут здараецца катастрофа…

– А ў нас у “Зеніце”… – пачынае Шастаковіч і прыкусвае язык, бо разумее, якое глупства ляпнуў.

Пралетар адстаўляе піва і нядобра мружыцца на выпадковага знаёмца. Пачынаецца спрэчка. Як і мае быць, праз колькі хвілінаў фанат “Зеніта” атрымлівае ў вуха. Акуляры лятуць у адзін бок, шапка ў другі, а ахвяра ляжыць у калюжыне. Пралетар уцякае, а Дзьмітрыя Дзьмітрыевіча з калюжыны выцягвае міліцыянэр.

– Вашы дакумэнты? – пытаецца.

Пашпарта ў кампазытара з сабой, натуральна, няма – не прасякнуўся яшчэ “беларускім парадкам”. Ці то ў цэкоўскім гатэлі “Беларусь” забыўся, ці то ў клюбе культуры імя Дзяржынскага…

– Я – кампазытар Шастаковіч! – кажа кампазытар Шастаковіч.

– Ну і што? – ніжа плячыма мент. – А я сяржант Шмонаў. Пайшлі ў райаддзел. Паглядзім, які ты кампазытар.

Шастаковіча пад локаць прыводзяць у мянтуру. І сяржант дакладае начальніку, што ім затрыманы нейкі антысацыяльны элемент, хуліган і, у дадатак да ўсяго, алькаголік. Як гэта “не алькаголік”? Вы яго, таварыш маёр, самі панюхайце! Нажлукціўся, падлюка, да тае ступені, што прылюдна валяўся ў калюжыне. Зьняважаў сваім выглядам гонар і годнасьць савецкіх грамадзянаў. Вось пры Сталіне яго бы ведаеце куды?

– А яшчэ кажа, што ён гэты… архітэктар! – крыва пасьміхаецца сяржант.

– Ды не архітэктар, а кампазытар! – добразычліва папраўляе Шастаковіч. – Вы што – “Ленінградскую сімфонію” ня чулі? Не? Ну, тады вось гэта: “Нас утро встречает прохладой, нас ветром встречает река. Кудрявая, что ж ты не рада веселому пенью гудка?” – сьціплым такім тэнарком зацягвае кампазытар. – “Песня о встречном”. Памятаеце?

Начальнік райаддзела паглядае на правапарушальніка падазрона. Прозьвішча “Шастаковіч”, ён, вядома ж, чуў. Калі тэрміновую службу ў Асаблагу ў 1948 годзе праходзіў, на палітінфармацыі ўсяму ўзводу “Праўду” чыталі, Пастанову ЦК ВКП (б) “Аб оперы “Вялікая дружба” Вано Мурадэлі”. Тамака прозьвішча Шастаковіч акурат і згадвалася. Антынародны кампазытар. Фармаліст. Аўтар шэрагу нізкамастацкіх твораў. Нізкапаклоньнік перад Захадам. Гэты, як яго… кшталту касманаўта… Во, касмапаліт!

– Я ляўрэат пяці Сталінскіх і адной Ленінскай прэміі! – ганарліва нагадвае Шастаковіч.

Міліцэйскі начальнік пільным вокам аглядае затрыманага і грэбліва крывіць вусны. На правапарушальніку таннае паліто зь пісягамі сьвежага бруду. Шапка зь невядомага навуцы зьвера. Акуляры з пабітым шкельцам. І смурод вясковага першака з “Жыгулёўскім” на ўвесь райаддзел. Так ляўрэаты не выглядаюць. Пэўна, нейкі інжынэрышка з Трактарнага ўзяў на грудзі залішняга, вось яго і пераклініла.

Але ж у жыцьці ўсякае здараецца. Неяк таксама падпітага інтэлігента ў акулярах адлавілі, хлусіў, што партарг скабяной майстэрні. Высьвятлілася, што не хлусіў.

Тут, безумоўна, варта правесьці сьледчы экспэрымэнт. Маёр выцягвае з-пад стала гітару-шасьціструнку, абклееную прыгажунямі, выразанымі з часопіса “Огонёк”.

– Так, з Маі Крышталінскай ці Эдзіты П’ехі што-небудзь можаш збацаць? Не? Ну дык не зьвязьдзі! Кампазытар ён. Шмонаў, адвядзі яго ў камэру…

Шастаковіч нудзіцца ў камэры да вечара. І сьвеціць яму стандартныя пятнаццаць сутак. Скандал. Рэпутацыя. Пляма на партбілеце. А гэта значыць, што ні пра якую прэм’еру Трынаццатай сымфоніі ў Мінску і гаворкі ня можа быць. На радасьць маскоўскім ідэёлягам.

Цяпер затрыманы згодны на ўсё: пасьміхацца гэбэшным мудзілам, сядзець у адным прызыдыюме зь Ціханам Хрэньнікавым, пісаць кантаты “пра Радзіму і Партыю”. Нават стаць заўзятарам маскоўскага “Спартака”. Не, апошняе, вядома ж, перабольшваньне, але ж і камера тут сьмярдзючая, і кліенты нейкія сінія-сінія ад татуіжаў… Бы тыя амурскія хвалі.

Начальнік райаддзела ўжо зьбіраецца дахаты, калі на стале яго бомкае тэлефон. Напэўна, жонка-сьцярвоза, бо заўсёды ў такі час тэлефануе, пільнуе, каб пад канец працы не нажлукціўся.

– Алё-ё-ё... – лісьліва дыхае ў трубку маёр.

– З вамі гавораць з апарату Цэнтральнага Камітэту камуністычнай партыі БССР, – левітанаўскім мэталям азываецца трубка. – У Мінску бясьсьледна зьнік сусьветна вядомы савецкі кампазытар Дзьмітрый Шастаковіч. Не выключаюцца правакацыі заходніх спэцслужбаў. Справа на асабістым кантролі таварыша Мазурава. Усяму асабоваму складу тэрмінова адкласьці ўсе справы і заняцца пошукамі. Запісвайце арыенціроўку...

І тут маёр упершыню разумее, што поўная страта гравітацыі здараецца ня толькі з савецкімі касманаўтамі. Голас імкліва падкідае яго да столі, кувадлам б'е ў вушы, у пысю, у патыліцу, у грудзі, у геніталіі, пад дупу і гэтак жа імкліва нізрынае на падлогу. Праваахоўнік зь ціхім і сарамлівым цурчэньнем абсікаецца. Проста ў мокрых штанах ён бяжыць у камеру і выводзіць арыштаванага. Чысьціць падсохлы бруд зь ягонага паліто, расказвае пра сваю палымяную любоў да ляўрэатаў Сталінскіх прэмій, да ўсялякіх антынародных інтэлігентаў, фармалістаў і касмапалітаў, абяцае ўласнаручна застрэліць сяржанта Шмонава з табэльнага "макарава", садзіць Шастаковіча ў міліцэйскі "Масквіч" і вязе ў гатэль "Беларусь"...

...Прэм'ера Трынаццатай сымфоніі прайшла ў Мінску з шалёным посьпехам. Заля апладавала стоячы. Аўтара выклікалі на "біс" разоў пяць. Праўда, "Советская Белоруссия" традыцыйна абліла харошага чалавека брудам: маўляў, і сымфонія "так сабе", а сам Шастаковіч "задачу партыі і ўраду не выканаў".

Зрэшты, Дзьмітрый Дзьмітрыевіч, як чалавек разумны, падобных газэтаў не чытаў. А калі б такое пра сябе і прачытаў – ня надта б і пакрыўдзіўся. Не любіў ён абмяркоўваць свае творы. Бо ў мастацкім разьвіцьці пайшоў значна далей шматлікіх калегаў, якія так і засталіся на другой ступені эвалюцыі пасьля курыцы-нясушкі.

У сталіцу савецкай Беларусі Шастаковіч прыяжджаў яшчэ разоў пяць. І з канцэртамі, і проста так. Але ж і мінскі стадыён "Дынама", і комплекс КГБ БССР на Ленінскім праспэкце абыходзіў, як той казаў, сьвінымі сьцежкамі...

# ЯК АМЭРЫКАНСКІ ГАНГСТЭР МЕЕР ЛАНСКІ АХВЯРАВАЎ ГРОШЫ НА ГАРАДЗЕНСКУЮ ХАРАЛЬНУЮ СЫНАГОГУ

## 4. КЛІА. ГІСТОРЫЯ

*З кнігі "Музы і сьвіньні"*

Самыя сантымэнтальныя людзі ў сьвеце – прафэсійныя крымінальнікі. Ці не кожны бязьлітасны бандыт і спрактыкаваны забойца будзе спакойна пахваляцца сваімі крывавымі справамі, але варта такому паслухаць "Напрасно старушка ждёт сына домой" ці пачытаць які сьлязлівы вершык – і злачынца абавязкова расчуліцца і зашморгае носам.

Знакаміты амэрыканскі гангстэр Меер Ланскі ніколі ня вызначаўся ані душэўным сантымэнтам, ані настальгічнымі комплексамі. Правінцыйная Гародня, дзе Меер зьявіўся на сьвет ці то пад прозьвішчам Шушланоўскі, ці то як Сачаўлянскі, да прасьветленых сантымэнтаў асабліва не схіляла: занядбаная халупа ў раёне Пярэспы, суворы рабі Мардэхай ў Харальнае сінагозе, а па вялікіх сьвятах – фаршыраваны шчупак у выкананьні цёці Хасі...

Вось сям'я Шушланоўкіх-Сачаўлянскіх і зьехала да Нью-Ёрка, дзе сам Меер прайшоў няпросты жыцьцёвы шлях ад шараговага вулічнага гоп-стопніка да караля крымінальгага сьвету Злучаных Штатаў. Падчас Сухога закону залатая зорка гарадзенца зазьзяла па-над хмарачосамі Усходняга ўзьбярэжжа недасяжным маген-давідам. Уплывовыя мафіёзі Багсі Сігал, Лакі Лючыяна, Карла Гамбіна – усе аддана выконвалі ягоныя загады. Нават сам Аль Капонэ – і той лічыў за гонар працаваць з Ланскі.

Прытым сам Меер ня быў ані знаным кілерам, ані дасьведчаным налётчыкам, ані таленавітым рэкецёрам. Гарадзенскі яўрэй уладкаваўся ў "Коза Ностры" вельмі хітра: ён адно распрацоўваў крымінальны крэатыў і мухлярскія інавацыі. І ўсе гэтыя распрацоўкі былі выключна эксклюзіўныя й самага найвышэйшага гатунку.

У ЗША лютуе навастворанае ФБР, гангстэры страляюць адзін у аднаго з "томпсанаў", з рызыкай для жыцьця выкрадаюць мільянэрскіх дзетак, а сам Меер сядзіць у сваім ўтульным чыкагскім офісе, круціць ручку арыфмомэтра й разважліва так прыкідае: вось калі з бутлегерства вынуць пяць мільёнаў даляраў і ўкласьці іх у сетку падпольных казіно, а прыбытак пусьціць на разьвіцьцё прастытуцыі ў Нью-Ёрку, дык уся братва атрымае вельмі тлусты гешэфт. Праўда, і копам паганым давядзецца адкаціць, дый і сябры-італьяшкі таксама патрабуюць усё больш і больш...

Пры згадцы аб чарнамазых кампаньёнах Ланскі пахмурнее і пачынае ціха, але выразна лаяцца на ідыш. Бо не разумее ані іх выбуховага тэмпэрамэнту, ані экспансіўных учынкаў. Не, вы ж толькі гляньце на гэтых сэнтымэнтальных макароньнікаў: адзін рэкіцёр штомесяц адсылае шалёныя сумы сваякам-галадранцам кудысь у Калябрыю, яшчэ адзін наёмны забойца ахвяруе на опэрны тэатар "Масіма" у Палерма, а трэці, прафэсійны рабаўнік банкаў, зусім з глузду зьехаў: згадаў, што ён праўдзівы каталік, і з гэтае нагоды падарыў фантастычную суму неапалітанскай Архікатэдры! Спрабаваў быў Меер тым недавумкам-гоям растлумачыць, што грошы трэба ўкладаць у пашырэньне наркабізнэсу, разьвіцьцё прастытуцыі, вытворчасьць фальшаванага віскі ці хаця б у якія азартныя гульні, дык італьяшкі адразу ў позу: мама мія, Санта-Лючыя, табе, пархатаму аіду, чалавеку без роду й племені, шляхотных сін'ораў не зразумець!

І тут наш герой адстаўляе арыфмомэтар, распускае вузел гальштука, адкідаецца ў фатэлі й мружыцца кудысь удалечыню.

Гэта ён чалавек бяз роду й племені? Гэта ў яго, Шушланоўскага-Сачаўлянскага, няма ані родных магілаў, ані дарагіх сэрцу ўспамінаў? Ды яго родная Гародня ў сто разоў лепшая за нейкае там сранае Палерма!

Ланскі налівае сабе паўнюткую, як вока, чарку, куляе нагбом. Мружыцца, запальвае цыгару, зноў налівае, прыгадвае дзяцінства. Мілая халупа на ўзбярэжжы шумнацечнага Нёмана, бар-міцва старэйшага брата, найсмачнейшы ў сьвеце гефельтэ-фіш у выкананьні цёці Хасі... А якая ў Гародні прыгожая Харальная сынагога з суворым рабі Мардэхаем! Цікава, жывы яшчэ той стары поц?

Па гангстэрскай шчацэ паволі спаўзае самотная празрыстая сьляза, і пяшчотнае аблока сантымэнту здрадніцкі ахутвае закарэлую душу. І Меер нарэшце разумее, што чарнадупыя сін'оры з Сыцыліі сапраўды маюць рацыю. А яшчэ разумее, што было б вельмі дарэчна ўцерці насы гэтай пыхлівай басоце-галоце. Ён шчоўкае пальцамі, і ў офісе нібы з паветра матэрыялізуецца двое маладых людзей у модных капялюшах і доўгіх плашчах. Вельмі дасьведчаныя гангстэры, хаця, канешне, свае браты-аіды. Аіды-та аіды, але ўжо новай, амэрыканскай фармацыі. Ідыша саромяцца, да сынагогі ня ходзяць. Нават імёны свае перайначылі на амэрыканскі капыл: Майкл і Сэм.

Ланскі дастае з сэйфа дарагі скураны кейс, ставіць на стол.

– Джэнтэльмэны, Коза Ностра даручае вам вельмі адказнае, але далікатнае заданьне. Заўтра выпраўляецеся ў Стары Сьвет, у горад Гародню. У тамтэйшай Харальнай сінагозе ёсьць такі рабі Мардэхай. У гэтым кейсе – дзесяць тысяч даляраў. Аддайце яму гэтыя грошы і скажыце, што іх у знак павагі прыслаў маленькі Меер. Хай нашую сынагогу адрамантуе.

– Гародня? – перапытваецца гангстэр Майкл. – А гэта дзе, у Румыніі ці ў Сібіры?

– А Мардэхай – тамтэйшы мафіёзі? – прыкідае гангстэр Сэм.

– Гародня – горад у Польшчы. Мардэхай – рабі ў сынагозе. А вы, калі будзеце задаваць залішнія пытаньні, скончыце сваю жыцьцё ў Іст-Рывер, – добразычліва абяцае Ланскі. – Усё зразумела?

– Усё зробім у лепшым выглядзе, бос! – абодва гангстэры выцягваюцца струмка. – "Мэшын-ганы" з сабой браць?

– Ша, джэнтэльмэны! – асаджае Меер. – Навошта вам там зброя?

– А можа таго містэра Мардэхая хто пакрыўдзіў… Дык мы хуценька! Мы ж ня толькі за грошы працуем, але й з-за любові да чыстага мастацтва!

– Ня трэба ў маёй Гародні шухер наводзіць. Кейс толькі аддайце – і сюды. І не забудзьцеся сказаць, што гэта, маўляў, ад маленькага Меера! Чакайце, чакайце… Падробныя пашпарты і грошы на прадстаўнічыя выдаткі возьмеце ў Яшы Гузіка, майго менэджэра ў Нью-Ёрку!

Наступным днём чыкагскія мафіёзі выпраўляюцца ў Стары Сьвет. А дарога да Гародні няблізкая. Параходам да Гамбурга, адтуль цягніком да Бэрліна, адтуль да Варшавы, і толькі з Варшавы – да Гародні.

Прыязджаюць містэр Майкл і містэр Сэм на месца, селяцца ў найлепшым гатэлі на Раскошы. І думаюць-гадаюць: што ж гэта за такі страшны аўтарытэт, той рабі Мардэхай, калі сам Меер Ланскі яму плоціць, ды яшчэ такую суму?!

А дзесяць тысяч баксаў на тыя часы – шалёныя грошы. Кошт модных скураных чаравікаў на Манхэтэне – адзін даляр. Прадстаўнічы бранíраваны "лінкольн", на якім сам прэзыдэнт Гувер катаецца – крыху даражэй за трыста. За тысячу даляраў можна набыць шыкоўнае бунгала ў Флорыдзе. А ўжо за дзесяць тысяч ня тое, што Харальную сынагогу адрамантаваць – усіх гарадзенскіх паліцыянтаў можна скупіць, усю Дэфэнзіву, дый яшчэ на маршалка Сейма застанецца!

І вось гангстэры са скураным кейсам, бітма набітым далярамі, знаходзяць гарадзенскую Харальную сынагогу, а ў ёй – рабі Мардэхая. Сымпатычны такі дзядок з доўгай сівой барадой, у шырокім чорным капелюшы й зашмальцаваным лапсердаку. Ну проста прарок Самуіл у местачковым фармаце! Глядзіць гэты местачковы Самуіл на заморскіх гасцей і добразычліва так кажа:

– Шалом, панове чыкагскія гангстэры! Шчыра вітаю пана Майкла! Вельмі рады бачыць пана Сэма! Ві да мяне ад пана Меера Ланскі?

– Так, – разгублена пацьвярджаюць чыкагскія гангстэры.

– Гэта ў каторага цёця Хася на Пярэспі жыла й з нёманскага шчупака самы смачны гефэльтэ-фіш гатавала? – на выкшталцоным местачковым ідыш удакладняе рабі Мардэхай. – Памятаю, памятаю такога… І ві што, хочаце сказаць, што гэты шлімазл заахвяраваў на нашую Харальную сінагогу дзесяць тысяч даляраў?

Чыкагская братва паціху хранее. Не, сапраўды – нешта тут ня тое. Напэўна, ніякі гэта ня рабі, а круты мафіёзі, куды страшнейшы за Джона Дылінджэра і Аль Капонэ разам узя-

тых. Ці сапраўды нейкі прарок, калі ўсё пра ўсіх ведае? Як бы то ні было, але нездарма абачлівы бос вырашыў яму плаціць. Што ні кажы, а Меер – крымінальны інтэлектуал, мозг мафіі... сапраўдны аідышэ копф!

Гангстэры нэрвова торкаюць кадыкамі, ліхаманкава прыгадваючы слоўцы на паўзабытым імі ідыш. Нарэшце, пацьвярджаюць: так, містэр Ланскі аддана просіць узяць гэтую дробную й нязначную суму ў знак вялікай павагі да містэра Мардэхая на рамонт Харальнай сынагогі, і...

– Прабачце, панства! – эфэктным рухам перапыняе маладых бандытаў стары рабі. – Але ўзяць вашыя грошы я не магу ані ў якім разе. Гэта атрымаецца амаральна. Наш Меерчык зарабіў іх злачынным шляхам, праз бутлегерства, прастытуцыю й наркотыкі. Калі я прыму ад яго такія грошы, дык што наш кагал пра мяне падумае?! Так што вазьміце ваш модны чамадан і адвязіце яго зваротна. Шчасьлівай дарогі!

Пасля гэтых словаў чыкагскія госьці імгненна ператвараюцца ў саляныя слупы, на манер старазапаветнай жонкі Лота. Ужо лепш бы гэты страшны прарок-мафіёзі спаслаў на іх усе Дзесяць Стратаў Ягіпецкіх і нават якую Адзінаццатую прыдумаў... Ды што тыя страты?! Лепш бы іх ў турму "Сінг-Сінг" выправілі, на дваццаць пажыцьцёвых тэрмінаў!

Толькі б забраў гэтыя паганыя даляры.

Вяртацца ў ЗША, не выканаўшы загаду, ім катэгарычна нельга. Бо самае лепшае, што кожнага там чакае – хуткая сьмерць з дваццаціфунтавай цаглінай на шыі у водах Іст-Рывера. Пра горшае лепш увогуле й ня думаць. Коза Ностра падобнага не даруе.

А старэнькі Мардэхай, падлюка такая, пасьміхаецца хітрым зьмеем і ўдакладняе:

– Ві, маладыя людзі, напэўна хочаце дазнацца, адкуль я ўсё ведаю? Дык яно вельмі проста! Мэнэджарам у вашага Ланскі працуе такі Яша Гузік зь Менску. Гэты Яша па сакрэце расказаў пра ваш візыт кантару бруклінскай сынагогі Нохіму Шапіру, таму самому Нохіму, які мае крэдыт у лаўцы Абрама Кацнэльбогэна. Жонка Абрама – сяброўка Фіры Ліхтэн, а яе муж, цырульнік Борух грае ў прэферанс з Гіршам Альтшулерам. Гірш, хаця і хасыд, але зь вельмі прыстойнай сям'і, а таму Арон Зісман зь ім сябруе. Арончык жыве ў адным доме са Шмулем Каплунам, маім стрыечным братам. А са Шмулем я акурат заўчора меў сувязь па бяздротавым тэлеграфе. А ві там са сваім Меерам, напэўна, вырашылі, што я стары поц?..

...Што адбылося з чыкагскімі гангстэрамі далей, дакладна невядома. Паводле адной вэрсіі, іх па хуткім часе завербаваў Іншаземны аддзел НКВД. Спрактыкаваныя забойцы "Коза Ностры" бязьлітасна стралялі трацкістаў, белагвардзейцаў ды іншых зьбеглых ворагаў народа па ўсёй Эўропе. Паводле другой, гангстэр Майкл і гангстэр Сэм так і засталіся ў Гародні, дзе атабарыліся пад сваімі сапраўднымі імёнамі Мойша й Шлёма. Купілі на грошы са скуранога кейса ўсю мясцовую паліцыю з Дэфэнзівай, выправілі адпаведныя дакументы, а на рэшту прыдбалі кашэрную рэстарацыю. У якой, між іншым, падавалі і гефэльтэфіш зь нёманскага шчупака, амаль такога, як гатавала цёця Хася з Пярэспы.

Абедзве вэрсіі цалкам праўдападобныя.

Што да самога Меера Ланскі, дык ягоны сантымэнт да Радзімы зь цягам часу толькі ўзмацніўся. У 1939 годзе знакаміты мафіёзі прыбыў на Кубу, каб ўкатаць тамтэйшага дыктатара Бацісту на дазвол сеткі казыно. Акурат у гэты час у порт Гаваны прыйшоў карабель са Старога Сьвету з яўрэямі – уцекачамі ад нацыстаў, сярод каторых было нямала ўраджэнцаў Гародні. Кубінскія ўлады доўга не давалі дазволу прыстаць да берага, пакуль мафіёзі ня сплаціў тым бананавым карупцыянэрам па пяцьсот даляраў за кожнага іміграната.

Менавіта з тых часоў на Кубе зьявілася яўрэйская дыяспара, і нават колькі сынагогаў. Прытым адна зь іх, як сьцвярджаюць знаўцы, вельмі нагадвае Харальную сынагогу ў Гародні.

І, што характэрна – усе выдатна ведалі, хто прафінансаваў яе будаўніцтва...

## ВЕЧНОЕ СОМНЕНИЕ

Снег лежит смирно, он то ли спит, то ли переваривает. Снег заглотнул что-то в себя, и уже никогда не отдаст, только если в данную минуту солнце не вытрясет из него, превратив в грязную воду. Он такой тихий, тише некуда, даже когда снежинки летят и падают на лобовое стекло машины, на ваши губы, вы всё равно их не слышите, и можете даже не почувствовать, если будете спешить куда-то, как я.

Я иду по дороге очень быстро, как-будто следую за кем-то, за вором что ли, но кто этот вор? Всеобщая жизнь, правила этого вечного, меняющегося ритма? Я отражение многих, постоянный символ в процессе бытия, копия, след, типаж, структура, мираж. Меня можно надеть, можно сравнить с кем-то, можно родиться через 20 лет похожим на меня, и понять, что я и ты, и он, мы одинаковы в чём-то, в меньшей степени или в большей. Я символ всё-таки, я особый тип, меня выявили посредством наблюдения, узнали из истории, из учебников, меня знают булочники, про таких, как я они говорят… что они говорят? Дурак, чудак, пророк? Не будем лишать их фантазии. А что обо мне говорят мои же преподаватели? Может у них есть похожий на меня приятель? Посредством опыта или просто вычитав из учебника. Я символ, вечный знак, но я и конечный: я есть сейчас, я материя и дух, я плоть и психика, я конечен в этом мире, и некоторые мои маленькие и еле заметные особенности если кому-то и присущи, то всё равно, их не соберут в точности, как меня. Не будет такого полного набора моих качеств, потому что даже я сам до конца не могу узнать себя, не могу просчитать, что я подумаю через пять минут, а что через секунду. Меня не соберут, как машину. Но кто собирает? Можно предположить всё, что угодно: от природы и до определённого момента в существовании. Я – вот такой эгоизм, думающий про себя, быстро идя по дороге. Вездесущий эгоизм? Вопрос, который выплывает из глубин сознания, среди этих вот фраз, фразы – капли, что текут без остановки. Наверное, забыли закрыть кран. Сегодня на меня напало чувство безысходности, такое непонятное, такой вот корень баобаба, трансцендентное, грубо говоря, мне плохо. Но смысл ходить, бегать с этим чувством? Необходимо понять, откуда оно, и что именно дало еду для этого чувства, и почему я им заболел?! Женщина вошла в цветочный магазин и сразу же кинулась рассматривать цветы.

“ Вам помочь?“

“ Нет, не стоит“.

Цветочный магазин справа, слева дорога, через дорогу магазины одежды. Сейчас 14.55.

Какой-то мужчина крепко держит за руку девочку. Кто я? Никто! Шатаюсь между домов, вижу людей. Какая – то женщина накинула на себя шарф.

Ну, наконец-то! –крикнул кто-то. Это был молодой мужчина, который стоял возле такси и ждал женщину. Я никто. Я остановился, станция метро Немига. Дорога заснежена, пойду на верх торгового центра. Поднимаюсь по лестнице осторожно, пять минут назад кто-то упал здесь. 15.00. Кто я? Я не впереди цивилизации, я не безумный гений, я не математик, который поражает своим умом, способностью и неряшливостью. Хотя последнее мне отлично даётся. Но неряшливость ли это? Просто разбросаны картины, краски, листки с безумными стихами, книги, непрочитанный ждущий Платон и ухмыляющийся Вольтер на обложке книги. Неряшливость? Это просто вдохновение. Меня раздражается стерильность, чёткая, сумасшедшая стерильность. Стерильность претендует на нашу официальную мысль, государственную идеологию. Чёткость – это хорошо, конечно, без неё было бы туго, но порой, она закрывает возможность сделать новое открытие. Эта чёткость убивает выборность, убивает многообразие. Чёткость, только чёткость. Шапочка какой-то девочки, сидит аккуратно и чётко! Чётко подделывать результаты выборов, чётко говорить, что всё детерминировано, чёткость математическая. Чёткость. Ваши шаги просчитаны, куда бы вы ни шли мы вас найдём! Автозак, омон – чёткость. Чётко! Шахматная доска – “мы знаем ваше место лучше вас, вы глупы, а мы нет, потому что вы рабы, а мы боги“. Мы просчитали движения людей на определённой территории, мы знаем все варианты, куда

они пойдут. Чётко. Но, что это? Кто-то разрушил вашу теорию, ваши числа? Наверное ошибка? Ваша проклятая чёткость, которую вы суёте, куда только можно! Разграничивайте понятия! Разграничивайте! Вы не можете всё смоделировать! Вы не можете всё узнать наперёд. Что я подумаю сейчас? А завтра? А если я не дам подсказок? А? Как вы выразите математически любовь? А как страдание? Вы смешны. Детерминированность в прошлом. Релятивизм более реален.

А если вы вдруг бы смогли смоделировать мою жизнь, то знаете, это был бы удар в человечество. Тогда мы бы узнали, кто мы есть. "Запланированные механические движения, не хаотичные атомы, но имеющие безумную вариативность". Мы бы поняли, что мы примитивные существа.

Нет. Всё фантазия, воображение ни больше, ни меньше.

Я обрывок, захожу в универсам, снимаю капюшон, я огрызок. Я никто, я поэт, художник, я человек искусства. И что я могу? Самое максимальное так это висеть на стене у кого-то. Висеть на стене картиной. А любое моё творение есть я. Поэтому, не моя картина висит, а я вишу. На меня смотрят, меня оценивают, в меня уходят, я даю пищу для размышлений, для релаксации. И всё. Я не дам больше ничего этому человечеству. Нужно понять, нет. Дело не в том, что я не открыватель этого мира, дело в том, что нужен ли я? Христианская мораль говорит, что любой нужен, кто есть на этой земле, а я думаю, что не нужен. Да и к чёрту эту мораль.

Нужны некоторые, а я, например, нет. И что толку от меня? Да, я оканчиваю университет по специальности. И что? Таких, как я, много, некоторые нужны, некоторые нет, булочник нужнее, он кормит, а я?

Писать то, что давно кем-то написано, понимать то, что уже понято? Это ведь не плохо, но это не жизнь! Что я могу? Смотреть на облака и плакать, думать о революции, думать, помогать, мыть посуду? Целовать, любить? Съедать пирожное на Воронянского и запивать кофе, в который я забыл положить сахар? Думать о чём? О столовых ложках, о рекламе? Это жизнь? Нет, это обман. Я даже не паллиатив, не облегчаю жизнь, я не укол в десну, даже не цифра, которая значит больше, чем я. Её все знают, она всем нужна, а меня не знает и четверть этого города! Я вышел из магазина, надел капюшон. Навстречу пробежали какие-то молодые люди, они кидались снежками. Я подошёл к перилам, я увидел внизу дорогу, повернул голову влево, увидел остановку, автобус, сутолока людей. Люди искусства просто фантазёры, шарлатаны. Я желаю, я горю, чтобы меня опровергли. Сейчас. Голуби на перилах скачут. Я желаю – скажи что-нибудь другое! Но кто скажет. И что такое жизнь?

Ладно. Повернул голову вправо. "Романовская Слобода"

Но что, если бы я стремился познать эту Вселенную, допустим, найти звезду новую, потом свои знания выложить, и что дальше? Я помог? Или же решить какую-нибудь теорему, чёрт возьми, Ферма уже доказали, и что?

Почесал за ухом.

Кто-то так самовлюблён, что всем бы орал, что он умный, а все такие глупые. Допустим математик какой-нибудь? А что он? Что он может, кроме того как безупречно играть в свою игру?

Игра будь то слово, число, физическая формула. Картины мира так меняются, это говорит о субъективности всего.

Руки положил в карманы. Кто-то вышел из универмага.

Я – сонм людей, я сердцевина вопросов. Так, кажется?

Или я – вывернутое создание, единица, протест этому сонму?

Одновременно, может, и то и это?

Я – поток мыслей, струящаяся вода слов, я не филолог, плевать на дифтонги, я есть блудословие. Но это есть я. Я пишу, рисую и не могу иначе, я не думаю, кому это нужно, нет, думаю, но я изначально не работаю ни на кого. Просто по пришествии времени задаю себе такие вопросы. Это просто я, я так себя вывожу, так себя раскрываю из скобок. Это не часть меня, это я! Стало холодно, голуби с перил улетели. Я пошёл к кафе на Романовской Слободе.

16.02. Поднимаясь в гору, я вижу, справа окна, там горит свет, кто-то убирает уже ёлку. Так поздно убирают ёлку? Какая разница.

Я создаю, следовательно, живу, а тем более существую. Жить (жизнь), поправляю капюшон, это выплавленная стадия из существования. Это определённый уровень, который напичкан креативной деятельностью, самосознанием. Жить – это не революция, это эволюция. От примитивных созданий к таким, как мы. Но эволюция, вещь в себе, процесс сам для себя, в котором были разные стадии, в котором были революции и деградации. И вот оно – жить.

Жить – думать, думать о создании чего-либо.

Перешёл дорогу. Во мне расплескалась боль, словно порезали желудок, и потекла желчь. Желчь расплавила всё и даже основание. Но это боль, естественно, не физическая и даже не моральная. Эта боль латентная, закрытая, в меланхолии. Боль мыслей, а не идей. Боль от новых мыслей, которые топчут меня.

Повернул направо, зашёл в кафе.

"Мне кофе и кекс шоколадный". "С вас 30 тысяч". "Вот ваша сдача". "Присаживайтесь, вам всё принесут".

Я присел. Двухместный столик возле окна. Я почувствовал, что обманываю всех, особенно себя. Ну что такого в моей профессии? Эта профессия, эта деятельность, ничего особенного, можно что-то сделать, можно и не сделать, всю жизнь просто работать и глупить дальше, есть, спать, расстраиваться, находить решение, решать проблему, снова веселиться, и снова падать камнем вниз, терять баланс. Быть, как все, плодить. "Ваш кофе и ваш кекс". "Спасибо". Официант ушел. Брюнет, среднего роста. Что в его голове? О чём он думает? Он счастлив? Будет ли он счастлив, когда уйдёт домой? Он встретит кого-то или нет? Выпивка даёт ему счастье, уверенность? Еда? Его считают красивым? Глупые вопросы, но они дали мне понять, что нет разницы, что он ответит, или что ответит кто-то ещё, если бы эти вопросы были заданы о ком-то другом. Смысл в том, что я, я не был бы счастлив, не был в состоянии спокойствия, и не важно, ответили на эти вопросы или же нет, а еда, питьё, взаимоотношения, кажется, не делают, не делали меня счастливым, не давали, не дают мне того, чего я жду. А собственно, чего я жду? Просветления? Озарения? Я вытер салфеткой уголки своих губ от пены капучино. Ложка впивается в границу кекса, я съел этот маленький кусок. Вкусно – да, но это формально. Но на самом деле не вкусно, просто мне не полегчало. Я просто ублажаю свой живот, свою потребность, свой инстинкт. Тело? Может дело в теле? Оно мешает, почти всю энергию мы тратим на тело, не было бы тела, мы бы тратили больше энергии на свой мозг, мы бы поняли, но что поняли? Поняли бы самих себя, свой мозг, а не эту Вселенную. Только свой мозг. И вот, держа в руках чашку, я понял, наконец, что я хотел этим сказать самому себе, средь этих полётов мыслей, которые вяжут рот как хурма, смысл в том, что всё субъективно – картины мира меняются, что-то доказывается, что-то опровергается, никто не уверен в вечной содержательной правильности какой-то парадигмы, какого-то закона, это сделано для того, чтобы, по крайней мере, от чего-то оттолкнуться, чтобы как-то обозначить. Всё можно опровергнуть, если найти силы и не нарушать правил игры. Тойнби, Маркс. Разные точки зрения, детерминизм, релятивизм. Вы можете думать, что хотите. Игра в бисер! И молодцы те, кто хорошо в неё играют, по сути, само всеобщее бытие не имеет смысла, возможно, лишено вообще начала и конца, просто пространство, кусок материи или что угодно, смотря какие у вас убеждения – смысл у каждого свой и это, конечно, знают все. Просто некоторые люди своей волей пичкают в эту всеобщую жизнь, в этот ритм, своё, словно капусту в тесто. Некоторые люди противостоят другим людям, но главное, не нарушать правил игры. Главное, формальная правильность и содержательная истинность, которая бы не противоречила сегодняшним законам бытия. А если ваша теория будет противоречить, но вы сможете доказать её правильность, то вы будете гением. Вы – революция, и снова меняется картина мира.

Но когда данные законы бытия изменяются, изменятся и содержание. Но что остаётся стоять на месте, так это форма, да, можно придумать новую форму или улучшить её, но цель, принципы формы остаются неизменными.

Я допил кофе, а кекс оставил наполовину съеденным. Я облокотился на белый стул, кстати, тут всё такое белое. Я подумал, что вот он смысл, навязанный, или просто понравившийся мне. Просто, если не хочешь, как все, плодить и смеяться на вычурные темы, пить и т.д. играй в игру под названием – познай-этот-мир. Познать этот мир, смешно, мы не познаём этот мир, мы вешаем на него свои ярлыки, и кто лучше докажет, так и будет принято некоторыми компетентными людьми и большинством, которому вообще наплевать, им бы думать о своих платьицах.

А я вернулся обратно в позу, в которой сидел раньше, я поэт, я художник, я ничего особенного, я тоже смогу, если захочу и буду стараться, я тоже дам всем свой ярлык и что? Я буду рад, возможно. Наверное, меня злят те, кто есть в этом, мире. Кто есть. Кто смог всем показать свой ярлык, кто в истории, кого не забудут. Вот оно что! Это борьба против смерти, против забвения!? Кто-то рожает, кому-то плевать, что будет с ним, а кто-то хочет себя вписать. Кому- то хочется быть. Но я так подумал, что лучше уж пусть меня не знают, я не люблю людей, но в то же время, почему меня злят эти прохиндеи, получившие Нобеля? Наверно, мне просто не хочется, думать о том, что я проживу зря, что был и не был одновременно. Что этот кекс мог бы съесть кто-то другой, что эти деньги больше нужны другим. Я не нужен, я продукт. Я сомневаюсь в себе. Нет, я действительно не нужен, а моя меланхолия, это просто протест против забвения, она дала мне поразмыслить: либо ты есть, либо тебя нет.

Выбирай. Делай что-нибудь. А если я не хочу себя навязывать миру? Если я действительно ничто? То зачем? Но если и обычная жизнь мне не по душе? То что делать? Значит забвение, примирись со своей жизнью. Живи, как паразит, покупай, трать, покупай, за тебя уже подумали, или не покупай, будь умнее, учи кого-нибудь, но всё равно забвение. Ты никто. Знают тебя мало людей, да и им-то плевать. Некоторым, может, и не плевать, но если твоё поколение умрёт, то точно всем будет плевать, даже если ты наплодишь, думаешь, твои праправнуки будут тебя помнить? Нет, им будет плевать.

Я вышел. Очень жарко стало после кофе. Холод ударил меня по ногам. Какая-то девушка вопросительно на меня посмотрела. Нет уж, любовь и чувства пусть идут подальше от меня. Это не нужно и не важно, это просто оттенки существования. Главное – мотив, цель. Как много я думаю, какое всё одно и то же, какая скука, но меня не отпускает, меня грызёт, я снова и снова об этом думаю, я целый день почти об этом думаю. Я продукт, я раб, часть  цивилизации, котораяй есть, которой нет. Смысл в том, что если бы я сейчас умер, то было бы не всё равно моим близким, но потом они это забыли бы, но это не важно, я веду к тому, что всё равно самому Миру, другим людям. Вот что. Никому не нужно моё беспомощное существование. Ни судьбе, ни случаю, ни причине, никому. Религия – бред, искусство – шарлатанство. Такие же неудачники, физики, математики, они не лучше людей искусства, просто они нужны, а я нет. Быть нужным в смысле не просто печь хлеб, который сегодня или завтра съест убийца или праведник, или не просто быть водителем троллейбуса или покупателем, а нужен, чтобы стыдно не было.

Может. Посмотрел на проходящую парочку. Может.

*Быть* в других? И тут нет социальной несправедливости. Наоборот. Я и Вы. Пропорция. Мы вместе. Идеальное разделение. Ох, мои амбиции выплывают из берегов, затапливают всех и вся. Я иду по Мельникайте. Мокрый снег.

Я понял. Наконец я понял, среди фонарей и потока мыслей, я понял. Некоторые счастливее меня, потому что они не сомневаются, потому что знают свою работу, потому что не задают вопросов, потому что им достаточного того, что они имеют, это было вбито им в голову, или они сами себе вбили, не велика разница, ведь вывод один – они сейчас не ходят, как я, они не потеряли основу, веру.

Пожилой мужчина садится в джип, который стоит напротив школы красоты. Теперь я сочиняю стих, проходя мимо куриного магазина.

Но всё же я даже не врач, не биолог. А просто сочиняка, бездарный, наверное, к тому же. Но почему я не стал биологом? Лень? Бездарность от рождения? Другое направ-

ление личности? Нет, дело вовсе не в этом. Почему я до сих пор ничего не могу предложить этому миру?

Главное – цель, всё остальное пепел, перегной, угли. Хотя и их можно использовать, но это всё равно неполноценное. Цель. Войти в игру, повесить свой ярлык, или ничего не вешать, а найти, что-то другое, только вписываться, как верёвочка из клубка в ритм всеобщей, массовой жизни. Найти другое что? Иную жизнь? Плакать, видя облака? Синее небо? Рисовать? Тихо жить? Постигнуть мокшу? Или же делать, изменять, стать первооткрывателем, по крайней мере, стараться, сгореть или пылать? И что? И что с того?

Хорошо, если цель найдена и завершена, что дальше? Разве это насытит? Нет, я уже чувствую, нет. Нужно больше, больше. Во мне поселился зверь, ему всё мало, и с каждой минутой он растёт и растёт.

17.00. Моя жизнь – это составляющая часть всеобщего бытия, но и отличающаяся от таких же других частей в этом бытии. Жизнь других, например, соседа по квартире, всегда полна чем-то, всегда разношёрстна. Боль, любовь, свадьба, болезнь, стакан водки, вина и смерть, будь то родственника или собачки. Смерть лучшая вещь, субстанция, состояние, качество – она бредёт за вами с плетью и поторапливает, пугает. А вы, вы так смешны, когда стоите рядом с ней.

Иду в переход. Перехожу, сначала прямо, потом направо. Остановка. Гостиница "Юбилейная". Люди, собака, табак. Кто-то курит, и мне бы. Ох, я не курю же. Я иду.

"И что с того?" – этот вопрос выбил, вычеркнул все выводы, показал никчёмность посылок. Нет, он не смысл жизни, он показал насколько это смешно. Я, ты, он, весь мир. Мы создаём всё. Нет зависимости, нет. Есть преграды, но нет запретов, мы свободны. Мы можем всё. Мы можем изменить всё, только бы захотеть. Поверить. Узнать вот это. Никто не лучше. Просто некоторые знают и пользуются, а некоторые поверили в своё рабство. Кто-то играет в эту игру прекрасно, вешает ярлыки, а кто-то шьёт, чинит сапоги и покупает вино. Им этого достаточно, никто не судит. А кто-то путается, так как я. Вот что. Так чего же шляться по улице? Нужно ехать домой и делать, только делать. Или что? Лень? Природная бездарность? Другое направление? Конформизм?

Смартфоны, война.

Не всё так легко. Изменить, понять, ублажить самого себя! Не всё так легко, вот загвоздка, да и более того, любая мелочь способна выбить из колеи. Такие мы сентиментальные.

Война мировая, гражданская, межличностная, внутриличностная. Последняя – самая опасная из всех. Из неё вытекают все остальные.

Я сел в троллейбус, еду домой. Напротив меня мужчина, он читает газету. Уже темно на улице. Уже так темно. Я вроде бы успокоился. Война внутриличностная. Хорошо, я понял. Я знаю цель, немного узнал механизмы, путём спора и рассуждений, это так, но главное сделать то, что никто не делал, выделить, дать новое, быть нужным. Забвение, всё равно оно будет, я не Бах, чтобы вечно быть, но всё равно дать новое, чтобы потом опровергли, чтобы достроили. Быть в этой связке. Не говорю про лучшее, а говорю про одну цель человечества. Знать себя. Вот кто я. Все мысли – я. Быть. Я хочу быть. Не просто на фото, которые выкинут через 20 лет, а быть сейчас, или потом. Быть в каждом шаге и во взгляде, в носке, в волосе седого мужчины, быть устьем реки. Почувствовать в себе тысячи, и чтобы тысячи почувствовали меня. Вот что. Я нашёл это. Я буду вечно, потому что мы сшиты со всеми, я буду через 20, 30 лет, потому что буду в каждом, будь то человек или дерево.

А теперь я понял. Теперь я рад. Теперь я вышел из троллейбуса, я иду домой. Навстречу мне никто не идёт. И всё же, как бы это ни было безумным, это лучшее, что можно было себе представить. Хотя сейчас я начал уже сомневаться, и наверно когда дойду, забуду всё, опровергну, не захочу, посмеюсь, снова упаду в мыслях, или не упаду. Но я понял одно, сомнение – это одно из самых прочных чувств, а скорее ментальных уловок человеческих. От одного сомнения к другому.

17.55. Вечное, тяжёлое сомнение.

*25.01.2012*

